# Маладосць

# 11

**Штомесячны**
**літаратурна-мастацкі**
**і грамадска-палітычны**
**ілюстраваны часопіс**

**(720) ЛІСТАПАД, 2013**

**Выдаецца з 1953 года**

Галоўны рэдактар
**Святлана Дзмітрыеўна**
**ДЗЯНІСАВА**



**www.maladost.lim.by**

**Рэдакцыйна-выдавецкая**
**ўстанова**
**«Выдавецкі дом «Звязда»**
**г. Мінск**

## У НУМАРЫ:



*Гэты здымак яшчэ на пачатку ліпеня на электронны адрас «М» даслаў спадар Сяргей Панізнік. З прыпіскай: «Узлятаць вам пад ліпнёвыя суквецці». А падпісаў так: «Барадулін, Караткевіч, Валя. Сёмуха». Ад ліпеня хавалі ажно дагэтуль, каб у лістападзе да дня нараджэння Уладзіміра Сямёнавіча паставіць. Пра Караткевіча ў гэтым нумары нічога больш не шукайце — нешта найноўшае яшчэ недзе пішацца. Затое ў адзін дзень з Караткевічам нарадзілася Яна Явіч. Друкуецца ў гэтым нумары.*

# Што-небудзь з адценнем кіно Ціма Бёртана

- **Чаго не хапае сучаснай беларускай літаратуры?**
- **Што пішуць маладыя творцы Беларусі?**
- **У якіх жанрах?**
- **Якой літаратуры аддаюць перавагу?**
- **Ці ўплываюць чужыя творы на іх асабістыя?**



Ганна Дусь — ***студэнтка трэцяга курса журфака БДУ. Вучыцца па спецыяльнасці літаратурная работа (творчасць). Друкавалася ў «Маладосці», «ЛіМе» і часопісе «Кем быць».***

— Пішу вершы і кароткую прозу. Проста запісваю свае адчуванні і назіранні. Ідэі прыходзяць спантанна, кожная нават самая маленькая дробязь можа выліцца ў гісторыю ці вобраз. Чытаю разнастайную літаратуру пад настрой — ад старажытных сутр і Лао-цзы да Пелевіна і Стругацкіх. Адначасова з тым люблю і паважаю Сартра, Камю, Кафку, Эгана Бонды і іншых. Апошнім часам цікаўлюся іспанскай культурай і літаратурай, асабліва творчасцю Хуана Рамона Хіменеса. З беларускіх аўтараў магу параіць Юрыя Станкевіча, Алену Брава, Зміцера Вішнёва і Ярылу Пшанічнага. Тое, што я чытаю, безумоўна, уплывае на маю творчасць. Думаю, што беларускай літаратуры не хапае шырокага кола чытачоў.



Антон Белахвостаў — ***студэнт першага курса гістфака БДУ. Творчасцю займаецца з трынаццаці гадоў. Друкаваўся ў «Маладосці».***

— Мая творчасць — вершы ў жанры імажынізму, рэалізму, постмадэрнізму і рэалістычная проза. У вершах праз вобразы апісваю рэчаіснасць, у прыватнасці, — чорны бок жыцця. Таксама пішу пра лёс Радзімы і чалавецтва. У прозе апісваю прыроду і сваё ўспрыманне яе.

Чытаю ў асноўным навуковую літаратуру (гіторыя, паліталогія). З мастацкай — рэалізм і постмадэрнізм, люблю гумар і сатыру. Параіў бы ўсім пачытаць Рудольфа Слабаду, Этгара Керэта, Паўла Касцюкевіча, Сяргея Ясеніна, Андрэя Хадановіча, Валянціна Пікуля, Ігара Губермана ды Віктара Шэндэровіча. Больш за ўсіх на мяне паўплываў Сяргей Ясенін. На мой погляд, беларускай літаратуры хапае любой, праблема ў іншым — не хапае людзей, якія б яе чыталі.



***Алеся Кузьмінова*** ***скончыла журфак у 2013 годзе па спецыяльнасці аўдыявізуальная журналістыка. Цяпер вучыцца ў магістратуры. Яе творы друкаваліся ў «Маладосці» і ў часопісе «Союзное государство».***

— Раней у асноўным пісала вершы. Цяпер раблю пераклады песень сучасных выканаўцаў, пішу прозу: апавяданні і эсэ. Думаю пра стварэнне вялікага твора. Магчыма, аповесці. Тэмы маёй творчасці — гарадская рамантыка, каханне, аўтар і творчасць, чалавек і сучасныя тэхналогіі.

З аднаго боку, чытанне — добры адпачынак для мяне. У гэтым выпадку я люблю творы «з дэтэктыўным адценнем». Апошняе, што чытала, «Інферна» Дэна Браўна. Мне здаецца, што Браўн — значная фігура ў сучаснай прозе, а гэты раман, магчыма, самы эфектны ў яго творчасці. Калі гаварыць пра любімыя творы, то гэта «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча, «Наадварот» Гюйсманса, «Чалавек без уласцівасцей» Музіля, гатычная проза Эдгара По, «Герой нашага часу» Лермантава. З твораў беларускіх аўтараў запомніліся «Літоўскі воўк» Наварыча, «Альтыст Данілаў» Арлова, вершы Гальпяровіча.

Думаю, тое, што я чытаю, уплывае непасрэдна на маю асобу — сістэму поглядаў, думкі, пачуцці... Таму, верагодна, яно можа ўскосна знайсці выражэнне ў змесце маіх твораў. Але я не арыентуюся на кагосьці з іншых аўтараў непасрэдна пры напісанні чагосьці.

Беларускай літаратуры, думаю, было б добра мець больш сучасных дзіцячых твораў. Таксама асабіста мне было б цікава пачытаць якога-небудзь «беларускага Эдгара По»: штосьці падобнае да «Падзення дома Ашэраў». Што-небудзь з адценнем кіно Ціма Бёртана. Дарэчы, вы калі-небудзь чулі пра сучасныя беларускія кнігі і фільмы жаху? Цікава было б таксама пачытаць беларускага Стывена Кінга...



***Алесь Емяльянаў*** ***— малады пісьменнік, нядаўна дэбютаваў з кнігай вершаў «Парасонечнасць». Мае публікацыі па-польску і па-сербску ў анталогіях.***

— Пішу вершы, а таксама спрабую эсэ. Галоўнае, што цікавіць цяпер, — месца і места. Месца, якое чалавек займае ў гэтым свеце, і места (горад) — як развіваецца ў ім чалавек, як ён сыходзіцца з іншымі людзьмі і як горад (места) уздзейнічае на чалавечыя стасункі (сяброўства, каханне і г. д.). Люблю літаратуру розную, але галоўнае, каб была якасная (у сэнсе нятлумная і няцьмяная). Нядаўна вынайшаў для сябе Букоўскага, Аготу Крыштоф — яе раман «Тоўсты сшытак». Тое, што чытаю, натруальна, уплывае на маю творчасць, бо перш чым сесці што-небудзь пісаць ці выпраўляць, ловіш сябе на думцы, што нешта падобнае ўжо дзесьці было, штосьці чытаў, аналізаваў.

Беларускай літаратуры не стае якаснай прозы. Наша сучасная літаратура не можа пакуль выбрацца з траншэі савецкіх звычак і выдумак, літаратар заўсёды мусіць на штосьці азірацца, каб не ляпнуць чагось лішняга, каб была строгая форма і г. д. Так што жадаю пісьменнікам больш свабоды. Адпусці сябе на волю, беларускі літаратар!



*Антон Янкоўскі.* ***У 2008-м скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці «Рэжысура народных абрадаў і свят». Мае два зборнікі вершаў. Друкуецца ў абласных і рэспубліканскіх выданнях.***

— Нядаўна закончыў аповесць. Пішу пра каханне і пошукі сябе ў грамадстве, жыццё і смерць. Ідэі падказвае жыццё, проста тыцкае цябе носам, а ты ўжо малюеш сюжэт у сваёй бурлівай фантазіі. Чытаю рознае. Апошняе, што чытаў, Барыса Пятровіча «Спакушэнне», Андрэя Федарэнкі «Мяжу» і вершы Багдановіча. У прамым сэнсе чужая творчасць на мяне не ўплывае, але падсвядома — магчыма. Дакладней, вельмі часта пасля прачытанага якаснага твора такі ўздым, што хочацца пісаць, але пра сваё.

Якой літаратуры не хапае ў Беларусі? Часта бываю ў розных кнігарнях і ведаю, што літаратуры хапае рознай, але пра яе мала хто ведае.



*Сяргей Календа* ***— стваральнік часопіса «Макулатура», аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі. Гісторыі (не) пра нас», «Іржавы пакой з белымі шпалерамі», «Трохлітровая проза», «Кантынентальны сняданак».***

— Складана сказаць, у якім жанры я пішу. Дакладна ведаю, што пішу прозу, часам бывае рэалізм, бывае брудны рэалізм, нават назваў бы трэшам, часам казкі пішуцца. Я шукаю сябе, але што датычыцца стылю, мне здаецца, я знайшоў сцежку і па ёй імкнуся крочыць.

Пішу пра людзей. Ідэі бяру паўсюль, галоўнае — працаваць кожны дзень. Самыя каштоўныя ідэі прыходзяць праз смелыя вобразы ды думкі кшталту: «А чаму б не паспрабаваць?».

Я шмат чытаю, вельмі шмат. З апошняга, што сапраўды зачапіла, магу параіць Рэмарка «Ноч у Лісабоне», Кутзэе «Жыццё і час Міхаэля К.», Геймана «Амэрыканскія багі».

Чужая творчасць дакладна ўплывае на маю. Калі б я знайшоў і адшліфаваў уласны стыль, вынайшаў свой жанр, то і я ўплываў бы на іншых. Пэўны час мяне ўражвалі бітнікі, і было неверагоднае жаданне зруйнаваць класічную кампазіцыю. Я імкнуўся шакіраваць, але гэта быў юнацкі імпэт. Цяпер чытаю вельмі розныя кнігі, і хто на мяне паўплывае далей — сказаць складана.

Лічу, што беларускай літаратуры не хапае ўсяго! Усяго на свеце. У беларускай літаратуры мусіць з'явіцца масавая беларуская літаратура, а таксама дэтэктывы — дзеля таго, каб беларусы пачалі проста чытаць. А ўжо на гэтым падмурку абавязкова пойдуць хвалі інтэлектуальнага чытва, дэкадансу, андэграўнду... Усё наперадзе.

**Такім чынам, мы бачым, што маладыя творцы любяць разнастайную літаратуру, а свае творы стараюцца зрабіць найбольш рэалістычнымі, шукаючы ідэі ў звычайным жыцці, хаця і хочацца дадаць чагосьці містычнага, палепшыць і прыўкрасіць рэальнасць. Фактам застаецца тое, што беларускую літаратуру трэба развіваць, рабіць больш папулярнай, а таксама заахвочваць чытачоў не абыходзіць бокам беларускіх пісьменнікаў і іх творы. Будзе расці сярод людзей інтарэс да літаратуры — будуць расці і пісьменнікі.**

*Запісала Ганна ШЫБУТ*



*Айцец ЯЎСТАФІЙ*
*(ХАЛІМАНКОЎ)*

# V*

Царкву Хрыстову часта параўноўваюць з караблём, які плыве ў Царства Нябеснае. Мы так імкнуліся патрапіць на гэты карабель, душа мая: колькі глядзелі на яго з берага, колькі бегалі па трапе туды-сюды, колькі стаялі на палубе, углядаючыся з сумам на «агні вялікага горада»… І вось, нарэшце, налягаем з сілаю на вёслы — не азіраючыся і ні пра што не шкадуючы. З часам становіцца зразумелым, што за Хрыстом можна ісці толькі так: не азіраючыся, інакш рызыкуеш застыць саляным слупам[1] і рассыпацца потым на ганьбаванне свету[2].

Але... што чакае нас там, наперадзе? Калі яно яшчэ будзе, гэта Царства Нябеснае, у тваім жыцці? Няма пакуль ніякага намёку! Усё, што я бачу, — вузкі жгут гарызонту паміж небам і морам. Рэзкі і халодны марскі вецер б'е па твары; пранізліва, адчайна крычаць чайкі; дрыжыць, выслізгвае з-пад ног палуба. Я спускаюся ў трум, скурчыўшыся ад «марской хваробы», але і там мяне пачынаюць душыць думкі: «Куды я плыву, навошта? Ніякай пэўнасці, ніякіх гарантый. А калі ўсё гэта фікцыя, гульня ўяўлення, чарговая няўдала напісаная кніга?..» Менавіта ў гэты час замільгаюць перад вачыма разнастайныя спакуслівыя прывіды ўсяго таго, што засталося на беразе. «Ах, якім ён быў знаёмым і простым, гэты пакінуты свет! Якім звыклым... А што цяпер? Што мяне чакае наперадзе? Відавочна, нічога добрага».

Ты бачыш у труме напружаныя твары сваіх спадарожнікаў — яны не падобныя да лікаў святых. На кожным з іх можна прачытаць адну і тую ж гісторыю пакутлівай, бязлітаснай барацьбы з грахом. Кожны заняты сваім «мерцвяком» і нікому, здаецца, няма да цябе аніякай справы. І вось ты ўжо гатовы выбегчы на палубу і крычаць, крычаць на ўсю неабсяжную марскую ноч, у чарнату неба, што мігціць сабе далёкай абыякавасцю: «О, калі б мы памерлі ад рукі Гасподняй у зямлі Егіпецкай, калі сядзелі ля катлоў з мясам, калі елі хлеба ўдосыць! Бо вывелі вы нас у гэтую пустыню, каб увесь народ замарыць голадам» (Ісх. 16, 3).

Ты і не заўважыў, як апынуўся ў пясочнай поўні пэўнай пустыні, поўнай пустэчы…

— Ты апынуўся матросам «карабля пустыні», дурань!..

Бясконцыя трызненні бясконцай пустыні. Адзіны спадарожнік мой — душа мая — даўно ўжо маўчыць: няма пра што гаварыць. Быў час, мы хаўрусілі разам, хацелі падмануць жыццё: я раздуваўся, нібыта паветраны шар, ад свядомасці ўласнай выключнасці. Так, на паветраным шары, мы спадзяваліся пераляцець гэтую пустыню — пустыню адзіноты: мы хацелі падмануць жыццё, душа мая...

---

* *Працяг. Пачатак у № 6, 7, 8, 9 за 2013 г.*

[1] Гл. Лк. 17, 28—32.

[2] Мф. 5, 13.

Але потым мы стаміліся, бясконца стаміліся, як гэтая бясконцая пустыня. Кажуць, жыццё — толькі імгненне, але гэта імгненне непрыкметна ператварылася для нас у вечнасць. Азірніся на сябе, душа: уся твая сумная гісторыя — нечы маўклівы адказ. Дакладней, прысуд.

Хочацца на чымсьці спыніцца, нешта ўбачыць на гарызонце — але ты ведаеш ужо загаддзя, што ледзь убачыш гэта «нешта», як зноў паўстане спакуса абагатварыць яго. Прынамсі, захлынуцца ліслівымі кампліментамі. Таму што гэтае «нешта» дало табе ілюзію збавення ад адзіноты. Вось чаго мы больш за ўсё баімся — застацца ў адзіноце! Тым не менш, амаль заўсёды адзінокія. Гэта праўда, у якой страшна прызнацца сабе, таму мы амаль заўсёды робім выгляд, што нас тэма адзіноты не тычыцца. Але адзінота — лейтматыў нашага жыцця і, у некаторай ступені, «асноўны інстынкт» усіх «лішніх людзей». Ты глядзішся ў люстэрка ўласных фантазій і, напіўшыся імі дап'яну, выпраўляешся спаць, ведаючы напэўна, што зноў усю ноч цябе будзе гвалтаваць бяссонніца. І вось, ужо бліжэй да канца гэтай начной драмы, ты, нарэшце, зразумееш сэнс сваёй ролі. І тваё жыццё яшчэ не напоўніцца для цябе сэнсам, але ўжо перастане быць тэатрам абсурду. Ты хоць бы зразумееш тое, што ты гулец... Нават не так, гулец — гэта, шчыра кажучы, занадта высока для цябе. Ты — проста акцёр. І нават не так, на жаль... Ты проста статыст. Цень нечага сапраўды таленавітага жыцця, нечай легенды.

Словы, адны толькі словы, колькі слоў — цяжкавымоўных, доўгіх, бессэнсоўных… Яны сходзяцца разам — усе гэтыя правільныя словы: я пасылаю іх караван за караванам — мае малітвы да Цябе, Госпадзі!.. Ці даходзяць яны? А можа, па дарозе таксама ператвараюцца ў пясок? Пясочныя хвалі, пясочныя мроі, пясочныя сны… «Дом на пяску[1] — жыццё на валаску» — што гэта: ці то малітва, ці то дзіцячая лічылка? Я гляджу проста на Цябе і не бачу Цябе, Госпадзі! Я абдымаю Цябе і не адчуваю Цябе, я крычу да Цябе і не чую свайго голасу. Таму што я даўно страціў сябе, Госпадзі!..

І вось у такія «моманты ісціны» прачынаецца ў табе боль — глыбокі, вантробны, які ідзе ад каранёў... Табе робіцца балюча ад таго суцэльнага самападману, якім цябе прымусілі жыць; прымусілі паверыць у тое, што гэта і ёсць сапраўднае жыццё. Навесілі вакол цэтлікаў, усё распісалі, павярнулі да суфлёрскай будкі і прымусілі паверыць у нейкі міфічны ўнутраны дыялог. Зрэшты, у пэўным сэнсе гэта і быў дыялог — паміж трусам і удавам. «Бяжы, трус, бяжы!..»

І ты сапраўды бег. Куды? Сам не ведаў. Нешта трызніў са сцэны — твая распісаная роля ўжо даўно ператварылася ў суцэльную імправізацыю. Усе рабілі выгляд, што цябе разумеюць, — УСЕ! Ты бачыў, што ўся гэта вытанчаная публіка — звычайныя «калхознікі», і ў канцы тваёй драмы яны, як па камандзе, выберуць цябе ў каралі. О, «Голы кароль»!.. Ты спрабаваў прачнуцца, ты не хацеў быць персанажам выдуманага кімсьці жыцця. Аднойчы ты нават развярнуўся на 180 градусаў і пайшоў на дуэль са смерцю. І зноў аказаўся ў нечым спектаклі. Зноў выйшаў банальны падман…

Ты так марыў сказаць «не» — аднойчы і назаўжды, — хацеў хоць раз у жыцці зрабіць усё па-даросламу, па-сапраўднаму… Ты не раз спрабаваў прачнуцца, рабіў над сабой колькі высілак і аказваўся ў новым крузе пекла — спрабаваў вырвацца і... разумеў, што разьба даўно зрэзана. Круг за кругам, кола за колам… «Быць ці не быць»? Ты любіў корчыць з сябе Гамлета, гэта вельмі падабалася рамантычным дзяўчаткам, пакуль… не дагуляўся ўрэшце і… нешта як адсекла цябе ад усяго: «Жыць»!..

І ты апынуўся на дне гэтага карабля, цалкам хворы, знясілены душой і целам. І вось цяпер ты толькі-толькі пачынаеш разумець, што вяртання да мінулага няма.

Царкву Хрыстову часта параўноўваюць з караблём, які плыве ў Царства Нябеснае. Наша падарожжа вельмі доўгае, душа мая. І часцяком нас ахоплівае «марская хвароба». Тады мы спаўзаем зноў у трум. Але мы плывём. Таму што нам няма чаго губляць. Мы ўжо ўсё паразгублялі. Асталіся мы толькі ўдваіх з табой, душа мая. І мы, хоць і інваліды, але жывыя. Бо мы на караблі.

[1] Гл. Мф. 7, 24—27.

Павел Саковіч

## Яблынька

Яна мне вырасла па плечы,
А ёй гадочкаў, можа, пяць.
Квітнее яблынька-малеча:
Не церпіцца дарослай стаць.

Нібы нявесце скараспелай,
Што ў белым вэлюме стаіць,
Прызнанні ветрык ёй нясмела
Лістотай майскай шапаціць.

І сніцца яблынцы нявіннай,
Што будзе ў райскім садзе жыць,
Ды плод яе салодка-віны
Ніхто не зможа надкусіць.

Яна ж хацела тут застацца,
Каб кветкі ветрык цалаваў,
Каб сталі яблыкі з'яўляцца,
Бутнець, як грудзі, налівацца,
І каб іх грэшнік паспытаў.

П. Саковіч

5 чэрвеня 2013




Канстанцін КАСЯК

# Па слядах Ластоўскага

***Я не адзначаю дзень народзін. Аднойчы прыдумаў сабе завядзёнку, якой трымаюся некалькі апошніх гадоў, — сустракаць дзень свайго нараджэння ў невялікіх вандроўках па былых абшарах Вялікага Княства Літоўскага.***

У гэтым годзе маё персанальнае свята апынулася цесна звязаным з асобаю Вацлава Ластоўскага. Найперш таму, што сёлета гэтаму славутаму чалавеку спаўняецца 130 год. А яшчэ на гэта падштурхнуў падарунак каханай: на «днюху» я атрымаў ад сваёй дзяўчыны шыкоўнае факсімільнае выданне «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» аўтарства Вацлава Ластоўскага, выдавецтва «Мастацкай літаратуры». Упершыню кніга была выдадзена ў 1926 годзе ў Коўне, якое на той час было сталіцай міжваеннай Літоўскай Рэспублікі. Менавіта туды мы накіраваліся.

* * *

Атмасфера невялікага, але вельмі ўтульнага горада нібы створана для ціхага творчага жыцця. Яна проста падштурхоўвае займацца навуковай ці даследніцкай дзейнасцю. З вялікім поспехам тут бы мог жыць пісьменнік. Вечарамі, пасля працоўнага дня, ён будзе выбірацца ў паўпустыя кафэ, каб за кубачкам кавы ці чаго мацнейшага скласці план наступнага дня. Нягледзячы на тое, што Коўна з'яўлялася ў часы Ластоўскага сталіцай Літвы, я ўпэўнены, што атмасфера ў гэтым горадзе тады была прыкладна такой жа, як цяпер. Кожны горад мае сваё аблічча, якое не губляе нават з цягам стагоддзяў. Мяне ж найбольш здзівіла і ўразіла колькасць музеяў, прычым, яны цікавыя: музей авіяцыі, музеі Т. Іваноўскага, М. Чурлёніса, музей вайсковай гісторыі імя Вітаўта Вялікага…

У Коўне Ластоўскі жыў да свайго ад'езду ў савецкі Мінск у 1927 годзе. Месца, дзе жыў Власт, цяжка выявіць, бо дакументаў той пары захавалася надзвычай мала. Дакладна вядома, што карэспандэнцыя, якую ён атрымліваў у Коўне, адпраўлялася на адрас: праспект Вітаўта, дом 30. Гэткі ж адрас быў у беларускай місіі ў Коўне, якую арганізаваў разам з іншымі Вацлаў Ластоўскі. Нельга з упэўненасцю сказаць, што Ластоўскі жыў у гэтым будынку ці што жыў ён недзе ў іншым месцы. Тым не менш, менавіта ў Коўне былі створаны самыя значныя і грунтоўныя яго працы.

Але звернемся да Вільні, дзе некалі ўсё для Ластоўскага пачыналася. Тут ён жыў і працаваў з 1906 года. Яшчэ маладым чалавекам уступіў у Беларускую Сацыялістычную Грамаду, дзе абраў шлях служэння народу. Працаваў у рэдакцыі газеты «Наша Ніва», быў сябрам і паплечнікам Я. Купалы, Я. Коласа, А. Уласава, М. Багдановіча, А. Пашкевічанкі, іншых дзеячаў нашага адраджэння. Менавіта ў публікацыях на старонках «Нашай Нівы» раскрыўся ягоны талент: публіцыста, гісторыка, пісьменніка. Ён аўтар першай

«Кароткай гісторыі Беларусі», выхад якой у 1910 годзе стаўся вялікай падзеяй у грамадскім жыцці.

Яшчэ ў Мінску, браніруючы хостэл, я прыкмеціў адзін недарагі варыянт на рагу вуліц Піліма і Каліноўскага (Pylimo, 5 / K.Kalinausko, 2). Называецца ён проста: «Pylimo svečių namai», або «Гасцявы дом на Піліма». Яго гаспадар — літовец Арвідас — вельмі гасцінны малады чалавек. Пабачыўшы фота, я не мог паверыць, што буду жыць у будынку, у якім у 1911—1913 гадах месцілася рэдакцыя «Нашай Нівы», а таксама беларуская кнігарня!

Разам з жонкай Ластоўскі фактычнаператварыў гэты дом у цэнтр беларускага жыцця Вільні, а сваю кватэру зрабіў месцам сустрэч беларускай і літоўскай інтэлігенцыі. Жыццё беларускага дзеяча было далёка не заможным, як можа падацца на першы погляд. Янка Станкевіч у адной са сваіх прац гэтак апісвае жытло Вацлава Ластоўскага: «*Жыў ён ля Завальнае вуліцы, № 7. Там у першым вялікім пакоі памяшчалася спачатку рэдакцыя "Нашае Нівы", а потым беларуская кнігарня, а ў заднім малым пакоіку ды яшчэ ў меншай кухні жыў В. Ластоўскі з радзінаю — жонкаю й дачушкаю. Гэта было памяшканьне такое малое, што яго можна толькі прыраўнаваць да нашых гасподаў у табарах ДП у Нямеччыне, дый гэтыя напару былі лепшыя. Было яно й сьцюдзёнае, бо далавах, пад усёй гасподаю быў склеп, у каторым памяшчаўся архіў "Нашае Нівы" і быў склад кніжак.*

*Калі вы ўходзілі ў гасподу Ластоўскага, вы не пазнавалі, што гэта была гаспода прыватная. Вам здавалася, што ўходзіце ў мастацкае прадаўжэньне рэдакцыі або кнігарні: на сьценах былі паразьвешаныя абразы і іншыя памяткі старое беларускае культуры*».

Наш нумар месціўся на другім паверсе, акурат над памяшканнямі, дзе мог працаваць Власт. Тут цёмнымі вечарамі, хутчэй за ўсё, у поўнай адзіноце, Ластоўскі пісаў артыкулы для «Нашай Нівы». Яму часта даводзілася «забіваць» свежы нумар сваімі творамі, падпісанымі псеўданімамі. Гэты выдатны вопыт пазней спатрэбіцца яму пры выданні яго ўласнага часопіса «Крывіч».

* * *

Вяртаючыся дамоў, з Вільні ў Мінск, я думаў пра тое, чаму лепшыя сыходзяць гэтак рана? Чаму мы дагэтуль не шануем сваіх апосталаў Адраджэння? Чаму такія людзі, як Вацлаў Ластоўскі дагэтуль непрызнаныя? А галоўнае, навошта ён паехаў у савецкую Беларусь? Няўжо не ведаў, што ўсё можа скончыцца трагічна? Уплыў Ластоўскага павялічваўся разам з колькасцю ганебных даносаў на яго ад зайздроснікаў, халуёў ды ворагаў беларускай справы.

На маю думку, Ластоўскі свядома вырашыў вярнуцца. Ён ведаў, што яго мроя — Беларусь, хай сабе і ў такім хімерычным варыянце, як Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, — жыве, развіваецца і квітнее. Менавіта савецкі Мінск быў на той час геапалітычным цэнтрам не толькі для беларусаў і беларускіх зямель, але і ідэі Беларушчыны, пра што ёсць адпаведны артыкул у «Крывічы».

Так ці іначай, гэты чалавек належыць да той невялікай кагорты людзей, якія, узваліўшы на сябе ўвесь цяжар змагання за дзяржаўнасць, змаглі зрабіць настолькі шмат, што наўрад ці хто-небудзь з нашых сучаснікаў здолее іх пераўзысці.

Месца, дзе жыў Власт, цяжка выявіць, бо дакументаў захавалася надзвычай мала. Дакладна вядома, што карэспандэнцыя, якую ён атрымліваў у Коўне, адпраўлялася на адрас: праспект Вітаўта, дом 30

***Поўную версію «Літаратурнага падарожжа» «Па слядах Ластоўскага» — з фотаздымкамі і цытатамі — чытайце на сайце «М» у спецыяльным праекце «Каляровая «Маладосць».***



Вольга
АВЕРКАВА-ЛІТВІНАВА

# Масква—Мінск.
## Жыць на дзве сталіцы

Каляндар, крыжыкі-кропачкі… Ужо больш як год я пачуваюся ў статусе «саламянай удавы», або, як прынята гэта называць цяпер, знаходжуся ў гасцявым шлюбе. Імкнуся звесці праекты, падзеі і, урэшце, асабістыя інтарэсы, каб вылічыць дні паездак у Маскву, горад, дзе, воляю лёсу і падпарадкоўваючыся патрэбам чалавека XXI стагоддзя, апынуўся мой муж.

Не магу сказаць, што Масква для мяне новы і незнаёмы горад. Я там часта бывала ў дзяцінстве, чула шмат прыемных, нават рамантычных водгукаў пра яе ад сваіх бацькоў, што асвойвалі некалі «в Щепке» акцёрскае майстэрства. Таму Масква для мяне заўсёды была горадам мастацтва, тэатра, паэзіі і маладосці.

Усё змянілася, калі мой муж паехаў з Мінска, і я апынулася перад выбарам: у якім горадзе распакаваць чамаданы.

Акрамя цікавых тэатраў, бясконцых канцэртаў, акцый, мерапрыемстваў, бясплатных лекцый нам давялося сутыкнуцца з побытам. Масква — горад чэргаў, магістралей і пробак. Дабрацца з кропкі А ў бачную праз вуліцу кропку Б не так ужо і проста. Пакуль сталіца Расіі застаецца горадам для машын, а не для людзей. Хаця перамены да лепшага ўжо заўважаны. Прывялі, напрыклад, у парадак асноўныя паркі. На зіму Сакольнікі і парк Горкага ператвараюцца ў суцэльны каток, па якім можна слізгаць пад дыджэйскую музыку. Летам там праводзяць урокі танцаў, выкладаюць ёгу, прапануюць на пракат веласіпеды, тэнісны стол або корт, корт для бадмінтона. У парку Горкага адкрыты кінатэатр на свежым паветры, дзе не толькі паказваюць кінанавінкі, але і чытаюць лекцыі. За цікавымі лекцыямі можна пайсці таксама і ў інстытут медыя, архітэктуры і дызайну «Стрэлка», там жа, побач, месціцца аднаіменны бар, які пазіцыянуе сябе як камфортная гарадская прастора для нефармальных стасункаў. Увогуле, у Маскве шмат месцаў, дзе збіраецца творчая моладзь, каб насалодзіцца сваім максімалізмам ды снабізмам. І гэта добра.

У Маскве ўсё створана для таго, каб шукаць сябе і развівацца. Паўтаруся, многія лекцыі і акцыі праходзяць бясплатна. Былі б час і жаданне. Але патрэбны і грошы. Мы паспрабавалі вызначыць сярэдні кошт забавак у Маскве — ён склаў 100 у.а. на чалавека. Сярэдні кошт білета ў тэатр — 100 у.а. Сярэдні кошт сеанса ў аквапарку — 100 у.а. А за тое, каб ўскараскацца на зорку ў сталінскай высотцы, прыйдзецца аддаць 200 у.а. Сярэдні кошт вячэры ў добрым месцы Масквы, напрыклад, у рэстаране GinzaProject—«Sixty» (62-і паверх вежы Федэрацыя), абыдзецца вам у трохі больш як 100 у.а. на чалавека. Парадокс, але амаль на тыя ж грошы вы падсілкуецеся ў любым месцы сетак сушы. Прычым, з ежай у мегаполісе складана ад пачатку да канца: або яна дарагая, або нясмачная. Размова ідзе і пра фуд-корты і фаст-фуды. У Мінску ж формула «кошт-якасць» сустракаецца значна часцей. Толькі вось месцаў хуткага харчавання амаль не знайсці.

Наша асваенне Масквы пачалося, аднак, не столькі з наведвання модных «Стрэлак» «Флакона», тэатра Нацый, Цума і да таго падобнага, колькі з поўнай перазагрузкі

мозга. Усведамленне таго, што ў сучасным свеце цябе вучаць абыходзіцца без уласнага дома — бетоннай скрыні — насуперак таму, чаму вучыла старэйшае пакаленне праз «пабудуй дом, пасадзі дрэва, выгадуй сына», вядзе да збою каштоўнасцей. Амаль кожная размова «ў курылцы» на працы або ў кавярні зводзіцца да кватэрнага пытання, якое «сапсавала масквічоў» яшчэ ў булгакаўскія часы.

Карэнныя масквічы здаюць свае кватэры і жывуць у тых, што здымаюць самі — бліжэй да офісаў. Інакш жыццё можна правесці ў пробцы. Больш за тое, самі ўлады агітуюць людзей перамяшчацца «за працай»: сёння ты паспяховы, бо жывеш у добрым месцы, у дарагім доме; заўтра ты «прамазаў» — жывеш у больш танным доме, у крымінальным раёне. Ты ні да чаго не прывязаны, у цябе няма неабходнасці накопліваць капітал, усё роўна набытая ў Маскве кватэра за жыццё не акупіцца.

Аднак прыбыўшых у сталіцу Расіі менш не становіцца, пачынаючы ад кубінскага бегуна і заканчваючы беларускім IT-шнікам.

Усё гэта прымушае сумаваць па Мінску з яго нізкімі дамамі, шырокімі тратуарамі, смачнай ежай, спакойным аўтамабільным трафікам, веладарожкамі… У Мінску відаць неба, у Мінску чыстае паветра, можна раніцай выехаць на прыроду і прыбыць на запланаванае месца праз гадзіну, а не ўвечары. У Мінску вельмі ціхія людзі, пасля Масквы тут ствараецца ўражанне, што мы ўсе размаўляем шэптам. У Маскве ж усе эмацыйныя, дзелавыя і шумныя. Затое лягчэй ідуць на кантакт. Мы ж і праўда нагадваем партызан. Затое прыгожых, інтэлігентных і акуратных.

Важны плюс Расіі — гэта тое грамадства, што фарміруецца ў ёй апошнімі гадамі шляхам стварэння такіх праектаў, як «СтопХам», «Хрюши против», таварыства сініх вядзерцаў, акцыі супраць наркотыкаў (жыхары горада самі арганізуюцца і ловяць распаўсюджвальнікаў, знішчаючы іх тавар). Максімальна задзейнічаны і інтэрнэт. На gorod.mos.ru можна знайсці свой дом і пaглядзець план добраўпарадкавання двара. У выпадку невыканання прац на сайце пакідаецца скарга, якая абавязкова прымаецца. Калі дрэнна працуе ЖЭС, на сайце roszkh.ru можна зняць з сябе стрэс, выказаўшы сваё незадавальненне. Акцыі «Москва пешеходная» і «Москва велосипедная» таксама мяняюць горад да лепшага.

Безумоўна, Масква прыцягвае — магчымасцямі і цікавымі людзьмі: згодна са статыстыкай, самыя разумныя людзі збіраюцца ў сталіцах. Нарэшце, тут ёсць IKEA, H&M і іншы розны прыемны мас-маркет. У Маскве актыўна выкарыстоўваецца гістарычны кіч: у крамах і кавярнях вісяць партрэты Мікалая II, Гогаля, Талстога, Булгакава… Смешна, але прымушае ўзгадваць гісторыю. Аматары-гісторыкі ў Маскве праводзяць цікавыя пешыя экскурсіі — кожны можа, даведаўшыся пра месца сустрэчы з інтэрнэту, пазнаёміцца, напрыклад, з Масквой булгакаўскай. Мінчане такіх экскурсій пакуль, на жаль, не праводзяць.

І ўсё гэта існуе нароўні з вар'яцкім натоўпам у метро ў гадзіны пік, з такімі ж вар'яцкімі пробкамі, з-за якіх трапляеш дамоў у дзве ночы, калі а шостай ужо трэба ўставаць, з савецкай легкавой «капейкай» і ролс-ройсам, з шыкоўнымі рэстаранамі і бяздомнымі сабакамі, са шклянымі прыгожымі офісамі і спрадвечнымі злодзеямі ды махлярамі... Горад кантрастаў, у якім ты адчуваеш сябе пешкай і адначасова — свабодным чалавекам!

У Маскве штодня адкрываюцца бары, кавярні, буцікі і праходзяць незвычайныя акцыі. Гэта зразумела: горад вялікі. Усё гэта добра, якасна асвятляецца ў СМІ. У Мінску я, на жаль, радзей сачу за навінкамі і падзеямі. У мяне ўсё наадварот: Масква — горад для адпачынку, Мінск — для працы. Любімыя месцы, якія я наведваю ў Мінску, — гэта бар Sweet&Sour, кавярня Rosso, часам «У бар». Велакафэ і SaladDrive нязменна перасякаюць мой велашлях. Прыемна, што ў Мінску ладзяцца цікавыя фестывалі, што прыязджаюць сюды з канцэртамі зоркі сусветнага ўзроўню, а ў гэтым годзе нават прайшоў адказ «Пикнику Афиши» — Арт-пікнік FSP. Не, мы не адстаём ад Масквы, як многія кажуць. І чаму мы павінны ўвогуле за ёй паспяваць? У нас свой тэмп, свой твар, які мы з кожным годам акрэсліваем усё больш дакладна. У Мінску добрыя людзі, я ў гэта нязменна веру. У Мінску мне рэдка хочацца знаходзіцца ў закрытых памяшканнях. Тут я дыхаю свежым паветрам, якога так не хапае ў Маскве. Канешне, Мінск для мяне заўсёды будзе маім горадам: тут я нарадзілася і зведала каханне. Жыць на два гарады складана. Але такое жыццё. У ім я імкнуся заўважаць толькі добрае.




# Добры повар

*«Ён старэйшы на год і амаль на стагоддзе… / У ягоным паглядзе вятры карагодзяць… / І ўжо не пра смерць — пра жыццё гаварыць бы нам, / Ды ў горле трапечацца злоўленай рыбінай: / «Даруйце, Вы з Менску?» — «Не, я не з Менску». / Я з горада гэтага знікла без вестак. / Маўчанне… І ён, успамінам атулены, / У бок пазірае, бы ўсмешку матуліну / Убачыў…»,* — чытае Таня і за руку зводзіць маладога прыгожага Максіма з узведзенага прыхільнікамі п'едэстала. Шчырая, усмешлівая, ветлівая і чуйная, яна пачуваецца добра ў кампаніі класікаў і пачаткоўцаў, журналістаў і пісьменнікаў, ваенных і паслоў…

У студыю канала «Культура» на літаратурную праграму «Кухня» я запрасіла галоўнага рэдактара газеты «Літаратура і мастацтва» **Таццяну СІВЕЦ.**



**— Ці адчуваеш сябе на літаратурнай кухні шэф-поварам, любіш гатаваць?**

— Галоўнае, каб мяне не лічылі кухарам з вялікім нажом і важкай качалкай, якога ўсе баяцца. Я добры повар. Праўда, памятаю, некалькі гадоў таму са свята паэзіі і песні ў Маладзечне мяне папрасілі прывезці качалку. І калі на ўваходзе правяралі сумку, усе чамусьці пасміхаліся і запытваліся, для каго я набыла такі цудоўны прадмет.

**— Як у літаратурнага кулінара ў цябе ёсць любімыя рэцэпты?**

— Наколькі ведаю, сапраўдны кухар больш карыстаецца інтуіцыяй, чым канкрэтным спісам прадуктаў. Ён можа прыгатаваць усё, што заўгодна, з таго, што ёсць у халадзільніку. Я таксама гатую з таго, што знайду ў нашай жыццёвай лядоўні. Пры гэтым карыстаюся натхненнем, жаданнем праспяваць пра тое, што бачу.

**— Напэўна, часта даводзіш да ладу «стравы» іншых…**

— Сапраўды. Часам так парэжаш, скампануеш, пачысціш, што тэкст самой падабаецца. Гэта калі казаць пра рэдактарскую працу. Але варта і сваё апрацоўваць, каб людзі пакаштавалі з прыемнасцю.

**— Якім павінен быць рэцэпт добрага верша? Якія тут складнікі?**

— Перш за ўсё, шчырасць — той соўс, без якога не прыгатуеш. Пачуццё. Не важна, якое яно будзе. Нехта любіць вострае, салодкае, салёнае, таксама, як у літаратуры: хтосьці абірае вершы пра каханне, нехта пра прыроду. Якія выкарыстаць прыправы, ці саліць, ці дадаць перцу — гэта абірае аўтар. Часам так паперчаць верш, што не ведаеш, як да яго падступіцца. Галоўнае, каб творца хоць трошкі думаў пра тых, для каго ён гатуе. Тут варта трымацца залатой сярэдзіны. І не забывацца на сябе.

**— А боль трэба дадаваць?**

— Унутраны боль уваходзіць у сугучча з адчуваннем чытача, напэўна, без яго, як без солі, страва не смачная.

**— А звычайная кухня для цябе сакральнае месца?**

— Я люблю салодкае. У мяне кухня асацыюецца з дзяцінствам, калі маці вучыла мяне гатаваць. І самым прыемным было аблізаць лыжку, якой мяшалі крэм, ці пакаштаваць пенку з варэння. А калі гатуеш сам, хочацца парадаваць тых, хто побач. Я з дзяцінства любіла рабіць стравы са слоў: гісторыі, казкі, апавяданні пра тое, што можа здарыцца, працяг прыгодаў кніжных герояў…

**— У літаратурнай сферы ты лічыш сябе эксперыментатарам ці прыхільнікам традыцыйнай манеры пісьма?**

— Лічу, што пішу традыцыйна. А вось астатнія часам адносяць мае творы да эксперыментаў. Можна гуляцца з формай. Я праз гэта прайшла: пісала трыялеты, рандо, хоку. Дзякуючы паэтычнаму слоўніку Вячаслава Рагойшы паспрабавала, здаецца, усё. Паэзія павінна здзіўляць, нават калі яна традыцыйная. Тады гэта ўражвае і хочацца чытаць.

**— Некаторыя выкарыстоўваюць кнігі як снатворнае. Не можаш заснуць — калі ласка, чытай падручнік па матэматыцы ці «Іліяду» Гамера. Кажуць, гекзаметр вельмі супакойвае.**

— А мне адразу ўзгадваецца: «Бессонница. Гомер. Тугие паруса. / Я список кораблей прочел до середины…». Я, калі трэба спаць, бяру падручнік па філасофіі. Мне часта сняцца вершы. Уночы думаеш: здорава, такія выдатныя радкі. А раніцай разумееш, што яны не такія ўжо ўдалыя.

**— А тое, што прымроілася ў сне, не робіцца прарочым?**

— У мяне бывае, што здзяйсняецца нешта ўзгаданае ў вершах. Таму стараюся нічога жудаснага не пісаць. А бывае, проста нараджаецца верш — і разумееш праз некалькі дзён або месяцаў, што напісанае — здарылася.

**— У цябе вялікі напрацаваны нататнік. Напэўна, у падарунак з задавальненнем атрымаеш новы…**

— Самае цяжкае, калі некалькі нататнікаў і ты блытаешся, дзе і што запісана. Штосьці важнае я ўжо пішу ў тэлефон ці камп’ютар, каб хутчэй знайсці.

**— А які падарунак для цябе найлепшы?**

— Хачу кнігу — беларускі пераклад «Кайтуся чарадзея». Я вельмі люблю Януша Корчака. І калі ён выйшаў па-беларуску, гэта быў для мяне найлепшы падарунак. Але камусьці дала пачытаць кнігу, і яе не вярнулі. Я трапляю ў дзяцінства, калі звяртаюся да твораў Януша Корчака.

**— Ці ёсць у цябе любімыя замежныя творы, якія ты чытала ў некалькіх перакладах?**

— Я чытала Байрана, тым больш, што гэта была тэма маёй дысертацыі. Магу прааналізаваць. Уладзімір Скарынкін перакладаў Байрана з падрадкоўніка, і ў яго цудоўна атрымалася перадаць настрой, час той эпохі. Некалі параўноўвала пераклады Гары Потара. Там столькі варыянтаў трактовак, што ў выніку вырашыла прачытаць у арыгінале. Памятаю, калі чытала Булгакава, больш спадабаўся беларускамоўны варыянт «Майстра і Маргарыты». Напэўна, спрацаваў генетычны ўзровень — адчула роднае.

**— Як наконт кулінарыі ў прамым эфіры? У спадчыну ад папярэдняга госця табе перайшлі словы *неба, трэба, суцяшаць, лятаць*.**

— Няма пытанняў. Не ведаю, праўда, на якія рыфмы пісалі бурымэ іншыя госці. Мне ж дасталіся мае нелюбімыя. З усёй стараннасцю імкнуся іх абыходзіць у творчасці — так прывучылі старэйшыя калегі. Але тут не выбіраеш, таму не варта ставіцца да гэтага сур’ёзна. Проста такая літаратурная гульня, забаўка.

Калі паэт глядзіць на неба,
То турбаваць яго не трэба.
А лепей проста суцяшаць
Банальнай рыфмаю «лятаць».

Прыблізна такія ж словы, як сонца/бясконца. Хто заўгодна напіша з такой рыфмай верш, і толькі геній здолее зрабіць гэта непаўторна і арыгінальна.

*Анастасія ХМЕЛЬ*

# У ПРОМНЯХ РАЗБЭШЧАНАЙ ДУМКІ



***Анастасія Хмель нарадзілася 12 сакавіка 1991 года ў вёсцы Дзярэчынцы, што на Стаўбцоўшчыне. Выпускніца факультэта беларускай філалогіі і культуры БДПУ імя Максіма Танка. Друкавалася ў газетах «Прамень», «Літаратура і мастацтва», калектыўным зборніку паэзіі «Маладыя галасы». Знаходзіць натхненне ў восеньскіх фарбах, спакойным восеньскім сонцы, а таксама ў знаёмствах з цікавымі людзьмі.***

**ВЕРШЫ-ДЗЕТКІ**

Калі нараджаецца твор
У промнях разбэшчанай думкі,
Пачуццяў шумлівы віхор
Становіцца штылем ціхуткім.

Пытанне ў вачах паўстае:
«Ці ты не паблытаў мішэні?»
Што стане з паперкі тае,
Якая схавана ў кішэні?

Ці яркім агнём палыхне,
Згарыць пад людскімі вачыма?
Ці згіне між іншых, бы ў сне,
Не ўбачыўшы явы. Магчыма,

Няхай лепш ідзе вандраваць
Між слоў-пустазелляў і кветак,
А мне застаецца чакаць,
Як маці, вясцінкі ад дзетак.

* * *

Няхай цябе больш не кахаю,
Няхай ўсё страчана навек,
Усё роўна ў думках адсылаю
Гарачых слёз сваіх букет

Таму агеньчыку пяшчоты,
Які не раз дарыў цяпло,
А ўсе кручастыя залёты
Спаслаў на лёс, ну як на зло!

Навошта ж срэбраныя зліткі,
Навошта пафас і гламур,

Калі ўжо высахлі да ніткі
Пачуцці з залатых купюр?

## ЖЫЦЦЁВЫ ПОКЛІЧ

Жыві дастойна, чалавек!
Душы захочацца на волю…
Як воды поўняць руслы рэк,
Хай сэрца поўніцца любоўю,

Каб шчыра радаваўся ты
Лясам, дубровам, сенажацям,
Уплесці вечнасці матыў
Мог у духоўнае багацце.

Дзядоў запомні запавет,
Не адступай ад іх наказу,
Зрабі найлепшым гэты свет!
Адзін не зможаш — зрушым разам!

## НЕЗАБЫЎНАЕ

Ты называў мяне ласкава,
І гэта чулі лес, рака.
Лістота рэха адбівала.
Ты называў мяне ласкава.
«Галубка, кветка лугавая», —
Абняць імкнулася рука…
Ты называў мяне ласкава,
І гэта чулі лес, рака.

* * *

Ёсць толькі мы — навокал цішыня.
Стаім, забыўшы смутак, ля ракі.
Нішто не патрывожыць міг такі.
Ёсць толькі мы — навокал цішыня.
Як зоркі з неба, сыплюцца радкі:
«Знікае ўсё! Да самага рання́.
Ёсць толькі мы — навокал цішыня.
Стаім, забыўшы смутак, ля ракі».



Арцём АБЛАЖЭЙ

# КАРОТКІЯ АПАВЯДАННІ



***Арцём Аблажэй нарадзіўся 3 лістапада 1987 года ў Навагрудку. Завочна вучыцца ў Гродзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы на факультэце гісторыі і сацыялогіі. Аўтар артыкулаў на гістарычныя тэмы. Марыць займацца працай, якая б датычылася гісторыі роднага краю.***

## КОТ І ЧАРАПАХА

— Чаму ты заўсёды такая марудная і павольная? Мне глядзець на цябе брыдка, калі ты поўзаеш. Вось паглядзі на мяне: я хуткі, жвавы, бегаю і прыгаю, — гаварыў кот чарапасе, седзячы на плоце, калі тая паўзла ў цень, хаваючыся ад летняй спёкі.

— Кажаш, глядзець брыдка? Дык і не глядзі. Я такая марудная і павольная, як ты кажаш, бо…

— Ведаю, ведаю, — не даў дагаварыць кот, — бо ў цябе панцыр цяжкі і старая ты ўжо.

— Панцыр — гэта мой дом, хоць ён і цяжкаваты, але затое вельмі зручна, калі твой дом заўсёды з табой. Вунь бачыш, хмары пачынаюць збірацца, можа дождж пайсці, ты пад страху пабяжыш, а я не. А наконт старасці, то тут ты кажаш слушна: старая я ўжо, зусім старая. Але памяць добрая.

— Ой, якая ў цябе памяць, — смеючыся прамовіў кот, — ты нават не памятаеш, што сёння зраніцы ела.

— Які ж ты гадкі, абы языком мянціць, — прамовіла спакойна чарапаха і дадала, — што ела сёння я памятаю, што далі, тое і з’ела, як і ты. А што ела ўчора, то ўжо і не памятаю. Затое я не забыла, што было даўным даўно... Нават каты былі іншымі, больш выхаванымі, чым цяпер, — сказала яна гледзячы на мурмыку, — ведай жа, што на гэтым свеце я жыву ўжо каля тысячы гадоў! Чаму так доўга? Сама дзіўлюся... Феномен нейкі, бо мы так доўга не жылі ніколі ды і цяпер не жывём.

Чарапаха перавяла дух і дадала: «Але за гэты час я многае пабачыла і шмат дзе была ў адрозненне ад цябе, зусім маладзенькага ката».

— То раскажы нешта цікавае, калі такая разумная, — прамовіў кот і саскочыў уніз да чарапахі. Яго зусім не ўразіў такі ўзрост суразмоўніцы.

— Яшчэ чаго... Я жыву не дзеля таго так доўга, каб нейкаму кату распавядаць пра тое, што можа з ног на галаву перакуліць усю гісторыю чалавецтва.

— А чаму тады нікому іншаму не раскажаш пра тое, што ведаеш? — здзівіўся кот.

— А хто ў мяне пытае? Ніхто. Ды як хочуць... Я ўсяго толькі старая марудная чарапаха, а яны, людзі, яны

разумнейшыя за мяне. Памятаю, адзін разумны чалавек прамовіў: «Што ёсць гісторыя — гэта толькі казка, у якую ўсе дамовіліся паверыць», вось няхай і верацць у тую казку, — прамовіла чарапаха і схавалася ў свой панцыр, бо з неба пачало капаць.

Кот хуценька пабег пад страху і, хаваючыся ад дажджу, усё ж такі для сябе адзначыў, што мець заўсёды з сабой свой дом не так ужо і дрэнна.

**ЛАТАРЭЙНЫ БІЛЕТ**

— Сцяпан, чаму так атрымліваецца? Я каля трыццаці год прастаяў каля станка, падарваў сваё здароўе, заўжды ў мяне былі лепшыя паказчыкі па вытворчасці! Я за сваё жыццё нікому дрэннага не зрабіў, нікога не пакрыўдзіў і не падмануў. Да чаго гэта я ўсё кажу? Мой сусед, ты яго павінен памятаць, Мікалай яго імя. Дык вось, ён пачынаў працаваць разам са мной. А затым, у часы «перабудовы», кінуў працу на заводзе і падаўся ў бізнесмены! У Польшчу ўсё ездзіў, а потым, памятаю, у Вільнюс і Маскву. Я пару разоў з ім туды ездзіў, ён па сваіх бізнесменскіх справах, а я ў камандзіроўку. І ўсё ў яго так добра закруцілася... Машыну купіў, потым хату адрамантаваў і другі паверх дабудаваў, гараж. Дык гэта калі ўжо было! Ты б сёння паглядзеў на яго двор, там не хата, а цэлы панскі палац, я б нават сказаў, што замак! Служак толькі не хапае. Ды не, Сцяпан, я не зайздрошчу! Ён малайчына. Усяго дамогся сам, ніхто яму не дапамагаў. І чалавек ён добры, заўсёды павітаецца са мной і з жонкай. Ды і кошты ў ягоных крамах танныя. Дык вось што, гэты Мікалай з тыдзень таму выйграў у латарэю сто мільёнаў рублёў! Ты разумееш? Сто! Навошта яны яму, у яго што, грошай не хапае? Сцяпан, я гуляю ў латарэю ўжо гадоў дваццаць, кожную суботу сяджу каля тэлевізара, і што? Самы вялікі выйгрыш выпаў у тры разы большы за кошт латарэйнага білета. Не, Сцяпан, няма справядлівасці на гэтым свеце і, мусіць, Бога няма, калі такое здараецца.

* * *

Недзе там, у нябёсах.

— Ойча, я разумею, што справядлівасці ў свеце няма, але ж чаму так? Гэты мужчына кажа праўду, яму гэтыя паперкі больш патрэбны, чым ягонаму суседу Мікалаю.

— Разумееш, сын мой, людзі не пастаянныя, сёння яны кажуць так, а заўтра зусім па-іншаму. Вось з-за гэтага яны і пакутуюць. Той, за каго ты так перажываеш, канешне, добры чалавек, і калі прыйдзе час, ён будзе ў лепшым месцы, чым, напрыклад, яго знаёмы Сцяпан. Гэтыя паперкі не зрабілі б яго больш шчаслівым, павер мне, ён і так шчаслівы чалавек, проста гэтага не разумее. Не разумеюць і іншыя. Людзі — складаныя істоты, вельмі складаныя, нават я цалкам не магу зразумець іх сутнасць, што ўжо казаць пра іх саміх.

— Ойча, але ж чаму выйграў Мікалай?

— Сын мой, гэта дробязь, ды такая, якая не заслугоўвае нават кроплі нашай з табой увагі.

* * *

Сцяпан, ідучы дадому, думаў, што было б вельмі добра, каб яго знаёмы выцягнуў выйгрышны білет, вось ён пагуляў бы на пазычаныя ў сябра грошы. А можа, і задарма.

Наталля ТУМІЛОВІЧ

# АПАВЯДАННІ



***Наталля Тумiловiч нарадзiлася 24 чэрвеня 1981 года ў Барысаве. Па адукацыi — журналiст, па прафесii — выкладчык, па светаадчуваннi — падарожнiца. Захапляецца карцiнамi iмпрэсiянiстаў. Марыць зарабiць шмат грошай i адрадзiць радзiму сваiх продкаў — вёсачку ў Лагойскiм раёне.***

## ПОЛЛІ

Поллі ўяўляла сабе радзіму продкаў зусім не гэтак. Дзед казаў, што дарогі былі дагледжаныя, лясы поўныя грыбоў і дзікіх звяроў для добрага палявання, а людзі ветлівыя. Калі б Поллі ведала тутэйшую прымаўку пра тое, што «гэта было даўно і няпраўда», тая абавязкова прыйшла б ёй на розум ужо тады, калі таксіст на цэнтральным чыгуначным вакзале ў адказ на просьбу дзяўчыны давезці яе да раённага цэнтра за 150 кіламетраў ад сталіцы, паглядзеў на нязваную пасажырку, быццам на шалёную, і прамармытаў у яе адрас нешта не зусім зразумелае і, як западозрыла Поллі, не вельмі прыемнае. Але тое дзяўчына аднесла на кошт не надта добрага ведання рускай мовы. Беларускую, на жаль, яна разумела яшчэ горш, але, патунькаўшыся па прывакзальнай плошчы яшчэ з паўгадзіны, адчула, што тая не надта і трэба ёй тут, у гэтай цікавай краіне, зусім не падобнай да дзедавых успамінаў ды яе ўяўленняў, зробленых падчас размоў з нешматлікімі знаёмымі, што пабывалі ў Савецкім Саюзе.

Але цяпер гэта быў ужо не Саюз, а незалежная Беларусь, што імкнулася быць не толькі геаграфічным цэнтрам Еўропы, як пра тое было заяўлена ў даведніку Поллі, знойдзеным ёю на кніжным рынку Прагі (ні ў адным іншым горадзе асобных брашур і даведнікаў пра маленькую ўсходнеславянскую краіну не мелася), але і сапраўднай еўрапейскай дзяржавай. Праўда, пакуль дзяўчына знайшла не так шмат падабенстваў. Прынамсі, людзі тут усё ж такі былі нейкія дзіўнаватыя. Мусіць, ужо чацвёрты таксіст адмаўляўся давезці яе да Круцка. Няўжо яна так незразумела тлумачыць, куды ёй трэба?

Выпадкова азірнуўшыся, дзяўчына ўбачыла, што апошні з вадзіцеляў, размаўляючы з уладальнікам суседняй машыны, цішком паказвае на яе і круціць пальцам каля скроні. Гэта было занадта!

— Скажите, пожалуйста, — маці заўсёды яе вучыла, што галоўнае ў любой сітуацыі — заставацца вытрыманай, але Поллі цяжка было схаваць сваё абурэнне, —

я неправильно объясняю или причина в чем-то другом? Почему никто из ваших коллег не соглашается отвезти меня туда, куда я прошу?

Таксіст ад няёмкасці, што тая заўважыла яго жэст, не адразу знайшоўся з адказам, але сусед, невысокі каржакаваты мужчына гадоў каля трыццаці, сказаў замест яго на дзіўнай руска-беларускай трасянцы:

— Дык хто ж вас, девушка, у такую даль повезет? Ды по нашим дорогам, машина та... не казенная.

— Я не поняла, — ад хвалявання Поллі сапраўды дрэнна зразумела сутнасць справы, — в чем дело? Может быть, вы не знаете, куда нужно ехать? Я покажу, — дзяўчына палезла ў бакавую кішэню падарожнай сумкі, дзе ляжала падрабязная карта Беларусі.

— Да знаем мы ўсё прекрасно, девушка, — зноў адказаў сусед. — Далеко, не понимаете, чего ли, дорога лишь бы якая.

— Что значит «лишьбыякая»? — зноў не зразумела Поллі. Але тут першы таксіст, зірнуўшы на яе англамоўную карту, мусіць, здагадаўся, што патэнцыяльная пасажырка не мясцовая жыхарка, і ад здзіўлення прысвіснуў. Манеры, машынальна адзначыла дзяўчына, пакідалі жадаць лепшага.

Змяніўшыся ў твары, таксіст кіўнуў у бок свайго аўто:

— Садитесь, я вас с ветерком домчу.

Замест таго, каб падхапіўшы сумку, радасна пабегчы да машыны, Поллі па-дзелавому спытала:

— А сколько это будет стоить?

Таксіст назваў суму, на якую, хуценька падлічыла дзяўчына, дома яна б магла харчавацца два дні.

— Нет, — рашуча адмовілася яна, — лучше я поеду на автобусе. Где здесь отправляются пригородные автобусы? — запытала яна другога таксіста. Пра тое, што нельга дабрацца да Круцка на электрычцы, яна даведалася яшчэ ў цягніку, размаўляючы з правадніцай.

— Дык садитесь ко мне, девушка, — таксама скеміўшы, што не варта адпускаць іншаземку, якая можа заплаціць за паездку куды больш, чым ён заробіць за ўвесь сённяшні вечар, замітусіўся і гэты. — Доставим вас в лучшем выгляде.

У выніку лаянкі, што распачалася паміж канкурэнтамі, Поллі паехала ў Круцк з таксісткай, якая, не губляючы часу, ціхенька падышла да дзяўчыны, пакуль тыя высвятлялі «добрасуседскія» адносіны. Яна вырашыла, што, па-першае, з жанчынай ехаць не так небяспечна, чым з мужчынам, да таго ж хцівым да грошай, а па-другое, падчас дарогі, можа, атрымаецца распытаць вадзіцельку пра нейкія асаблівасці нацыянальнага менталітэту.

Але, на дзіва, таксістка патрапілася з маўклівых. Хутка, за паўтары гадзіны, давезла Поллі да райцэнтра, узяла грошы, пра якія дамовіліся адразу, яшчэ ў Мінску (у два з паловай разы менш, чым самая першая сума, пачутая дзяўчынай ад нахабнага ўладальніка прыватнага транспарту), і гэтак жа моўчкі крутанула машыну назад.

«Яшчэ адзін доказ, што жанчына зробіць любую справу не горш за мужчыну, ды значна хутчэй і якасней», — падумала Поллі, адзначыўшы пра сябе, што хаця б у гэтым, гендэрна-бізнесавым, аспекце Беларусь наблізілася да еўрапейскіх ды агульнасусветных стандартаў. Лепш бы тут навучыліся з кліентамі працаваць так, як за мяжой, сумна ўсміхнулася дзяўчына.

Радзіма не спяшалася зачараваць Поллі. Хутчэй наадварот. Але не хапала часу на сантыменты: трэба было даведацца, да якога сельскага савета (СССР

ужо не было, а адміністрацыйныя службы ад яго так і засталіся) адносілася вёска Рамонікі, дзе восемдзесят гадоў таму знаходзіўся маёнтак пана Святлыніцкага. Яе прадзеда.

У Алекса было тры сыны, чацвёра ўнукаў і ўнучка. Поллі аказалася адзінай дзяўчынкай у сям'і, і, колькі сябе памятала, дзед заўсёды любіў яе больш за іншых. Менавіта ён і заахвоціў яе вывучаць беларускую гісторыю. Астатніх нашчадкаў цікавілі бабчыны карані, паданні сямейства графіні Кэтрын Уілфарт, адзінай дачкі і спадкаеміцы сэра Генры і спадарыні Барбары, што валодалі дваранскім тытулам, сякім-такім капіталам, мануфактурай па вырабе ваўнянага адзення і цудоўным па прыгажосці звонку, але надта стылым і хмурным ўсярэдзіне замкам на поўначы Шатландыі.

Як кпіў часам старэйшы сын Алекса і Кэтрын: калі б дзед з бабкай дажылі да вяселля дачкі з нейкім прахвостам-эмігрантам з нікому невядомай ускраіны Расійскай імперыі, дык і вяселля б таго не было. Але лёс распарадзіўся інача́й: сэр Генры памёр за два гады да пачатку бальшавіцкай рэвалюцыі, а спадарыня Барбара змарнела ад смутку годам пазней. І свавольніца Кэці засталася пад наглядам апекуноў, якія, дарэчы, мелі свае планы наконт замужжа дзяўчыны. Кэтрын, праўда, не надта брала тое да галавы, бо на двары, як-ніяк, пачатак XX стагоддзя, жанчыны патрабуюць роўнасці з мужчынамі, і ўвогуле, нікому яна не дазволіла б вырашаць за сябе сваю долю. Дачакаўшыся свайго паўналецця, з развязанымі для бацькоўскага багацця рукамі і адчыненым для кахання сэрца, яна паехала ў лепшы горад у свеце.

Вядома, гэта быў Парыж. І, канешне, менавіта тут, у Парыжы, яна і сустрэла Алеся Святлыніцкага, гэткага ж адзінага ва ўсім белым свеце, але беларускага, у адрозненне ад шатландкі Кэці, хлопца. Бацька яго загінуў падчас бойкі з чырвонымі камісарамі ва ўласным маёнтку, маці, хоць і згадзілася паехаць у невядомае замежжа далей ад крывавай рэвалюцыі, так да Парыжа і не даехала, выкінулася з цягніка яшчэ недзе ў Польшчы. Пра тое Алесь распавядаць не любіў, коратка абмовіўся на пачатку іх рамана, і мудрая Кэтрын не вярэдзіла душу каханага. Хопіць ужо таго, што цяпер у Алеся-Алекса, як адразу яна яго празвала, ёсць яна. Яна і будзе яго сям'ёй, адзінай сям'ёй. Ці згодны на тое Алекс?

З дзяцінства Поллі задавала сабе пытанне: чаму ж дзед пагадзіўся ажаніцца з чужынкай Кэці, якая, нягледзячы на ўсё сваё каханне, так і не здолела яго зразумець? З першага погляду, у маладосці, яны былі ідэальнай парай: абодва высокія, танклявыя, прыгожыя, у нечым падобныя адно да аднаго, што бачылася нават на не вельмі якасных фотаздымках даваеннай пары. Некаторыя злыя языкі падчас яе дзяцінства пляткарылі, што дзед выбраў Кэці з-за грошай. Маўляў, не дзіва, што яму, босаму ды галоднаму ўцекачу з нейкай нікому не вядомай у Еўропе Беларусі, спадабалася дзяўчына, дакладней, яе пасаг. Але, калі дзед у дзень яе 15-годдзя аддаў Поллі ўсе лісты, што яны пісалі адно аднаму падчас Другой сусветнай вайны, калі ён ваяваў на фронце саюзнікаў, дзяўчына канчаткова ўпэўнілася, што каханне «продкаў» не толькі існавала на пачатку, але і працягвалася, калі яны ўжо сталі бацькамі і сталымі людзьмі. Дастаткова было пагартаць хоць бы некалькі тых лістоў, напісаных жонкай і мужам з дваццацігадовым стажам сямейнага жыцця!

Аднак практычнай, гаспадарлівай Кэтрын летуценныя мары Алекса пра вяртанне на радзіму ды наладжванне бізнесу з Савецкім Саюзам былі такія ж далёкія, як для яго незразумелай на ўсё жыццё засталася Англія, з яе адчужанай ветлівасцю, штучнай гасціннасцю, уяўнай весялосцю. Ён не любіў Шатландыю з яе пранізлівымі вятрамі і халоднымі азёрамі, не мог дараваць Кэтрын яе няроўныя пачуцці

да дзяцей. Старэйшага, Эндру, яна заўсёды вылучала сярод іншых, прымушаючы з малых гадоў запомніць, што менавіта ён будзе спадкаемцам тытула графа Уілфарта. Гэта, на думку дзеда, і парадзіла адчужанасць паміж ім і малодшымі братамі, якую не здолелі пераадолець ні яго бацькоўскія пачуцці, ні пражытыя гады, ні ўласны сямейны вопыт Эндру і малодшага Георга. Нават заўчасная гібель сярэдняга Джона, якому споўнілася ўсяго трыццаць два, калі ён разбіўся на сваім аўтамабілі разам з нявестай Мэры, не аб'яднала сям'ю. Канешне, усе прыехалі на пахаванне, прынялі спачуванні знаёмых, падтрымалі ў жалобе яго і Кэці. Але гэта была не зусім тая любоў і еднасць, пра якую ён марыў у маладосці, пазнаёміўшыся з энергічнай, хуткай і разам з тым пяшчотнай ды ласкавай Кэтрын.

Каця, так ён называў жонку пра сябе: ёй гэтае імя не надта падабалася. Яму таксама прыемней было б пачуць з яе вуснаў мяккае «Алесь», але нават у хвіліны жарсці (у такія моманты гэта асабліва калюча джаліла ягоны слых) Кэці звала яго «dear Alex». І з цягам часу ён прызвычаіўся, пагадзіўся быць англійскім Алексам замест славянскага Алеся...

Ды і дзе яна, тая жарсць, калі разам праведзена больш як паўвека? У нейкі момант яна знікла, саступіўшы месца спакойнай упэўненасці ў сумеснай будучыні. Куды падзеліся рэўнасць, палкасць, захапленне? І калі ж каханне ператварылася ў любоў? Ці магла б Кэтрын зразумець яго думкі, адценні гэтых слоў... Яна нават не здагадвалася, чаму Алекс так скрупулёзна выбіраў імёны сынам і ўнукам: пагадзіўшыся з хрышчэннем дзяцей у англіканскай царкве, ён настаяў, каб імёны ім даць самому. А ўсё было так проста: Эндру ў яго думках часта быў Андрэйкам, Георг — Юркам, Джон — Ванечкам.

І ўнукі: Алекс, названы ў яго гонар, Макс, Пол, малодшы Нікалас — гэты дык зусім падобны да Мікалайкі. Ну, і Поллі. Паўлінка, Полечка. Першая яго незабыўная дзяўчынка.

Здавалася, сёння Алесь задаволены ўсім на свеце. Нават словы маці пра тое, што напрыканцы тыдня маецца адбыцца святочная вячэра, яго не надта закранулі. Урачыстасці ладзіліся, зразумела, з нагоды заканчэння ягонай вучобы і, вядома ж, з прыездам шматлікіх сваякоў ды сяброў сям'і. Уключаючы спадарыню Мурзельскую з абедзвюма дочкамі, якія вось ужо пяць гадоў ніяк не маглі дагаварыцца: каму ж з іх Алесь падабаецца больш. Пакуль ён наведваў сямейныя зборышчы толькі на вакацыях, таму дастаткова паспяхова ўдавалася рабіць выгляд, што яго гэтая праблема не надта хвалюе. Па праўдзе кажучы, яна яго і не хвалявала, бо ні старэйшая Кацярына, ні малодшая Ганначка не падабаліся яму настолькі, каб ажаніцца хоць з адной, як пра тое марылі дзяўчыны, а яшчэ больш — іх маці. І ўвогуле, жаніцца яму яшчэ рана. Ці ж гэта ўзрост для хлопца — дваццаць гадоў? Трэба розуму набрацца, з гаспадаркай управіцца. Хоць бацька і стараўся весці справы акуратна, але было відавочна, што пан Святлыніцкі не дачакаецца, калі Алесь скончыць вучобу ў Маскве і вернецца дамоў, дапамагаць яму.

Нельга сказаць, каб сын быў супраць. За прамінулыя гады тлум і шматлюддзе другога імперскага горада яму не тое каб абрыдлі зусім, але хацелася на волю. Дзе яшчэ сустрэнеш такую цішыню і прыгажосць, як на родным возеры? А зімовае паляванне на дзікоў! Галінкі старога клёна пад начным святлом поўні, што ствараюць узор, не горшы за матчыныя вышыванкі… Папяровыя выцінанкі ў старой кухні (у пакоях бацькі саромеліся выстаўляць гэткую непаўторнасць, а была б Алесева воля, то ён бы ўсе вокны ў сядзібе імі ўпрыгожыў!) Не, нездарма той казаў: «У гасцях добра, а дома лепей».

Нарэшце ён дома. Тры гады вучобы, палова экзаменаў здадзена экстэрнам, і вось Алесь — сам сабе гаспадар. Канешне, ён абавязкова з'ездзіць у Вільню, а пашанцуе, то і Варшаву некалі наведае, але ці ж гэта галоўнае?

Што ў яго жыцці галоўнае, дакладна пакуль ён і сам не ведаў. Але пра тое будзе час паразважаць. Наперадзе ж маладосць!

«Легенду» Полі прыдумала загадзя. Яна прыехала вывучаць фальклор мясцовага рэгіёна. Што, дарэчы, не з'яўлялася абсалютнай няпраўдай: выпускную работу ў каледжы, а потым і ва ўніверсітэце яна абараняла менавіта па ўсходнеславянскай вуснай народнай творчасці, тут дапамаглі чутыя з дзяцінства дзедавы прымаўкі, па якіх, фактычна, яна і вывучала беларускую мову. Да таго ж, з падзеннем «жалезнай заслоны» на захадзе абудзілася цікаўнасць да постсавецкай прасторы, так што на нядаўна ўтворанай ва ўніверсітэце Эдзінбурга кафедры славістыкі ёй без усялякіх праблем дапамаглі аформіць творчую камандзіроўку на месяц з правам працягу. Адным словам, дзяўчына мела ўсе магчымасці сумясціць карыснае з прыемным. Але пошукі матэрыялу для навуковай працы для ўсіх, уключаючы бацькоў, былі толькі адгаворкай. Полі прыехала ў Беларусь таму… Таму што пра гэта марыў бацька яе бацькі.

Алекс хацеў сам прыехаць на радзіму. Але не паспеў. І дзед ведаў, каго папрасіць выканаць апошнюю волю: ні Эндру, ні Георг, ні тым больш сама састарэлая Кэтрын, не кажучы ўжо пра дарослых бэйбусаў-унукаў, не паехалі б у невядомы свет — і дзеля чаго, дазвольце спытаць? Каб прывезці на магілу Алекса жменьку роднай зямлі. Ды ніводзін дурань ва ўсім Аб'яднаным Каралеўстве не ўбачыць розніцы паміж дзвюма шчэпцямі пяску!

Апошняя воля дзеда не так ужо ўразіла спадкаемцаў. Па-першае, заўсёды ведалі пра яго патаемную тугу па радзіме, як і ён ведаў, што ніхто яе не падзяляе. Урэшце, гэта ўсё-ткі была яго радзіма, а не іхняя. Па-другое, на дзедаву спадчыну нікому разлічваць не даводзілася, вось бабуля Кэт, дай ёй Бог здароўя… Так што на дзённікавыя запісы, якія Алекс пакінуў любай Полі, прэтэндаваць ніхто не стаў.

Менавіта там, у сшытку, Полі і знайшла ліст, які, нібы талісман, везла праз усю Еўропу. Спадзеючыся, што гэты ліст прывядзе яе туды, адкуль амаль стагоддзе таму быў вымушаны збегчы яе дзядуля.

На возеры нікога не было, і гэта ўзрадавала Алеся яшчэ больш. Нягледзячы на тое, што фармальна вадаём належаў панам Святлыніцкім, тут амаль заўсёды ашывалася басаногая малеча з суседніх вёсак або галёкалі ад нечакана халоднай нават у спякоту вады жанчыны, што перамывалі бялізну за дальнімі кустамі хмызняку. Сонца павольна знікала за зубчатай сцяной ялоўніку, бліскучая паверхня вады нібы адлюстроўвала задаволенасць напрацаванага зыходзячага дня. Алесь прысеў на траву і загледзеўся на возера, спадзеючыся заўважыць плёскат свавольных малькоў. Цішыню парушала далёкае, амаль нячутнае курлыканне птушак з левага боку ад вёскі. Цікава, хто гэта? Пасля маскоўскага грукату Алесь амаль адвык ад прыроднай раўнавагі і гармоніі.

Раптам хлопец адчуў прысутнасць яшчэ адной жывой істоты побач. Лянiва павярнуўшы галаву, убачыў дзявочую постаць. Прыблізна такога ж узросту, як і ён, машынальна адзначыў хлопец, агледзеўшы дробны тварык у абрамленні цёмнарусых кос, напалову схаваных пад бела-блакітнай хустачкай, што пасавала да колеру вачэй. На сялянку не зусім падобная, хаця адзенне, як у мясцовых кабет, хіба што на нагах абуты лёгкія, фабрычнай вытворчасці, чаравічкі. Цікава, ён такую не памятаў,

хаця ў дзяцінстве нярэдка гойсаў з мясцовымі хлапчукамі і дзяўчаткамі ля гэтага ж возера. Бацькі ў гэтым сэнсе былі дэмакратычныя, хіба што на святы не дазвалялі запрашаць вясковых дзяцей у хату.

— Прабачце, — сумелася дзяўчына, адступаючы назад. Тое, што яна не дадала звычайнае «пан», канчаткова запэўніла Алеся, што незнаёмка тут нядаўна. Прынамсі, з'явілася, пакуль ён асвойваў універсітэцкія прамудрасці апошнія паўгода, бо і ў апошні прыезд на зімовыя вакацыі, Калядамі, ён яе тут не бачыў.

Першы дзень скончыўся не так ужо і няўдала. У сельсавеце, праўда, на Поллі паглядзелі не надта ветліва, дакладней, амаль гэтак жа, як таксісты на мінскім вакзале, але дарогу да былой сядзібы паказалі. Цяпер там паціху дажывала свой век вёсачка састарэлых пенсіянераў-калгаснікаў, і толькі на водшыбе, так званым пасёлку, замацаваліся колькі больш-менш маладых сем'яў, нават з дзецьмі-школьнікамі. На пытанне Поллі, як жа тыя дабіраюцца штодня на вучобу, загадчыца савета няпэўна махнула рукой, прамармытаўшы нешта накшталт: «Як прыйдзецца». Запытаюся на месцы, вырашыла цікаўная дзяўчына, скіраваўшыся ў бок вёскі. Так-так, ісці давялося пешшу. Дзякуй Богу, недалёка, усяго сем кіламетраў. Столькі Поллі за дзень наматвала і ў сваім Эдзінбургу, бегаючы з універсітэта да дзеда ў бальніцу, з бальніцы на пару гадзін зазіраючы да Арчы, а пасля — узорная дачка! — вярталася начаваць пад бацькоўскія крылы. Была б яе воля, яна б даўно паспрабавала пераехаць ад іх да Арчы, але той чамусьці не спяшаўся з такой прапановай, а пытацца самой Поллі не дазваляў гонар. Дарэчы, паездка аказалася вельмі да месца, па ўсіх прычынах, не толькі з нагоды здзяйснення дзедавага жадання. Магчыма, на адлегласці яны канчаткова ўпэўняцца ў пачуцці, якое іх звязвае. Ці ў яго адсутнасці. Нягледзячы на пяшчоту, з якой Арчы праводзіў яе ў аэрапорт (Поллі ляцела да Масквы, а ўжо адтуль цягніком за ноч да Мінска — прамых рэйсаў з Эдзінбурга ў беларускую сталіцу не было), і словы пра тое, што ён будзе чакаць з нецярпеннем (жаданне паехаць бой-фрэнд не пракаменціраваў аніяк увогуле), дзяўчына зусім не была ўпэўнена, што другі варыянт адсутнічае ў развіцці іх адносін. Прынамсі, у апошні час не ўпэўнена.

Пра тое, ці захаваўся маёнтак былых гаспадароў, Поллі спытаць пабаялася. Дастаткова таго, што прыдуманая прычына яе з'яўлення ў раёне выглядала, мякка кажучы, экзатычна. Праўда, ёй параілі звярнуцца да ўдавы Надзеі, першая ж хатка пасля возера, знайсці зусім няцяжка. Толькі, бадай, яна цяпер і памятала больш за астатніх жыхароў: самыя старыя даўно спачывалі на могілках, знямоглых адзінокіх бабулек і дзядкоў пазабіралі да сябе ў горад дзеці і ўнукі, а на вёсцы заставаліся «маладухі» гадоў крыху за шэсцьдзесят, якія яшчэ больш-менш маглі ўправіцца з гаспадаркай. «Але яны старыя песні амаль не спяваюць, — паківала галавой загадчыца сельсавета, неакрэсленага ўзросту жанчына, у якой, нягледзячы на адзенне, прычоску і манікюр, угадвалася такая ж "маладуха", якой яна стане праз дзесяцьпятнаццаць гадоў. — Пры Савецкім Саюзе раслі, песні ва ўсіх адны былі, "Катюша" ды "Подмосковные вечера". А вось цётцы Надзеі, той ужо пад восемдзесят, пэўна, але ўсё памятае, дый не дзіва, сама з такой сям'і». З якой «такой», Поллі перапытала, але цётка зразумела, што сказала лішняга, і толькі дадала: «Калі спадабаецеся, сама раскажа».

З гэткім веданнем Поллі і выйшла на дарогу. У сельсавецкай вёсцы на вочы ёй трапілі колькі тынэйджараў, мусіць, гасцюючых у продкаў падчас летняга адпачынку, што ў пэўным сэнсе заспакоіла: калі тут жывуць маладыя, хаця б у гэты час, то і яна здолее. Падумаеш, душа няма ці прыбіральня на вуліцы. На двары цёпла, а дзе

памыцца, яна знойдзе. Існуюць жа іх славутыя лазні. Затое будзе што распавесці слюнцявым шатландскім родзічам, якія, акрамя паходу з бойскаўцкім атрадам на два дні з поўным наборам гігіенічных прыналежнасцей і сталовых прыбораў, у жыцці складанасцей не бачылі.

«Мілая мая, адзіная ўнучка! Поллі, Полечка, Паланачка, Паланейка мая!» — такім незвычайным зваротам пачынаўся апошні дзедаў ліст. Іх было сотні да гэтага. Дзед пісаў ёй у каледж, калі яна не магла звыкнуцца з новым асяродкам, ва ўніверсітэт, калі Поллі з захапленнем пачала займацца славістыкай, падчас двух-трохмесячных стажыровак у Чэхіі і Польшчы, дзе дзяўчына збірала матэрыялы для курсавых праектаў па паўднёваславянскаму фальклору. І вось яго апошні ліст. Дзяўчына ледзьве стрымлівала слёзы.

«Ты ведаеш, як я люблю цябе, маю адзіную дзяўчынку. Таму і ўпэўнены, што апошнюю маю просьбу ты выканаеш, бо казаць пра тое ні тваім бацькам, ні кузенам, ні Эндру, зразумела, не мае сэнсу (як заўжды, дзед меў рацыю). Каб пазбавіць сваё сумленне пачуцця віны перад астатнімі маімі спадкаемцамі і працягвальнікамі на зямлі, а іх — крыўды за тое, што не любіў так, як цябе, я напішу ў тэстаменце, што хачу, каб нехта з сям'і наведаў маю радзіму замест мяне, зрабіў тое, што так і не паспеў я. Але, вядома ж, гэтым чалавекам станеш ты.

Ты палюбіш Беларусь, я спадзяюся, так, як любіў яе ўсе гады я. Менавіта таму што яе любіў я, а мы з табой так добра разумелі адно аднаго.

Але ў мяне была яшчэ адна прычына, акрамя простай усвядомленасці таго, што ў той зямлі засталіся мае продкі, пакаленні людзей, якія далі мне жыццё — і вам усім, дарэчы, таксама. Якім бы цяжкім і пакручастым яно часам не здавалася, я ўсё ж дзякую ім, тым, каго я бачыў і каго ніколі не ведаў.

Пра тое, што, акрамя магіл, там засталося каханне, ніхто ніколі не ведаў, нават Кэт. Я не расказваў пра гэта ніводнаму чалавеку з тае пары, як пераехаў беларуска-польскую мяжу ў лістападзе васямнаццатага года. Навошта? Тым больш, я пакахаў Кэт. І цяпер, праз семдзесят гадоў з тае пары яе люблю. І дай Бог, каб усе мае нашчадкі былі такімі шчаслівымі, як я з тваёй бабуляй. Але, калі я яшчэ не ведаў, што накавана мне лёсам, тады, у васямнаццатым, або каб я мог на хвіліну прадбачыць, што маці не даедзе да Еўропы і сама зробіць апошні выклік жыццю, — бачыць Бог, я б не паехаў з ёю ў Парыж. Я б застаўся там, з маёй Паланейкай, і няхай далей было б тое, што павінна адбыцца. Нават калі б яно скончылася так, як у бацькі.

Так, яе звалі Палінай, як і цябе. Дакладней, гэта цябе я назваў у яе памяць. Паланея, Палашка па-мясцоваму. Але яна была не падобная да нашых вясковых дзяўчат. Бацькі яе памёрлі напярэдадні рэвалюцыі, яна толькі-толькі паспела скончыць гімназію (добра хоць тое, што адукацыю паспелі ёй даць). І перад тым, як пачынаць працу, прыехала пагасціць да сваякоў у нашай вёсцы. Бацька яе быў нейкі збяднелы шляхціц, а маці з простай, сялянскай сям'і. Але ж каханне… Яна казала, у іх сям'і заўсёды жаніліся толькі па каханні, таму што каталікам нельга браць другі шлюб.

Я таксама хацеў быць з ёю назаўсёды. Маці змірылася б з тым, што яна нам не роўня. Я сказаў цвёрда: або з ёй, або ні з кім. Адзіны сын, яны б рана ці позна пагадзіліся з маім выбарам. Ім патрэбны быў спадкаемец, нават калі б за яго давялося б ахвяраваць сямейным гонарам. Бацьку дык увогуле яна, здаецца, падабалася. Але ж камусьці з нас прыйшлося б мяняць веру…

Бачыш, як яно атрымалася, усё роўна ні адзін з маіх дзяцей праваслаўным не стаў…

А потым завіхурылі ўсе гэтыя катаклізмы. Я гатовы быў узяць яе з сабой, на каленях укленчваў, каб мы паехалі разам. Нават маці, асабліва пасля бацькавага забойства, стала абыякавай да маіх авантурных планаў, пагаджалася з усім, што я прапаноўваў. Але яна сказала: "Не, тут мая радзіма, тут я нарадзілася, тут мне і паміраць… Здрадзіць Радзіме — усё роўна што здрадзіць каханаму". Чамусьці ў галаву ёй не прыходзіла, што яна робіць наадварот. Але… Бог ёй суддзя. Тады я не мог кінуць маці, да таго ж і пакрыўдзіўся на яе ўпартасць, а тут гэты пастаянны жах, што за намі прыйдуць… сёння, заўтра, праз два дні. Калі табе ўсяго дваццаць, так не хочацца паміраць! І я паехаў. Думаў, давязу, уладкую маці, а потым вярнуся за ёй, не можа ж быць, каб мы не памірыліся, не засталіся разам. Аказалася, усё можа быць яшчэ неспадзяваней.

Я рабіў памылкі ў сваім жыцці і ведаў шчасце. Пахаваў шмат людзей, але нарадзіў хаця б некалькіх. І мала пра што шкадую. Але тое, што апошнія яе словы, звернутыя да мяне, былі пра здраду, балюча мне і цяпер. Бо, атрымалася, я здрадзіў ім абедзвюм: Радзіме ды каханай.

Вось я і назваў цябе Полл<0x456>. Спадзяюся, ты не пакрыўдзішся, калі даведаешся, чаму. Мне здавалася, хаця б так я магу паменшыць сваё пачуццё віны перад ёю. Віны і тугі. Па Бацькаўшчыне, мінулым, па Паланейцы.

Шкада, што я больш так і не ўбачыў іх. Маю Беларусь, маю каханую. Зрабі гэта за мяне. Я разумею, што хутчэй за ўсё яна наўрад ці перажыла мяне. Прывязі на маю магілу прыгаршчу яе зямлі. І будзь шчаслівая гэтак, як я, а лепей — болей. За нас усіх, Кэт, Паланейку і мяне».

Надзея прачнулася сярод ночы. Стомлены за дзень прыёмнік маўчаў, нібы за некалькі кароткіх гадзін адпачынку набіраўся моцы на заўтрашняе бесперапыннае мармытанне. На вуліцы было ціха і шэра, але адчувалася, што раніца ўжо на падыходзе.

Ёй праснілася свякроўка. Андрэеўна ўвайшла ў хату, у якой ні разу не была, упэўнена, нібы пражыла тут палову жыцця, перахрысцілася на кут, прытулілася да печы і нібы толькі тады заўважыла Надзею. «Не пакрыўдзіш?» — спытала старая. «Каго?» — хацела спытаць гаспадыня, але Аляксеева маці ўжо адвярнулася і хутка слізганула за парог.

Свякроўка снілася рэдка. Чамусьці Надзея заўсёды думала пра яе як пра маці яе другога, апошняга мужа. А яна ж нават не жыла з імі ніколі, адмовілася пераходзіць у новую хату, пабудаваную Аляксеем. Так і дажыла век у старой зямлянцы, узведзенай адразу пасля вайны на старым агародзе. Пасля смерці Андрэеўны Аляксей разабраў зямлянку і прыладкаваў бярвенцы на лазню, што стаяла ў канцы двара, бліжэй да возера. Потым і лазню, ужо з Алегам і Косцікам, пераклалі нанова.

Можа, яна не магла звыкнуцца, што Надзя пасля гібелі Міхася засталася з яго малодшым братам. Праўда, свякроўка ніколі не папракнула, дый увогуле не заводзіла пра гэта гаворкі. А Надзея, вінавацячыся моўчкі ў душы, асабліва першыя гады, яшчэ да нараджэння дзяцей, саромелася сама спытацца, што думае Андрэеўна пра яе пакручасты сямейны лёс.

Непадобная да большасці вясковых кабет, яна ніколі і ні з кім не абмяркоўвала зробленае, ні сваё, ні чужое. У яе, мусіць, і сябровак не мелася на вёсцы.

І чаго прыходзіла, падумала Надзея, нібы пра жывую.

Поллі і не думала, што ўсё адбудзецца так звычайна, без усялякіх прыгодніцкіх цяжкасцей. Не, канешне, першыя тры дні вяскоўцы пазіралі на яе са здзіўленнем,

раз-пораз без асаблівай патрэбы зазіраючы на падворак да цёткі Валянціны, у якой дзяўчына начавала. Тая была першай, хто сустрэўся Поллі амаль на ўваходзе ў вёску. Хата Валянціны стаяла крыху на водшыбе, побач не было больш двароў, толькі напаўапусцелая ферма, з якой ранкам і ўвечары даносілася нястройнае мычанне, ды крыху далей крама. Цётка Валянціна якраз ад яе і кіравалася ў хату, калі ўбачыла стомленую хадой па незаасфальтаванай дарозе Поллі. Цётка кіўнула, як рабілі тут усе. Пасталеўшыя і крыху непадобныя ўжо ад гарадскога жыцця на саміх сябе дзесяці-пятнаццацігадовай даўнасці дарослыя дзеці, часта збывалі сюды на лета сваіх школьнікаў. Гэтых амаль і не ведалі, дзе чые. А яшчэ прыязджалі ў вёску сталічныя дачнікі, прывозячы знаёмых і сяброў на два-тры выхадныя дні паспрабаваць, як самі казалі, мясцовай экзотыкі. Так што ўсіх, хто круціўся ў вёсцы летам, не ведаў, бадай, ніхто з карэнных жыхароў. Але па старой завядзёнцы віталіся з усімі. Гэткай бяды, чалавеку добрага здароўя пажадаць, хай сабе і незнаёмцу, язык не адсохне.

Цётка Валянціна, адразу скеміўшы, што дзяўчына не мясцовая, і, не дачакаўшыся адказу, спыталася:

— А ты чыя будзеш? У госці да дачнікаў прыехала? Тых, што на гары?

Збітая з панталыку Поллі машынальна схіліла галаву ў сцвярджальным жэсце і няпэўна адказала:

— Так, у госці… — І тут жа паправіла сябе: — Не, я не да дачнікаў. Я па справе.

— А да каго? — і, заўважыўшы няёмкасць дзяўчыны, цётка дадала: — Ці сама не ведаеш?

Мэту свайго візіту Поллі, зразумела, ведала, але ж не станеш пра гэта казаць першай сустрэтай у вёсцы жанчыне. Трэба падыходзіць здалёк.

Так дзяўчына і апынулася ў цёткі Валянціны. Праўду кажучы, гэта быў не горшы варыянт, як зразумела праз некалькі дзён маладая шатландка. Цётка Валянціна, да якой амаль усе звярталіся Іванаўна, жыла адна, гаспадарку трымала не надта вялікую: карову і двух парсюкоў. Адзіная дачка яе працавала ў горадзе, але далекавата, таму да маці наведвалася не часта. Унукаў у Валянціны не было, пра мужа яна не казала, а Поллі, вядома, пытацца было няёмка. Але, мяркуючы па выглядзе хаты, хоць гаспадара тут і не мелася, дапамагалі цётцы людзі з задавальненнем. Да таго ж, амаль палова вёскі даводзілася ёй ці раднёй, ці далёкімі сваякамі, здаецца, праз свайго загадкавага мужа, з усімі астатнімі жанчынамі яна сябравала яшчэ з маладосці, калі разам працавалі ў падсочцы.

Што гэта такое, Поллі, упершыню пачуўшы слова, не здагадалася. Увогуле, ёй тут многае было дзіўным, так што ў нейкім сэнсе дзяўчына і вёска ўзаемна прыглядваліся адна да адной.

Нягледзячы на тое, што жыхароў, дакладней, жыхарак было не так ужо і шмат, амаль у кожнай хаце гасцілі ўнукі, да таго ж, лета патрабавала штодзённай вясковай працы, таму за тыдзень Поллі паспела пагаварыць толькі з некалькімі. Дзеля ачысткі сумлення яна запісала пару песень, аднак матэрыялу для дысертацыі тут знайшла не надта багата. Што датычыцца непасрэднай мэты свайго прыезду, то пакуль яна так і не вырашыла, ці варта расказваць цётцы Валянціне ўсю праўду. Жанчынай яна здавалася добрай, гасціннай, аднак надта любіла пагаварыць, і да таго ж пераважна не пра сябе. За першыя два вечары, у перапынках паміж прыходамі-адыходамі суседзяў, якім тэрмінова патрабавалася то грошай пазычыць, то ў ягады Валянціну назаўтра паклікаць, то спытацца, як там дачка Алёна ў горадзе, ці добра ўладкавалася на новым месцы працы, Іванаўна паспела пераказаць Поллі амаль усе вясковыя плёткі, як пра сваіх, так і пра прыезджых: хто з кім гуляе, хто з кім сварыцца. Поллі слухала без асаблівай увагі, але ж на паўслове цётку не пераб'еш. Дзяўчыне не

надта хацелася, каб і пра яе Іванаўна пачала, хай сабе не злосна, распускаць чуткі па вёсцы. Можа, пахадзіць па хатах, дзе яшчэ не была, спытацца, ці не возьме яе да сябе нехта менш цікаўны. Дык няёмка будзе перад цёткай Валянцінай, жанчына, мусіць, пакрыўдзіцца. Ды і не вечнасць жа Поллі тут збіралася заставацца. На свае вочы яна паспела пабачыць, што ад прадзедавай сядзібы нічога не засталося, толькі Іванаўна, паказваючы ёй возера — дзе купаўся ў дзяцінстве дзед! — махнула рукой на ўзгорак:

— А вось тут панскі млын стаяў.

На пытанне Поллі, а хто ж быў уладальнікам вёскі і дзе паны падзеліся, цётка Валянціна адказала, што добра гэтую гісторыю не ведае, бо сама не мясцовая, замуж сюды прыехала, але казалі, што паны былі неблагія. У іх меўся адзін сын (на гэтых словах сэрца Поллі забілася хутчэй), але пасля рэвалюцыі старога пана забілі па нейкім непаразуменні бальшавікі, хоць ён, казалі, супраць іх і не выступаў. А маці з сынам за мяжу з’ехалі, пэўна.

— Ты лепей да каго з мясцовых схадзі, калі цікава, — параіла цётка Валянціна, — можа, яны больш ведаюць. Асабліва хто старэйшы. Вось хоць да Надзеі-ўдавы.

Пра Надзею ёй ужо казалі іншыя бабулькі, да якіх яна заходзіла, маўляў, тая больш старых песень ведае. Чамусьці ўсе называлі яе ўдавой, хаця на вёсцы без гаспадароў жыло ці не больш за палову хат.

Трэба было, сапраўды, наведацца да гэтай загадкавай Надзеі. «Прыгожае імя», — раптоўна злавіла сябе на думцы Поллі, грукаючы ў нізенькія веснічкі.

Пра тое, што ў вёску прыехала з замежжа дзяўчына, якая ходзіць па хатах і запісвае старыя песні, Надзея даведалася хутка. У магазіне першыя дні бабы толькі пра тое і казалі, нібы выхваляючыся адна перад адной, да каго ўжо паспела дзівачка зайсці ў двор. Міколкава Маруся нават з Надзеі пакпіла, маўляў, чаго да яе не дабегла яшчэ гэтая Паліна. Суседкі ведалі, што Надзея спявае прыгажэй за ўсіх не толькі ў вёсцы, але, мусіць, і ў самім раёне. Нават грамату калісьці аблвыканкам даваў за ўдзел у рэспубліканскім фальклорным фестывалі, што адбыўся яшчэ пры Савецкім Саюзе ды пры Аляксеі. Гэтыя два паняцці, мужа і дзяржавы, дакладней іх знікненне, быццам зліваліся ў яе свядомасці. Можа, таму, што і ў сацыялістычнай краіне, і з Аляксеевай сям’ёй Надзея пражыла, лічы, усё свядомае жыццё.

— Няхай прыходзіць, — спакойна, ведаючы, што і тая не з сапраўднай злосцю мітусіцца вакол, адказала яна Марусі і, выйшаўшы з крамы, зноў вярнулася да сваіх думак. Нешта ў апошнія дні, адразу пасля сну з прыходам Андрэеўны, яна пачала шмат успамінаць далёкае, нават даваеннае мінулае, дзіцячыя і юнацкія гады. «Памру хутка, ці што», — усміхнулася сама сабе Надзея. Думкі пра смерць яе ўжо даўно не палохалі, надта многа там ужо было блізкіх людзей, ці не болей, як тут. Бацька, першы камуніст у акрузе, ад залішняй свядомасці паехаў дапамагаць ладзіць калгасы на Украіне, пакінуўшы Надзейку на клопаты цётак, там і застаўся. Ні ліста, ні дакументаў ад яго не было, і сваякі так і не даведаліся, ці ён загінуў недзе ў бяскрайнім стэпе ад белагвардзейскай кулі, ці прыжаніўся да якой хахлушкі, забыўшыся і на радню, і на адзіную дачку. Маці памёрла ад сухотаў яшчэ раней, як і маленькі, двухгадовы Грышка. Яго Надзя нават не памятала ўжо, ды і вобраз маці з гадамі мутнеў, саступаючы месца знаёмым рысам твараў іншых жанчын, якія яе замянілі, зліваючыся ў памяці са светлым вобразам, падгледжаным яшчэ ў дзяцінстве на іконе, што ўсё жыццё хавала ў сваім куфэрку свякроўка.

«Во, — здзівілася сама сабе старая, — гэтая ж, асветніца, таксама Паліна. Ці не на тое і свякроўка прыснілася?» Асветніца — гэтае слова было адтуль, з даўніх-

даўніх часоў, калі Надзейка разам з Міхасём, Аляксеем і яшчэ гуртком вясковых аднагодкаў у самай лепшай на вёсцы хаце,ператворанай ў школу, паўтарала за настаўніцай Палінай Андрэеўнай словы старога, дарэвалюцыйнага яшчэ буквара, па якім вучылася сама Паліна Андрэеўна. Потым усе дзеці разыходзіліся, і толькі Надзейка з братамі Ельскімі заставалася самай апошняй. Утраіх яны чакалі аж да тае пары, пакуль маці хлопчыкаў праверыць сшыткі. І калі Міхась з Аляксеем гойсалі па падлозе, Надзейка ціхутка сядзела за крайком стала, круцячы мурзатай ад чарнілаў рукой коску з падоранай настаўніцай стужачкай, ды адчайна зайздросцячы хлопцам з тугой чакаючы, што вось яшчэ праз палову гадзіны, праз тры… два… апошні сшытак, вось яны ўсе падымуцца і пойдуць праводзіць яе дадому. Дадому — гэта значыла да цёткі Веры, дзе заўсёды было шумна і не вельмі чыста, бо той не хапала часу адной упраўляцца з гаспадаркай, мужыком-гультаём, трыма сваімі чарцянятамі, а яшчэ і пляменніцай, падкінутай добрым, але безадказным братам.

Што ж тут было незразумелага, калі ў дзевятнаццаць гадоў Надзя пайшла замуж? Яна б і не толькі за Міхася, за крыварукага Лявона выйшла б, надта ўжо за пятнаццаць гадоў стамілася яе гадаваць цётка, якой, сапраўды, і без Надзі клопату хапала. Але ж не кінула, выхавала, нават вывучыла — чатыры класы Надзея скончыла, хай зямля цётачцы будзе пухам. А пасля ўжо трэба было самой хоць чым у гаспадарцы займацца, не кніжкі на печы чытаць.

З мужамі ёй пашэнціла: і з першым, і з другім. Аляксей яе не менш кахаў, і таксама з дзяцінства, ды і яна прызвычаілася з гадамі, не было ім калі пасля вайны ў пачуццях разбірацца, а пасля і дзяцей траіх на ногі паставіць не жартачкі, але ж усіх вывучылі, адукацыю далі, вяселлі справілі. І ўдзячная, што граха таіць, яму Надзея была, што не засталася пасля вайны бяздзетнай удавой, калі на вёсцы маладых дзевак хоць касой касі было, а ён, Аляксей, прыйшоў да яе, застаўся верны першаму каханню, нават на маці не агледзеўся, хоць разумеў, што Андрэеўне цяжка будзе ўспрымаць Надзею жонкай малодшага сына. І калі хто думаў, што яна ці Алёша вінаватыя перад Міхасёвай памяццю, дык няхай тое толькі на іх сумленні застанецца.

А Міхася яна кахала… Гэтак толькі раз у жыцці і кахаюць. Упершыню. Такі ён быў далікатны, сарамлівы, прыгожы, увесь у маці. А можа, і чуткі тыя нездарма па вёсцы хадзілі, што не Раманаў гэты сын, надта ўжо парода ў яго тонкая, яны нібы і побач не стаялі са свёкрам. Вось Аляксей, невысокі, цёмны, быў падобны да радні Ельскіх, тут і сумненняў не ўзнікала. Але свёкар заўсёды да абодвух сыноў адносіўся аднолькава, ні разочку, колькі Надзея, яшчэ з дзяцінства, яго памятала, не вылучыў малодшага. А Паліну Андрэеўну дык увогуле ён вельмі шкадаваў. Стараўся, праўда, каб не бачна было нікому, але ж уважліваму чалавеку (а ў дзяцінстве ўсе назіральнікі добрыя, гэта потым часу не хапае) не магло не кінуцца ў вочы, як аберагае ён жонку, каб лішні раз вёдры з калодзежу не насіла, каб курыцу сама не разбірала ды гной на гародзе не раскідвала. Такі фізічна моцны чалавек быў, а гэткую душу меў тонкую. Характарам абодва сыны ў яго ўдаліся. І Косцік, іх з Алёшам малодшы, гэткі ж. Заўсёды прыедзе, не пытаючыся, і дровы паколе, і вады наносіць, і паветку падправіць. Вось Алег, той не такі, ён і рабіць рукамі амаль нічога не ўмее. Але ж… кожнаму сваё. Бога няма чаго гнявіць, добрыя ў іх дзеці, і Алег, і Косця, і Ірка. Свякроўка б унукамі ганарылася.

Каб жа яшчэ ў Косці не гэткая бяда… Столькі яны чакалі гэтай жаніцьбы. Так радаваліся з бацькам, калі ён першы раз Кацю да іх прывёз, нявестай адразу, з бацькамі знаёмячы, назваў. Слова поперак ніколі не сказалі. Ды на табе, спачатку дзяцей не было пяць гадоў. Па якіх яны дактарах толькі не ездзілі, і Надзея грэх на душу

ўзяла, да бабкі ў суседняй вёсцы яе вадзіла. Нарадзіла Кацюша Мішачку, а сама і тры гады ў дэкрэце не пасядзела, хутчэй на працу. Яно то не шкада, яны Мішку да сябе ўзялі, Каціны бацькі далёка, на Урале, толькі ў госці некалькі разоў прыязджалі, ды сама яна з Косцікам ездзіла, яшчэ да цяжарнасці. Але ж, можа б, даседзела да тэрміну, і жывая была б. Бегла раніцой на працу, аўтобус збіў, адразу насмерць. Як Косця вытрымаў, толькі яны з бацькам і ведалі. Каб не Мішачка, мусіць, за ёй бы следам сам кінуўся. Ой, каму ўжо што на раду напісана, нікуды не дзенешся. Але ж гэтак шкада, маладая дзяўчына, лічы, трыццаці год не было. Адно, дзякуй Богу, што Мішка застаўся…

Паліна пачакала крыху і націснула на клямку. Веснічкі лёгка адчыніліся, але далей заходзіць дзяўчына пабаялася, бо на многіх падворках сабакі бегалі непрывязаныя, а яна з дзяцінства, калі шасцігадовую Полі пакусаў любімы рызеншнаўцар кузена Эдварда, баялася іх. Праўда, на двары было ціха, і Полі нават падумала, што гаспадыні няма дома, і расчаравана павярнулася назад. Але тут клямка ў дзвярах хаты забразгацела, і на ганак выйшла даволі статная, хаця крыху і распаўнелая, жанчына ў светла-зялёнай з буйнымі рамонкамі хустцы.

— Дзень добры, — прывіталася Полі, — прабачце, вы, можа, занятая.

— Не-не, праходзьце, — кабета адступіла назад у хату, — праходзьце, праходзьце, не саромейцеся.

Полі зрабіла крок наперад, а затым паднялася па прыступках. Дом быў стары, бярвёны пацямнелыя, але тоўстыя і без вытачаных жучкамі кропачак. Усярэдзіне аказаўся маленькі калідорчык, з яго дзяўчына зайшла на кухню і спынілася.

— Ну, што вы, праходзьце далей, не будзеце ж вы на кухні мяне распытваць, — пачуўся з глыбіні дому голас гаспадыні, і праз імгненне яна ўзнікла ў кухні, каб спытацца: — Вы ж прыйшлі пра старыя песні паслухаць, так?

— Так, — чамусьці збянтэжылася Полі. Не станеш жа адразу прызнавацца, што песні — толькі зачэпка, а на самай справе яна прыйшла даведацца пра сямейную гісторыю паноў Святлыніцкіх. І, каб не маўчаць, дадала: — Мяне завуць Полі, Паліна па-вашаму, я прыехала з Англіі, пішу работу пра беларускі фальклор, таму і запісваю не толькі песні, але і паданні, гісторыі розныя цікавыя, — Полі паспрабавала кідануць зачэпку да непасрэднай тэмы.

— Няўжо ў Англіі могуць кагосьці цікавіць нашыя звычаі? — шчыра здзівілася Надзея. — А тое, што Полі па-нашаму можа быць толькі Палінай, мне і самой зразумела.

Словы маглі падацца крыху крыўднымі, але жанчына ўсміхнулася, і першая няёмкасць паміж субяседніцамі пачала паціху адступаць.

— Вам ужо, мусіць, усе нашыя вясковыя песні астатнія пелі, — сказала Надзея, калі яны ўселіся на канапе ў гасцёўні. — Што ж я яшчэ ведаю? Хіба што вось, гэта мяне яшчэ свякроўка вучыла, яе чамусьці нашыя бабы не вельмі любяць, надта сумная. А мне падабаецца.

Надзея пачала спяваць ціха, пакрысе набіраючы голасам моц. Голас у яе быў малады, здавалася, што спявае жанчына гадоў трыццаці пяці — сарака, так што, пакуль доўжыўся апошні прыпеў, Полі не магла пазбавіцца зусім іншага вобраза, замест састарэлай вясковай кабеты перад ёй нібы з'явілася дзяўчына з песні, што міжволі патрапіла на чужыну і чакае, пакуль прыедзе каханы, вызваліць і забярэ яе дамоў. Але каханы загінуў у дарозе…

— Дарэчы, маю свякроўку таксама, як і вас, звалі Палінай, Палінай Андрэеўнай, — бадзёра, каб прагнаць цішыню, сказала Надзея. — Яна была настаўніцай.

«Вось! — радасна затахкала сэрца Поллі. — Няўжо я нарэшце пра яе пачую? Пра тую, каго кахаў дзед і ў чый гонар назваў мяне? А можа, я памыляюся, ці мала на вёсцы мелася дзяўчат з такім імем? Але ж, не, Іванаўна казала, каб я ў яе спыталася». І, каб упэўніцца, дзяўчына прамовіла:

— І вы ў яе вучыліся? А дзе знаходзілася школа? У старым панскім маёнтку? — і, заўважыўшы зацікаўлены позірк субяседніцы, патлумачыла: — Мне Валянціна Іванаўна казала, што ў вашай вёсцы паны жылі. Такое прозвішча яшчэ прыгожае, — на імгненне Поллі прымоўкла ад усведамлення ўласнай маны. — Святлыцкія ці Свянціцкія. Я не запомніла.

— Святлыніцкія, — папраўіла дзяўчыну Надзея. — Але не, школа месцілася ў звычайнай хаце. Самай лепшай, праўда, у вёсцы, самай вялікай, але ў хаце. Маёнтка, калі я вучылася, ужо не было. Яго спалілі, пасля таго, як гаспадары з’ехалі. Ды вам тое, мусіць, нецікава, — сумелася старая, — вы ж за песнямі прыйшлі.

— Чаму ж нецікава? — паспешліва запратэставала Поллі. — Гэта ж чалавечы лёс, ці можа ён быць нецікавы. А тут яшчэ цэлая сям’я. Што з імі здарылася, вы ведаеце?

— Ну, колькі я ведаю, я ж яшчэ не нарадзілася, як гэта ўсё адбывалася.

— Ну, нешта ж, пэўна, помніце, мусіць, бацькі казалі, — амаль упрошваючы, прамовіла дзяўчына.

— Бацькі мае памёрлі рана, — узгадала Надзея, — не было каму калыханкі пець, не тое што гісторыі расказваць…

— Прабачце, — Поллі адчула сябе няёмка, але жаданне даведацца праўду перамагло хвіліннае пачуццё, і яна ўсё ж спытала: — Ну, а свякроўка вам нічога не казала? Яна ж, пэўна, іх ведала, калі настаўніцай была, не простая жанчына.

— Ну, свякруха ў мяне не надта гаваркая была, — усміхнулася Надзея. — Добрая, канешне, і дзяцей любіла, мяне з дзяцінства, сірату, песціла, аднак лішняга языком мянташыць не ўмела. Але паноў яна сапраўды ведала, асабліва малодшага, Алесь, ці як гэта яго звалі, — жанчына нахіліла галаву, узгадваючы. — Яны амаль аднагодкі былі. Ён, калі бацьку расстралялі, з маткай з’ехаў адсюль, бо адзін сын у іх быў. Усё, як ёсць, кінулі і паехалі ў белы свет. Можа, і да Англіі вашай дапялі, а, можа, і тут дзе галаву палажылі.

— А чаму бацьку яго забілі? — перабіла Поллі, адцягваючы ўвагу ад небяспечнага павароту гутаркі. — Ён супраць бальшавікоў быў?

— Ды не быў ён супраць, ці ж ён тых бальшавікоў ведаў. Ён увогуле выпадкова пад раздачу патрапіў, з-за сябра. Да яго сябра прыехаў стары, яны з маладосці ведалі адно аднаго, а той у белагвардзейцах быў, ці што, я дакладна не ведаю. Вось яго калі тут заспелі, то і абодвух пад кулі паставілі. Дзякуй Богу, яшчэ жонку з сынам пашкадавалі. Яны таму і з’ехалі, бо баяліся, каб іх следам да сценкі не павалаклі.

— А з сядзібай іх што здарылася? — перапытала Поллі.

— Ат, яе пацяху рабаваць пачалі, у каго сумлення не хапала. А потым, калі ўсё, што можна было, вынеслі, пачалі пацяху на дровы разбіраць, то паветку, то канюшню. У лес ленаваліся ездзіць, вось пад бокам і бралі. Няма гаспадара, вядома. А потым, калі ўжо прыехалі апісваць маёмасць, гэтыя з горада, нашыя мужыкі, каб не адказваць, згаварыліся ды падпалілі. Так і не засталося анічога.

— А дзе ён стаяў, маёнтак?

— Ды каля возера, блізка. Возера таксама пры панах зрабілі, яно ненатуральнае.

— Трэба ж… — прашаптала Поллі, хаваючы вочы, каб субяседніца не заўважыла слёзы.

Тут ёй пашанцавала: на двары загрукалі веснічкі і пачуўся голас:

— Надзея, дома ты, ці не? Можа, у чарніцы хадзем?

— Прабачце, — устала Поллі, — я вас зусім загаварыла. Вам жа, мусіць, справы рабіць трэба.

— Куды яно дзенецца, — адказала, таксама падымаючыся, Надзея, — у Бога дзён многа. Гэта я вам байкі распавядаю. Што было, тое сплыло. Пачакайце, я да суседкі выйду.

— Не, не, — паспешліва адказала Поллі, — я пайду ўжо, і так няёмка, цэлую раніцу сядзела. — І, паддаючыся неадольнаму пачуццю, спытала: — Можна, я да вас яшчэ прыйду?

Пра ўсё, што было магчыма, яна даведалася. Наўрад хтосьці яшчэ ў вёсцы расказаў бы ёй болей. Мусіць, пра тое і казала загадчыца сельсавета, узгадаўшы Надзею «з той сям'і». А можа, проста ведалі яе свякроўку, гэтую самую, загадкавую для яе, Поллі, Паліну Андрэеўну, мусіць, яна да вайны шмат каго тут вучыла, а можа, яшчэ і пасля. Яна ж была такая, як дзед, Надзея таксама казала. А дзед памёр толькі два гады таму… Гэта яна так доўга, марудна збіралася сюды прыехаць. Усё нешта адцягвала: то паперы не магла зрабіць, то на працы трэба было рыхтавацца да выступлення з дакладам на канферэнцыі, то чагосьці чакала ад Арчы, сама дакладна не разумеючы, чаго. На дзіва, тут яна амаль пра яго не думала і цяпер злавіла сябе на думцы, што гэтаму не здзіўляецца. Але ж трэба неяк прывесці іх адносіны да новай фазы. Пытанне толькі, якой.

Поллі хацела яшчэ распытаць пра саму Паліну ды пабачыць яе партрэт. Не можа ж не быць ейнага здымка. І, канешне, трэба будзе расказаць праўду, але толькі Надзеі, каб яна не прагаварылася нікому ў вёсцы, што сюды прыязджала спадкаеміца пана Святлыніцкага. Што ёй тут забраць у валоданне? Возера, ціхае, парослае чаротам, амаль зацягнутае ілам? Праўда, на невялікім чысцюткім кавалачку плавала лебядзіная сям'я, казалі, яна прылятае сюды кожны год. Лес, куды некалькі разоў яна схадзіла з Валянцінай? Цікава, а яна ж заўсёды думала, што ягады растуць толькі на плантацыях, нават суніцы. А яны такія прыгожыя пад кволымі лісцікамі. Павернеш другім бачком, а там яшчэ зялёныя ягадкі, нават браць шкада.

Не, нездарма яна прыехала. Ды і мову трохі падвучыла, спачатку, праўда, не надта разумела, размаўляла на рускай, але праз пару дзён і сама не заўважыла, як перайшла на мясцовую гаворку. Мусіць, генетыка спрацавала…

Так, дзядуля, спадабалася мне твая Радзіма. Хай сабе і не такая яна, як ты яе памятаў, і праблем хапае, і моладзі няма ў вёсцы, але я зразумела, чаму ты яе любіў. Каб жа яшчэ зразумець, чаму ты пакахаў Паліну. Можа, і яна была такая, як сама твая Беларусь? Някідкая, негаманкая, светла-ціхай сумнаватай прыгажосцю адметная. І добрая, канешне ж, добрая, як большасць жыхароў тваёй вёскі. Нават прыезджых яны нібыта падабралі пад сябе. Хоць па вечарах тыя і ладзілі танцы (Поллі так туды і не пайшла, колькі Іванаўна не гнала, не сарамаціла: маладая дзяўчына, а сядзіш, як сыч, няма на цябе маёй Алёны!), і вогнішчы амаль кожны дзень, асабліва ў выхадныя, калі прыкатвалі па сем-восем машын з горада, аднак абыходзілася без п'яных боек і гарлапання да раніцы.

Крыху шкада пакідаць гэтыя мясціны. Прывязалася яна за два тыдні. І ведала, што нават калі ніколі сюды больш не вернецца, то не забудзе ні навакольныя краявіды, ні шумнаватую гаспадыню Валянціну, ні стрыманую, але такую добразычлівую ў сваім спакоі Надзею. Не забудзе дзедаву Бацькаўшчыну і свае вытокі.

Поллі бразнула знаёмымі веснічкамі і, ужо не палохаючыся, увайшла ў двор. Але сёння замест сабакі, якога тут не мелася, насустрэч выбег хлопчык гадоў васьмі, бялявы, басаногі, з замурзаным ад чарніц тварыкам.

— Дзень добры. А вы хто? — здзіўлена спытаў малы. — Я вас раней не бачыў.

— Я — Паліна, — на імгненне дзяўчына сама задумалася, а хто ж яна тут, у гэтым двары, у вёсцы і ўвогуле ва ўсім вялікім незразумелым свеце. Але цяпер не было часу на развагі, і яна толькі хуценька паабяцала сама сабе падумаць пра гэта пазней, як рабіла заўсёды, сутыкаючыся з пытаннем, вартым таго, каб пашукаць на яго адказ. — Я да тваёй бабулі прыйшла. І, дарэчы, цябе таксама раней не бачыла, — усміхнулася Поллі.

— А я — Мішка. Я на канікулы прыехаў. А бабуля на гародзе, агуркі выбірае.

— Бачу, вы пазнаёміліся ўжо, — пачуўся яшчэ адзін голас, і з дальняй сцяжынкі, з-за старой раскідзістай яблыні, выйшаў невысокі хударлявы мужчына. З першага погляду было зразумела, кім ён даводзіцца хлопчыку, надта кідалася ў вочы падабенства светла-русых, выгарэлых на сонцы, валос і цёмна-шэрых вачэй. — А я — Канстанцін.

— Вельмі прыемна, — прамармытала звычайныя словы ветлівасці ў адказ збянтэжаная Поллі. Надта хутка ёй падалося, што на гэты раз для яе словы набылі свой першапачатковы сэнс, пазбаўлены абыякавасці. — Я, пэўна, пайду, раз ваша маці занята.

— Не-не, — паспяшаў затрымаць яе Канстанцін. — Мама хутка выйдзе, — і, каб паскорыць, крыкнуў: — Мама! Тут да цябе госця прыйшла, выходзь, я сам агуркі потым дазбіраю, колькі мне аднаму трэба.

— Трэба не трэба, а возьмеш, — спакойна адказала Надзея, выходзячы з вядром маленькіх агуркоў. — Дзень добры, Поля, — павіталася яна з дзяўчынай.

— Вы тут размаўляйце, а я да бацькі пад'еду, — звыкла, як быццам у другую хату збіраючыся, сказаў Канстанцін.

— Там лавачку трэба было б паправіць, сынок, — папрасіла Надзея. — Сам паглядзіш, толькі інструменты вазьмі. Ды кветкі палі, схадзі да калодзежа, а то зусім завянуць па гэткай спякоце. — Старая павярнулася да Поллі. — Пойдзем у хату, там пагаворым.

— Прабачце, вы ж на могілкі паедзеце? А… можна, — нерашуча спытала Поллі, звяртаючыся да Канстанціна, — можна мне з вамі?

Мужчына, не зразумеўшы, павярнуўся да маці. Тая прамаўчала, не ведаючы, што адказаць.

Поллі зразумела, што надышоў час сказаць праўду.

— Вось гэта бацька, — кіўнуў Канстанцін на крайнюю магілу, хаця і без позірку на помнік зразумела было, што ёй ужо не першы год.

Поллі ўгледзелася ў партрэт, перавяла вочы на Канстанціна і ўсміхнулася: — Ведаеце, мне здаецца, вы больш да маці падобны.

— Усе так кажуць, — чамусьці сумна ўсміхнуўся ён у адказ. — У нас такая прыкмета ёсць, калі мужчына падобны да маці, ён будзе шчаслівы. А дзяўчына — да бацькі.

Поллі здалося, нейкая захаваная туга была ў гэтых словах, але Канстанцін хутка спытаў: — А вы да каго падобны?

— Не ведаю, — пацiснула яна плячыма, — мне заўсёды здавалася, што з усёй сям'і я падобная да дзеда.

— А вось гэта старэйшы бацькаў брат, — паказаў ён на магілу побач, старую, зарослую травой і нейкімі мясцовымі маленькімі кветачкамі, якія, відавочна, узышлі самі, бо раслі нераўнамерна, купкамі. — Першы мамін муж. Ён у вайну загінуў. Дзяцей у іх не было, а потым яна за тату выйшла.

— Вось чаму яе ў вёсцы ўдавой завуць, — зразумела Полі. — А я ніяк даўмецца не магла, тут жа шмат жанчын па адной жывуць, а ўдавой толькі вашу маці клічуць. Прабачце, я вас не хацела крыўдзіць.

— Думаеце, я не ведаў? У вёсцы калі на адным канцы сабака забрэша, то ўсе чуюць. А ўжо хто з кім калі быў, і чаму так празвалі, гэта агульны здабытак…

— А гэта вось дзядуля і бабуля. Тая самая Паліна Андрэеўна, незабытае дзедава каханне.

Полі пабачыла ўжо яе фотаздымкі ў хаце Ельскіх, аднак там Паліна была пераважна ў сталым, нават старым узросце, звычайная інтэлігентная бабулька, такіх поўна ў Шатландыі. А тут, на помніку, быў яе партрэт гадоў трыццаці пяці, мусіць, даваенны яшчэ. Сціплая цёмная сукенка з белым каўнерыкам — тыповае адзенне вясковай настаўніцы. Гладка зачасаныя над ілбом валасы не псавалі прыгажосці, не адцягваючы ўвагі ад тонкага носа, поўных губ, затоеных у ледзьве бачнай усмешцы. Сум выдавалі вочы, шырока расхінутыя, але нібы павернутыя крыху ўбок ад аб'ектыва, нібы незнарок пазіруючы фатографу. Здымак, мусіць, павялічаны, быў крыху нярэзкім, але гэта дадавала яму загадкавасці. Жанчына з невядомага…

— Вы пасядзіце тут, а я за вадой схаджу, добра? — Канстанцін дакрануўся рукой да яе пляча, і на секунду Полі здалося, што гэта адтуль, з мінулага, да яе працягнула руку чароўная і непазнаная Паліна… Паланка. Паланка — ад слова «палын», падумала дзяўчына, ці ад «палаць»? А ўвогуле, ці не адно гэта і тое ж?

…Пакуль Канстанцін майстраваў лаўку, яна крыху пахадзіла па запусцелых могілках, разглядаючы цяжкія каменныя валуны з зарослымі мохам надпісамі, скрыўленыя драўляныя крыжы, навейшыя мармуровыя глыбы, час ад часу спатыкаючыся аб выступы старых, мусіць, яшчэ з мінулага стагоддзя, пахаванняў.

Калі яна вярнулася, Канстанцін сядзеў на лаўцы, задуменна гледзячы ў далячынь, за лінію гарызонту. Дзяўчыне зноў падалося, што ўся ягоная постаць нібы прыгнечана нейкім нявыказным шкадаваннем. Але тут ён, мусіць, адчуўшы яе прысутнасць, павярнуў галаву.

— Ну што, паедзем дадому? — спытаў Косця і, зразумеўшы, як недарэчна прагучала фраза, дадаў: — Вы там нідзе не сустрэлі надпісу, у свой час было вельмі папулярна пісаць такія эпітафіі… — Ён змоўк, але Полі дапамагла, прамовіўшы:

— Я ведаю, што такое эпітафіі з курса рускай літаратуры, — Полі прысела побач на лаўку.

— Дык вось, пісалі на помніках, дарэчы, на рускай мове, нашы такога б не прыдумалі: «Задержись, прохожий, навести мой прах, я ведь уже дома, а ты еще в гостях…»

— Сапраўды, у гасцях. Але мае госці хутка закончацца, — і, таксама асэнсаваўшы, што атрымаўся ляп, Полі падвяла вынік: — Нейкімі мы з вамі двухсэнсоўнасцямі размаўляем. Пачакайце, я толькі крышачку зямлі набяру. Дзед прасіў, каб я прывезла яму на магілу адсюль зямлі. Ад яе.

— Не трэба, — Канстанцін паклаў далонь на руку дзяўчыны. — Ён і так будзе ведаць, што вы тут пабывалі. Не варта трывожыць яе спакой. Я вам іншае месца пакажу, там возьмеце. Каля возера, у вёсцы.

## МАМЗЭЛЯ

### 2000-ы

Парадаксальна, што гэта здарылася менавіта цяпер, але сапраўды, некалькі дзён таму я зусім выпадкова знайшла старэнькі каляровы сшытак. Ведаеце, мусіць, усе дзяўчынкі класе ў чацвёртым-пятым вядуць анкеты. Бадай, гэтаксама, як перад школай яны гуляюць у шкляныя сакрэтыкі, а ў дванаццаць-трынаццаць год упершыню цалуюцца з хлопчыкам з суседняй парты або вуліцы. Праўда, мне ў дванаццаць было не зусім да гэтага, аднак тое ўжо іншая гісторыя. Па традыцыі, першай такую анкету запаўняла яе гаспадыня…

Любімы фільм — «Бум» (і сёння гляджу з задавальненнем).

Любімая актрыса — Катрын Дэнёў (памятаю, менавіта тады я была ў захапленні ад музыкі з «Шэрбурскіх парасончыкаў»).

Любімы акцёр — Ален Дэлон (трэба ж, у мяне ўжо тады быў нядрэнны густ!).

Любімы пісьменнік — Франсуаза Саган (так, бацькі заўсёды казалі, што я чытаю тое, да чаго яшчэ не паспела дарасці).

Любімы спявак або спявачка — Джо Дасэн («Et Si Tu N'Existais Pas» грае ў мяне замест будзільніка).

У якім горадзе ты марыш пабываць? — Зразумела, у Парыжы. (Шкада, у той адзінай паездцы я паспела пабачыць яшчэ далёка не ўсё).

Так, сапраўды, я захаплялася Францыяй з маленства. Не ведаю, чаму і адкуль.

Я не хацела вучыць англійскую мову, і мама з татам самаахвярна вазілі мяне першыя чатыры гады праз увесь наш гарадок у спецыялізаваную школу (потым я пачала ездзіць сама).

Я ўдзельнічала ва ўсіх алімпіядах і конкурсах па французскай мове. Усе рэфераты, што мы пісалі па гісторыі, я выбірала пра эпоху Напалеона або Філіпа Прыгожага. Я была ўлюбёная ў гэтую краіну, мне здаецца, з таго самага моманту, як пачала нешта разумець у жыцці. Шанэль, руская эміграцыя і Сэн-Жэнеўеў-дэ-Буа, «Маленькі прынц» і карціны Клода Манэ — ці можна пералічыць усё, што дала свету Францыя?

Мама была здзіўлена, тата не хаваў гонару, а я ўспрыняла як мае быць, калі ў восьмым класе перамагла спачатку ў абласной, а потым і ў рэспубліканскай алімпіядзе. Узнагароджаннем стала прапанова паехаць на тыдзень у Парыж для ўдзелу ў міжнародным конкурсе для школьнікаў з краін, дзе вывучаецца французская мова.

Не, вы толькі, калі ласка, не падумайце, што я такая «мамзэля», якая надта ўяўляе пра сябе. Ну, сапраўды, чым яшчэ мне было займацца ўвесь той папярэдні год, які я амаль цалкам правяла на бальнічным ложку? Так, я чытала літаратуру ў арыгінале і вяла дзённікі, дзе спрабавала апісваць свае ўражанні па-французску. Памятаю, як настаўніца матэматыкі, што разам са мной дзяліла палату, калі мяне рыхтавалі да трэцяй аперацыі, усё здзіўлялася, як дзіця можа столькі чытаць, тым больш на чужой мове. А чым яшчэ мне было займацца? Думаць пра тое, што два папярэднія хірургічныя ўмяшальніцтвы так і не далі рады майму ўпартаму носіку і разумны Аркадзь Рыгоравіч не ведае, што яшчэ са мной зрабіць, акрамя як зноў пусціць пад нож, цяпер ужо не кіруючыся жаданнем захаваць мне прыгажосць на будучыню. Не ведаю, як тады мама здолела ў апошні вечар усё ж адгаварыць яго. І сапраўды, пасля адпачынку на моры — адзіным, на што ўсе мы спадзяваліся, мне дапамагло — я перастала хварэць. У напамінак пра той жахлівы год мне застаўся толькі шнарык на пераноссі, які і па сёння стараюся хаваць за акулярамі, асабліва ў незнаёмых кампаніях і абставінах.

Ну, вось, дарэчы, я і растлумачыла, чаму ж так і не пацалавалася з хлопчыкам у свае дванаццаць год.

Але я ўсё нешта не пра тое. Такім чынам становіцца крышачку зразумелай мая прага да ведаў пра Францыю і яе наталенне. Так, я патрапіла ў Парыж у маі дзевяноста трэцяга года, вучаніцай восьмага «А» класа звычайнай беларускай школы. Цяжка паверыць? Мне таксама часам здаецца, што тое адбылося зусім не са мной, або не адбылося ўвогуле, ці толькі ў маіх марах. Ведаеце, я і сама не верыла б і цяпер, каб не мае фотаздымкі ў кампаніі дзяўчатак, з якімі тады жыла (дзве з іх былі з Венгрыі, адна з Шатландыі і яшчэ адна з Мексікі — мусіць, нас спецыяльна сялілі з іншаземцамі, каб хутчэй маглі адаптавацца да размоў выключна па-французску), малюнкі, што я рабіла прыхапкам на Эйфелевай вежы ды Елісейскіх палях, і лісты ад Віктора.

Нарэшце… Нарэшце Віктор прыязджае да мяне ў госці! Ці радая я — ну, зразумела ж. Як можна не радавацца таму, што ты ўбачыш даўняга і блізкага сябра, з якім кантактавала ўсе гэтыя сем год. Мы пісалі адно аднаму лісты, дасылалі паштоўкі і маленькія падарункі-сувеніры. Тэлефанавалі па тры разы на год: паміж каталіцкімі калядамі і Новым годам. Ніхто не ведаў, калі дакладна Віктор патэлефануе, але ён рабіў гэта заўсёды ў адзін з мітуслівых перадсвяточных дзён. Так што мама з татам недзе год на трэці пачалі прывыкаць да яго «Joyeux Noël!» і навучыліся жадаць у адказ «Et vous aussi!»). Ён абавязкова тэлефанаваў мне на дзень нараджэння. Ну, і адпаведна, раз на год — на яго дзень — я таксама званіла Віктору.

Так, я вельмі радуюся. Але хвалююся, здаецца, яшчэ больш. Ведаеце, усё ж такі сустрэцца адзіны раз, калі мне было трынаццаць і сямнаццаць яму… і потым, канешне, гаварыць і чуць голас — хаця б так рэдка і далёка-глухавата з перашкодамі ў слухаўцы, і дасылаць фотаздымкі самыя лепшыя і прыгожыя… Я разумею, што мы проста сябры, а можа, нават, лепш было б сказаць знаёмыя… І я зусім ужо не тая сарамлівая дзяўчынка… але, здаецца, я і не была сарамлівай, бо тады, сем год таму, з ім пачувалася вельмі лёгка, проста. Нават не ведаючы нейкіх слоў па-французску, а Віктор увогуле не разумеў рускай мовы. Нам гэта не замінала смяяцца і адчуваць сябе шчаслівымі…

І ўсё ж мне боязна. Да таго ж, Віктор напісаў, што едзе не толькі, каб пабачыцца са мной. Якія яшчэ справы яго могуць чакаць у Беларусі, дзе ён ніколі не быў і не факт, што некалі апынецца яшчэ раз?

Але, здаецца, нарэшце абвясцілі пасадку рэйса 483 Парыж — Франкфурт — Мінск.

Ой, мамачкі, я баюся!..

— Bon jour, mademoiselle Natalie. Ты зусім не змянілася. Не, хлушу. Здаецца, ты стала яшчэ прыгажэйшай…

…Мая бабуля Ірэн заўсёды верыла ў наканаванасць лёсу.

«Калі б гэта не было прадвызначана загадзя, — казала яна, — ці атрымала б я ў спадчыну імя, грошы і замак д'Ардзі. Я стала першай дзяўчынкай у сям'і за ўвесь час яе існавання, да якой вымушана было перайсці ўсё…»

Іншая справа, што бабуля з радасцю адмовілася б ад сумніўнага ў наш час гонару насіць тытул, ад якога засталіся амаль спарахнелыя за два стагоддзі паперы, маёнтак, які трэба кожныя пяць год рамантаваць дзеля таго, каб падабацца турыстам, ды так званае багацце, большую частку якога прайграў у карты напярэдадні Першай сусветнай вайны мой прапрадзед, а астатняе ахвяраваў на рух Супраціўлення падчас Другой ягоны сын. Усё тое, на думку Ірэн, не каштавала адной усмешкі Фелікса.

Фелікс — бабулін брат, старэйшы за яе на два гады. Ён загінуў у аўтааварыі ў 50-м, яму было ўсяго дваццаць. Менавіта Феліксу, здавалася б, было наканавана стаць спадкаемцам усіх нашых сямейных грахоў і перамог. Але нехта ў вышынях нешта пераблытаў, і ў выніку пачэснае імя д'Ардзі вымушаны працягваць я. Не тое каб мне надта не падабалася, але я зусім спакойна абышоўся б без усіх гэтых фанабэрыстасцей, якімі так ці інакш кожнага з нас, прадстаўнікоў Сям'і, абцяжарвае род, продкі, мінулае.

Калі б не бабуля, я, мусіць, увогуле не надта цікавіўся б усёй гэтай генеалогіяй. Дзякаваць лёсу, яна ў нас яшчэ не такая і заблытаная. А што казаць пра сем'і, якія вядуць адлік ад паходаў крыжакоў, або якім падараваў тытул у падзяку за сваю падтрымку першы з Бурбонаў, гэты вёрткі прыгажунчык Генрых Чацвёрты. Не, усё значна прасцей.

Мы налічваем усяго дзвесце год. Калі быць зусім дакладным — сто дзевяноста два. Тытул барона быў падараваны Жыльберу Ардзі ў 1808 г. Так, не здзіўляйцеся, наша хвалёная Французская рэвалюцыя не збіралася адмяняць прывілеі для арыстакратаў, яна проста хацела захапіць іх для прадстаўнікоў новай улады. Прыблізна тое ж, але з большай крывёй, адбылося ў бальшавіцкай Расіі. Не, гэтыя дзве краіны надта падобныя, каб у іх меўся сэнс ваяваць адна супраць адной. Шкада, што Напалеон так гэтага і не зразумеў…

Дык вось, Жыльбер, першы барон Ардзі, нарадзіў Поля. Што таксама нельга вызначаць ніяк, акрамя прадвызначэння лёсу. Бо Жыльбер пасля паходу на Маскву, як сведчыць сямейнае паданне, так надоўга страціў жаданне жыць, што першы ўладальнік арыстакратычнай прыстаўкі д' мог стацца апошнім. Дзе і як ён сустрэўся з Алаізай, адкуль яна была родам не вядома. Адзіны факт: ва ўзросце саракапяці год Жыльбер нарэшце стаў мужам, а потым і бацькам адзінага сына. Поль даў жыццё наступнаму Жыльберу, за ім быў Жан — той самы, які вельмі любіў азартныя гульні. А далей ужо ўсё проста. Жан — бацька Шарля. А Шарль — гэта бабулін тата. Афіцэр, палкоўнік, удзельнік Супраціўлення, сябра Фелікса Юсупава і Шарля дэ Голя. Вось чыю біяграфію варта было б апісаць па-мастацку, калі б я тое ўмеў. Так, менавіта дзякуючы Юсупавым дзеці Шарля і атрымалі свае імёны: Фелікс, у гонар яго самога, і Ірэн — па жонцы.

У бабулі ёсць сын Антуан, а ў Антуана — я, Віктар. Ух, нават пералічэнне даўно забытых усімі шкілетаў займае добрых паўгадзіны.

Але на самай справе я жартую. Такі вось крыху цынічны гумар. Бо, колькі б я ні прыкідваўся, што ўсе сямейныя паданні мяне не цікавяць, я, так бы мовіць, выдатна ўяўляю кожнага з маіх папярэднікаў. Штосьці распавядала бабуля, астатняе дамалёўваў у сваіх фантазіях праз патускнелыя ад часу партрэты, што захаваліся ў замку і нават займаюць не самае апошняе месца. Галерэя даволі такі выразных у сваім грэбліва-арыстакратычным снабізме твараў суправаджае наведвальнікаў «аднаго з куткоў Францыі, што захавалі прыгажосць былых стагоддзяў» (цытата з турыстычных буклетаў, якую можна аднесці да кожнай прыстойнай сядзібы), калі яны падымаюцца з першага паверха на другі.

І менавіта з той прычыны, што ўсе яны — мае родныя, дарагія і неабыякавыя мне, а яшчэ больш жадаючы ўлашчыць бабулю, якая надта сярдуе на мяне, што не зрабіў гэтага раней, я і выправіўся ў гэтае падарожжа. Падарожжа ў мінулае.

Чаму мне ніколі не прыходзіла ў галаву напрасіцца ў госці да Наталі?

Мы шмат што паспелі абмеркаваць за сем гадоў нашай перапіскі ў лістах. Я ведаю першага хлопчыка, з якім яна цалавалася (і часам мне ўсё ж такі крыху шкада, што ім аказаўся не я), яна ведае, чаму я так і не ажаніўся з Марыянай, хаця мае

бацькі былі не супраць, нягледзячы на мой дастаткова малады ўзрост (я сустракаўся з ёю з дзевятнаццаці да дваццаці двух гадоў. Я імкнуўся падтрымаць Наталі, калі ўсё ж такі замест Інстытута замежных моў, куды яна магла патрапіць без экзаменаў — з яе веданнем французскай! — дзяўчына выбрала факультэт міжнародных адносін. І калі ў першы год ёй не хапіла двух балаў, то не адмовілася ад свайго жадання. Цяпер, хоць і са спазненнем, яна ўсё ж такі вучыцца там, дзе хацела. (Паважаю паразумнаму ўпартых жанчын.) Нават тое, што Наталі раскрытыкавала маё жаданне кінуць каледж і пайсці вывучаць жыццё на практыцы — навошта журналісту адукацыя, хіба ж хто ведае? — не замінае нашаму добраму сяброўству.

Але чамусьці я ніколі падрабязна не расказваў ёй пра сваю сям'ю. Не, Наталі, канешне, ведае, што бацька мой — спадкаемца прыгожага французскага прозвішча з эффектнай літаркай д'. Аднак гэта нічога не значыла для нас ні ў той тыдзень, калі мы разам гулялі па Парыжу, ні пазней, калі тэлефанавалі адно аднаму, віншуючы са святамі. Ні ў нашых лістах, дзе мы разважалі шмат пра што, у тым ліку і пра грошы як вымяральнік шчасця. (Ні я, які мае іх дастаткова, ні яна, зразумела, больш абмежаваная ў сваіх жаданнях, не настолькі дурныя, каб не разумець дзвюх супрацьлеглых рэчаў: грошы не робяць чалавека шчаслівым. Аднак шчасце нядоўга здольна пратрымацца пры іх адсутнасці.)

Можа, я саромеўся распавесці ёй пра тое, што калісьці ў гэтай беднай, незразумелай, не зусім самастойнай краіне мой знакаміты і загадкавы родзіч пацярпеў паразу разам са сваім удалым, геніяльным, мудрым Імператарам.

Але цяпер, акрамя таго, што хачу зноў пабачыць Наталі, узнікла непамернае жаданне пазнаёміцца з яе радзімай і, магчыма, палюбіць яе гэтак жа, як калісьці гэта здарылася з Наталі адносна маёй Бацькаўшчыны. Акрамя звычайнай цікавасці да новых мясцін і людзей, я ўсё ж такі хачу зразумець, што такое было і ёсць у славян, што яны здолелі перамагчы ўсіх, пачынаючы ад мангола-татар і скончыўшы Гітлерам. Карціць пабываць там, дзе калісьці выратаваўся ад смерці, але не пазбег сораму паразы мой продак Жыльбер д'Ардзі, 27-гадовы капітан славутай напалеонаўскай арміі.

Я еду ў Беларусь. Я еду на Бярэзіну. Я еду да Наталі.

— Ах, Віктор, ты як заўсёды галантны кавалер! А я не магу так адразу зрабіць вывады наконт цябе. Што ты хацеў бы пачуць: які ўжо дарослы і мужны? Ці тое, што ў маёй памяці табе ўсё роўна сямнаццаць?

Наталі ўсміхнулася. Сустрэча адбылася.

**1830-ы**

Чаму жыццё зноў паставіла яго перад выбарам? Няўжо яму не хапае душэўных пакут за тое, што адбылося амаль дваццаць год таму? Ён верыў, што са з'яўленнем Алаізы, яго нарэшце адпусціць туга па страчаным некалі маладым шчасці. Сапраўды, з гэтай дзяўчынкай Жыльбер пачаў зноў адчуваць прыгажосць і радасць кожнага новага дня. Аднак яна зусім, зусім не падобная да Ізабэлы…

Ізабэла — ён так забыўся, што вымавіў імя ўслых, і быццам ціхенькае рэха разнеслася па замкавым пакоі. Рэха, такое ж сарамлівае, трапяткое, якою некалі была яна сама. Яго першая любая жонка.

Яна была побач з ім, колькі сам Жыльбер памятаў сябе. Суседская дзяўчынка з агромністымі вачыма, падобнымі да вішаняк, з даўжэзнымі косамі, акуратна паднятымі ў падабенства маленькай кароны, і заўсёдным водарам ванілі, які нібыта ахутваў яе. Бацька Ізабэлы быў заможным пекарам, яго краму ведала палова горада, і ўсе дзеці ў сям'і Поля Вадэна з маленства дапамагалі на кухні.

Так, яны жылі на адной вуліцы, Ізабэла, дачка пекара, і Жыльбер, сын збройніка. Па сутнасці, іх лёс быў прадвызначаны. Яны павінны былі ажаніцца, з рэвалюцыяй або без яе. Праўда, калі б не рэвалюцыя, наўрад ці стаў бы ён спачатку салдатам, а потым, дзякуючы Напалеону ды яго перамогам, і афіцэрам, а затым дваранінам з ганарлівай прыстаўкай да прозвішча. Доўгія гады ён не мог звыкнуцца з тым, што гэта сапраўды адбылося з ім, хлопчыкам з простай сям'і, дзе спакон стагоддзяў перадавалася ад бацькі да сына майстэрства рабіць прыгожую і моцную зброю, але не карыстацца ёю без сур'ёзнай патрэбы на тое.

Рэвалюцыя разбурыла і звіхурыла ўсё. Жыльбер апынуўся ў арміі. Праз некалькі год стаў капітанам. У адзін з кароткіх і нячастых адпачынкаў, калі ён вырваўся да бацькоў, яны з Ізабэлай ажаніліся. І амаль перад тым клятым дванаццатым годам яму падаравала вышэйшая ўлада гэты самы замак, дзе ён замёр цяпер у нецярпліва-пакорлівым чаканні, нібы звер, якому новая бойка развярэдзіла старыя раны.

Яна ніколі не бачыла гэтых пакояў. Ізабэла ўвогуле не хацела ні яго тытула, ні багацця, якое абяцаў вялікі імператар кожнаму са сваіх афіцэраў пасля заваёвы далёкай і дзікай, але такой багатай лясамі, людзьмі ды землямі Расіі. Усё, чаго яна хацела, — гэта быць разам з ім. І таму дабілася дазволу на тое, каб адправіцца ў паход на Маскву разам з мужам.

Іх было не так ужо і мала, жанчын напалеонаўскай арміі. Маркітанткі, кухаркі, дзеўкі, падабраныя кімсьці з салдатні па дарозе праз Германію і Польшчу, якія таксама жадалі ўхапіць свой кавалачак шчасця, якім бы прывідна-нядоўгім яно ні апынулася... Але былі і такія, як Ізабэла — жонкі. Са сваімі пакаёўкамі, з куфрамі сукенак, якія яны збіраліся апранаць на сябе на балах у былых палацах рускіх князёў.

Каб толькі яны маглі прадбачыць, як сустрэне іх гэтая напаўгалодная краіна, дзе рабы гатовыя заставацца рабамі сваіх гаспадароў, паліць свае хаты і мерзнуць у лясах, толькі б не вітаць непераможную французскую армію!

Калі б ён толькі ведаў, што Ізабэла адпраўлялася з ім ужо чакаючы дзіця. Ён бы пасварыўся з ёю, але ніколі не дазволіў бы трэсціся па гэтых бясконцых выбоінах (у іх жа, рускіх, нават дарог нармальных не мелася!).

Калі б яны маглі зазірнуць у будучыню, якая стала такім далёкім мінулым, схаваным толькі на донцы яго душы, што амаль ніхто сёння ўжо і не памятае яго Ізабэлу… Бацькі памерлі, сябры загінулі. Усё, што яму засталося, толькі ўспаміны.

Але не! У яго ёсць Алаіза. Пакуль што яна яшчэ ёсць. І калі трэба будзе выбіраць паміж яе жыццём і жыццём дзіцяці…

Тады, у нейкай забытай Богам вёсцы на беразе той праклятай рэчкі, пасля якой яны вярталіся дамоў, нібы пабітыя сабакі, халоднай лістападаўскай ноччу, калі Ізабэла пачала раней на два месяцы раджаць — яго не пыталіся, каго выратоўваць. Яго ўвогуле не пыталіся ні пра што, адзінае, што яму на памяць пакінуў літасцівы Гасподзь — яе апошнія словы. Жыльбер так і не даведаўся, ці ў ліхаманцы яна іх сказала, не разумеючы, бо ў той сялянскай хаце дужа натоплена было, так, што ў яго самога закруцілася галава, калі з мароза ён нібы нырнуў у пекла. Яна прашаптала: «Памятаеш…мы хацелі, каб у нас былі хлопчык і дзяўчынка… адразу… разам… як мы з табой…заўсёды разам…»

І больш яна не прамовіла яму анічога.

Яны былі, мусіць, добрыя людзі, тыя мужык з жонкай. Аддалі ёй лепшы ў хаце пакой. Тая кабета, у якой мелася сваіх пяцёра дзяцей — усё спрабавала дапамагчы Ізабэле, нешта шэпчучы на сваёй мове, і гладзіла, гладзіла яе пальчыкі сваімі стамлёнымі ад працы, шурпатымі далонямі. Так урэзаліся чамусьці ў яго свядомасць тоненькія, схуднелыя жончыны запясці, накрытыя гэтымі счарнелымі рукамі.

Яны адшукалі нейкія зёлкі, паілі яе адварам, каб спыніць крывацячэнне. І нават знайшлі ў гэтай збяднелай вёсцы малако ад цудам пакінутай каровы. Малако для немаўляці… але дзяўчынка была такая зморшчаная, такая маленькая і сінюшная, што нават яму, які ніколі ў жыцці не бачыў нованароджаных, стала зразумела — не выжыве…

Ён хацеў пакінуць ім грошы, у яго былі нават не франкі, а гэтыя, іхнія рублі, якія засталіся з Масквы. За тое, што імкнуліся выратаваць Ізабэлу, ды каб пахавалі яе па-чалавечы, бо яму не было калі рабіць гэта самому: раніцой, загадаў імператар, рэшткі арміі павінны пераходзіць праз Бярэзіну. Нельга губляць ні гадзіны.

Але кабета не ўзяла яго скамечаныя паперкі, а заплакала, паказваючы то на сябе і дзяцей, то на стары, пацямнелы абраз, як зразумеў Жыльбер, Дзевы Марыі з хлопчыкам на руках, які вісеў у пакоі, дзе памірала яго Ізабэла.

І ён збег. Збег з горача напаленай хаты, дзе не было амаль нічога, акрамя абраза, печы, лаваў, стала ды старога, мусіць, бабінага яшчэ куфра. Але ў гэтай хаце чамусьці ўсё ж адмовіліся браць грошы за тое, што не дапамаглі выжыць чужой жанчыне, жонцы ворага…

Потым ён збег з Расіі. Шчаслівчык, казалі пасля тыя, хто ніколі не бываў на Бярэзіне. Так, ён застаўся адным з нямногіх, каму ўдалося вярнуцца дамоў.

Але шмат гадоў пасля ён задаваў сабе пытанне: ці варта было вяртацца?

**2000-ы**

— Ці можна ў вас напракат узяць аўто?

Пытанне Віктора збянтэжыла, мусіць, не толькі мяне, але і бацькоў: навошта хлопцу машына, калі ён не мае вадзіцельскіх дакументаў і па-руску размаўляе не надта ўпэўнена, ды яшчэ з такім нетутэйшым акцэнтам, які адразу выдае ў ім замежнага чалавека. Ды і куды яму тут праехацца? Мір з Нясвіжам я яму паказала ўжо, спецыяльна прасіла сяброў, Мішу з Машай (так, так, амаль аднолькавыя імёны, мабыць, садзейнічаюць іх сямейнай гармоніі), яны нас вазілі. У Мінску паглядзелі нават тое, што я сама ніколі дагэтуль не бачыла. Спецыяльна на цягніку з'ездзілі на дзень у Гародню, бо лічыцца, што гэты горад захаваўся лепш за іншыя ў гісторыка-архітэктурным плане. Віктор цікавіўся, распытваў, фатаграфаў будынкі і мяне на іх фоне, смяяўся, казаў, што выключна дзеля мяне трэба было б вынайсці машыну часу і перанесціся на пару-тройку стагоддзяў назад, бо цікава было б паглядзець на такую рамантычную дзяўчыну ва ўпрыгожаннях і сукенках беларускіх шляхцянак.

Здавалася, яму спадабалася ўся мая культурная праграма. А вось жа, глядзі ты, нечага я ўсё ж такі недагледзела… няёмка нават.

— Я ніколі не распавядаў, але справа ў тым… — Віктор прымоўк на хвілінку, нібы збіраючыся з думкамі, — справа, карацей кажучы, у тым, што мой далёкі продак ваяваў у напалеонаўскай арміі. І мне хацелася б паглядзець тую рэчку, дзе іх разграмілі рускія войскі. Я ведаю, што гэта не надта далёка ад Мінска.

— Бярэзіну? — здзіўлена спыталася я. — Чаму ж ты раней не казаў?

— Не ведаю. Я думаў, што табе не надта спадабаецца такое мінулае. Нацыянальна-асабістае супрацьстаянне. А ты ведаеш гэтыя мясціны?

— Не, толькі прыблізна, таму што ніколі там не была. Чытала крыху.

— Я ведаю, — раптам нечакана прамовіла маці. — Калі хочаце, мы з татам вас адвязём.

Новыя сюрпрызы не прымусілі сябе чакаць.

— Ты? Вы? — нашыя галасы амаль зліліся ў адзін. — Адкуль? І чаму ты заўсёды маўчала? — Пытанні сыпаліся з мяне, што бульба з кошыка. — Ты ж усё жыццё правяла ў гэтым горадзе? Нават нарадзілася тут.

— Так, я тутэйшая па ўсіх дакументах. Але бабуля твая з тых мясцін родам. Не ў самай блізкай вёсцы, але недалёка. Яна пасля вайны ў горад збегла. Працу шукаць. У яе амаль усе родныя ці памерлі, ці загінулі. Маці яшчэ ў дзяцінстве. Бацька не вярнуўся з фронту. Была сястра малодшая, але яна ў балоце згінула, калі ад немцаў хаваліся.

— Як гэта ў балоце? — тут ужо мне самой сорамна зрабілася, што я не ведала такіх рэчаў пра сваіх родных. Віктар радавод на два стагоддзі можа пераказаць, а я бабулю памятаю мала, мне было гады чатыры, калі яна памерла. З дзедам, мама калісьці неахвотна сказала, яны разышліся, калі сама маленькая зусім была. Усе мае цёткі-дзядзькі — з татавага боку, і мне ніколі ў галаву не прыходзіла, чаму так адбылося. І дзед з бабуляй па гэтай лініі ў мяне яшчэ жывыя, у Віцебскай вобласці жывуць, летам некалькі разоў падчас канікул мяне да іх адвозілі пагасцяваць, але я так нудзілася па доме, што праз два тыдні прыходзілся забіраць дахаты. А тата ў Мінск паступаць прыехаў, скончыў тут інстытут, ажаніўся з мамай на апошнім курсе, а потым яны вярнуліся да яе на радзіму. Але я ніколі асабліва не цікавілася такімі рэчамі, а самі яны не імкнуліся нешта мне распавядаць.

— Калі немцы або паліцаі мясцовыя аблавы рабілі, вяскоўцы баяліся не толькі, што заб'юць — забівалі рэдка. Але хаты маглі спаліць, або — яшчэ горш — забіралі моладзь у Германію на працу. І таму па балотах ды лясах хаваліся. Вось маміна сястра, ёй тады было гадкоў дванаццаць, ступіла ў багну неасцярожна. І ўсё. Не дапамог ніхто выратаваць, а мама сама не змагла яе выцягнуць. Тая на яе вачах і захлынулася. Як у кіно «А зори здесь тихие…»

Мама казала так спакойна-сцішана, што мне стала не па сабе. Лепш бы яна заплакала ўжо. А ў яе нават голас не дрыжэў. Віктар маўчаў, а я баялася павярнуць галаву ў яго бок, бо не вытрымала б ніводнага руху: слёзы перапаўнялі вочы, не давалі дыхаць і, здавалася, проста давілі знутры на мозг, які адмаўляўся ўспрымаць такую жудасную праўду. Такога не магло быць. Гэтага проста не магло здарыцца, не тое што ў маёй уласнай сям'і, а ўвогуле на зямлі! Не ў кіно, не ў кніжках, няхай сабе нават і заснаваных на чыіхсьці ўспамінах, але гэта заўсёды чыталася як нешта крышачку нерэальнае, ці што. А з маёй бабуляй? З маці маёй маці, без якой не было б, атрымліваецца, і мяне? Як увогуле яна жыла пасля з такім успамінам?

— Яна і мяне назвала ў памяць пра тую Надзю, — дадала мама і, рэзка ўстаўшы, выйшла за дзверы.

— Не хадзі за ёй пакуль, — пацягнуў мяне за руку Віктар і, павярнуўшыся нарэшце да яго, я ўткнулася тварам яму ў грудзіну і заплакала.

**1824-ы**

…На самай справе, думаў у гэтыя дні Кастусь, ён стаў галоўным у сям'і не цяпер, калі ў хату прыйшла смерць. Уся гаспадарка апынулася на ягоных плячах яшчэ тры гады таму, калі бацьку прыдавіла тым, хай бы яно гарам гарэла, шматгадовым цяжкім дрэвам у лесе. Ён так і не змог акрыяць пасля таго выпадку, кульгаў па двары, нібы калека... Усе хатнія мужчынскія справы даводзілася рабіць яму, старэйшаму сыну. Старэйшаму за шаснаццацігадовага Міколку і Юрку, якому тады споўнілася толькі чатырнаццаць. Пра дзевак і казаць няма чаго, якая з іх карысць у

хаце — кудзелю прасці ды пасаг рыхтаваць, але каму гэткая галота спатрэбіцца? За душой толькі і ёсць, што з твару прыгожыя ды працаваць умеюць…

Бацька разумеў і гэта. Яму замінаў не столькі фізічны боль — а нага ныла, асабліва ў даждлівае ды халоднае надвор'е, Кастусь не раз бачыў, як крывіўся ягоны твар, калі Васіль думаў, што ніхто не бачыць, — але даймала само пачуццё беспаможнасці, немагчымасці далей адказваць за сям'ю, усіх, каго павінен ён быў пракарміць, апрануць ды выводзіць у людзі.

Усіх, нават няродных…

Гэта выпякала-выпальвала яму душу значна мацней. Магчыма, у нейкім сэнсе смерць стала для яго збаўленнем, даруй, Госпадзі, думку грэшную.

Нібы падслухаўшы тое, што круцілася ў яго галаве, Паліна мякка вымавіла:

— Кастусь, не трэба так па тату гараваць. Можа, я блага гавару, але… мне здаецца, што яму так лепей…

Ён у чарговы раз здзівіўся: як тонка гэтая дзяўчынка ўмее адчуваць. І тое, што адбываецца вакол, і тое, што ў ягонай душы.

Ніводную са сваіх сясцёр ён не любіў так, як Паліну. Але цяпер трэба будзе гаварыць з маці. Ён не ведаў, якую прычыну прыдумаць, каб давесці да яе тое, што вырашыў яшчэ мінулай восенню. Кастусь бачыў, як паступова Паліна ператвараецца з маленькага дзіцяці ў прыгажуню. Доўга не даючы сабе волю прызнацца ў сапраўдных пачуццях да яе, ён заўсёды памятаў, як яна з'явілася ў іх сям'і.

Магчыма, пра гэта раней магла б успомніць яшчэ Таццянка, аднак Таццянкі, як і бацькі, больш няма. Мусіць, яна сустрэне яго там, і ёй не будзе так адзінока. Старэйшая з сясцёр, якая нарадзілася следам за Кастусём, памерла пры родах у мінулым годзе. Гэта падкасіла бацьку яшчэ больш.

Паліна няродная ім па крыві. Яна ўвогуле была чужынкай, і Кастусь не раз употай задаваў сабе пытанне: няўжо гэтага не заўважае ніхто, акрамя яго? Ні суседзі, ні радня, ні нават самі дзеці. Яе бледнай скуры, якая так баялася сонца, што з першымі вясеннімі промнямі Паліна станавілася замурзаная вяснушкамі. Яе далікатных пальчыкаў з тонкімі запясцямі, яе ўсмешкі, нібы сарамліва-вінаватай. Здольнасці ціхутка знаходзіць сабе занятак з маленства, нават тады, калі ўсе астатнія роўма раўлі, а маці не ведала да каго кідацца, ці сварыцца на ўсіх разам.

Маці не надта хацела пакідаць чужое немаўля ў хаце. Кастусю ў памяць добра ўрэзаліся яе сцішаныя словы сярод ночы падчас іх размовы на гэты конт з бацькам. І цяпер, амаль праз пятнаццаць год, яны грукалі ў яго скронях, паўтараючыся, нібы рэха.

— Бацька, дык што ж мы рабіць з ёю будзем?

— Што-што, — буркнуў у адказ Васіль, — гадаваць.

— Дык куды нам яе гадаваць, у нас сваіх пяцёра па лаўках, карміць няма чым, навошта нам гэтае дзіця яшчэ на шыю?

— Ну, а куды ты яе дзенеш, на вуліцу выкінеш?

— Ну не на вуліцу, але хоць бы да пана адвезці, няхай сам і разбіраецца. Можа, за ёй яшчэ вернецца хто.

— Як вернецца, тады тое і будзе. Каму за ёй вяртацца?

— Быў жа з той, як яе… Ізабэла, мусіць, мужык нейкі…

— Во тое і яно, што нейкі, можа, гэта палюбоўніца ягоная, дык ён толькі рады, што так атрымалася ўсё…

— Не, Васіль, дурное ты кажаш… У яго вочы такія былі, калі яна памерла. Па любоўніцах так не пакутуюць.

— Ты ўжо ведаеш! А з чаго пан паверыць, што гэта не нашая дачка, а нейкай хранцузскай кабеты?

— А мы крыжык пакажам, і пярсцёнак яе, і завушніцы…

— І што? Каб нас яшчэ абвінавацілі ў крадзяжы? Ну, баба, ты і ёсць баба, валасы даўгія, а розум кароткі… — Васіль павярнуўся на другі бок, чутно было, як зарыпелі лавы. — Застанецца яна ў нас, а там бачна будзе, можа, не аджыве яшчэ.

Але Паліна выжыла. Праз два месяцы, акурат пасля каляд, бацькі адвезлі яе пахрысціць у царкву. І так яна засталася ў немалой сям'і Буслікаў. Дзе падзеліся тыя завушніцы, Кастусь не ведаў, калісьці, яшчэ ў дзяцінстве, ён тайком бачыў іх у матчыным куфары, дзе тая захоўвала ўласнае вясельнае ўбранства. Але пытаць пра гэта, як разумеў ён ужо тады, было не варта.

І вось цяпер прыйшоў час прызнацца маці, што ён ведае пра Паліну. Не, казаць пра тое, чаго баіцца ён сам, таксама нельга. Бо баяўся Кастусь самога сябе. Калі бацькі больш няма, а ён стаў адзіным гаспадаром у хаце, усе пачнуць гаварыць, што трэба ажаніцца. І будуць казаць слушна. Нават сам ён пагаджаецца з такой думкай, сапраўды, яму ўжо дваццаць чатыры, жаніцца можна. Але прыводзіць жонку ў хату, дзе акрамя ўласных сястры і братоў, ёсць яшчэ дзяўчынка, якая з кожным тыднем становіцца ўсё мілейшай… Як ён будзе тлумачыць сваю пяшчоту да яе? Братэрскімі пачуццямі? А калі раптам аднойчы яму захочацца пераступіць праз сямейную тайну? Кастусь разумеў, што яго адносіны да Паліны перастаюць быць проста звычайным імкненнем старэйшага брата апекаваць малодшую сястру.

І не хацеў, каб гэта кідалася ў вочы каму б то ні было. Нават маці. Таму трэба вярнуць яе да старой думкі пра пана. Няхай сабе ён нават не прызнае такую праўду, тым больш праз столькі гадоў, калі ўсе падзеі адышлі і амаль забыліся. А магіла Ізабэлы зарасла бур'яном, бо бацькі, мусіць, прыняўшы рашэнне пакінуць яе дачку ў сябе, не хацелі, каб нават грудок зямлі на могілках нагадваў пра мінулае ні ім самім, ні цікаўным аднавяскоўцам.

І канешне ж, Паліне не варта ведаць пра сваё паходжанне. Гэта анічога не здольна змяніць у яе жыцці. Яна такая ж сялянка, як і ўсе. І лічыць сябе адной з іх, Буслікаў. Што дасць ёй праўда, акрамя тугі па тым, чаго яна ніколі не зможа сабе дазволіць? Так, нарадзіўшая яе маці пахавана тут, у нашай зямлі. Але ёсць і іншая, таксама родная маці, якая вырасціла і выпеставала яе не горш за родных дзяцей. Пасля той, падслуханай Кастусём начной размовы, маці ніколі не вылучала Паліну сярод астатніх: ні добрым, ні дурным словам. Адносілася да яе абсалютна гэтак жа, як да Таццяны ці Гіленкі, не кажучы ўжо пра іх, хлапцоў. Бацька… так, магчыма, дзесьці ў далёкай невядомай ім краіне ў Паліны сапраўды ёсць родны па крыві чалавек, які даў калісьці ёй жыццё. Але, калі за ўсе гэтыя гады яму не захацелася вярнуцца і пабачыць сваё дзіця, то навошта пускаць у яе галаву нязбыўныя мары пра тое, чаго ніколі не зможа здарыцца на яве? Палінін тата — гэта тата яго, Кастуся. Іншага ў яе ўжо не будзе.

Не. Ён сам, адзін, пойдзе да пана. Ён не возьме маці з сабой. Калі пан захоча праверыць, то няхай сам яе выклікае. Калі паверыць адразу яму — няхай забярэ Паліну ў маёнтак пакаёўкай, ці хто там яшчэ ў іх служыць. Усё ж такі гэта лепшая, спакайнейшая доля, чым ад раніцы да ночы працаваць у полі. Але, калі нічога не атрымаецца, ён будзе прасіць і маліць, каб гэтая размова засталася толькі паміж імі. Пан ужо стары чалавек, дзеці яго далёка. Баяцца, што ён скарыстае маладосць і прыгажосць Паліны сабе на забаву, не варта. Магчыма, у панскіх пакоях яе хутчэй заўважыць хто

з не простых сялян, не такі вясковы хлапец, як Кастусь. А пляткарыць пра гэта… усё ж такі пан чалавек выхаваны, адукаваны, ды і навошта яму?

Так. Кастусь пойдзе да пана.

Ён зноў зірнуў на Паліну, якая дапамагала маці прыбіраць са стала пасля жалобнай вячэры, і сэрца яго прапусціла адзін удар.

Чым хутчэй ён гэта зробіць, тым лягчэй змірыцца з яе сыходам з сям'і. Цяпер, пакуль яна яшчэ не ўвайшла ў сваю лепшую пару маладосці, пакуль ён не бачыць, а толькі ўяўляе, як наліваюцца жаноцкай прывабнасцю ейныя грудзі і сцёгны, абмалёўваючы тонкую талію, як больш трапяткімі становяцца рухі, як званчэе голас і ахутвае яго мяккім воблакам ейны смех. Чым хутчэй ён здолее забыць свае пачуцці, тым прасцей знайсці роўную яму дзяўчыну, ажаніцца з ёй, нарадзіць дзяцей і пражыць свой лёс так, як яму было наканавана. Мары — дурная справа, асабліва для простых сялян. Дазволіць сабе мары могуць толькі паны.

**2000-ы**

— Якія… незвычайныя ў вас могілкі, — з цяжкасцю падабраў слова Віктор.

Пасля таго, як мы пабывалі на Бярэзіне, палюбаваліся краявідамі, пафатаграфаваліся на фоне стэлы, памаўчалі крыху, паспрабаваўшы ўявіць сабе маладога французскага афіцэра Жыльбера. Затым мама з татам спыталіся, ці не будзем мы супраць, каб заехаць у бабуліну вёску — гэта амаль побач, усяго кіламетраў дзесяць ад Студзёнкі.

Віктор, падаецца мне, увогуле не ўмее адмаўляць — яму проста не дазваляе выхаванне. А мне… так, мне цікава пабачыць, дзе ж нарадзілася бабуля. Я ніколі не была на яе радзіме, і на магілцы яе, наколькі памятаю. Чамусьці пасля мамінага расповеду пра ейную сястру, што загінула ў балоце, мяне не пакідала пачуццё сораму і жалю. Не толькі да яе ці да бабулі, якой давялося таксама шмат перажыць і ў дзяцінстве, і ў юнацтве, апаленым вайной, — а яшчэ і да самой сябе, і ўвогуле, да ўсёй маёй зямлі. Мы ведаем і вывучаем чужую гісторыю, захапляемся героямі іншых краін, атаясамліваем сябе то з рускімі, то з палякамі, забываючыся на тое, што Радзіма вымяраецца нават не мовай, на якой ты гаворыш, не веданнем галоўных дат сваёй дзяржаўнасці, не літаратурай — а тым, што дае табе сям'я і твае ўласныя продкі…

— У якім сэнсе незвычайныя? — перапытаўся тата, дасыпаючы жоўценькага пяску на магілку побач з бабулінай. Мусіць, яна таксама мела да нас нейкае дачыненне, але зразумець гэта было цяжка, бо стаяў толькі крыж з напалову сцёртым надпісам.

— Ведаеце, яны такія… неабжытыя. Не, — зморшчыўся Віктор, — зусім дрэннае слова. Неахайныя? Неўпарадкаваныя, во. У нас так акуратненька па радочках ляжаць пліты, выбрукаваны сцяжынкі — кожнаму зразумела, дзе і як адшукаць патрэбных людзей.

— Дык гэта ж вясковыя могілкі, — усміхнулася мама. — Тут усе сваіх ведаюць, вельмі рэдка прыязджаюць староннія людзі, ну, вось калі бацькоў прывозяць, напрыклад, а так хаваюць у большасці мясцовых — яны тут не заблытаюцца. Я і не вельмі хацела маму тут хаваць, у горадзе было б прасцей ездзіць. Але яна вельмі прасіла. Хацела, каб хоць хто-небудзь з сям'і разам з маці ляжаў. Тата яе загінуў пад Калугай, яна пасля ездзіла да яго. Надзі магілай балота стала. А мама тут адна…

— Гэта яе крыж? — кіўнула я ўбок.

— Так. Яна памерла, калі маме было гадоў трынаццаць, да вайны яшчэ. Паліна Пятроўна. А бацька быў Сяргей Пятровіч — нібы брат з сястрой. Ведаеце, мама казала, што яна мала што запомніла з аповедаў. Але засталося ў памяці, маці ёй казала, што ў сям'і быў звычай усіх дзяўчынак называць двума імёнамі — Паліна і Кацярына, не ведаю, чаму. А на ёй, на маме маёй, традыцыя скончылася, бо бацькі былі першыя камсамольцы ў вёсцы і вельмі савецкую ўладу паважалі, таму замест Кацярыны яе назвалі Акцябрынай. Амаль тое ж самае, аднак зусім іншы змест…

А яшчэ чамусьці маму ў яе дражнілі на вёсцы ўсе мамзэляй. Адкуль і чаму — мама ўжо не ведала. Можа, таму што далікатная надта была. За гэта яе дзед і ўпадабаў, мусіць…

Мама прымоўкла. Маўчалі і мы — кожны пра сваё. Віктор, напэўна, думаў, што не дарма ўсё ж такі прыехаў у Беларусь, спрабуючы тут адшукаць сляды свайго далёкага продка Жыльбера. Трэба будзе потым абавязкова спытаць, што, на яго думку, той адчуваў амаль дзвесце год таму, і ці магло яму, таму невядомаму нам, даўно спарахнеламу ў сваім фамільным склепе, а тады маладому і, мусіць, прыгожаму афіцэру прыйсці ў галаву, што аднойчы яго прапрапра… колькі там разоў праўнук апынецца там жа, дзе і ён. А ўрэшце ўсе мы рана ці позна апынемся там, дзе можам сустрэцца з усімі, хто даў жыццё нам, і нашым бацькам, і бацькам іх бацькоў…

Магчыма, так разважаў тата. Ці ён думаў, як жа пашанцавала яму самому, што яго родныя тата і мама яшчэ жывыя, і дай ім Бог здароўя яшчэ на шмат гадоў. Як хораша, што ў яго вялікая, дружная, моцная сваёй еднасцю сям'я, і мы з мамай — таксама яе неад'емная частка.

Мама… можа, мама ўспамінала сваё не вельмі шчаслівае пасляваеннае дзяцінства. Можа, шкадавала, што я амаль не ведаю і не памятаю сваёй бабулі, яе маці, гэтак жа, як яна не ведае сваёй…

А я думала, што, нягледзячы на тое, што я іх не ведаю, ніколі не бачыла і магу толькі здагадвацца, якімі яны былі, як выглядалі і паводзілі сябе, ці былі яны такімі ж эмацыйнымі, як мы, ці наадварот сцішана-стрыманымі, ганарлівымі ці ўсё даруючымі, пакутавалі яны ад безадказнага кахання ці прымушалі пакутаваць іншых — усе яны, хто сваёй усмешкай, хто разрэзам ці колерам вачэй, формай далоняў або нечым, не бачным на першы погляд, але значна, значна больш важным і вызначальным — жывуць ува мне. І няхай яны працягваюцца і далей…



*Яна ЯВІЧ*

# КАЛІ НЕ ЗГУБІМСЯ ПАД ПАРАСОНАМІ



***Яна Явіч нарадзілася 26 лістапада 1983 года ў Мінску. Скончыла факультэт рускай філалогіі БДПУ імя Максіма Танка. Працуе ў «Выдавецкім доме «Звязда». Вершы друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Літаратура і мастацтва», часопісах «Маладосць», «Полымя», «Бярозка». Член саюза пісьменнікаў Беларусі, аўтар зборніка вершаў «Сувязь жыццяў».***

* * *

Небу зноў раскрываю далоні
на ўлонні
прыроды.

Знічкай думка ляціць супраць ветру
ў паветра
свабодна.

А табе адкажу вершам-прозай:
«Дзень — слёзы,
ноч — мроі…»

* * *

За радкамі схаванага сшытка —
Твая іронія і мой боль,
Слёзы-перліны — тонкая нітка,
Вечар сённяшні — не з табой.

За радкамі майго лістапада —
Тваё маўчанне, мой страчаны сон…
І не абмежаваны раскладам
Гэты верш, і ўсё ж — ва ўнісон.

За радкамі — праз лёс — кіламетры.
Закляцце неба, але не праклён.
Злая восень. Істэрыка ветру.
Ноч. Агонія шэрых дзён.

* * *

Вершы не пішуцца самі сабой.
Думкі прыходзяць у снах,
Словы — адной паэтычнай страфой,
Вобразы — у вяках:

Роздум маўклівы сівых туманоў,
Купалавы казкі-сны…
Лёгкі блакіт нада мною наноў —
Неба маёй вясны.

* * *

Лічыла дні да прыезду.
Рабіла выгляд, што веру.
Але, хоць не бачылі вочы,
Ведала сэрца…
Праводзіш мяне да пад’езда —
Такія знаёмыя дзверы!..
Шкада, што пад покрывам ночы
Табе не сагрэцца.

* * *

Я чакаю цябе ў крышталях-пералівах
дажджу.
Такая тыповая для восені
суцэльная слота…
Вуліцы горада спаткаюць безліччу
капелюшоў-капюшонаў,
калі не згубімся
пад парасонамі
ў марыве
мрояў.

* * *

Там, дзе збіраецца дождж,
кандэнсуецца вечаровая казка —
расповед аблокаў…
Нават бліжэй да акенца падсяду,
каб лепей чуць,
а калі пашанцуе, то і бачыць —
цікавейшае, чым кіно ў 3D:
прысутнасць — замест эфекту.

* * *

Варта закрыць альбом:
Скончана серыя.
Неба перад дажджом —
Нават не шэрае,
Быццам саткана з хмар —
Як металічнае…
Сёння прыму твой дар —
Град, навальнічнае.
Твой разумею боль —
Не бессардэчная.
Зайздрасць — чужы пароль.
Ісціна — вечная.

* * *

Старыя цацкі на антрэсолях —
маўклівыя сведкі дзяцінства,
сузіральнікі рэчаіснасці…
Калісьці — дзяўчынкай —
жыла я ў дзівоснай краіне,
якая цяпер — іншасвет,
а я — па-за кодам доступу…

* * *

Гэта я
сціскаю застылымі пальцамі
кубак гарачай кавы
і прашу… прашу прабачэння ў неба.
Гэта я
звязваю банцікам рожкі месяца
і кажу, што так трэба.
Гэта я
не вярнуся да рання дамоў —
і тут не да месца рэўнасць!
Гэта я
з небам і знічкамі-зоркамі
звязана — крэўна…



*Дзмітрый ПЯТРОВІЧ*

# У ПАВЕТРАНЫХ ЗАМКАХ МАІХ БОЛЬШ НІХТО НЕ ЖЫВЕ

* * *

Дождж змывае тлум і легкадумнасць
І спявае з ветрам ва ўнісон.
Каралюе восеньская мудрасць,
А далей — сівы зімовы сон.

У такім самотным перадзім'і,
Калі золак — колеру крыві,
Душы зноў ачысціцца павінны
У малітве вечнае любві…

**ЖАНЧЫНЕ**

Нібыта Вечнасць у тваім палоне,
Жанчына-маці, —
ўсё перад табой
Скараецца,
бо у тваіх далонях
Жыццё.
А значыць, шчасця сэрцабой.

«Вясна», «каханне» —
ў мілых сэрцу словах
Жаноцкасць і краса была і ёсць.
А ісціна адна,
адна замова:
«Узрост любой Жанчыны — маладосць!»

**МІХАСЮ БАШЛАКОВУ**

Бачыў над Грабаўкай
белыя крылы.
Ўзнёсла-журботна-прыгожа
насілі
Іх на руках сваіх белааблокіх



***Дзмітрый Пятровіч нарадзіўся 29 красавіка 1971 года ў горадзе Заслаўе. Педагог, працаваў настаўнікам. Цяпер — вядучы стыльрэдактар газеты «Звязда». Піша вершы, прозу, музыку, займаецца краязнаўствам. Аўтар кнігі паэзіі «Белая квецень кахання» і кнігі прозы «Белая жанчына».***

Неба вандроўнікі
бела-пухнатыя…
Доўга плылі
над вясковымі хатамі
Белыя крылы
кудысьці далёка.
Рэхам згасаў
над зялёнай далінай
Ціха-ціхутка
клёкат буслiны…

* * *

На бунінскіх алеях —
цішыня.
Ды зрэдку вецер
шэпчацца з лістотай.
І потым ліст асенні
з неахвотай
Сарвецца ўніз —
яго ўжо не суняць, —
Закружыць у абдымках цішыні
У танцы сваім велічным апошнім,
Каб апынуцца
на маўклівай пожні.
І стрэне ноч ён
у асеннім дні…

* * *

На некранутым болем снезе
Які свой след пакінеш ты,
Калі ў зімовым паланэзе
Пачуеш гукі нематы?

Калі душу завеяй-сцюжай
Захоча лашчыць сакавік,
А ты заўжды у люстры лужын
Прывык шукаць свой весні лік?

…І вось праталіны на снезе —
Нібы праталіны ў душы.
Ёй у вясновым паланэзе
Так хочацца спяваць… І жыць…

* * *

Ты помніш
язмінавы водар кахання
У нашых Пралесках,
ад спёкі стамлёных?
Смак вуснаў асмяглых тваіх…
Аж да рання
Шаптаў табе словы,
душой ухвалёныя.
І пошчак салоўкі,
нібы прадказанне,
У сэрцы гучаў,
бессаромна-шчаслівым…
…Адцвіў мой язмін —
як і гэта каханне,
Чый лёс, нібы птушкі
гаротна-бяскрылай…

* * *

У парку гарадскім ляжыць дыван
З апалага шматколернага лісця.
Да перадзім’я мушу прытуліцца
Ссівелай думкай. Птушак караван
Плыве самотна над свінцовай хмарай,
«Курлы» адчайна-велічна гучыць.
А ў сэрцы восень сумная баліць
Крывавай
незагоенаю
ранай…

* * *

Шумяць стамлёныя бары.
І ў гэтым пошуме асеннім
Ледзь чуцен дзесьці угары
Птушыны спеў.
Яшчэ яснее
Пад хмарнай наміткаю даль —
На нейкі час,
пакуль туманы
Апошні свой святкуюць баль.
Нарэшце, восень.
Гэтай панны
Шчыруе світа —
да пары…
…Шумяць асеннія бары…

* * *

Я слязамі нябёсаў пральюся
На застылую глебу чакання,
Пралячу першай птушкай прадвесня
Над Заслаўем — радзімай маёй.
І — нібыта ў дзяцінства вярнуся,
У жыцця майго светлае ранне.
Жаўрукова-юначая песня
Зазвініць над бяскраем палёў…

* * *

Яшчэ адзін дзянёчак дагарэў…
Стамлёна-ціхі, ніца-трапяткі,
Ён сонцам пракаціўся паміж дрэў,
Растаў туманам шоўкава-прадкім.
На чорным полі, зорна-залатое,
Рассыпана зіхоткае насенне.
Няхай спявае сэрца маладое,
Хоць на дварэ рапсодыя асенняя…

* * *

Я крочу ў дзяцінства
па гэтым гасцінцы…
Крывошын.
Пасля — Малышы.
А потым, нарэшце, мае Галаўнінцы.
Адчую самоту ў душы,
Калі я пабачу бабуліну хату
З вачыма, паўнюткімі слёз,
І крыж раздарожны,
высока узняты,
І шэпат пачую бяроз.
Як варта, яны над маўклівым пагостам
У роздуме нізка схіліліся ніца…
…Вярнуцца ў дзяцінства —
і цяжка, і проста:
У кожнага з нас
ёсць свае Галаўнінцы…

* * *

У паветраных замках маіх больш ніхто не жыве.
Толькі вецер асенні шпурляе пярэстыя мроі
І разносіць, як лісце, па сумна-зрыжэлай траве.
І павалены дуб — быццам помнік пайшоўшым героям.

Толькі ў гэтай цішы, хоць і рэдка, ды ўсё ж паўстаюць
Шчасця дні, што сабою навекі азорылі памяць.
Тыя думкі ў паветраных замках мне жыць не даюць
Да таго, як накрые зямлю сну зімовая замець…



Мікола АДАМ

# САША

*Апавяданне*

***Алёне АКУЛІЧ***




***Мікола Адам нарадзіўся 8 студзеня 1978 года ў вёсцы Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага раёна. Вучыўся на філфаку БДУ, а таксама ў БДУК (аддзяленне кінадраматургіі), працаваў журналістам і акцёрам. Цяпер стылістычны рэдактар у выдавецтве «Мастацкая літаратура».***

**1**

Мы пазнаёміліся восенню. Яна толькі паступіла вучыцца ў «Кулёк», я ж дабіваў сваю вучобу. І восем гадоў розніцы ва ўзросце паміж намі ўвесь час віселі дамоклавым мячом, які, я не сумняваўся, аднойчы абрынецца і рассячэ нас. Банальна, як у ва ўсіх і з усімі. Але тады пра банальнасць не думалася. Ды і пра штосьці іншае таксама. Уперад я не глядзеў і нават не напружваўся зазірнуць хоць адным вокам у тое, што будзе далей. Мяне задавальняла ўсё і так.

Мы пазнаёміліся восенню. На чыімсьці дні нараджэння. З першакурсніц. Я трапіў на свята толькі таму, што дзяліў інтэрнацкі пакой з двума першакурснікамі, што былі аднагрупнікамі той, якая вырашыла адзначыць сваё васямнаццацігодзе. Мяне яна запрасіла на ўсялякі выпадак ці, калі не памыляюся, за кампанію, што ў прынцыпе адно і тое ж. Але я не крыўдаваў, наадварот, узрадаваўся, што надарыўся шанец выпіць і закусіць на халяву, ды яшчэ ў дзявочым асяроддзі. Два маіх суседы па пакоі не лічыліся. Там я ўпершыню і пабачыў Сашу.

Не, сэрца маё не ёкнула і не забухала, сілячыся вырвацца вонкі. Яно ўвогуле ніяк не прарэагавала. Бо акрамя Сашы святочны пакой упрыгожваў амаль з дзясятак першакурсніц, самых розных і на любы густ. Было шумна, весела і цікава. Вочы разбягаліся, не ў моцы засяродзіцца на якой-небудзь адной дзяўчыне. Складвалася такое ўражанне, што глядзеў я на іх, як у калейдаскоп. А вось рукам пашэнціла больш. Яны апусціліся якраз на Сашыны грудзі, калі гаспадыня вечара вырашыла ўвекавечыць момант фатаграфаваннем і папрасіла прысутных шчыльней згрупавацца, каб усім патрапіць у аб'ектыў камеры. Я проста абняў дзвюх дзяўчат, што знаходзіліся побач. Але памыліўся, бо абняў адну. Дакладней, другая перакінула маю руку з сябе на суседку. А паколькі стаяў я з тыльнага боку, то інстынктыўна абшчаперыў тую, што стаяла спінай да мяне, за грудзі. Яна азірнулася, здзіўлена паглядзела на мяне знізу ўверх (маленькі рост не дазволіў ніякі іншы варыянт), але рук маіх не прыбрала. Я бадзёра ёй усміхнуўся і падміргнуў, маўляў, усё

нармальна, толькі ў той момант зразумеўшы, дзе знаходзіліся мае рукі. Маральна падрыхтаваўся ўжо да абурэння, скандалу і да плескача па шчацэ. Аднак пранесла. Дзяўчына павярнулася тварам да камеры. На колькі секунд асляпіла ўспышка. Цікава, ці захаваўся фотаздымак у каго-небудзь з таго вечара?..

Шчыра прызнаюся, я не праводзіў Сашу да дзвярэй яе пакоя, не схіляўся над ёю, каб пацалаваць на ноч і прашаптаць нешта на вуха. Я ўвогуле забыў пра яе. Бо на той час вельмі шмат піў, гуляў і надта высока сябе нёс з тае прычыны, што запатрабаванасць мая ў студэнцкім тэатры і не толькі ажно зашкальвала. У тым, што абавязкова застануся ў Мінску, ніхто і не сумняваўся. Падумаеш, рукі патрымаў на грудзях нейкай дзяўчыны… Колькі іх было ўжо?.. А колькі яшчэ будзе?..

Мы пазнаёміліся восенню. Ішоў дождж. Не тады, а пасля, праз некаторы час. Я быў з парасонам. Яна — без. Мы амаль адначасова выйшлі з інтэрната на вуліцу. Яна спяшалася да метро. Мне было ў іншы бок. Але залева літасці не ведала. Я не пазнаў дзяўчыну ды нешта мне падказала, што я абавязаны ёй дапамагчы. Прыгажуня ж змокне да ніткі за лічаныя секунды.

Хутчэй за ўсё, мяне яна пазнала адразу. Аднак не падышла і не папрасіла падзяліцца парасонам, пад якім я стаяў і курыў. Заўсёды куру, стоячы на месцы, і ніколі — на хаду. Свой парасон яна, магчыма, забыла, а вяртацца назад дрэнная прыкмета. Карацей кажучы, яна ўгнула галаву ў лёгенькую куртачку і накіравалася да метро.

Я пазіраў ёй услед. Дакурыў. Тады пабег за дзяўчынай. Яна паспела зрабіць адзінаццаць крокаў. Схаваў яе пад парасон, узяўшы дзяўчыну за руку.

— Ой, дзякуй вялікі! — узняла яна на мяне вочы колеру светлай гарбаты.

І мяне нібы апякло гэтай гарбатай. Цяпло разлілося па ўсім целе, асабліва тады, калі рука дзяўчыны апляла маю і застыла на ёй, даверліва і спакойна.

— Нічога, што я так? — усміхнулася Саша, маючы на ўвазе сваю руку на маёй. А ўсмешка яе была неверагодная! Менавіта ёю дзяўчына і зачароўвала ўсіх вакол сябе, прынамсі, мяне адразу ж. І фігуру мела такую ж неверагодную, як і ўсмешку. З ростам, праўда, не пашанцавала крыху. Яна ледзь даставала да майго пляча, гэта на абцасах. Хаця, хто ведае, магчыма, наадварот. Магчыма, дзяўчына і павінна быць такой, як Саша, анёлападобнай, маленькай і бландзіністай…

Як жа не хацелася, каб наш выпадковы шпацыр скончыўся! А метро непазбежна набліжалася. Да яго ж ісці ўсяго дзве хвіліны, максімум тры ад інтэрната.

— Косця, — чамусьці назваў я ёй сваё імя. Хутчэй за ўсё з тае прычыны, што яе імя не памятаў. Гэта цяпер я дакладна ведаю, што яна Саша, і веданне гэтае з мяне аніякімі высілкамі не вытравіць, а тады… Магчыма, я разлічваў, што Саша таксама назаве сябе, а можа, такім недарэчным чынам я намагаўся працягнуць распачатую ёю размову.

— Я ведаю, — усміхнулася Саша. — Мы знаёміліся, помніш, на дні нараджэння… — зазіраючы ледзь не ў душу да мяне, вырашыла ўдакладніць прыгажуня.

— Канешне! — пацвердзіў я, а куды дзявацца. Ды і памятаў я ўсё, што адбывалася на тым дні нараджэння, а імя Сашына забыў. — Але давай пазнаёмімся занава, — выдаў нечакана нават для самога сябе і працягваў далей, каб не ўпусціць момант і каб не расчараваць дзяўчыну на самым пачатку сваёй дрэннай памяццю, што дзіўна для акцёра: — Мы ў дадзены момант пад парасонам і пад дажджом, як Адам і Ева на райскім востраве. — Куды мяне несла? Але спыніцца я не мог. — Аднак мы з табой не Адам і Ева, згадзіся. Таму, прашу, проста ўяві, што парасон — гэта востраў, на які ці пад які прыбіла толькі нас дваіх, а вакол і паўсюль — вада. Нам жа трэба як-небудзь звяртацца адно да аднаго, каб клікаць на дапамогу, калі нехта з нас раптам будзе тануць…

— Аляксандра, — перапыніла мяне дзяўчына, назваўшы сваё імя. Ці-то ўзнагародзіла за неардынарнасць, ці-то вырашыла супыніць ахінею, якая невядома да чаго магла разрасціся, і мякка дадала: — Саша.

Дакладна, Саша! Я ўспомніў! А як мог забыцца?..

Прыступкі ў метро набліжаліся, і нічога з імі нельга было зрабіць. Пакуль я вяшчаў пра востраў, мы амаль прыйшлі. Спусціўшыся ў пераход, склаў парасон, прытрымаў уваходныя дзверы, каб Саша прайшла ў іх без перашкод. Яна купіла праязны білет, накіравалася да турнікета, побач з якім ужо стаяў я. Я ўзяў яе руку і пацалаваў па-дзіцячы маленькую далонь. Яна мне ўсміхнулася, засаромеўшыся.

— Спадзяюся, мы яшчэ ўбачымся? — не хацеў адпускаць я Сашу, але вымушаны быў.

— Вядома, — не адмаўляла дзяўчына. — У адным жа інтэрнаце жывём. Заходзь у госці, буду рада.

Саша ціха вызваліла руку, памахала на развітанне і спрытна пабегла на платформу, да якой падыходзіў цягнік. А я стаяў, нібы слуп, і пазіраў услед, забыўшыся на тое, куды накіроўваўся, калі выйшаў з інтэрната, і дзеля чаго. Я зайздросціў у тую хвіліну Колю Дранічу, суседу па пакоі, які вучыўся на адным бібліятэчна-філалагічным факультэце з Сашаю і нават у адной з ёю групе займаўся. Ён меў магчымасць бачыць і праводзіць з ёю кожны дзень. А я… я так заблытаўся ў сабе і людзях, мяне акаляючых, што баяўся нешта распачынаць з Сашаю, баяўся яе параніць, пакрыўдзіць нейкім чынам. Я ж такі быў дурнаваты ў той перыяд свайго жыцця. А хацелася сапраўднага, чыстага, вечнага!..

**2**

Прыйсці да Сашы ў госці я вельмі хацеў. Ледзь не кожны вечар заходзіў на шосты інтэрнатаўскі паверх, набліжаўся да блочных дзвярэй, за якімі ў правым пакоі жыла Саша, таптаўся на месцы, не рашаючыся ні пагрукаць у дзверы, ні піхнуць іх, а мо адчыненыя. Як хлапчук, хваляваўся і чырванеў, ногі падкошваліся. Ніводнага разу дзверы тыя не адчыніліся самі па сабе, ніхто за імі не адчуў, што ў калідоры адбываецца з чалавекам. І ніхто не спяшаўся завітаць у блок па-суседску, калі я там стаяў нерухома з занесенай рукой перад дзвярыма, каб пагрукаць. Ды і позна ўжо было. Рэпетыцыі зацягваліся амаль заўсёды, а яшчэ ж трэба было трапіць у інтэрнат пасля іх…

Саша, дакладней, яе ўсмешка, не выходзіла з галавы. Аднак я не шукаў з дзяўчынаю сустрэчы. Не мог знайсці часу. Ды ўсё адно распытваў Колю Драніча пра яе. Але ён так нудна распавядаў і так неахвотна, бо яна яго не цікавіла, адным-двума словамі. Неяк жа ўвогуле агарошыў, сказаўшы, што ў Сашы ёсць хлопец, што той ледзь не пасяліўся ў пакоі дзяўчат…

Канешне, у яе павінен быць хтосьці. Пры такой знешнасці і адна — нонсенс. А я раскатаў губу, трэба ж. Быццам, яна ведае, быццам здагадацца мусіла, што падабаецца мне. Ды і стары я для яе. Яна пасля школы толькі, а мне хутка трыццатнік, ну, не так хутка, а ўсё ж…

Ды як я сябе ні супакойваў, ні даводзіў, што нічога ў нас з Сашаю не атрымаецца, але не думаць пра яе не мог. Яна пачала мне сніцца, ейнае імя я выводзіў пальцам на аконных шыбах тралейбусаў, у якіх ехаў у тэатр на рэпетыцы і вяртаўся назад. Толькі ж пераадолець сябе і хаця б пагрукацца ў блочныя дзверы на шостым паверсе так

і не атрымалася. Я не пазнаваў сам сябе. Ніколі яшчэ ў адносінах з дзяўчатамі не ўзнікала такіх праблем, увогуле ніякіх не ўзнікала.

Неяк мы сядзелі ў «Бярозцы» — кавярні, што насупраць станцыі метро «Плошча Перамогі» — пасля рэпетыцыі з фундатарамі спектакля, якія і частавалі, дарэчы. Гарэлка лілася ракой, стол ад закусак аж ламаўся: было весела, п’яна і хораша. А потым адзін з фундатараў замовіў нашым дзяўчатам марожанае, якое прынеслі ў адмысловым посудзе, кшталту бакалаў. І мне так захацелася ўзяць гэтае марожанае, збегчы з кавярні і прынесці яго Сашы. У тое, што зноў не рашуся нават пагрукаць у дзверы, не верылася. Але як вынесці марожанае з посудам? Убачаць жа? Не дазволяць. Ды так карцела зрабіць штосьці прыемнае Сашы, здзівіць яе сваёй увагай, каб яна зразумела, што неабыякавая мне. Хлопца ейнага ў разлік я не браў, забыўшыся на яго, нібы таго і не існавала.

Марожанае было толькі для дзяўчат, але мяне гэта не спыніла. Прынятыя колькі грамаў гарэлкі прыдалі смеласці і нахабства. Я распавёў фундатарам пра Сашу і пра тое, што хацеў бы пачаставаць яе марожаным менавіта з гэтай кавярні і менавіта тым, што стаяла на стале. Эгаістычна і не па-мужчынску, згодзен, але фундатары мяне падтрымалі. Сярод іх была жанчына, якая нават расчулілася. Такім рамантычным падалося ёй тое, што я збіраўся зрабіць. Фундатары згадзіліся, каб я ўзяў адно марожанае і вынес яго разам з посудам (а як іначай?), самі ж бралі на сябе персанал, каб адцягнуць іх увагу.

Такім чынам, я выляцеў на вуліцу, бегма спусціўся ў метро, ускочыў у апошні вагон цягніка, прытуліўся да сценкі, асцярожна трымаючы «бакал» з марожаным. Пасажыры ва ўсе вочы пазіралі на дзівака. Дарогу да інтэрната адолеў незаўважна, але не бягом, а хуткай хадою. Падняўся на шосты паверх, нават не затрымаўся каля блочных дзвярэй, штурхануў іх ад сябе, увайшоў у блок і смела пагрукаў у дзверы правага пакоя. Я не ведаў дакладна, што мусіў сказаць Сашы, але, памятаю, што вельмі многае.

Аднак Сашы не было. Дзверы адчыніла яе суседка. Я амаль не здзівіўся: з маімта шанцаваннем. Твар мой відавочна пазмрачнеў.

— Я ёй перадам, не хвалюйся, — прамовіла суседка, беручы марожанае з маёй рукі ў сваю. — Пастаўлю пакуль у лядоўню. Ёй будзе прыемна.

А мне?..

Я кіўнуў на развітанне і выйшаў у калідор.

Нясцерпна захацелася каму-небудзь з’ездзіць па твары, хоць той хто-небудзь ні ў чым і не вінаваты. Вінаваты толькі я сам. Злосць душыла, пятлёю сціскаючы горла. Каб не задыхнуцца, я тройчы выцяў кулаком па сцяне, утаймоўваючы тую злосць. Добра, што рукі былі ў пальчатках, не раскрывяніў касцякі. А чаго я чакаў? Чаго навыдумляў? Хто я Сашы такі? Мы бачыліся ўсяго два разы, і то, як звычайныя знаёмыя, нават не блізкія. Будзе яна сядзець і выглядваць мяне: дзе ж гэта я падзеўся? Чаго гэта я таптаўся на калідоры, як маленькі, і ніяк не рашаўся зайсці?.. З якой трасцы ўвогуле? Натуральна, пакуль я целяпаўся, як той дундук, пад дзвярыма, мяне і апярэдзілі. У далейшым будзе навука.

Я не ведаў, чаму адносіўся да Сашы інакш, чым да астатніх, з якімі вельмі хутка знаходзіў паразуменне і пачуваўся разняволена. З імі, іншымі, мне было лёгка і проста, і я не заганяўся, калі якая-небудзь дзяўчына мне падабалася, браў яе і ўсё. Абодва бакі, як кажуць, заставаліся задаволенымі. Тут жа дранцвеў, «заікаўся і ніякавеў», як у той песні пра капітана. А зрэшты, усе яны аднолькавыя. Гуляе недзе цяпер Саша са сваім хлопцам і ведаць не хоча… Ды і чаму яна павінна ведаць

штосьці такое пра мяне ці здагадвацца? Яна нікому нічога не павінна. Гэтак жа, як і я, калі папраўдзе.

Не магла ж Саша на самай справе чытаць чужыя думкі, прычым на адлегласці, і такім чынам уведаць, што па ёй сохне нейкі там Канстанцін. Не магла. І гэта факт.

Унурыўшы галаву ў плечы, я паплёўся на свой сёмы паверх.

Суседзяў-першакурснікаў не было. Недзе, відаць, разбрыліся па сваіх дзяўчатах ці па сферах інтарэсаў. Яны апошнім часам рэдка начавалі дома, калі домам льга назваць інтэрнатаўскі пакой. Тым лепш, спакайней і цішэй будзе.

Я распрануўся, уключыў тэлевізар і расцягнуўся на адзіным у пакоі палутарным ложку, што належаў мне. Хлопцы спалі на жалезных сятчатках, пастаўленых у два ярусы.

Ішоў нейкі фільм, такі цікавы, што я пачаў пахрапваць. Нават святло выключыў, каб заснуць і не ўставаць. А потым у дзверы пагрукалі (блочныя ніколі не зачыняліся, так што стукалі ў мой пакой), ды так настойліва і не супыняючыся, што я ажно падскочыў у ложку. Уключыў святло, зірнуў на гадзіннік. Амаль поўнач без пятнаццаці хвілін. Каго гэта прынесла так позна?.. Суседзі б не грукалі, у кожнага ёсць ключ…

Я адчыніў дзверы. На парозе стаяла Саша. Пусты «бакал» з-пад марожанага трымала ў руцэ. І радасна ўсміхалася сваёй непаўторнай усмешкай.

— Спіш? — не пытаючыся дазволу, прайшла ў пакой, плюхнулася на ложак.

Я застаўся стаяць на парозе, толькі павярнуўся тварам да дзяўчыны. Разглядаў яе і, што хаваць, распранаў адначасова вачыма. Яна, мабыць, адчула, перасмыкнулася, і шчыльней прытуліла да горла каўнер чырвонага махеравага швэдара. Адказаць я не паспеў. Саша мяне апярэдзіла.

— А я вось, — сказала, — прыйшла пахваліцца, што з’ела тваё марожанае, вельмі смачнае, дарэчы. — Голас яе быў звонкі і чысты, як крыніца. — І асабіста падзякаваць табе за такі нечаканы сюрпрыз. Даўно мяне ніхто так не ўражваў.

— Няма за што, — нарэшце вымавіў. Я не мог паверыць, што Саша ў мяне, што яна сядзіць на маім ложку і размаўляе са мной так, нібыта ведае сто гадоў.

— Ды ты садзіся, — запрасіла яна, — будзь як дома. А то мне нязручна пазіраць на цябе знізу ўгару. Заўсёды галаву задзіраць, ведаеш, як няёмка! Ты ж высокі, а я маленькая, таму змяншай сябе хутчэй.

Я з задавальненнем сеў побач з Сашай, не ведаючы, аднак, куды падзець рукі. То складваў іх на грудзях, то праз колькі секунд заціскаў іх паміж ног, а то клаў на ложак, абапіраючыся на кожную па чарзе…

— Усё нармальна? — не разумела маіх дзеянняў Саша. — Ты хоць рады мне? — раптам спытала.

— Канешне! — запэўніў я.

— Я таксама рада, што зайшла да цябе, — прызналася Саша і тут жа ўпікнула: — А ты так і не завітаў.

— Не завітаў, — уздыхнуў, вымушана згаджаючыся.

— Ну, цяпер, ужо дакладна будзем хадзіць у госці адно да аднаго, так? — зазірнула ў вочы.

— Саша, я…

Хвалюючыся ад ейнай блізкасці (вось жа дарослы ідыёт), тым не менш, я прагнуў прызнацца дзяўчыне ў сваіх пачуццях. Здагадаўшыся, відаць, што вось-вось магло сарвацца з маіх губ, выкуліцца на яе худзенькія плечы, Саша прыклала палец да сваіх вуснаў і прашаптала:

— Тс-с! Ніякіх слоў!

Яна паднялася з ложка. Але я не хацеў, каб дзяўчына сыходзіла. Зноў узгадаў, што яна нікому нічога не павінна і мне — ніхто, як і я, зрэшты, для Сашы. Зрабілася так сумна ад усведамлення таго, што надзеі, на якія разлічваў, на якія спадзяваўся, ніколі не спраўдзяцца. Мяне нават выслухаць не захацелі…

— Я пайду, Косця, — сказала Саша. — Дзякуй яшчэ раз за марожанае. — Пакуляла пустым «бакалам» перад сабой. — А гэта, — мела на ўвазе «бакал», — можна застанецца ў мяне?

Я кіўнуў, згаджаючыся.

— Добрай ночы! — пажадала Саша і рашуча накіравалася да дзвярэй.

— Я праводжу… — не менш рашуча прамовіў я.

— Ну, праводзь, калі хочаш, — усміхнулася Саша, бліснуўшы вачыма. Кволая надзея пачала аджываць у маім сэрцы.

Я ўвайшоў разам з Сашай у блок на шостым паверсе, не зважаючы на тое, што, магчыма, мяне не запрашалі. Ды дакладна не запрашалі. Было позна ўжо. Саша непрыкметна пазяхнула, калі мы спускаліся на яе паверх, аднак я заўважыў, як яна прыкрывала рот махеравым рукавом апраткі. Суседкі яе ўжо спалі.

Няўклюдна, як мядзведзь, я абшчаперыў Сашу абездвюма рукамі, прыціснуў да сябе і ткнуўся губамі ў яе вусны. Яна не супраціўлялася, і гэта мяне спыніла, рукі павіслі кульцямі. Вінаваты позірк апусціўся на мыскі чаравікаў.

— І чаго мы засаромеліся? — зашаптала раптам Саша. — Не вымушай мяне расчароўвацца ў табе.

Дзяўчына прыпаднялася на дыбачкі, каб зручней было скласці рукі на маёй шыі, і першаю пацалавала.

Не помню, колькі часу мы прастаялі ў дзявочым блоку, цалуючыся і абдымаючыся, ці вечнасць, ці некалькі хвілін...

Яна не хацела адпускаць мяне, але не магла і вярнуцца да мяне, не ў першую ж сустрэчу. Ды і хлопец у яе меўся, які пасля прыходзіў са мной знаёміцца, як з самым лепшым Сашыным сябрам. Так дзяўчына ахарактарызавала яму мяне. Нічога. Пазнаёміліся. Паціснулі адзін аднаму рукі. Ён сказаў Сашы потым, што ў мяне вельмі добрыя вочы.

Я не хацеў настойваць і вяртаць Сашу на сёмы паверх. Я бачыў, як яна да мяне горнецца, цягнецца, як ёй хораша са мной, як яна слухае кожнае маё слова… Таму не пашкадаваў, што адпусціў яе спаць. Сам заснуць доўга не мог. Выходзіў на балкон і шмат курыў. Сон адолеў пад раніцу. Я ледзь не праспаў заняткі па спецыяльнасці, якія праходзілі нават на пятым курсе. Наш выкладчык казаў, што вучыцца ніколі не позна, тым больш, калі мы выбралі сцэну. І наш апошні курс нічым не адрозніваецца ад першага, ніякіх прывілей мы не заслугоўваем, а, наадварот, — як мага болей патрабаванняў, у першую чаргу, да сябе.

**3**

Саша прыходзіла да мяне, але амаль заўсёды, быццам наўмысна, не заставала дома. Яна злавалася, хмурыла вочы, супіла бровы і падціскала вусны, незалежна склаўшы на грудзях рукі, вярталася ў свой пакой, каб суседкі-рагатушкі ўзнялі сапсаваны маёй адсутнасцю настрой. Аднак радавалася, калі я заходзіў да яе, і забывалася на ўсе крыўды, асабліва, калі была ў пакоі адна. Тады мы цалаваліся, размаўлялі пра кіно (ёй падабаліся рамантычныя меладрамы, а баявікі яна ненавідзела), тэатр (лепшым Саша лічыла Купалаўскі), літаратуру (захапленню творамі Анны Гавальды

не было межаў), пра дождж і снег, лета і восень, зямлю і неба, пра школу і Мінск… Калі гаворка заходзіла пра густы самага рознага кшталту, мы спрачаліся ледзь не да бойкі. Саша пачынала першай, раздражняючыся, кідаць у мяне падушкай. Вядома, падушку я адбіраў без усялякіх цяжкасцей, скручваў рукі і садзіў сабе на калені.

Увогуле Саша вельмі цікавілася маёй асобай. Яна бачыла ўсе мае работы ў студэнцкім тэатры, прыходзіла на кожны спектакль, а таксама ў Тэатры-студыі кінаакцёра, у якім я іграў у адной яркай і смешнай пастаноўцы. Саша захаплялася маёй творчасцю, неаднойчы казала, што я таленавіты, і ёй пашанцавала мець са мной зносіны…

Мы вельмі любілі разам глядзець фільмы па тэлевізары ў маім пакоі. Саша прыходзіла, уладкоўвалася побач на палутарным ложку, галаву клала мне на грудзіну. Заставалася на ноч Саша зрэдку, заўсёды сыходзіла да сябе. Неяк засталася. Я лашчыў яе і Саша не супраціўлялася, але ўмольна шаптала, каб супыніўся, пакуль не позна, пакуль не нарабілі глупстваў, а пасля шкадавалі пра гэта. Яна не хацела сапсаваць нашы адносіны, якімі даражыла. Я быў для дзяўчыны адзінай аддушынай і светам у канцы тунэля. Пра гэта я даведаўся значна пазней. А ў тую ноч, калі яна папрасіла спыніцца, я падпарадкаваўся, пачуў тыя словы, якія яна прамаўляла.

Я, як і Саша, не хацеў разладу паміж намі. А потым даведаўся, што ў Мінску мяне ніхто не пакіне, што паеду па размеркаванні куды-небудзь у «глыбіню Палесся», і Саша заявіла, што паедзе са мной. Я быў крануты ледзь не да слёз. Аднак згадзіцца з яе рашэннем не меў ніякага права. Дзяўчына толькі першы курс заканчвала, у яе ўсё наперадзе. Васямнаццаць гадоў — гэта так мала. Спакваля ўсё забудзецца. І я спадзяваўся, што забуду яе таксама. Вельмі на гэта разлічваў. Нават прыпыніў сустрэчы з Сашай. Праўда, нумар мабільнага запісаў на ўсялякі выпадак. П’яны тарыф дзейнічае беспамылкова і абавязкова па тых, каго мы любім.

Я не развітаўся і не паведаміў куды з’язджаю. Палічыў за лепшае не турбаваць дзяўчыну лішні раз. Сышоў па-англійску, можна сказаць. Тым больш, што ў нас нічога такога і не было.

Мне не хапала Сашы. Я трызніў ёю ўдалечыні. Зрываўся і шмат піў, а пасля тэлефанаваў ёй. П’яны тарыф не ведаў кампрамісаў. Але Саша заўсёды выключала тэлефон, як толькі чула мой голас. Не ведаю, ці з п’яным не хацела размаўляць, ці ўвогуле са мной. Я яе разумеў. Хутчэй за ўсё, дзяўчына лічыла мяне здраднікам, а здраду дараваць нялёгка. Аднак усведамленне гэтага адбывалася на цвярозую галаву. Пад градусамі ж накатвала такая моцная раз’юшанасць і злоба, што я палохаўся самога сябе. Я ненавідзеў Сашу ў тыя моманты, калі яна кідала слухаўку, набіраў зноў і зноў ейны нумар, а ў адказ чуў, што абанент выключаны ці часова недаступны. З цягам часу ўсё мінаецца. Я запэўніў сябе ў тым, што, калі Саша ніводнага разу не пагаварыла са мной па тэлефоне, значыць, чхала яна на мяне, значыць, у яе ёсць іншы чалавек, якім яна захапляецца і называе каханым. Мяне ж каханым яна ніколі не назвала. Я свядома зрабіў сябе ахвярай, а яе кабарнай сцервай, і крыху супакоіўся. Даведаўшыся пасля, што Саша выйшла замуж за мінчука, ды нарадзіла яму дачку, цалкам паставіў крыж на нас. Няма чаго злавацца і крыўдаваць.

Сваё ж жыццё ўладкаваць я не змог. Так, як прынята ў цывілізаваным грамадстве. Нікога не пакахаў, ні з кім не пабраўся шлюбам, не нарадзіў сына, не пасадзіў дрэва і не пабудаваў дом. Адным словам, няўдачнік. Не, жанчыны ў мяне былі, і нават шмат, ды ўсе не тыя, з кім можна пражыць разам усё далейшае жыццё. Аседласці ўва мне не адчувалася. Я ніколі нідзе не затрымліваўся больш як на год. Перакатваўся перакаці-полем па краіне, па малых яе гарадках і мястэчках, ствараў тэатральныя студыі ў Дамах культуры, ставіў спектаклі…

Аднойчы мне падаравалі ноўтбук у якасці прэміі за перамогу на тэатральным фестывалі аматарскага маштабу і 3J-мадэм да яго. Шчыра кажучы, гэта быў мой першы камп'ютар. Раней я неяк абыходзіўся без усялякай тэхнікі. Аднак новая рэч мне спадабалася і зрабілася незаменнай, асабліва, калі я асвоіў інтэрнэт. Выпадкова я натрапіў у адной сацыяльнай сетцы на Сашу, дакладней, на яе старонку. Інфармацыя пра яе, што змяшчалася на старонцы, фотаздымкі вярнулі адразу ў мінулае. Мы не бачыліся восем гадоў. Нават падумаць цяжка: прайшло ўжо восем гадоў!.. Я палічыў, што гэта знак, што нам абавязкова трэба сустрэцца, каб хоць запозненна, але выбачыцца перад Сашай, апраўдацца. Напісаў ёй невялікі ліст.

Недзе вечарам прыйшло паведамленне ад Сашы. Яна таксама хацела сустрэцца. Яе вельмі узрадавала, што я з'явіўся. Прызначыўшы дзень сустрэчы, чакалі яго, яму даверыўшы ўсе свае спадзяванні і надзеі. Я быў акрылены, мары, думкі, звязаныя з Сашай, узносілі на недасягальныя вышыні. Пра тое, што ў яе ёсць муж і пяцігадовая дачка, забыўся. Мяне мала хвалявала падобная акалічнасць. Галоўнае, я ўбачу Сашу, яе ўсмешку, пачую голас.

**4**

Сашын бацька загінуў, калі дзяўчыне было дзесяць гадоў. Згарэў у пажары, ратуючы дзяцей з прытулку. Пражыў усяго трыццаць тры гады. Мала хто ведаў, што ён пісаў вершы. Саша выпадкова знайшла сярод яго рэчаў на гарышчы пажоўклы, абтрапаны блакноцік, амаль цалкам спісаны татавым почыркам. Але толькі для яе гэты блакноцік з вершамі стаўся сапраўдным скарбам. Можа, з тае прычыны з татавых вершаў, якія яна ўсе ведала на памяць, узнікла і любоў да кніг, да слова. Дзяўчына нават сама спрабавала пісаць, але рэдка з кім дзялілася напісаным; можа, таму і выбар пры паступленні пасля школы быў загадзя прадуманы. Маці выгадавала адна дзвюх дачок, Сашу і яе сястру, малодшую на пяць гадоў, — адзінае, што пакінуў ёй муж у спадчыну.

У трынаццацігадовым узросце Сашу згвалціў колішні татаў сябар: зімой, у гурбе снегу. Ён доўга пасля вінаваціўся, што не змог стрымацца, што Саша занадта прыгожая, каб прайсці міма. Яна не здала яго. Ніхто пра згвалтаванне не ўведаў. Сам таго не жадаючы, татаў сябар адкрыў Сашы вочы на тое, што яна німфаманка. Аднак дзяўчына свядома і дакладна адрознівала секс ад кахання. Секс для яе нічога не азначаў, апроч задавальнення. Гэта ж несур'ёзна. Каханне — іншая справа. Таму яна і пацягнулася да мяне, як да выратавальнага вострава, адчула ўва мне роднасную душу, свайго чалавека, з якім пачувала сябе нібы дома, адпачывала, можна сказаць, і назапашвала новыя сілы, каб жыць і рухацца далей. Тое, што Саша мела да мяне, каханнем не назавеш, яно нешта большае, чым каханне...

Безумоўна, калі я знік, дзяўчына нудзілася. Былі такія моманты, калі не ведала куды падзецца ад беспрасвецця. Яна сыходзіла з інтэрната на вуліцу. Гуляла дапазна па горадзе, часцей супынялася ў Траецкім. Запозніўшыся, ішла перачакаць ноч на чыгуначны вакзал, бо пасля дванаццаці ў інтэрнат не пускалі. Там знаёмілася з дзіўнымі людзьмі, але яны ёй дапамагалі вярнуць раўнавагу і спакой, а галоўнае, забыць мяне. Бо я так моцна ўрос у яе сэрца. Саша наўмысна шукала сексуальных прыгод. Пакуль не натрапіла на чыстага хлопца, цнатлівага як дзіця. Хлопец той прыгожа заляцаўся да Сашы, а прасіць яе рукі і сэрца прыехаў да інтэрната на белым лімузіне з аграмадным букетам руж, што складаўся са ста кветак. На дзіва дзіўнае зляцеліся паглядзець два інтэрнаты і суседскія шматпавярховыя дамы. Саша думала, што будзе

шчасліваю. Праз тыдзень сумеснага жыцця яна зразумела, што зрабіла вялізную памылку. Яе муж аказаўся духоўна скупы і абсалютна не цікавіўся тым, што захапляла яе. Мастацтва? Ён увогуле не ведаў такога слова. Кнігі? Ён і кнігі — не сумяшчальныя рэчы. Яго цікавілі толькі машыны, футбол па тэлевізары з півам і чыпсамі ды рыбалка. Яшчэ праз тыдзень Саша даведалася, што лімузін, ружы і прыгожыя заляцанні — усё ўзята ў крэдыт, які павінен нехта аплачваць. Гэтым «нехта» аказалася яе мама. Яна ж плаціла кожны месяц і за кватэру, якую маладзёны здымалі. Бацькі мужа не прынялі нявестку і не дазволілі ім жыць у іхняй кватэры. Свякроў нібыта адразу разгледзела збачэнства ў анёльскім абліччы. Добра хоць, што прапісалі. Без мінскай прапіскі было б цяжка. Дачку Сашы мужавы бацькі таксама не хацелі прызнаваць. Казалі, што яшчэ невядома чыя яна, але адмаўляліся ад экспертызы ДНК. У дадатак да ўсяго муж неяк прызнаўся, што ажаніўся на ёй, каб у войска не трапіць. І каму пажаліцца, у каго прасіць падтрымкі… А Косці няма і не будзе…

Саша зачынялася ў ванным пакоі і плакала ад роспачы, уключыўшы ваду, каб не было чуваць. Пасля супакойвалася, мыла твар, набірала ротам паветра, гледзячы ў люстэрка, выдыхала, усміхалася свайму адлюстраванню і выходзіла да мужа і дачкі, як «агурок».

Трывала яна, пакуль магла. Яшчэ добра, што муж цэлы дзень прападаў на працы. Ён рабіў на Трактарным заводзе, але кім, Саша не ведала, нават не цікавілася, так ёй было ўсё роўна. Знаходзячыся ў дэкрэце, займаючыся дзіцем, у вольны час чытала раманы Гавальды і разважала. Дадумалася да таго, што вырашыла сысці. Ёй непатрэбен быў Мінск, калі ў жыцці не мелася ні гармоніі, ні суладдзя. Яна вярнулася ў свой родны невялікі гарадок да матулі. На дзіва, тая не прыняла дачку. Параіла вяртацца да мужа і наладжваць сямейны дабрабыт, гадаваць дзіця, яно ж не вінаватае. Колькі Саша ні прасіла, нават на калені падала, каб маці не цуралася яе, тая не здалася, настаяла на сваім.

Не ведаючы, што рабіць з маленькай дачушкай на руках, Саша паплялася да вакзала. Тады з’явіўся Руслан. Ён супыніў чорнага «мерына», за рулём якога сядзеў, адчыніў дзверцы і запрасіў у салон машыны. Калі яна села, спытаў, куды завезці. Саша пацiснула плячыма, таму што не ведала сама. Яна пазнала Руслана, таму не здзівілася, што ён прапанаваў паслугі кіроўцы. Яны вучыліся ў адной школе. Руслан быў на два гады старэйшы. На школьных дыскатэках заўсёды танцаваў з ёй, жартоўна абяцаў жаніцца, калі падрасце. Ён адвёз дзяўчыну да яе бабулі, татавай маці. Старая адразу пагадзілася даць унучцы прытулак, а на маці параіла не злавацца. Яна ж таксама жанчына і хоча ўладкаваць асабістае жыццё, добрага кавалера сабе знайшла, бізнесмена. Бясспрэчна, Саша толькі перашкаджаць ім пачне. А ў бабулі наадварот будзе дагледжана і яна, і яе маленькая дачушка.

Саша пражыла ў старой два гады, пакуль не выйшла з дэкрэту. За той час шмат чаго адбылося. З мамай Саша, вядома, памірылася адразу, як толькі тая прыехала да іх у госці. Дапамагала яна вельмі, усё ж такі маці. Муж тэлефанаваў зрэдку, аднак ніводнага разу не прыехаў. Відаць, таксама быў рады, што пазбавіўся ад заўсёды незадаволенай і капрызлівай жонкі. Затое Руслан прыязджаў кожны дзень. Саша ў яго закахалася. Ёй не шкада было грошай, якія ён прасіў у яе, выдумляючы кожны раз новую прычыну. Яе не бянтэжыла тое, што ён часта піў і на падпітку прыязджаў, забіраў яе і прывозіў у клуб, дзе яна таксама піла, а пасля згарала ў шалёнай ночы на скамечаных прасцінах у яго кватэры. Яе не абражалі грубыя словы з яго вуснаў. Яна ж кахала, таму ўсё даравала.

А потым Руслан здрадзіў Сашы. Нават не папярэдзіў, не сказаўшы ні слова, ажаніўся і на вяселле не паклікаў. З цягам часу жонка нарадзіла яму двух сыноўблізнят.

Як пабітая сучка, вярталася Саша да мужа ў Мінск. Яе ўгаварылі вярнуцца. І маці, і нават мужавы бацькі прасілі за сына, казалі, што ён прападзе без яе, што хопіць выдурняцца, што спакваля ўсё наладзіцца, што дачушку ім трэба гадаваць удваіх… Сашы дапамаглі і на працу ўладкавацца ў адну з дзіцячых бібліятэк сталіцы, дзе яна адпрацавала год, а пасля сышла, не паразумеўшыся з дырэктаркай. З мужам паразумення не з'явілася. Іх стасункі з кожным днём пагаршаліся. Да таго ж нечакана аб'явіўся я. І калі помніў яе, значыць, на думку Сашы, магчыма, яна памылялася на мой конт. Прамінула вельмі шмат часу. Іншы і не ўзгадаў бы ніколі пра яе існаванне. Яна ж хацела сустрэцца не менш за мяне.

**5**

Мы сядзелі на лаўцы каля Свіслачы, непадалёк ад Нацыянальнай бібліятэкі, а насупраць, на тым баку ракі, паркуршчыкі адно аднаму здавалі іспыт. З разгону забягалі на дрэва, чым вышэй, тым лепш, адштурхоўваліся ад камля і прызямляліся на ногі, круцячы задняе сальта. Відовішча было яшчэ тое. Я захоплена назіраў за хлопцамі і дзяўчатамі, якія нічога не баяліся і ўмелі вырабляць падобныя выкрутасы. Саша не бачыла іх. Яна ўвогуле нікога і нічога не бачыла, акрамя мяне. Седзячы на маіх каленях і абдымаючы мяне за шыю, распавядала пра сваё жыццё без мяне. Я ўважліва слухаў, паглядаў на паркуршчыкаў, сціскаў Сашу ў абдымках і зайздросціў самому сабе.

Яна была такой жа маленькай дзяўчынкай, як і восем гадоў таму. Вуглаватасць падлеткавая, праўда, знікла. Аднак бездакорныя формы засталіся.

Мы дамовіліся сустрэцца ў Сашын абедзенны перапынак каля галоўнага ўвахода ў бібліятэку, дзе яна цяпер працавала. Гэта было ў сярэдзіне жніўня. Я прыйшоў крыху раней прызначанага часу, уладкаваўся на скуранай канапе ў фае, дастаў трохтомнік Дос Пасаса ў супервокладцы, набыты на кніжным кірмашы, пагартаў, пакуль чакаў дзяўчыну, бо калі купляў асабліва не разгледзеў. Нерваваўся страшэнна, таму і заняў сябе гартаннем трохтомніка, кожную хвіліну пазіраючы на гадзіннік у мабільніку. Рукі дрыжэлі, ногі таксама, прычым, апошнія аж занадта.

Яна борзда спусцілася па лесвіцы, але па баках не глядзела. Я замітусіўся, як толькі пабачыў дзяўчыну. Пасля супыніўся і проста пазіраў на Сашу, праводзіў позіркам за ўваходныя дзверы. На ёй былі атласная чорная майка, белыя капры, ружовыя басаножкі ў стразах, пазногці на ножках пакрытыя барвовым лакам. Валасы, сабраныя ззаду, крабікам мацаваліся на патыліцы, адмыслова пакідаючы кончыкі ў выглядзе пальмачак, і адкрывалі зроку спакушальны выгін шыі ў светлым пушку.

Саша стаяла да мяне спінай, калі я выйшаў следам за ёй. Як яна прызналася пасля, не ўбачыўшы мяне на дамоўленым месцы, разгубілася і не ведала, што рабіць: ці тэлефанаваць мне, ці адразу заплакаць, падмануўшыся ў чарговы раз. Але тут пачула сваё імя.

— Саша, — прамовіў я.

Дзяўчына азірнулася. Вочы яе заблішчэлі. Яна кінулася мне на шыю, моцна прытулілася. Я абхапіў яе стан, папраўдзе кажучы, нават не спадзеючыся на такі цёплы прыём.

— Косця! — шаптала Саша. — Ты прыехаў! Ты сапраўдны! — І пачала асыпаць мяне пацалункамі, баючыся, відаць, не паспець, раптам я толькі ёй мроюся. Пасля ўхапіла за руку і пацягнула ў парк, каб хоць сорак хвілін пабыць сам-насам з самым родным чалавекам на зямлі пасля, вядома, памерлага таты.

А я быў разгублены. Спадзяюся, маёй разгубленасці Саша не заўважыла. Я разгубіўся таму, што Саша так проста сваёй шчырай захопленасцю мной скасавала ўсе тыя гады, якія прабеглі паўз нас, але без нас, нібыта іх і не існавала. Яна здолела падмануць час, стварыўшы ілюзію таго, што наша сустрэча адбылася не праз восем гадоў, а максімум некалькі дзён мы не бачыліся. Прынамсі, такое ўражанне ўзнікла ў мяне, нягледзячы на доўгі Сашын маналог.

Я слухаў дзяўчыну, не перапыняючы. Ейнага мужа і Руслана адразу ўзненавідзеў. Калі яна скончыла свой аповед, тут жа зразумеў, што Саша толькі мая і нікому я яе не аддам. Вельмі ж шмат і так згублена, каб страціць адно аднаго яшчэ раз. Гледзячы ёй у вочы сказаў:

— «Ты и есть мой Бог. Тебя зовут Любовь».

Гэта словы з нейкай песні, якую я не памятаў і нават не ведаў, хто яе выконвае. Аднак як яны пацэлілі!..

Саша сур'ёзна паглядзела на мяне і прамовіла:

— Паўтары тое, што сказаў…

Я паўтарыў. Я гатовы быў паўтараць тыя словы зноў і зноў, таму што яны цудоўным чынам падабаліся Сашы. У доказ маёй праваты яна прыхінулася да мяне, пагладзіла па барадатай шчацэ, доўгім, абяцаючым пацалункам апякла мае вусны.

Апошнія дзесяць хвілін спаткання мы моўчкі сядзелі і цалаваліся, абняўшыся. Думаць не хацелася і верыць не хацелася ў тое, што Саша вернецца на працу, а мне давядзецца ехаць з Мінска ў правінцыю… І калі мы сустрэнемся?..

Яна не хацела сыходзіць, я — яе адпускаць, аднак трэба было развітвацца. Што цяпер нас чакала?

Саша абяцала тэлефанаваць. Яна нічога не патрабавала і ні на чым не настойвала, але я ведаў, што ёй шкада мяне і сябе ў дадатак. Цяпер перашкодай стала адлегласць. Нягледзячы на тое, што час аказаўся пераможаным намі, перамогу святкаваць яшчэ рана. Ды нічога, галоўнае — усё ў нас наперадзе. Я свята ў гэта веру...



*Анатоль ТРАФІМЧЫК*

# НАСЛЕДАВАННЕ

*Я помнічак стварыў сабе клавіятурны,*
*Не знішчыцца на ім ніводны каментар.*
*Узнёсся ён вышэй абмеркаванняў бурных,*
*Сублімаваўшы сотні мар.*

*Увесь я не памру. Мой блог у віртуале*
*Мяне пераўжыве, ад небыцця ўцячэ.*
*І слынны буду я — і што б вы ні казалі! —*
*Хоць буду я УЖО, а ён будзе ЯШЧЭ.*

*Спасылкі на мяне — па ўсёй вялікай сетцы,*
*І Гугал назаве маё імя не раз.*
*Лацінкаю яно таксама адзавецца,*
*І выплыве мой твар у профіль і анфас.*

*І доўга буду тым карысны я і гэтым,*
*Што помнічкам сваім я смех справакаваў,*
*Што ў нелірычны век лірычныя паэты*
*Шчэ пішуць усур'ёз, а часам — для забаў.*

Святлана БЯЗЛЕПКІНА

# ЛІНІЯ ДЗЮРАНДА[1]
*Аповесць*



***Святлана Бязлепкіна нарадзілася 31 жніўня 1957 года ў вёсцы Малейкі Брагінскага раёна. Па адукацыі журналіст, працавала ў раённым і абласным друку. Аповесці і апавяданні друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Полымя» і газеце «Літаратура і Мастацтва». Аўтар кнігі прозы «Чарнобыльская русалка».***

**1**

Штосьці не падабалася Аседачу ў гэтым звычайна сціплым, а цяпер шумным ды абыходлівым Кругліку. І нават не цешыла вока наваколле: ціхая мясціна ля ракі з арэшнікам і чаромхай, цікаўная сінічка, якая спрабавала падабрацца ледзь не да стала, апантанае пераграукванне дзятла недзе ў соснах непадалёку. Спрацоўваў «афганскі сіндром» — не падабалася нешта, і ўсё, і гэтае паганае адчуванне вярэдзіла душу, а тлумачэнне ніяк не знаходзілася.

— За жанчын, Міхалыч! Каб мы заглядваліся на іх, а яны шанавалі нас! І спакушалі! — Круглік задаволена рагатнуў.

Піць не хацелася, чамусьці ўспомнілася, як любіў перарабляць «барадатыя» жарты даўні сябар Аседача генерал Гаўрылаў, кшталту «не п'ю ні з хворым, ні з падлюкай». Сцяпан любіў застоллі, была б добрай закуска ды прыемнай кампанія. З закускай усё тут у парадку, пры сённяшніх прадуктовых дэфіцытах абрус-самабранка раскінуты на зайздрасць любому маскоўскаму спецбуфету, а вось з кампаніяй…

Палкоўнік Круглік сыпаў тостамі, мітуслівa падсоўваў то лепшы кавалак рыбы ці мяса, то агурок ці памідор і, зрэдку зыркаючы на гадзіннік, жартаўліва пагражаў: «Не паедзем, таварыш масквіч, пакуль усё не з'ямо. Жаданне гаспадара — закон!». Непадалёку ля «уазіка» драмаў на траве кіроўца, драмаў чуйна, бо як толькі Круглік загадаў: «Сяржант, скокні за мінералкай», як хлопец падхапіўся, і праз хвіліну ягоная машына вырульвала на лясную дарогу.

— Навошта вада, не трэба! — запозненa запярэчыў Аседач, усведамляючы, што баранавіцкаму палкоўніку карціць спаіць яго, і не толькі за мінералкай паімчаў сяржант.

---

[1] Лінія Дзюранда — лінія сучаснай дзяржаўнай мяжы між Афганістанам, Пакістанам і Індыяй, якая была ўстаноўлена паміж Афганістанам і брытанскімі каланіяльнымі тэрыторыямі ў Індыі па дамове, падпісанай у Кабуле ў 1893 годзе. Названа па імені сакратара замежных спраў брытанскай каланіяльнай адміністрацыі М. Дзюранда.

— Трэба-трэба, Міхалыч, — зусім ужо фамільярна ляпаў па плячы госця Круглік і цягнуўся адкаркоўваць апошнюю бутэльку, але не мог патрапіць штопарам і ўсё выбачаўся:

— От халера, разабрала мяне як зялёнага цуцыка. Я ж магу жбан выпіць, верыш, Міхалыч? — размахваў рукой са штопарам палкоўнік. — Не, ты не думай, Круглік шчэ не закругляецца, — смяяўся, відаць, свайму заўсёднаму жарту палкоўнік, смяяўся так, што слёзы цяклі па ягоных нібыта надзьмутых шчоках.

І было ў гэтых жартах і ў гэтых слязах штосьці тэатральна-няшчырае, але Аседач упарта адганяў нядобрае адчуванне і налягаў на закусь. Ну, пераігрывае крыху Круглік, падлізваецца з усіх сіл, дык і матывы дужа празрыстыя: казаў жа ён пару дзён таму, што ў Маскве ў яго сябар-аднапалчанін жыве, небарака-інвалід, са шматдзетным сямействам туліцца ў аднапакаёўцы, што і рады б Круглік наведаць таварыша, ды няма дзе спыніцца, а маскоўскія гасцініцы яму не па кішэні.

— Няма праблем, заязджай да мяне, — шчыра запрашаў Аседач, распавядаючы, што з ахвотай прымае сяброў па Афганістане і сяброў сваіх сяброў, каго лёс закідвае ў сталіцу, і што ў халасцяцкай двухпакаёўцы гасцям заўсёды хапае месца.

Ён і сапраўды любіў гэтыя «наезды» сяброў, з якімі і пуд солі калісьці з’елі, і радней братоў родных былі ў тым афганскім пекле, ды і цяпер стасункі з хлопцамі, якіх лёс раскідаў па ўсёй краіне, радуюць неймаверна. Да таго ж справа, якой апошнім часам займаецца Аседач, звязана менавіта з вывучэннем бяспекі на памежных тэрыторыях СССР, і тут інфармацыя «з першых рук» і шчырыя меркаванні сяброў, якія служаць цяпер хто ў Арменіі, хто ва Узбекістане, а хто на заходніх рубяжах, вельмі каштоўныя. А што да гасціннасці Кругліка, дык і Аседач казаў, што ў Беларусі дагэтуль не давялося бываць, хаця ягоныя карані адсюль, што вельмі хацелася зірнуць на радзіму свайго бацькі, беларуса па нацыянальнасці, і што баранавіцкія ваколіцы — тыя мясціны, дзе калісь жылі продкі Аседача. Ён і ў інспекцыйную паездку таму напрасіўся, каб не толькі адарвацца ад папер ды тлуму сталічнага.

У Беларусь хацелася з’ездзіць яшчэ і таму, што карцела пабачыцца з Валодзем Шпакоўскім, які, нягледзячы на свой «праўдарубскі» характар, паспеў у Мінску зрабіць зайздросную вайсковую кар’еру. Прыгадалася іх першая сустрэча, калі яны двое сутак у гарах Гіндукуша чакалі мясцовага «падсаветнага» і ягоных «агентаў». «Праўдаруб» Валодзя тады забаўляў афіцэраў рознымі гісторыямі.

— Мой бацька Прагу вызваляў у 1945-м, а калі перад пенсіяй яго турыстычнай паездкай узнагародзілі, дык пакаёўка ў гатэлі, жанчына прыкладна такога ж веку, пра рускую акупацыю нагадала. — Кароткая ж у вас, пані, памяць, — паўшчуваў ёй тата. — Забылі вы штосьці, як плакалі і абдымалі мяне калісьці.

А пані прыняла ягоны жарт на веру і аж разгубілася. І кажа: «Дык гэта былі вы?»

— Так і мы «дзякуй» наўрад ці атрымаем ад афганцаў, нават калі гадоў праз дваццаць прыедзем сюды ў турпаездку, — жартаваў Шпакоўскі, не зважаючы на малазнаёмага лейтэнанта Аседача, які быў з ваеннай контрразведкі.

Так, на двары быў 1986 год, ніякіх ілюзій ужо не мелася ў савецкіх афіцэраў, і як казаў цяпер генерал, а тады палкоўнік Гаўрылаў, галоўная задача ў гэтым годзе на павестцы дня — самому выжыць і зберагчы сваіх салдат, і ўсё ж капітан Шпакоўскі быў неабачліва смелым на язык. І на справе ён аказаўся не менш смелым, калі замест «падсаветнага» з ягонай світай дачакаліся ўзброеных духаў. Аседач з калегамі ўмелі працаваць з агентамі, распрацоўваць бліскучыя планы па разведцы і контрразведцы, адсочваць і аналізаваць сітуацыю ў маштабе правінцыі ці некалькіх і многае іншае. Але ваяваць? Напачатку ім нават зброя не дазвалялася, маўляў, вашай

зброяй з'яўляюцца розум і кемлівасць. І яны хутка скемілі, што беражонага Бог беражэ і пры сабе трэба мець хаця б пісталет. А Шпакоўскі быў, як любіў паўтараць, «родам са спецназа», і як сапраўдны спецназавец, ён загрузіў безпамерны заплечнік да самага верху.

— Ты што, Валодзя, як той смоўж, трохпавярховы дом за сабою нясеш? — падсмейваліся з яго ў той дзень саветнікі.

— Паесці люблю, асабліва ў засадзе, — аджартоўваўся Шпакоўскі.

Якая там засада? Ішлі, здаецца, на нескладанае заданне, мінімум рызыкі, так, усяго толькі трэба мець цярпенне, бо давядзецца чакаць можа дзень, а, можа, і тыдзень сваіх агентаў у такую адскую спякоту. Але «духаў» тут не разлічвалі ўбачыць, бо раён «прыстрэлены», чысты, паўгады ўжо абсалютна бяспечны. На трэці дзень яны і расслабіліся, пайшлі анекдоты, незвычайныя гісторыі, спаборніцтвы ў дасціпнасці. Пад раніцу заснулі, добра, што вартавы аказаўся пільным. Вось тады і спатрэбіўся «трохпавярховы дом» Шпакоўскага — з арсеналам зброі і рацыяй. У шпіталі Сцяпан успамінаў, як упэўнена вёў бой Валодзя і якімі няўмекамі апынуліся яны, саветнікі. Там, у шпіталі, параненаму доўга сніўся адзін і той жа сон, які заканчваўся кожны раз аднолькава: адчайна крычыць Шпакоўскі па рацыі: «Лінія Дзюранда! Лінія Дзюранда!» Гэтым паролем давялося потым карыстацца шматкроць, калі траплялі ў падобныя сітуацыі напрыканцы вайны.

Праз чатыры гады ў кватэры Аседача на досвітку трывожна зазваніў тэлефон:

— Лінія Дзюранда, брат! Мой хлопчык у бядзе!

Сцяпан дапамагаў ратаваць Валодзевага сына, якому спатрэбілася складаная аперацыя на сэрцы, а ў Мінску ў той час не было хірургаў такога ўзроўню. За тыдзень знайшлі і ўрачоў, і месца ў клініцы з усімі адпаведнымі ўмовамі. Афган паяднаў Аседача і Шпакоўскага на ўсё жыццё, нягледзячы на адлегласці ды іншыя абставіны. Сустракаліся, праўда, нячаста, усё больш у Аседача ў Маскве, і вялі гарачыя размовы за кубкам гарбаты ці больш моцных напояў.

З Валодзем дамовіліся сустрэцца заўтра, а пакуль Аседач вымушаны слухаць надакучлівага Кругліка з ягонай няшчырай балбатнёй.

— О, мужыкі, занялі чужое месца, гэта нядобра, мужыкі, — раптам над іх галовамі навіслі тры вясковыя бугаі.

— Ціха-ціха, хлопцы, — замітусіўся Круглік, — сядайце да нашага стала, і вас пачастуем ад душы. Вось каўбасу бярыце, памідорчыкі.

— Ты, дурыла, спачатку налі, а потым ужо закусь прапаноўвай, — ляпнуў па плячы Кругліка адзін з няпрошаных гасцей.

Але аказалася, што наліваць няма ў што, бо ў запасе застаўся адзін аднаразовы кубачак. Круглік зірнуў на Аседача і па-змоўніцку падміргнуў, маўляў, хай хлопцы з нашых пасудзін вып'юць, а мы ўжо як-небудзь пераб'емся. Іншым разам Аседач паказаў бы гэтым нахабнікам, як напрошвацца да чужога стала, але цяпер прамаўчаў. Няхай выкручваецца Круглік, сам запрасіў на прыроду, сам няхай і ўлагоджвае «абарыгенаў». Добра яшчэ, што ваенную форму не апраналі, інакш бы сораму не абабрацца, як трое цывільных двух баявых афіцэраў «апусцілі».

— А ты чаму не п'еш з Васем, брыдка табе? — сціснуў плячо Аседача адзін з хлопцаў, і палкоўнік умомант працверазеў, адчуўшы, якія моцныя рукі ў Васі і міжволі адзначыўшы, што і паплечнікі ў таго не хлюпікі.

Трое цвярозых «доўбняў» супраць дваіх не хліпкіх, але ж на падпітку баявых афіцэраў — гэта не жарты. Да таго ж Аседачу зусім не выпадала канфліктаваць з гэтай кампаніяй, якая, па усім відаць, адпачатку настроена агрэсіўна і толькі чакае любой зачэпкі. У Маскву неабходна вярнуцца з непабітым тварам, бо па вяртанні

запланавана важнае субяседаванне, а ўслед шэраг візітаў да featuresрознага начальства з усімі наступствамі павышэння па службе.

— Што, інтэлігент, брыдка з намі піць? — насоўваўся на Аседача другі прыхадзень, гуляючы тоўстай палкай, а Вася грозна навіс над Круглікам, які круціў галавой, відаць, у спадзеве на вяртанне свайго сяржанта.

— Толькі гаўкні, і я раздаўлю цябе тут, як гніду, ты мяне зразумеў? — папярэдзіў Вася.

Круглік зразумеў і разгублена глядзеў на Аседача, які ўмомант усвядоміў, што палкоўнік размазня, і разлічваць давядзецца на сваю кемлівасць ды, можа, яшчэ на падмогу сяржанта, які неўзабаве павінен вярнуцца.

— Ну чаму ж брыдка? — Аседач абвёў позіркам усю кампанію, заадно «фатаграфуючы» ваколле, якое па даўняй вайсковай звычцы разведаў яшчэ раніцай, пакуль Круглік накрываў на стол.

— Ты вось у войску служыў?

Варта пацягнуць час, і пакуль можна якуюсьці байку пра армію расказаць, а там будзе бачна па абставінах, што рабіць далей.

— У арміі цяпер толькі дурні служаць, а мы ж не лохі. Праўда, хлопцы, мы не лохі? — спытаў Вася, і «не лохі» разам зашумелі. Вася засунуў руку ў кішэню, у руцэ апынуўся касцет, і ён задаволена прадэманстраваў сваю цацку. Круглік, адступаючы да кустоў’я, прасіў:

— Х-хлоп-пцы, не трэба, калі ласка, не трэба!

А потым закрычаў: — Таварыш палкоўнік, бяжыце ў лес, я вас прыкрыю.

— Дык ён яшчэ і палкоўнік, га-га-га! — зарагаталі хлопцы, умомант страціўшы цікавасць да Кругліка і падступаючыся да Аседача. Сцяпан схапіў непачатую бутэльку гарэлкі і папярэдзіў:

— Я прайшоў Афган і не раю біцца. Разыдземся мірам!

— Дык ён маджахед! — рагатнуў Вася, гуляючы касцетам, — а калі ты маджахед, то павінен нам паказаць, чаму цябе там навучылі ў Афгане!

Ён падышоў ушчыльную да Сцяпана і ўдарыў касцетам таго ў плячо.

— Правіла нумар адзін, ніколі не нападаць першым! — выгукнуў Сцяпан і кінуў бы тую гранату бутэльку. Потым шпурнуў «дыпламат», штосьці яшчэ са стала і, упэўніўшыся, што Круглік знік у лесе, рвануў да ракі. Ззаду быў чутны тупат ног, але Аседач, у мінулым першаразраднік па бегу, добра-такі адарваўся ад сваіх праследнікаў. Раптам ля берага з кустоўя на яго выскачыў яшчэ адзін «бугай» і агрэў чымсьці па галаве. Сцяпан нагою даў яму ў пах і кінуўся ў ваду. Недзе на сярэдзіне ракі, пераканаўшыся, што хуліганы не кінуліся даганяць, ён дазволіў сабе крыху адпачыць.

Праз хвілін дзесяць, перабраўшыся на другі бераг, Аседач дэманстратыўна пайшоў наперад («хай бачаць, што кіруе ў вёску»), а потым схаваўся ў ракітніку і дзе паўзком па-пластунску, а дзе кароткімі перабежкамі вярнуўся назад, да нізкага берага ракі, адкуль магла чакаць яго небяспека. Што кіравала Аседачам, святое ваеннае правіла «сам загінь, а таварышу дапамажы», няхай сабе гэты таварыш даў драла, забыўшыся пра маскоўскага госця? Ці жаданне рэабілітавацца ва ўласных вачах і запэўніцца, што быў зроблены правільны выбар? Вайсковы закон «разабрацца ў сітуацыі» ці адвечны «афганскі сіндром», калі нешта падсвядома кіруе табой, і ты ў палоне гэтага «нешта» паддаешся безразважлівасці? Стомлены і злы, Аседач падкраўся да прыбярэжнага кустоўя.

На тым беразе, дзе нядаўна распачаліся гвалт і бойка, цяпер было незразумела што. Палкоўнік Круглік бегаў ля ракі і, склаўшы далоні рупарам, крычаў:

— Таварыш пал-коў-нік, та-ва-рыш па-скуд-нік, маць тваю! Куды ж ты ўцёк, дэзерцір за-сра-ны!

— Дагонім, Кругляк, не ный! Дагонім і добра морду наб'ём! Далей вёскі ён не ўцячэ! — перабіваў нехта.

Аседач не верыў сваім вачам: побач з Круглікам стаялі і сяржант-кіроўца, і шасцёра ваяўнічых «абарыгенаў». Такі магутны «дэсант» па яго сціплую душу? Ага, значыць, адзін віжаваў ля ракі, а двое хаваліся ў лесе, куды раіў уцякаць добразычлівы Круглік? Але дзеля чаго быў разыграны гэты спектакль?

Аседач ляжаў і пільна сачыў, як кампанія ўтрамбоўвалася ва «уазік», як машына развярнулася на ўзлессі і хуценька знікла. Яшчэ хвілін дваццаць ён услухоўваўся ў цішыню, пераконваючыся, што на тым беразе нікога не засталося, а потым падпоўз да ракі і ціхенька паплыў, спачатку нырцом, потым, не хаваючыся, прыкладна на паўкіламетра вышэй таго месца, дзе быў пікнік. Круглік, няйначай, цяпер паехаў «прачэсваць» вёску, у кірунку якой Аседач зымітаваў сваё бегства, і самае разумнае, што варта цяпер зрабіць, дык гэта вярнуцца на супрацьлеглы бераг і знайсці магчымасць патэлефанаваць Валодзю Шпакоўскаму. Сцяпан, крадучыся, прайшоў лесам да шашы, з узгорка «прымерыўся» да бліжэйшай вёскі. Страшэнна балела галава, тады ў запале не адчуў, што яго добра лупцанулі, а цяпер, перасільваючы боль і стому, ішоў наперад: калі Круглік дамчаў да вёскі на супрацьлеглым беразе (мост праз раку яны праязджалі па дарозе на пікнік) і запэўніўся, што палкоўніка там няма, на пошукі можа падключыць і большае «войска».

Сцяпан перакананы, што ў такой сітуацыі яму нельга спадзявацца на вайскоўцаў. Як любіў казаць у Кандагары тагачасны палкоўнік, а цяпер генерал Гаўрылаў, лінія Дзюранда занадта няпэўная, каб сказаць, дзе тут «свае», а дзе чужыя. І палкоўнік Круглік з ягонай хеўрай былі для Аседача загадкай: свае маглі біць па сваіх у Афганістане толькі з прычыны фатальнай памылкі. А тут не памылка ці непаразуменне, тут брыдота, здрада і яшчэ невядома што. Круглік хацеў забіць яго, пакалечыць ці ўсяго папалохаць? Але навошта? І падлізваўся спачатку, каб потым напаскудзіць? Якія ў гэтым сэнс і логіка?

За тыдзень праверкі ні Аседач, ні ягоныя калегі з кантрольнага ўпраўлення галоўнай ваеннай інспекцыі не знайшлі вялікіх хібаў, усё было ў межах нарматыўных дакументаў, пра што на «разборы палётаў» і было дакладзена дывізіённаму камандаванню. І Круглік, якога начальства з першага дня «прымацавала» да маскоўскіх кантралёраў, паводзіў сябе як шчыры беларус: сціпла ды стрымана, без мітусні. Палкоўнік пасля завяршэння рабочага дня нікому з чатырох масквічоў не аддаваў перавагі, але чаму на прыроду запрасіў аднаго Аседача? І як здарылася, што Аседач з такой ахвотай пагадзіўся адпачыць у кампаніі Кругліка?

Стомленасць была такой, як калісьці ў Кандагары на вышыні 3200 метраў, калі хлопцы з пагранзаставы, дзе выконвалі спецзаданне Аседач і група так званых «саветнікаў» — байцоў спецпадраздзялення, два дні запар адчайна адбіваліся ад маджахедаў, не разлічваючы ўжо на падмогу. Сцяпан на імгненне правальваўся ў непрытомнасць, намаганнямі волі загадваў прачнуцца і ўпарта рухаўся ў кірунку вёскі, што ўздымалася за лесам і ападала за вялізным полем, якое яшчэ трэба было пераадолець. Азіраючыся раз-пораз, ён з лесу перабраўся ў поле і, блукаючы ў жыце, натрапіў на сцежку, вузкую, звілістую і небяспечную. Ні ў якім разе яму не патрэбны ніякія сведкі. Сцяпан абачліва кінуўся ў жыта, калі пачуў наперадзе галасы, і доўга ўслухоўваўся ў шолахі навокал.

Вёска выходзіла да поля агародамі. Пасля бясконцых сланечнікаў і кукурузы ён убачыў грады: памідоры, гуркі, капуста і іншая трасца беспарадкава раслі між

калючага гарбузніку. Аседач толькі цяпер заўважыў, што ён без абутку, і спрабаваў вылезці на разору, але разоры нідзе не бачылася, быў суцэльны калючы лабірынт зялёна-жоўтых прамакутнікаў і квадратаў, які заблытваў, заводзіў то ўбок, то назад, то зноў убок, і шэрыя хлеўчукі і парканы наперадзе таксама кружлялі, у вачах мітусіліся зялёна-жоўта-шэрыя колеры, як у кішлаку-лабірынце, які быў і паратункам, і пасткай адначасова. Налева, направа, яшчэ раз налева, схавацца, перачакаць, зноў налева…

— Не страляйце, я свой! — выгукнуў Аседач перад агаломшанай дзяўчынай і страціў прытомнасць.

**2**

Алеся магла б здагадацца, што ніхто не гнаўся за гэтым няшчасным мужчынам і што перад ёю хворы на галаву чалавек. «Не страляйце!» Хіба ў сваім розуме будзеш такое казаць дзяўчыне, якая трымае ў руках капаніцу, а не пісталет ці аўтамат? Спачатку яна спалохалася гэтых слоў, убачыўшы на падворку пабітага, абарванага чалавека, усё аблічча якога паказвала на тое, што яго нехта праследуе. Алеся пакінула незнаёмца на аўчарку Ахмада, а сама асцярожна вызірнула туды, адкуль з'явіўся мужчына. На здзіўленне на агародах не было ні душы, нават суседка баба Вольга схавалася ў хаце, хаця і ў спякоту часцяком корпалася ў градах. Але ж сёння было страшэнна горача: усё наўкол абвяла, і толькі сланечнікі мужна павярнулі галовы насустрач сонцу ды нястомныя пчолы ўткнулі свае джалы ў кветкі шыпшыны ля паркана.

Ахмад сядзеў каля мужчыны, высалапіўшы язык, сабаку таксама было спякотна, але ён з хваляваннем сачыў за непрытомным небаракам.

— Што рабіць, Ахмадзік? Выклікаць «хуткую»? — пыталася дзяўчына.

Сабака паглядаў то на мужчыну, то на Алесю, але ці можна чакаць ад маўклівай жывёліны нейкай парады? Да пошты кіламетры два, не меней, а чалавека аднаго не пакінеш. І суседзяў клікаць не выпадае: учора выпадкова пачула, як на лаўцы цётка Каця, баба Воля ды іншыя маладзіцы «абгаворвалі» дзяўчыну: маўляў, прылабунілася тая да Кацубіхі, радней дачкі роднай стала, а з Ванькам ейным мо ўсяго дні тры як была знаёмая, а вось жа, паспела ва ўдовы «запісацца», і ў горадзе, быць таго не можа, каб не мела якога ўхажора.

І як пасля гэтага клікаць на падмогу тую ж бабу Волю альбо цётку Кацю? Плётак будзе на ўсю вёску, не адмыешся ад такога бруду ніколі. Алеся прынесла кубак вады і асцярожна выліла яе на твар мужчыны, той варухнуўся, прашаптаў нешта незразумелае, расплюшчыў і зноў заплюшчыў вочы. Дзяўчына ўзяла яго руку, палічыла пульс. 67 удараў у хвіліну — зусім няблага ў ягоным стане. На руцэ мужчыны нечакана расшпіліўся бранзалет. І бранзалет, і гадзіннік адмысловыя, хаця і брудныя. Алеся падабрала гадзіннік, на зваротным баку цыферблата заўважыла гравіроўку: «Кабул —Кандагар — лінія Дзюранда, 1988». Сэрца дзяўчыны моцна закалацілася.

Гэты чалавек з «афганцаў»? Алеся неймаверна расчулілася, шкадуючы незнаёмца, сябе, цётку Дзіну, якой пры згадванні пра Афганістан дакладна давялося б выклікаць «хуткую дапамогу». Чаму менавіта ў іхні двор патрапіў гэты мужчына?

Можа, гэта нейкі знак, нейкая падказка лёсу? Яна ўглядалася ў твар, досыць звычайны, калі б не гузак на ілбе і «заплыўшае» вока, глядзела на фігуру, моцную і зграбную адначасова, на адзежу, брудную і парваную, у якой ледзь угадваліся кашуля і шорты з лэйбламі на кішэнях. Так лёгка апранутымі гэтым спякотным летам ходзяць і ў вёсцы, і ў горадзе. Дзяўчына не магла вызначыць, мясцовы чалавек ці

прыезджы, бо сама была нетутэйшай і ў вёсцы ведала адно што бліжэйшых суседзяў цёткі Дзіны з вуліцы Савецкай ды прадавачку харчовай крамы Руслану.

Чалавека хтосьці збіраўся абрабаваць? Гадзіннік хаця і адмысловы, але, відаць, танны. А вось тоўсты ланцужок з маленькім медальёнам — залатыя.

Алеся не вытрымала, зняла ланцужок з медальёнам, расшчапіла створкі і ўбачыла там не жаночы партрэт, а нейкую паперку. І адразу здагадка апаліла яе, нібы жар. Яна хапатліва разгарнула малюпасенькую паперку. Малітва пачыналася словамі «Живый в помощи Вышняго, в крове Бога Небеснаго водворится…». «Живый в помощи…». Якое ж цяжкое, відаць, у гэтага чалавека і пасляафганскае жыццё, калі ён носіць гэты медальён і спадзяецца на ўсемагутнасць і ўселагоднасць старадаўняй малітвы.

У Афгане многія насілі пры сабе малітву, была яна і ў Вані, і малітва сапраўды дапамагала хлопцу паўтара гады на вайне. А вось у небе над Кандагарам, калі мула на ўвесь горад крычаў сваю малітву «Алах акбар! Алах акбар!», а самалёт з «дэмбелем» ужо браў кірунак да СССР, праваслаўная малітва, відаць, страціла сваю сілу, бо самалёт быў збіты маджахедамі. Ваня верыў, што вернецца жывым, у кожным лісце так і пісаў: «Я беражоны, не перажывай моцна, я абавязкова вярнуся!»

Ахмад старанна аблізваў незнаёмцу рукі і твар, як быццам бы спрабуючы прывесці таго ў прытомнасць. І гэтая сабачая настойлівасць дадавала ўпэўненасці Алесі. Ахмад быў разумным сабакам, ягонае прадчуванне ніколі не было памылковым: ні тады, калі загінуў Ваня, ні тады, калі пачаў хварэць дзядзька Ігнат, ні калі дзядзька Ігнат паміраў у бальніцы. Памятаецца, ён адмаўляўся ад ежы, скуголіў ці ляжаў сумны ля будкі, не рэагуючы на клапатлівасць і пяшчоту гаспадыні. Нават нядаўна, калі здарыўся сардэчны прыступ у дзеда Макара праз тры двары ад Кацубаў, а ягоныя сямейнікі знаходзіліся ў полі, Ахмад настойліва патрабаваў у гаспадыні, каб выпусціла яго на вуліцу, а потым гэтак жа ўпарта клікаў цётку Дзіну за сабой і прывёў тую на падворак. А цяпер сабака не выглядае прыгнечаным ці разгубленым, і няма іншага выйсця, як даверыцца разумніку Ахмаду.

Тады, на мінскім прывакзальным кірмашыку, у кошыку спала пяцёра маленькіх сабачанят, але варта было Івану загаварыць з гандляркай, як самы чарнявенькі прынюхаўся да рукі хлопца і дружалюбна завіхляў хвосцікам.

— Бачыце, ён прызнаў вас за гаспадара. Купляйце кабялька, ніколі не пашкадуеце пра тое! — нахвальвала кабета свой тавар.

Алеся спрабавала адгаварыць Івана, але хлопец ужо любіў гэтае сабачанё, ён убачыў у шчанюку такога ж разумнага і грознага Ахмада, які жыў з імі на далёкай базе. Ахмад не даваў з'ехаць з глуздоў, калі дзень за днём, месяц за месяцам цягнуліся аднастайныя дні і ночы ў гарах, дзе вакол былі толькі цясніны, адна за адну круцейшыя. Ахмад выратаваў ім жыцці, калі аднойчы даверліва ледзь не падпусцілі да сябе дэлегацыю бедна апранутых дэхканаў. Ахмад з сумам заглядваў у вочы Івану за тыдзень да ягонага ад'езду ў адпачынак, нібыта просячыся ў кампаньёны.

— Уяўляеш, Алеся, ён чамусьці ведаў, адчуваў, што я з'язджаю! Фенаменальная сабачая інтуіцыя! — Іван пяшчотна гладзіў шчанюка і гаварыў, што хоча з гэтага малюпаські вырасціць такую ж разумную істоту. Алеся ж амаль не слухала яго, бо хвалявалася, як бацькі Івана сустрэнуць яе, дзяўчыну з дзіцячага дома, якая яшчэ не паспела школу закончыць, а ўжо нацэлілася стаць жонкай іхняму сыну. Іван сваё хваляванне — ён не бачыў бацькоў і сястру ажно год і чамусьці прымхліва баяўся нават з Ташкента адбіць тэлеграму, што едзе ў адпачынак, — хаваў за пяшчотай да купленага кабялька. З райцэнтра да вёскі яны пайшлі напрасткі, праз луг і балота, Іван запэўніваў, што так будзе нашмат хутчэй, чым чакаць аўтобус, які робіць вялікі

круг праз чатыры вёскі. Алеся рабіла выгляд, што верыць, і з хваляваннем адчувала, што гэтая кароткая дарога стане самай доўгай у яе жыцці.

— Як я сумаваў па табе, Алеська! — казаў Іван, калі яны спыніліся ля мастка рачулкі.

— Як я сумаваў па табе, Алеська! — шаптаў хлопец, калі яны цалаваліся ў капе сена, забыўшыся на бацькоў, кароткую дарогу і на сабачанё, якое спала ў каробцы…

— Ну што ты, Алеся, не кахаеш мяне? — крыўдзіўся хлопец, калі Алеся раптоўна адпіхнула яго і пачала абцягваць сукенку.

— Ад кахання могуць быць дзеці, як гаворыць выхавацелька Ніна Іванаўна, — разрумзалася Алеся, і хлопец, адчуўшы адказнасць за яе, ускочыў з сена. А сабачанё ўсю астатнюю дарогу патрабавальна гаўкала, не зважаючы на ежу, якую яму падсоўваў новы гаспадар.

— Вось знаёмцеся, вымяняў сабачаня за дзве пачкі цыгарэт у афганскага царандоя, — на поўным сур’ёзе казаў Іван. — Хацеў яшчэ вам вярблюда прывезці, але ж у яго быў такі фанабэрысты выгляд, што лётчыкі не пусцілі ганарліўца на борт. А якое дзіўнае імя было ў вярблюда! Кіфайятула! Няўжо вы б такое запомнілі? А ў сабачаня мянушка нашмат прасцей — Ахмад. Можна, праўда, пакуль ён падрасце, клікаць Ахмадзікам…

Цётка Дзіна і дзядзька Ігнат, у якіх тады быў поўны двор рознай жыўнасці, і якія любілі карову ды свіней, гусей з качкамі, а яшчэ курэй і кошку, не дзіва, што да сынавага падарунка паставіліся без асаблівай увагі. Іх больш хвалявала дзяўчына, якую прывёз на агледзіны Іван: высокая, танклявая і смуглявая, да таго ж у яркай не нашага ўзору сукенцы. Яна палахліва глядзела вялікімі зялёнымі вачыма, па ўсім відаць, не разумеючы, што тут балбоча жаніх. Афганскае сабачаня — гэта яшчэ прымальна. А што ім рабіць з афганскай нявесткай?

— Яна хоць разумее што-небудзь па-нашаму? — шэптам спыталася напалоханая маці ў Івана.

А сын рассмяяўся і звярнуўся да Алесі: «Мама заклапочана, ці ведаеш ты нашу мову. Ну, скажы, Гюльчытай, калі ласка, ім “добры дзень, мае дарагія беларускія родзічы!” Ну парадуй маіх бацькоў!» І ён рагатаў, не зважаючы на разгубленасць родных.

А дзяўчына была напалохана не менш за ягоных бацькоў. Колькі радасці было ўчора, калі Іван разварочваў гэтую сукенку, жартамі распавядаючы, як таргаваўся з дуканшчыкам, які спрабаваў яму прадаць «Шарп», а хлопец упарта паказваў не на магнітафон, які ўпадабалі ўсе «шураві», а на сукенку, у якую не ўлезе ніводная іх жанчына, бо дуканшчык бачыў рускіх жанчын зблізку і меркаваў, што ўсе яны падобныя да мужчын, і што ім зусім не да твару такое адзенне. А калі Алеся «ўлезла», сукенка аказалася крыху прасторнай і вельмі ёй пасавала, то яна ў гэтым уборы стала падобнай да афганскіх дзяўчат, якія палахліва хавалі твары пры сустрэчы з «шураві», Іван усклікнуў: «Табе б яшчэ паранджу, ну вылітая кандагарская прыгажуня!».

— Гэта ўсё замежная сукенка, яна мяне зрабіла падобнай да афганкі, — асмялела нарэшце Алеся, адчуўшы, што больш не баіцца Іванавых бацькоў. — Ну, калі апрануць касцюм Снягуркі ці Дзядулі Мароза, то чалавек зусім мяняецца. Гэтак і я, — спяшаючыся тлумачыла дзяўчына. — Я — Алеся, а не Гюльчытай, беларуска і жыву ў Мінску.

— Ах ты ж клоўн, — засмяялася маці. — Напалохаў нас сваімі прыдумкамі. Вось, думаем, ці то дзеўку з Афгана прывёз нам, ці то сам туды з ёю з’едзеш, а там жа вайна кругом і парадкі зусім інакшыя, чым у нас.

Алеся так больш ніколі і не апранула той сукенкі: не было сіл ні насіць яе, ні выкінуць.

А вось шчанюк Ахмад стаў агульным любімчыкам. Ён рос вясёлым і дружалюбным, раніцою праводзіў карову за вароты, днём бегаў побач з курамі і свінямі, вечарам сустракаў дзядзьку Ігната, беспамылкова выбягаючы на вуліцу хвілін за дзесяць да яго з'яўлення. З той раніцы, калі быў збіты самалёт, сабачанё выла да наступнага дня. «Ну што ты, Хмадзік, будзіш усю вёску?» — выходзіў ноччу пакурыць гаспадар і спрабаваў супакоіць маладога сабаку, і сам нерваваўся, як, прынамсі, кожны вечар, калі былі параблены ўсе тлумныя справы і можна было б спакойна адпачыць, ды не адпачывалася. Думкамі дзядзька Ігнат быў заўсёды там, дзе ягоны сын.

Не вытрымаў гібелі сына дзядзька Ігнат, хварэе цётка Дзіна, няма сёння на падвор'і ні каровы, ні свіней, ні гусей ды качак, толькі з дзясятак курэй ды кошку Марусю сцеражэ Ахмад, які ператварыўся з гуллівага непаседлівага шчанюка ў разумнага дарослага сабаку і які быў адзіным суцяшэннем цётцы Дзіне, калі ў горад з'язджалі дачка Тася з зяцем і ўнукамі ды Алеся, якая хаця і не стала нявесткай, але ж цяпер для цёткі Дзіны нібыта дачка родная.

Ахмад глядзеў на Алесю, спрабуючы данесці ёй нейкую сабачую думку, ды дзяўчына не магла зразумець яго. Вось калі ён гаўкае злосна, як да падворка кіруе п'янтос дзядзька Грыня ці пляткарка Алена, калі скуголіць радасна пры з'яўленні інтэлігентных Гатальскіх з канца вуліцы, ці крыўдліва, калі ад'язджаюць Алеся ці Тася з сям'ёю, тут усё зразумела. А цяпер… Адно толькі яна бачыла, што сабака зусім не ўстрывожаны, нібыта ў двары кожны дзень незнаёмыя людзі трацяць прытомнасць.

Мужчына неўзабаве пачаў трызніць. «Вышыня тры тысячы дзвесце метраў, вышыня тры тысячы дзвесце метраў…», — з цяжкасцю разабрала дзяўчына словы, відаць, усё з той жа афганскай мінуўшчыны гэтага чалавека. Дзяўчына абцірала мокрым ручніком ягоныя вусны і лоб, углядалася ў твар.

— Супакойся, міленькі, няма тут ніякай вышыні, няма тут вайны, супакойся!

Няма тут вайны, але спякота такая, нібы ў тым Афганістане. Алеся вырашыла зрабіць навес, бо сонца не на карысць мужчыне, а ёй адной не пад сілу перацягнуць яго ў цянёк. Яна павесіла на вяроўкі мокрыя прасціны, з газеты зладзіла падабенства веера, так і праседзела астатак дня і ўсю ноч, то правяраючы пульс, то выціраючы твар, то ўслухоўваючыся ў ягоныя трызненні. Хутчэй бы акрыяў гэты чалавек, які таксама быў у Кандагары. А раптам ён ваяваў побач з Ванем, раптам чуў штонебудзь пра яго?

Пад раніцу небарака расплюшчыў вочы.

**3**

Вяршыні Пандшэрскіх гор — нібыта дрэнна нацягнутая нітка. Што тыя эквілібрысты, ідуць па гэтай нітцы дзесяць старанных ослікаў. За імі з прыплюшчанымі вачыма крочаць дзесяць вярблюдаў. «Асцярожна, унізе бездань!» — нема крычыць Сцяпан, з усіх сіл нацягваючы гэтую нітку, каб жывёлам было зручней, ды раптам рвецца нітка, ослікі і вярблюды ператвараюцца ва ўзброеных маджахедаў, а горы ўзрываюцца громам стрэлаў. Імгненна расступаецца вяршыня насупраць, але вецер, магутны вецер «афган», падхоплівае Сцяпана, кружыць над прадоннем, і жах, халодны немы жах сціскае ягоныя грудзі. І вось ужо няма ні ослікаў, ні маджахедаў, ні прадоння, ні ветру «афган» — нешта нястрымнае і ўсёўладнае ўпіхвае Сцяпана ўнутр вялікай і дзіўнай гары. Тут цэлы горад памерам з Кабул ці Кандагар, і мірна

выглядаюць ягоныя звілістыя вулкі, абсаджаныя персікамі і соснамі (адкуль тут могуць расці сосны? Ды і персікі адкуль, без святла і сонца?), і свецяцца нізенькія жоўценькія домікі, а мула ўрачыста прамаўляе малітву, не згадваючы пра джыхад — барацьбу з нявернымі, і ручаі, што ціха спадаюць з гор, звіняць пяшчотна, як калісьці ў Карпатах, дзе Сцяпан пачынаў ваенную службу.

А неба таемнага падземнага горада свеціцца блізкімі зоркамі, якія зачароўваюць і палохаюць адначасова неймавернай і страшнай прыгажосцю. Неба? Адкуль жа тут неба? — дзівіцца Сцяпан і раптам здагадваецца. Гэта ж не зоркі, а ізумруды! Дык вось якія яны, гэтыя смарагдавыя каштоўныя каменьчыкі, за якія гатовы аддаць свае жыцці ўсе маджахеды Пандшэрскай даліны, ад бядака-дэхканіна да багатых феадалаў, у якіх сотні рабоў і якія сваіх сыноў адпраўляюць на вучобу ў Еўропу ці Амерыку. Нешта вядзе Сцяпана наперад, і ёсць адчуванне, што калі азірнецца, то будзе горш, і ён ідзе наперад, а ўпоперак вуліцы прыгожага ды мёртвага горада вісяць расцяжкі з прозвішчамі загінулых. Суфі Наім, месца гібелі — ваколіцы гор Пійавашт. Шыр Мухамад, месца гібелі — ваколіцы Рах-і-Танг, Сафар Мухамад Шайун, месца гібелі — Пандшэр. Малек-хан, знік у Асадабадзе… Прозвішчы, прозвішчы, прозвішчы. Іх больш, чым зорак на небе, чым ізумрудаў у скалах, да якіх лепяцца нізкія дамкі гэтага дзіўнага горада.

Аседач з палёгкай заўважае, што наперадзе ўжо няма змрочных расцяжак, і што там, удалечыні, чалавек еўрапейскай знешнасці ў еўрапейскім касцюме гасцінна вітае яго, і Сцяпан пазнае ў элегантным спадары Ахмад Шаха. Валадар падземнага ізумруднага горада — пагроза савецкіх воінаў і байцоў афганскіх урадавых войскаў палявы камандзір Ахмад Шах Масуд. Яго дзяцінства прайшло тут, у квітнеючай Пандшэрскай даліне, ягонае юнацтва завяршылася вучобай у Францыі, а ягонае мужчынскае сталенне адбылося зноў у Пандшэры, дзе здабыты і жыццёвы, і баявы вопыт, і бясспрэчны аўтарытэт сярод кіраўнікоў большасці франтоў маджахедаў.

«Мы з вамі калісьці сустракаліся», — кажа прыязна Ахмад Шах, і Сцяпан згодна ківае галавой. «Двойчы сустракаліся», — нагадвае Ахмад Шах, і Сцяпан умомант прыгадвае і першую сустрэчу ў сцюдзёным студзені 1984 года, якая завяршылася падпісаннем працяглага перамір'я з маджахедамі Пандшэрскай даліны, і другую сустрэчу — неафіцыйную, на якую былі атрыманы санкцыі ад высокага маскоўскага кіраўніцтва, незадоўга да вываду савецкіх войскаў з Афганістана. «А ў трэці раз я не выпусціў бы вас жывым», — зноў жа ветліва прамаўляе Ахмад Шах, і Аседач разумее, што не мае сэнсу высвятляць абставіны іхняй несустрэчы, як не мае сэнсу вяртацца і да двух папярэдніх падзей. Славутаму маджахеду Афганістана цяпер патрэбна нешта іншае ад Сцяпана, але што?

— Вы спачатку былі ваенным, а потым заселі за кніжкі. І што, вучыць забіваць лягчэй, чым самому забіваць? — скептычна гаворыць Ахмад. — Я ж з навукоўца мусіў стаць вайскоўцам, — кажа з лёгкім папрокам Ахмад Шах, і Сцяпан не вытрымлівае, удакладняе: «Сталі вайскоўцам, але паступова ператварыліся ў бандыта».

— Жыццё нікольki не вучыць некаторых, шаноўны савецкі таварыш, — іранічна заўважае Ахмад. — Ніколі не быць вам генералам, палкоўнік Аседач, бо няма ў вас ні нашай усходняй мудрасці, ні вашай савецкай сардэчнасці. Дык вось, — голас яго зацвярдзеў, — хачу напомніць, што я меўся калісьці быць навукоўцам. У мяне найлепшая бібліятэка ў свеце, не жадаеце зірнуць?

Кнігі, горы кніг на ўсіх мовах свету, а найбольш на дары, пушту і французскай, займалі дзясяткі пакояў, вялікі палац памерам з тры ці чатыры палацы Тадж-Бек, што ў Кабуле, былі адведзены для кніг. Кніжныя паліцы, бы тыя горныя сцежкі, серпанцінам закручваліся да высокай столі, іх было так шмат, што рабілася млосна. Ці

гэта млосна ад ліслівага голаса Ахмад Шаха, які закалыхвае, бы наркоз, і вось ужо ізумрудна-зялёныя вочы Алены Іванаўны, Леначкі, урача, у якога закаханы літаральна ўсе пацыенты палявога шпіталю, глядзяць з-за паліцы ў шэрыя вочы Аседача. Але замест пяшчоты і чуйнасці ў іх плешчацца страх, і жанчына вачыма ўмольна просіць дапамогі. Ахмад пакуль не бачыць Лену, таму Аседач робіць намаганне выглядаць спакойным, ды з усіх сіл робіць выгляд, што ўважліва слухае Шаха.

— Памятаеце, я папярэджваў, што калі савецкія сыйдуць, сюды прыйдуць амерыканцы, а тэрор распаўзецца да вашых паўднёвых межаў. А потым стане нясцерпна спякотна і ў самім сэрцы Расіі. Дык вось, гэта здарыцца вельмі хутка! І не будзе скону той вайне! Дзіўныя вы, рускія. Чаму і навошта вы прыходзілі ў Афганістан? Не разумею і сёння. Маглі б нас лёгка заваяваць у першы ж месяц сілаю вашай магутнай зброі. Але замест гэтага спрабавалі насадзіць камунізм, ды не расце ваша зваблівая кветка на сухой афганскай глебе. Слабыя з савецкіх стратэгі і геапалітыкі.

— Няпраўда, Ахмад, — Аседач горача запярэчыў. — Стратэгія тут ні пры чым. Тут старыя як свет здрада і карыслівасць. У нас гэта сталася пры Гарбачове, у вас гэта было стагоддзямі. Ці ж вам, Ахмад, з такой вучонасцю не ведаць гэтага? — не стрымаўся Сцяпан.

— Спытайце ў вярблюда, чаму ў яго шыя крывая, — з лёгкай іроніяй згадаў афганскую прымаўку Ахмад.

Лена, забыўшыся на сябе, папераджальна ўздымае руку і выпадкова чапляе маленькую вытанчаную кніжачку ў скураной вокладцы. Кніга падае і цягне за сабою наступную. Сапраўдны кнігапад. Кнігі завалілі Ахмада, кнігі вось-вось абрынуцца на яе і Аседача, Сцяпан працягвае жанчыне руку і яны ледзь паспяваюць уцячы з кнігатрусу.

Ізноў цішыня і ўяўны спакой, мёртвыя вуліцы і мёртвы горад нарэшце заканчваюцца, і варта прайсці тунэль, такі ж доўгі і небяспечны, як тунэль Саланг, і наперадзе бачна поле, а за ім мірны кішлак, дакладна такі ж, як каля Джэлалабада ў 1984-м…

— Я прашу вас хутчэй, парадзіха памірае! — насустрач спяшаецца стары ў бялюткім цюрбане і бліскучым шаўковым халаце. «Адкуль ён ведае, што Лена доктар?» — здзіўляецца Аседач, і ад здагадкі ногі робяцца слабымі, а цела непаслухмяным, а стары пагрозліва кажа: «А вам туды нельга».

Чаму яна не азірнулася? І чаму Сцяпан не папярэдзіў яе? І няма больш кішлака, і няма старога, і няма самога Сцяпана — і цела яго, і душа растварыліся ў пыльным паветры Пандшэрскай даліны, і толькі скуголіць вецер «афган» сваю адвечную сумную песню.

**4**

— Лена? — мужчына расплюшчыў вочы. Спачатку радасць, а потым здзіўленне з’явіліся на ягоным спакутаваным твары.

— Дзякуй Богу, вы апрытомнелі, — прамовіла Алеся. — Усю ноч трызнілі, снілі якоесь страхоцце. — Папіце вось настой з лекавых травак, вам павінна стаць лепей.

Мужчына прыўстаў, зморшчыўся, схапіўся за галаву і спытаў:

— Я тут доўга ў вас адпачываю?

— З учарашняга дня, калі гэта можна назваць адпачынкам. Вам баліць?

— Дзякуй, я цяпер абсалютна здаровы, — мужчына намерыўся ўстаць, але толькі сеў і ўважліва агледзеўся па баках.

— Можа, я выклічу «хуткую дапамогу»? — спытала Алеся.

— Калі вы гэтага не зрабілі ўчора, то і сёння не варта, — мужчына заўсміхаўся, але вочы пільна сачылі за кожным яе рухам. — Не бойцеся, я не дэбашыр і не бандыт.

— Ну, што вы ніякі не маджахед, я здагадалася адразу, — Алеся вырашыла падыграць чалавеку, адначасова намякаючы, што яна нешта ведае пра яго. — Але дзе ж гэта вы згубілі свой абутак?

— Не маджахед? А, гэта вы рэквізавалі мой «афганскі» гадзіннік? — здагадаўся Сцяпан. — Дык, можа, вам і сандалеты мае спадабаліся? — ухіліўся той ад адказу.

— Зусім не, абутак ваш спадабаўся, відаць, камусьці раней за мяне, — засмяялася Алеся, адзначаючы, як і смешна, і страхотна выглядае сёння твар мужчыны з сінякамі і заплыўшым вокам.

— Ну то пойдзем у хату, баюся, каб суседзі не пабачылі ды чаго дрэннага не падумалі, а то паляціць пагалоска, што гэта я адлупцавала мужчыну.

Але толькі яны пераступілі парог сенцаў, як вясковую вуліцу запоўніў урачыста-настойлівы голас з мегафона:

— Паважаныя грамадзяне, паважаныя грамадзяне, адшукваецца салдат тэрміновай службы, які разам са зброяй уцёк з воінскай часці. Просьба заявіць пра наяўнасць незнаёмых падазроных асоб мужчынскага полу ў вашай вёсцы. Паважаныя грамадзяне!..

Твар мужчыны імгненна пасур'ёзнеў. Чалавек кінуўся ў пакой вокнамі на вуліцу і праз фіранку ўважліва правёў позіркам ваенны аўтамабіль.

— Алеся, у мяне няма іншага выйсця, я мушу даверыцца вам. Шукаюць, здагадваюся, не маладзенькага салдаціка са зброяй, не васямнаццацігадовага дэзерціра, а мяне, афіцэра, які служыць зусім не тут, а ў Маскве, — Сцяпан хапатліва расшпіліў унутраную кішэню сваёй тэніскі.

— Ну вось, дакументы не сапсаваліся, хаця ўчора раку двойчы пераплываў.

Алеся спалохана глядзела на мужчыну, які зусім не выдаваў на саліднага палкоўніка з фотаздымка на пасведчанні. Шукаюць ці то дэзерціра, ці то якогасьці небяспечнага чалавека, а яна вось так неабачліва сядзіць з ім у хаце.

— Мне пашанцавала, што не выклікалі «хуткую дапамогу», мяне тады адшукаць было б вельмі проста. А так я жывы, хаця і не зусім, здаецца, у норме, — Аседач бачыў, што перад ім напалоханая дзяўчына. — Я вам усё патлумачу, хаця і сам яшчэ, скажу шчыра, не зусім разумею, што адбылося, тут такая заблытаная справа…

Аседач гаварыў, Алеся слухала і чамусьці верыла ў гэтую недарэчную гісторыю. І сама ў адказ на шчырасць, каб патлумачыць, чаму гэта яна так безразважна завіхалася ля яго, беспрытомнага «афганца», расказала пра свайго жаніха Ваню, які паўтара гады ўдала служыў у Афгане, а па вяртанні дамоў загінуў у небе над Кандагарам, і пра цётку Дзіну, маці Івана, якая паехала пазаўчора ў Мінск паглядзець на трэцяга ўнука, што нарадзіўся ў сям'і дачкі, і пра сябе, дзяўчыну з дзіцячага дома, якая аднойчы пераступіла парог гэтай хаты як нявеста ды знайшла тут сваю сапраўдную сям'ю, і пра Ахмада, які ляжаў на падлозе і дружалюбна віхляў хвастом, нібы пацвярджаючы кожнае яе слова.

— Ахмад? Дык вось чаму мне мроіўся Ахмад! Ноччу сніўся Ахмад, але не ваш, а зусім іншы. Афганскі военачальнік Ахмад Шах, які і пасля вайны не дае мне спакою, праўда, падчас сну. А вось на яве… Я мушу давяраць вам, Алеся, як давяраў на вайне сваім сябрам. Я не ведаю яшчэ, ці збіраліся ўчора мяне забіць альбо пакалечыць, ці толькі напалохаць, як і не ведаю, навошта ўсё гэта рабілася. Але шчыра скажу, рызыкаваць вось так па-дурному больш не хочацца. Я столькі рызыкаваў там, у Афгане, што тут, у мірным жыцці, проста недарэчна было б загінуць.

— Ды не дамо мы вам тут памерці, — запэўніла Алеся. — Я магу збегаць на пошту і патэлефанаваць у міліцыю ці куды скажаце.

— Міліцыю пакуль ранавата выклікаць, — адмовіўся Сцяпан. — Ды не веру я мясцовай міліцыі, як не давяраю, атрымоўваецца, і сваёй роднай арміі, дакладней, асобным яе прадстаўнікам. Такі вось я скептык, Алеся, з учарашняга дня. А план мой наступны. У мяне ёсць сябар з афганскіх часоў, ён служыць у Мінску. Галоўнае, каб пашанцавала заспець яго на службе ці дома. Вы скажаце яму, а ў крайнім выпадку ягонай жонцы толькі два словы: «Лінія Дзюранда», гэта наш афганскі пароль пра тэрміновую дапамогу. Ну і, вядома ж, назавеце ваш адрас. Калі з таго боку будуць нейкія пытанні, пастарайцеся казаць «так» ці «не», каб ніводная душа на пошце не здагадалася, у чым тут справа. Паводзьце сябе так, як быццам нічога не здарылася, проста прыйшлі пагаварыць з кімсьці са знаёмых. А я пакуль пабуду пад наглядам вашага вернага Ахмада.

Алеся сабралася ўжо выходзіць з дому, як раптам вярнулася. Губы яе дрыжалі, бачна было, што дзяўчына ледзь не плача.

— Я хацела б спытаць у вас… Можа, там, у Афганістане, вы сустракалі Івана Кацубу?

— Івана Кацубу? — Аседач уважліва разглядаў фатаграфіі. — Служыў у 1989-м пад Кандагарам? Я там быў, але раней, а ў гэты год служыў на поўначы Афганістана.

Аседач разумеў хваляванне дзяўчыны. І бачна было, што яна нешта недагаворвае.

**5**

Дружалюбны Ахмад, які пры Алесі мірна віхляў хвастом і глядзеў адданымі вачыма, грозна разявіў пашчу, калі Сцяпан паспрабаваў узняцца з крэсла. Варта было б разведаць хады на гарышча, у сенцы і павець, што прымыкала да сенцаў, але сабака не дазволіў зрабіць ані кроку. Не хапала яшчэ, каб да ўчарашніх «раненняў» дадаліся новыя. Давялося абмежавацца разглядваннем пакоя, так званай залы ці гасцёўні, якіх Сцяпан за сваё вайсковае жыццё пабачыў шмат. Тры акны — два на вуліцу і адно ў двор былі завешаны страката-жоўтымі шторамі, хаваючы ад спякотнага лета канапу са старамодна-высокай спінкай, трумо ў сурвэтках і шкатулках, буфет з ружовымі шклянымі вазачкамі для варэння і рознакалібернымі светлымі фужэрамі, стол з плюшавым абрусам і шэсць крэслаў вакол яго, фатэлі з такога ж колеру плюшавымі накідкамі, маленечкі нізенькі столік, тумбачку з тэлевізарам. На дзвюх сценах у рамачках пад шклом — фотаздымкі мужчын і жанчын у святочных строях па модзе, відаць, канца XIX і пачатку XX стагоддзя. І рамачкі, і шкло рарытэтныя, зробленыя колішнімі майстрамі. Побач вісіць яшчэ адна рамачка з фотаздымкамі, па ўсім відаць, гаспадароў гэтай сядзібы з дзецьмі-школьнікамі. Няцяжка ўгадаць у віхрастым усмешлівым хлапчуку таго бравага дэсантніка, фотаздымкі якога стаяць за шклом у буфеце. Сфатаграфаваны на фоне чужога пейзажу сімпатычны чарнявы хлопец у блакітным берэце і цяльняшцы з такой бесклапотнай усмешкай, якая бывае толькі ў навабранцаў. Побач крыху меншае па памерах фота Івана з Алесяй, якая за гэты час моцна змянілася, пасталела, толькі вочы засталіся такія ж зялёна-прамяністыя.

Падобныя вочы былі і ў Алены. Тады ў Хосце Сцяпан глядзеў у тыя вочы і не мог нагледзецца. Ён употай ганарыўся, што Алена выбрала яго. З дзясяткаў і сотняў афіцэраў і салдат, якія траплялі ў палявы шпіталь, Алена заўважыла яго.

Чаму? Загадка лёсу. Нельга фатаграфавацца да вяселля, — жартавала Лена на ягоныя просьбы стаць поруч, і ў яго на памяць засталася маленькая, да таго ж не вельмі ўдалая фатаграфія з яе асабовай справы ды студэнцкая, больш выразная, з выпускнога балю, якую выпрасіў потым у Аленіных бацькоў. Прымхлівая Лена не абараніла сваё шчасце, як не абараніла сваё і вось гэтая пара, што не баялася ці не ведала прымхаў і забабонаў.

На афганскай зямлі, відаць, трэба было кіравацца прымхамі і забабонамі мясцовага краю, але ж ніхто з дружалюбных «саветыкус» не імкнуўся пазнаёміць іх з гэтымі традыцыямі, ды яны і самі не надта імкнуліся захапляцца звычаямі краіны, якая па якасці жыцця знаходзіцца недзе на ўзроўні XV ці XIV стагоддзя. Афганцы напачатку выклікалі не столькі цікавасць, колькі спачуванне. Як гэта не мыцца месяцамі? Не ўмець чытаць і пісаць? Жыць у раёне аазісу і харчавацца аднымі праснакамі? А побач іншыя жывуць у такой раскошы, якой, калі б падзяліліся, хапіла б на сотні беднякоў. Наіўнае жаданне даць ім лепшую долю! Для палітыкаў не мае розніцы, які там лад і якія там багацеі ды беднякі. А народ засёды расплочваецца за чужыя амбіцыі.

У гэтай вясковай хаце з паркалёвымі шторамі на дзвярах і вокнах, з саматканымі ходнікамі на пафарбаванай падлозе, са старамоднай мэбляй і простымі рамачкамі на сценах, а ў чырвоным куце з абразом Багамацеры было калісьці сваё шчасце. Тут і цяпер інакшае жыццё, чым, да прыкладу, у Маскве ці Мінску. Больш сціплае і больш шчырае? Не, так адназначна не вызначыш. Бяднейшае, так, але ці горшае? Інакшае.

Надоечы ў цэнтральнай газеце Сцяпан прачытаў прызнанне аднаго «паркетнага» генерала, які на вайне быў без году тыдзень, што ў Афганістан мы ўскочылі па волі трох-чатырох састарэлых маразматыкаў, якія трызнілі пра камунізм ва ўсім свеце. Як быццам генерал не ведаў, што за некалькі гадзін да ўводу савецкіх войск у Афганістан павінны былі ўвайсці амерыканскія войскі. Але ж блакітныя берэты апярэдзілі берэты зялёныя, гэта факт неаспрэчны. А колер нянавісці афганцаў да чужакоў ад веку не мяняўся: ненавідзелі англічан і французаў, якія стагоддзямі выцягвалі ўсе сокі з калоніі. Ненавідзяць цяпер «шураві» з іхняй «каланізацыяй наадварот», бо не вывозіцца, а ўвозіцца ўсё падрад: абсталяванне, прадукты харчавання, медыкаменты, машыны, і не толькі ваенныя… І ў гэтай нянавісці поруч і тыя, хто харчуецца аднымі праснакамі, і тыя, хто паглядзелі на Парыжы ды Лонданы. Геапалітыка — рэч заблытаная толькі на першы погляд, а на справе ёсць у ёй логіка і вытлумачэнне, і чаму б гэтаму «паркетнаму» генералу не сказаць усю праўду?

Армейская выведвальная структура, у якой служыў Аседач, з дакладнасцю да нулёў валодала інфармацыяй пра памеры замежнай таемнай дапамогі Афганістану. Магутныя краіны свету перапраўлялі найноўшую зброю і ваенную тэхніку, вопытных інструктараў, рыхтавалі армію бязлітасных наёмнікаў. Ніякага параўнання з ленд-лізам часоў Вялікай Айчыннай, за які СССР вымушаны быў расплочвацца чыстым золатам. ЗША тады не ўпусцілі сваю выгаду. А цяпер капіталістычныя «донары» дапамагаюць маджахедам бязвыплатна ў спадзеве на пэўную аддаленую карысць. І спрадвечныя геапалітычныя інтарэсы старанна камуфлююцца. Маўляў, мы за інтарэсы дэмакратыі, мы за правы афганцаў.

Але там, на лініі Дзюранда, дзе праўда была схавана ад усяго свету, афганскія бежанцы ўцякалі ад пакістанскай дэмакратыі, не ведаючы, што ўцячы ад яе немагчыма: на подступах да Радзімы іх расстрэльвалі замежныя наёмнікі. Руплівыя Аседач і ягоныя таварышы па спецслужбе напачатку 1980-х спадзяваліся, што і афганскім бежанцам дапамогуць вярнуцца дамоў, і свет узарвуць здабытымі дакументальнымі сведчаннямі двайных стандартаў заходніх краін. Якімі ж яны былі наіўнымі!

У адладжанай інфармацыйнай плыні масіраванай хлусні іх звесткі, здабытыя кожны раз з рызыкай для жыцця, засталіся практычна незаўважанымі. Дарэмна цэлы аддзел кваліфікаваных спецыялістаў па барацьбе з інфармацыйнымі войнамі распрацоўваў праграмы і рэкамендацыі, бо і наверсе, у Крамлі, іх праца неўзабаве стала незапатрабаванай. І гэтая завядзёнка працягваецца да сённяшняга дня.

Аседач вярнуўся днямі з Таджыкістана. Вярнуўся з сумнымі звесткамі: нацыяналістычныя бойкі там разварочваюцца па вельмі знаёмым сцэнарыі, які калісьці прадказваў Ахмад Шах Масуд. Сцяпан і ягоныя калегі ірвуцца давесці Крамлю небяспечную праўду, але зноў сустракаюць абыякавую ветлівасць. Маўляў, праца вашая важная і для арміі, і для дзяржавы, дзякуем за службу. Генерал Гаўрылаў з уласцівай яму рэзкасцю аднойчы не вытрымаў на нарадзе:

— Таварышу Гарбачову больш важна, што робіцца на Захадзе… і блазнавата дадаў: — На захадзе яго дзяржавы. А што на поўдні і на ўсходзе — то для яго драбяза!

Ён і са Сцяпанам надоечы быў шчырым: з’ездзіш, маўляў, на захад нашай Радзімы, прыгледзься, што там ды як. Досыць ужо, адпачні, палкоўнік Аседач, ад усходніх навін і прагнозаў. А ў вольны час пакумекай, чаму так імгненна ў чэрвені 1941 года была змецена Заходняя ваенная акруга.

Пасля задушлівага душанбінскага гасцінічнага нумара, дзе кожную ноч за дзвярыма чуліся то шолахі, то шэпт, то асцярожныя крокі, пасля дзённых сустрэч, дзе таксама шэптам, баязліва, скардзіліся рускія па паходжанні інжынеры, медыкі, настаўнікі — хацелася свабоды і спакою. Беларусь здавалася ўвасабленнем гэтага спакою, а палкоўнік Круглік — прыкладам гасціннасці. І чаму гэта Аседачу так «шанцуе» па жыцці на прыгоды менавіта там, дзе адпачатку імі і не пахла?

Сцяпан уздыхнуў, сабака занепакоена зірнуў у вочы і, здалося, крыху палагоднеў. Магчыма, адчуў, як кепска пачувае сябе мужчына найперш ад невядомасці (а раптам Алеся яму не паверыла?), ды ад таго, што кружыцца галава, і варта было б праверыць сваю «баяздольнасць». Але калі ён зрабіў чарговую спробу ўстаць, Ахмад зноў ашчэрыў пашчу.

Са сцяны на Сцяпана спачувальна глядзеў мужчына з шырокаю, як у Льва Талстога, барадою. Толькі ў класіка барада была, здаецца, сівою, а тут стары дзед, а барада чорная як смоль. Не мог жа ён фарбаваць яе? Дзесьці Аседач ужо бачыў падобны здымак. Кагосьці яму нагадваў гэты мужчына, але каго?

Як добра, што Алеся паклала на стол альбомы з фотаздымкамі. Аседач яшчэ раз перагледзеў першы і другі. Прыемныя людзі, пераважна вяскоўцы, мяркуючы па адзенні і абліччы, а кажучы высокім стылем, людзі з вітальнай сілай. Збегаць на досвітку ў грыбы, накарміць дзяцей, дагледзець гаспадарку, дзень адшчыраваць у калгасе, а вечарам па новым крузе — дзеці, гаспадарка, агарод. І пры гэтым застацца жыццярадаснымі і шчырымі. А якія прыгожыя ва ўсіх Кацубаў усмешкі!

**6**

Ахмад радасна гаўкнуў, і праз хвіліну ў двары пачуліся крокі. Дзяўчына вярнулася задыханая і расчырванелая.

— Усё перадала, як вы сказалі. Паштаркі і ўвагі на мяне не звярнулі, там у Маскве нешта сур’ёзнае адбываецца, пераварот нейкі. Тэлевізар не ўключалі?

— Ахмад ваш не тое што тэлевізар... — заўсміхаўся Сцяпан.

— Ну так, ён у нас суровы, — пагадзілася Алеся і загадала сабаку ісці на падворак.

Дзяўчына ўключыла тэлевізар, на экране па трох каналах было адно і тое ж: паказвалі балет. Дзяўчына ўключыла радыё, і з рэпрадуктара палілася класічная музыка.

— «Голас Амерыкі» пашукаем! — Алеся дастала з буфета прыёмнік.

— Часта слухаеце замежнае? — пацікавіўся Аседач.

— Як Ванька быў у Афгане, то слухалі кожны вечар. Ён жа і навучыў настройваць прыёмнік, каб мы нешта ведалі пра вайну. У нас тады ўсё ж было засакрэчана.

«І цяпер мала што змянілася, — з горыччу падумаў Аседач. — Пераварот там ці што, дык не палохайце народ, патлумачце, што там здарылася. Навошта гэты трагіфарс з балетам?»

А тым часам Алеся хуценька настроілася на «Голас Амерыкі», а потым на шэраг іншых заходніх радыёстанцый.

— У Савецкім Саюзе адбыўся пераварот, — паўтаралі замежныя радыёстанцыі, разлічаныя на рускамоўную аўдыторыю.

Верыць гэтым галасам можна да пэўнай ступені, але ж дыму без агню не бывае. Аседач пашукаў каналы на англійскай і французскай мовах. Інфармацыя была той самай — урачыста, але скупа гаварылася пра путчыстаў, сярод якіх назвалі і прозвішча генерала Варэннікава, пра Гарбачова, заблакіраванага ў курортным Фаросе, пра дэманстрантаў на вуліцах Масквы. Быў бы Аседач важнай персонай ва Узброеных Сілах, тады б учарашняе здарэнне можна было б лёгка «накласці» на падзеі ў Маскве. І хаця ў Сцяпана кружыцца галава, але зусім не ад падвышэння сваёй персоны. Які да халеры путчыст з генерала Варэннікава? Чалавек прайшоў усе прыступкі ваеннай службы ад часоў Вялікай Айчыннай да Афганскай вайны, яго паважаюць у арміі, ён не схільны да авантур.

Не паспела Алеся распавесці пра размову з Уладзімірам Шпакоўскім, пра тое, што і як там было на пошце, як ля хаты спыніліся «Жыгулі». Высокая, па мужчынску скроеная жанчына ў ярка-блакітных майцы і шортах рашуча пагрукала ў брамку. Алеся з цікаўнасцю глядзела на Аседача, які насцярожана з-за фіранкі сачыў за вуліцай.

— Схадзіце, спытайце, што трэба гэтай Жанне Д’арк, — шэптам папрасіў Аседач, і дзяўчына пад аховай Ахмада пайшла адчыняць брамку.

— Вы Алеся? Не бойцеся, я да вас з добрымі намерамі, — яна працягнула руку для вітання і амаль шэптам прамовіла: «Пароль — «Лінія Дзюранда»! І прывітанне ад Уладзіміра Іванавіча, з якім вы нядаўна гаварылі.

Алеся насцярожана глядзела на госцю. Бянтэжыла тое, што ў салоне сядзеў мужчына, які чамусьці не выйшаў павітацца. Перахапіўшы позірк Алесі, жанчына заўсміхалася.

— Не бойцеся, гэта мой муж, ён пасля Афгана без нагі, яму на мыліцах лішні раз вылазіць з машыны не выпадае. Муж там карту вывучае, як лаўчэй давезці вашага госця. Ды ўпусціце мяне ў двор, не бойцеся, і муж, і я служылі ў Афганістане, і хоць з вашым Сцяпанам лёс нас не зводзіў, але з Уладзімірам Іванавічам мы пуд солі з’елі.

З Аседачам маладзіца паразумелася значна хутчэй. І план Шпакоўскага па вызваленні «маскоўскага вязня» Сцяпан адобрыў адразу ж. Ён развітваўся, і пасля слоў падзякі спытаў:

— Там, у альбоме, ёсць некалькі здымкаў з подпісамі: «Дарагому Аванесу». Чаму — Аванесу?

Алеся патлумачыла:

— У адной роце апынуліся два Вані Кацубы, стрыечныя браты. У нас паўвёскі Кацубы, дык нікога гэтым не здзівіш. А там блытаніна была спачатку. У роце служыла некалькі армян, тыя насміхаліся, маўляў, які ты беларус, Ваня, ты ж беларусым павінен быць, як твой брат, а ты вунь які чарнявы, нібыта армянін. Імя Ваня па-армянску і ёсць Аванес. Так і прыклеілася да Вані — Аванес Кацуба.

Алеся хацела яшчэ сказаць, што яе Ваня загінуў, а другі Ваня прыйшоў без аніводнай драпіны, але спіўся і ніхто не дасць рады яму дапамагчы. Ёй хацелася таксама спытаць, ці дашле нейкую вестачку гэты чалавек, як вернецца ў Маскву, але пасаромелася. Яна адчувала, што мужчыну не да яе, бачыла, што Сцяпан пакутліва думаў пра нешта.

Ахмад бег за машынай кіламетры са тры аж да павароту на гравійку. Потым гаўкнуў на развітанне і з годнасцю павярнуў назад.

Збоку гэта выглядала беззаганна: вясковая сямейная пара везла ў Мінск бабулю. Праўда, бабуля была падазрона плячыстай, нават у гэтай чырвонай кофтачцы, якую прывезла Ірына Раманаўна, але ж і сама яна як «дачка бабулі» росту немалога, і калі трэба будзе выйсці да якога даішніка, сапраўднага ці падманнага, то разыграе любы спектакль, а пры неабходнасці і скруціць любога асілка. Прэцэдэнты такія былі ў яе біяграфіі, так што не прывыкаць. У мужа да таго ж меўся пісталет, набыты, праўда, у магазіне цацак для сыноў, але на выгляд амаль як сапраўдны.

Аседач у жаночай вопратцы, хусцінцы і акулярах ад сонца выглядаў недарэчна, але жартаваў: «Быў бы жанчынай, дык з такой знешнасцю ніколі б замуж не выйшаў. А так у мяне яшчэ ёсць шанс».

Ірына Раманаўна смяялася баском, а ейны муж нахабна разглядаў Аседача, адкінуўшы люстэрка.

— Добра цябе расфарбаваў хтосьці. У мяне такі ж лыч быў, як да ордэна прадставілі. Памятаеш, Ірка?

— Ну-ну, пайшоў Ямеля хлябаць кіселя! Коля, чалавеку не да цябе, не бачыш хіба?

— А чалавек можа хаця б сказаць, у якія гады быў у Афгане?

— Тройчы, — адказаў Сцяпан. — Першы раз са снежня 1981-га да лютага 1983-га. Як напісана ў адным сур'ёзным дакуменце, «для аказання саветніцкай дапамогі». А калі прасцей, то давялося пазагараць у сонечнай правінцыі Пакція, у горадзе Хост.

— Ну, дапусцім, што Хост, — прыдзірліва дапытваўся Коля. — А ў другі раз дзе?

— А ў другі раз — у 1984-м, а трэці — у 1985-м і аж да вываду нашых войск. Геаграфія значна пашырылася: Лашкаргах, Кандагар і ўся тэрыторыя вышэй на поўнач уздоўж лініі Дзюранда.

— Дзюранда? — Коля задумаўся. — Такую назву не ведаю, а пра астатнія гарады чуў.

Тлумачыць Мікалаю, што такое лінія Дзюранда? Ва ўсялякім разе не цяпер. Цяпер думкі пра іншае.

— Саветнік — і ваяваў? — Коля скептычна хмыкнуў. — А то я пабачыў у Кабуле розных саветнікаў. Некаторыя там такія «саветы» разводзілі, што больш шкоды ад іх было, чым карысці.

Аседач не знайшоўся, што адказаць.

— Узнагароджаны? — не сунімаўся Мікалай.

— Два ордэны і медаль «За адвагу», — з гонарам сказаў Аседач.

— Ну, цяпер бачу, што ваяваў, — палагоднеў Мікалай. — У самога ордэн і торба

юбілейных цацак, — задаволена прамовіў Коля і адразу ж згубіў цікавасць да «пасажыра». Наперадзе быў паварот на кальцавую, два пасты ДАІ, плынь аўто, а ягоная Ірына далей райцэнтра на машыне ніколі не ездзіла. Недзе між гэтымі пастамі ДАІ іх будзе чакаць «Шпак» — Валодзька Шпакоўскі, якога нельга праваронiць…

**7**

— Усё ў твайго Кругліка банальна, як двойчы два. Біяграфія ў чатыры радкі змясцілася: вёска, школа, вучылішча, служба ў Віцебску, а потым у Баранавічах. Уяўляеш, чалавек пяць год на адным месцы. Служба службай, а хобі ў таварыша сур'ёзнае: сядзіба з дзясяткам парнікоў, агарод памерам з аэрапорт, батарэя вулляў з пчоламі. Жончына радня гандлюе раннімі гуркамі і перцамі, пастаўляе гуркі нават у дывізіённую сталовую.

— Банальна. Абсалютна ўсё. — Аседач усхвалявана хадзіў па пакоі.

— Ну, хіба што вёска, дзе ён нарадзіўся, мае не банальную назву Парыж. Ёсць такая ў нас на поўначы Віцебшчыны.

— Парыж? — Сцяпан задумаўся. — Ну, то прыйдзецца больш скрупулёзна даследаваць ягоныя «французскія карані».

Валодзя Шпакоўскі папрацаваў учора няблага: адшукаў сведак у вёсцы Зарэчча, якія пацвердзілі, што сапраўды бачылі пяцёх мужчын на «уазіку», прыезджыя шукалі кагосьці і распытвалі вяскоўцаў, сведкі па фатаграфіі нават апазналі самога Кругліка. А яшчэ Валодзя праз агульнага маскоўскага сябра-«афганца» даслаў са сталіцы тэлеграму на імя Кругліка з такім вось інтрыгоўным зместам: «Вярнуўся ў Маскву. Дзякуй за гасціннасць. Аседач».

Валодзя Шпакоўскі заўсёды быў майстрам розыгрышу. Але на гэты раз разлік быў хутчэй на тое, што Круглік, атрымаўшы такую тэлеграму ўслед за павесткай на допыт, пачне хвалявацца і наробіць памылак. Праўда, хатні тэлефон, які паставілі на праслухоўванне, зафіксаваў толькі званок з Масквы. Спыталі гаспадара, але тэлефанавалі з Галоўпаштамта, так што ніякіх зачэпак, адны здагадкі. І жонка, па ўсім відаць, не ў курсе, бо спакойным голасам адказала, што муж на службе.

Валодзя дзейнічаў, а Сцяпан адседжваўся ў ягонай кватэры: днём гуляў з Валодзевым сынам у шашкі і шахматы, драмаў у фатэлі на лоджыі і доўга варочаўся ноччу. Яшчэ пару дзён, па рэкамендацыях урачоў з ваеннай паліклінікі, давядзецца быць на хатнім рэжыме. Але Аседач быў хутчэй пад хатнім арыштам: ён заявіў на Кругліка, але падазрэнні не зняты і з ягонай персоны. Генерал Гаўрылаў так і сказаў: «Лішняя чарка яшчэ ніколі да дабра не даводзіла. Ёсць і такая версія ў нашых калег».

— Думай, Сцёпа! Думай, каму ты перайшоў дарогу ці хто табе хоча перайсці яе. Маскве цяпер не да цябе, там чорт ведама што адбываецца, калі ў Крамлі хаос, то і ўсюды бардак — генерал Гаўрылаў абяцаў дапамогу, але генералу цяжка.

І Сцяпан думаў, ламаў галаву і днём, і ўначы. Парыж, Парыж. Адкуль ведаў, што ёсць вёска з такою назвай? Валодзя прамовіў, а Сцяпан нават не здзівіўся, хаця павінен быў. Чаму не здзівіўся?

Калісьці на курсах перападрыхтоўкі старэнькі прафесар псіхалогіі казаў:

— Наша памяць, маладыя людзі, практычна бязмерная. Важна толькі асэнсаваць, што ёсць, умоўна кажучы, такія скрынкі, куды мы запіхваем усю інфармацыю, нібы тыя непатрэбныя рэчы. Зімовыя рэчы да зімовых, летнія да летніх. І калі будзеце сачыць за парадкам у гэтым своеасаблівым «гардэробе», то ў любы момант з патрэбнай скрынкі выцягнеце старую інфармацыю.

Сцяпан другі дзень пераглядаў «гардэроб» сваёй памяці. У якой скрынцы павінен ляжаць цэтлік «Парыж»? Калі ён зразумее гэта, ён усё успомніць. Павінен прыгадаць.

Але ўсплыло іншае. Сярод ночы ўзніклі словы «як кацубою па лбу», іх любіў гаварыць калісьці дзядуля Пілiп у адказ на якую-небудзь нечаканую навіну, і Сцяпан падхапіўся ўвесь спалатнелы ад здагадкі і не мог дачакацца раніцы. Як не любіў ён калісь успамінаць вайну, і пасля, калі па службе трапляў у Грузію ці Таджыкістан, якія і блізка не былі падобны да Афганістана, усё роўна не мог спакойна глядзець на горы і перавалы. Ягоная душа пераварочвалася аж да самлеласці. А тут ляжаў і бачыў перад сабой Гіндукуш са шматлікімі цяснінамі, па гэты бок насцярожаны, а па той бок грозны. На пакістанскай мяжы ў той дзень адбывалася неймаверна што: моцныя выбухі адзін за адным сатрасалі наваколле, з пляцоўкі на вышыні трох тысяч метраў Сцяпан Аседач з Антонам Шумігаем спрабавалі разгледзець у біноклі, што здарылася.

— Устаноўкі пайшлі! Чуеш? А цяпер цяжкая артылерыя! — каментаваў Шумігай.

Праз колькі часу па рацыі атрымалі паведамленне: «Па той бок мяжы вялікая завaруха. Сачыце за сітуацыяй».

У хлопцаў быў свой клопат: чакалі важнага сувязнога з пакістанскага боку. Разведка данесла, што пешаварскія лагеры бежанцаў моцна перапоўнены. Афганцы хацелі б вярнуцца назад, і сямейныя, і юнакі, але людзей не выпускаюць на мяжы, а мужчын баяздольнага ўзросту, якія адмаўляюцца вучыцца ваяваць з «шураві», кінулі ў турму. Аседач чакаў таксама інфармацыю, звязаную з чарговай перапраўкай бандфарміраванняў з пакістанскага вучэбнага цэнтра.

Баявыя пакістанскія верталёты кружлялі над Гіндукушам увесь наступны дзень, нібыта высочваючы месца схрону двух савецкіх саветнікаў. Насамрэч іх клопат быў нашмат маштабней. Пад раніцу Аседач і Шумігай дачакаліся сувязнога. Як засёды, у Махмуда быў ослік, які цярпліва чакаў, пакуль ягоны гаспадар перагаворыць з «шураві».

Махмуд пра заваруху ведаў мала: ён пакінуў гарадок у самы разгар паўстання. Але са складак сваёй мудрагелістай шапкі стары выняў кавалачак тканіны, на якім было напісана два словы па-руску: Аванес Кацуба.

Махмуд тыкаў пальцам ў тканіну і паўтараў: «гэты “шураві” ўзняў паўстанне ў лагеры палонных. Ён напісаў сваё імя і папрасіў аднаго палоннага з афганцаў абавязкова перапpавіць “данясенне” каму-небудзь з “шураві”».

Пошукі Аванеса не прынеслі тады ніякіх вынікаў: сярод армянскіх хлопцаў, якія служылі ў Афганістане, не было ніводнага з такім прозвішчам. Магчыма, гэта толькі частка прозвішча? Сярод тых, хто за апошні год прапаў без вестак ці трапіў у палон, таксама не было нікога з такім ці падобным прозвішчам. Адважны і разумны чалавек, які спланаваў і ажыццявіў маштабнае паўстанне, у выніку якога былі вызвалены савецкія і афганскія палонныя (як высветлілася пасля, прыблізна каля 200 чалавек), было забіта каля 300 маджахедаў, 20 амерыканскіх і пяцёра французскіх інструктараў, тры заходнія карэспандэнты, ці, хутчэй, разведчыкі пад маскай журналістаў, узарвана некалькі вялізных сховішчаў са зброяй, застаўся невядомым. Дык вось хто ты, колішні безымянны герой!

Аседач адчуваў, што, разблытаўшы гэтую загадку, падбярэцца і да сваёй. Лёс прывёў яго на Іванаву радзіму, штосьці ёсць у гэтым таемнае і міфічнае. Так званая метафізіка жыцця, праявы якой Сцяпан адчуваў шматкроць і на вайне, і пасля яе.

У адну з начэй успомнілася іншае. Ахмад Шах разам з некалькімі сакрэтнымі паперамі перадаў фотаздымкі савецкіх ваеннапалонных. Худыя, непаголеныя, спа-

кутаваныя твары не дваццацігадовых хлопцаў, а нібыта зведаўшых доўгае і цяжкое жыццё старых і знямоглых дзядоў былі на гэтых здымках. Вось чаму той здымак дзядулі ў хаце Кацубаў здаўся Сцяпану знаёмым.

Тэрмінова трэба дамоў, і ніякія дактары, ніякія развагі Шпакоўскага не дапамогуць. Трэба дамоў, да свайго ўласнага архіва. Але да вяртання Валодзі са службы Сцяпан вымушаны быў сядзець у кватэры і пакутліва ўспамінаць…

— Гэта было ў Хосце ў мой першы прыезд. Май ці красавік, можна будзе пазней праверыць, удакладніць. Мы вярнуліся з цяжкога задання, двое сутак не спалі. Сяргей Краўчанка быў цяжка паранены, у Артура Шарнавускаса кантузія. Настрой сам разумееш які. Ты памятаеш гэтыя вялікія каменныя дамы на ўскраіне Хоста?

Валодзя добра памятаў Хост, ён служыў там паўгода.

— Будынак, дзе спыніліся «каскадзёры»[1], абстралялі «эрэсамі», а перакрыцці ў ім былі драўляныя, ненадзейныя, і гасцей перасялілі ў нашу «віллу». На «клумбах» саспелі памідоры, «каскадзёры» яшчэ жартавалі, што ў Хосце пасля Кандагару сапраўдны рай.

— Сцяпан, ты інтрыгуеш. Кажы хутчэй, ты што-небудзь успомніў?

— Я ляжаў у суседнім пакоі, не было сілы пайсці да стала. Зайздросціў капітану Бальшакову, той прывёў Ісмаіла, афганскага афіцэра, афганец калісьці вучыўся ў Еўропе, ведаў французскую мову. Адзін з «каскадзёраў» цудоўна гаварыў па французску і на мове фарсі.

— І абодва яны любілі Парыж? — не ўтрымаўся ад жарту Валодзя.

— Бальшакоў спытаў, адкуль «каскадзёр» ведае столькі моў. І той сказаў літаральна наступнае: «Я ж нарадзіўся ў Парыжы. У вёсцы Парыж, ёсць такая ў Беларусі. І таму, маўляў, я проста абавязаны ведаць французскую».

— Прозвішча паліглота ўспомніў?

— Імя, здаецца, было ў яго самае распаўсюджанае. Толя, Коля, а можа і Саша… А па прозвішчы яго не называлі. Пабылі хлопцы вечарам, а раненька зніклі, нібыта іх і не было надоечы. Я нават не бачыў яго, толькі чуў ягоны голас.

— Ну, голас! — усміхнуўся Валодзя. — Голас — гэта вельмі многа! Голас — лепей, чым ты бачыў бы толькі твар ці фігуру — ці то жартаваў, а мо і сур'ёзна казаў Валодзя. — Я вось, ведаеш, быў у Афгане худы, як аглобля, а цяпер бачыш, які піўны бак адрасціў? Хто б пазнаў цяпер мяне? А вось голас і з гадамі не мяняецца.

І ўжо больш сур'ёзна патлумачыў: — Грыжа на ўсё пуза выперла, гэта я верталёт некалі дапамагаў цягнуць з «зялёнкі»[2] ля Газні, урачы настойваюць на аперацыі, а я баюся, брат. У Афгане ні маджахеда, ні Алаха не баяўся, а тут палохаюся звычайных дактароў.

— І я, брат, старэю, — расчуліўся Сцяпан. — Гор і душманаў няма, пабачыў беларускі лес ды беларускую рэчку, ну, думаю, і пагуляю я пад мірным айчынным небам.

Яны рагаталі так, што з суседняга пакоя зазірнула жонка Валодзі.

Успомнілі і генерала Гаўрылава. Прыгадалі, як не падабаўся ў Ташкенце колішні палкоўнік з-за сваёй прыдзірлівасці. Чэпіцца, здавалася тады, да рознай драбязы, дурнем ці разгільдзяем выставіць. Гэта потым яны зразумелі, што на вайне дробязей не бывае, і што лепей адчуваць сябе дурнем на вучэнні, чым трупам пасля баявой аперацыі.

— З Гаўрылавым трэба было пуд солі з'есці, каб зразумець, хто такі Гаўрылаў, — «закругліўся» Сцяпан.

[1] Атрад спецназа КДБ «Каскад».

[2] Зялёная зона.

І адразу пасля гэтых падагульненняў нечакана прамовіў:

— Там, у беларускай вёсцы, мне Лена снілася. Страшны такі і дзіўнаваты сон. Нібыта ратуе афганскую парадзіху, і знікае ў лабірынтах кішлака. Расплюшчваю вочы, і бачу замест кішлака вясковы двор. І дзяўчыну, ты не паверыш, вельмі падобную да Лены.

— Жаніцца табе трэба, баявы таварыш! — прачула параіў Валодзя.

Маўчалі, кожны прыгадваючы сваё. Потым зноў «круцілі» баранавіцкія прыгоды. Сцяпан у каторы раз расказваў, як уцякаў, нібы на той вайне, як двойчы пераплыў раку, як краўся праз лес і поле, бег агародамі і як потым, відаць, згубіў прытомнасць.

Валодзя, здавалася, яго ўважліва слухаў, але раптам на паўслове перапыніў:

— Факультэт павышэння кваліфікацыі!

— Які факультэт?

— Той паліглот, з беларускага Парыжа, хутчэй за ўсё скончыў факультэт павышэння кваліфікацыі. Памятаеш, быў такі ў васьмідзясятыя гады ў Вышэйшай школе КДБ. Ты ж сам казаў, што таварыш быў з «Каскада». А «каскадзёры» ў васьмідзясятыя праходзілі праз двухгадовыя курсы вывучэння фарсі і пушту. Наш Толя Дзялец заканчваў такія курсы.

— Элементарна, Ватсан! — насмешліва прамовіў Аседач. — Застаецца толькі камусьці перагледзець асабовыя справы ўсіх выпускнікоў курсаў фарсі і пушту. Работы так на тыдні два ці тры. Дык, па мне, прасцей будзе разведаць у беларускім Парыжы, хто яшчэ з тутэйшых пайшоў па ваеннай ці кэдэбэшнай лініі.

— Гэта ўжо правяраецца, — заўсміхаўся Валодзя. — Хацеў табе сюрпрыз заўтра зрабіць. Выходзіць, не атрымалася…

**8**

Генерал Гаўрылаў з азартам тасаваў асабовыя справы, нібыта шулер калоду карт. Аседач, Шумігай, Казлоў, Мікалаеў, Іваноў… Які сэнс збіраць хлопцаў, няхай яны і профі, з розных ведамстваў? Праўду кажуць: хочаш загубіць добрую справу, дык аб’яві рэарганізацыю. Ну што гэта будзе за суперсакрэтная служба, для якой супрацоўнікаў набіраюць з некалькіх ведамстваў? Зноў вучоба, пастаноўка задач, прыцірка і праверка на вашывасць.

А вашывы ўжо хтосьці завёўся. Камусьці з іх перайшоў дарогу ці чымсьці зашкодзіў Сцяпан Аседач, і гэты хтосьці, відаць, зусім не ў курсе, што генерал Гаўрылаў за Аседача і брату, і свату горла перагрызе. Бо Аседач даражэйшы за брата. Гаўрылаў абавязаны яму жыццём, а такое не забываецца.

Дзень быў шараговы, чарговае папаўненне, якое даставілі праз перавал Саланг. Палкоўнік Гаўрылаў загадаў пакарміць байцоў. Запрасілі паабедаць і лейтэнантаў. У афіцэрскім адсеку ад бялюткіх сурвэтак мігцела ў вачах. На кухні, відаць, збіраліся здзівіць новенькіх па поўнай праграме, а таму выйшла невялічкая замінка. Афіцэры курылі ля ўвахода ў ангар, Гаўрылаў «забаўляў» навічкоў нядаўнім здарэннем на Салангу, перамяшаўшы праўду з выдумкай: няхай з першага ж дня прызвычайваюцца, што тут вайна, а не экскурсія. І якраз пасярод эфектнай фразы Гаўрылаў быў збіты з ног афіцэрам, што стаяў насупраць, а яшчэ праз імгненне паўз іх праляцела куля і прабіла стэнд.

— Снайпер! — адчайна крыкнуў хтосьці.

Мясцовасць была «зачышчана» месяцы два таму, а снайпераў паблізу наогул не было ніколі.

— Як ты ўбачыў яго? — спытаў Гаўрылаў у афіцэра, які не паходзіў на экстрасэнса.

— Інтуіцыя, таварыш палкоўнік! — аджартаваўся Сцяпан. — Такое паганае пачуццё ўзнікла. Яшчэ не пад'еў, а ўжо нібы атруціўся. А потым р-раз — і сам не ведаю, чаму захацелася прыдушыць такога гаваруна. Калі б не куля — на гаўптвахту загрымеў бы.

Гаварун Гаўрылаў ацаніў жарт:

— Ты мяне ад ганьбы выратаваў, бо загінуць падчас баявой аперацыі гонар, а «злавіць» кулю каля сталоўкі — сорамна было б і на тым свеце.

А потым пранікнёна прамовіў:

— Ведаеш, з дзяцінства марыў пра брата, а бацькі ўсё абяцалі, ды чамусьці «куплялі» дзяўчынак. У мяне ажно чатыры родныя і пяцёра стрыечных сясцёр. І ніводнага брата! Цяпер будзеш ты мне тым братам.

Потым два гады яны не гублялі адно аднаго, перакрыжоўваліся то ў Пакціі, то ў Хосце, то ў Кандагары, то ў Кабуле, калі, як паведамлялася афіцыйна, з Афганістана ўжо быў выведзены апошні савецкі салдат, а яны ўсё рызыкавалі і рызыкавалі сваімі жыццямі невядома з якой мэтай, пры тым што мэты гэтай не дабілася цэлая армія за папярэднія дзесяць гадоў.

І вось цяпер гэты брат у бядзе. Ці мог Аседач па п'янцы наладзіць бойку? Афганскі сіндром, нічога не зробіш, колькі хлопцаў ужо ў мірным жыцці «пагарэла» ад нястрымнасці, ад абвостранага пачуцця справядлівасці, ад няшчырасці людской. Там, на вайне, усе былі як на далоні. Там хітрыць і крывадушнічаць абставіны не дазвалялі. А вярнуліся хлопцы да мірнага жыцця, а тут справядлівасць з несправядлівасцю ў абдоймах ходзяць. Па сабе ведае, як хочацца часам розным асталопам урэзаць, але сціскае і зубы, і кулакі. Цярпі, генерал, чалавекам будзеш!

А як застацца чалавекам пасля Фароскай трагікамедыі? Распадаецца дзяржава літаральна на вачах, а ты нічога не можаш зрабіць, здрайцы прадаюць Радзіму, а баявых генералаў адцягваюць на надуманыя праблемы. Пад выглядам журналістаў усюды віжуюць заходнія разведвальныя структуры: па выпраўцы ж бачна, што не цывільныя гэта людзі, нягледзячы на іх квяцістыя кашулі і пярсцёнкі на руках. Іван Іванавіч з Генеральнага штаба, сусед па лесвічнай пляцоўцы, нядаўна журыўся:

— Ведаеш, што робіцца ў нашым 6-м інстытуце? З архіваў выносяцца дакументы з грыфамі «сакрэтна» і «цалкам сакрэтна». Прыходзяць нейкія людзі і выносяць. Камусьці спатрэбіліся нават чыстыя бланкі 30-х—40-х гадоў. І куды скардзіцца, калі санкцыі спушчаны з Крамля? Толькі Госпаду Богу?

Думаць, што сусед перабольшвае, не выпадала. Літаральна ўчора генерал Іванісаў, начальнік кафедры Ваеннай акадэміі, падзяліўся навіной:

— Мы цяпер, дружа, актыўна сябруем з амерыканскімі ваеннымі гісторыкамі. Прыехалі да нас трое свяцціл, толькі адзін з іх дакладна з разведкі. Па некалькіх каналах праверылі, і ўсё сышлося. Капіруюць нашы матэрыялы са спецкурсаў. Значыць, хтосьці ўсё гэта дазволіў…

«Аседач і бойка? — мераў крокамі кабінет генерал Гаўрылаў. — Гадоў пяць таму за такія беларускія прыгоды мог загрымець Аседач, пагоны б знялі ініцыятару бойкі. А калі невіноўны — за тыдзень бы разабраліся. А сёння трэба нейкімі ледзь не паўафіцыйнымі мерамі, цішком, крадком, як зладзюга які, збіраць інфармацыю ды ратаваць сябра».

Ці мог «афганец» «афганцу» зрабіць падлянку? Яшчэ год таму Гаўрылаў бы руку даваў на адрэз, што не мог, хаця зрэдку нягоднікі сустракаліся і ў Афгане, але

там яны былі навідавоку. А цяпер не ўпэўнены, бо ўвесь «афганскі» генералітэт апынуўся па абодва бакі барыкад, свядома ці па волі абставін.

А калі гэты «нехта» не з «афганцаў»? Такіх для новай структуры прапануецца чацвёра — контразведчык і разведчык з сістэмы КДБ, універсітэцкі юрыст і псіхолаг ледзь не са студэнцкай лаўкі. Юрыст і псіхолаг адразу ж «адпадаюць» — зусім маладыя хлопцы. А кэдэбэшныя нават для Гаўрылава будуць цвёрдымі арэхамі, зубы можна зламаць.

У распрацоўцы яшчэ дзве версіі баранавіцкага інцыдэнту, з выхадам на мясцовыя прычыны. Мажлівасць разгільдзяйства самога Аседача генерал не выключаў — не верыў, але ўсё ж не выключаў. Гаўрылаў распарадзіўся, каб тэрмінова быў адкліканы з адпачынку маёр Арлоў. Інтуіцыя інтуіцыяй, дружба дружбай, а справа дзіўнаватая і заблытаная, якраз такое ўмее разгадваць Арол, як звалі Міхася Арлова таварышы па службе.

**9**

— Шэршэ ля фам, шэршэ ля фам… — высокі і хударлявы доктар нейк імкліва зачыніў дзверы палаты на ключ.

— Афганскі сіндром, прафесар? — з разуменнем паставіўся да гэтай абачлівасці Міхась Арлоў. — Ніяк не адвыкнеце?

— Ды які там сіндром, шаноўны? Са сваімі сіндромамі я разабраўся ў першыя ж два гады. А цяпер… Гэта мая, так бы мовіць, персанальная палата. Сплю тут перад аперацыямі: у маім узросце губляць на дарогу дзве гадзіны з раніцы ды дзве ўвечары — завялікая раскоша. А зачыніўся на ключ, каб нас ніхто не турбаваў без патрэбы, спакайней будзе размаўляць. Я так разумею, што зацікавіла органы нябожчыца Алена Каралеўская невыпадкова.

— Кавалеўская! — паправіў Арлоў.

— Гэта для вас яна — Кавалеўская! — уздыхнуў прафесар. — Для мяне яна была і засталася Каралеўская. Не зразумець вам гэтага, шаноўны.

Прафесар быў гаваркім і дружалюбным, і Міхасю Арлову заставалася толькі слухаць ды накіроўваць ягоны аповед у патрэбным рэчышчы.

— З чаго ж мне пачаць? З чуткі, напэўна, якая зрабіла тады ў нашым шпіталі вялікі пярэпалах. Не ўспомню, адкуль, але ці не ў адзін дзень мы ўсе даведаліся, што да капітана Кавалеўскага прыязджае жонка. Я нават у штаб не паспеў пазваніць, каб даць адбой, хаця ў хірургах, ведаеце, у нас заўсёды была патрэба. А калі яшчэ гэтая жонка такі ж выдатны хірург, як яе муж, то любы начальнік шпіталя афганскаму богу б маліўся. Але ж мне не трэба былі раўнівыя Дэздэмоны, і я, прызнаюся, крыху напалохаўся.

— Дык што, капітан Кавалеўскі меў палюбоўніцу? — спытаў маёр Арлоў.

— Меў, і я на гэта заплюшчваў вочы. Ёсць такая катэгорыя людзей таленавітых, умелых, незаменных у сваёй прафесіі, але абсалютна непрыстасаваных у побыце.

— Мамчын сынок?

— Не зусім. Вось, скажам, у царскай Расіі да ваеннага ўрача прыстаўляўся дзяншчык. Прыбярэ там, накорміць свайго пана, расчэша яму вусы, выслухае і шчэ дасць разумную жыццёвую параду. Абагрэе, адным словам. Вы самі прайшлі Афган? — раптам «пераскочыў» на іншую тэму прафесар.

— Паўтара гады ў пачатку вайны. І нават у шпіталі два месяцы пракачаўся. Так бы мовіць, з поўным боекамплектам інфекцыйных хвароб, — з усмешкай прамовіў Арлоў. — Вам кажу, а іншым саромеюся. Тым, хто не разумее, што такое афганскі гепатыт.

— Інфекцыйнае аддзеленне — крыху іншая справа, хаця таксама не для слабых. А вы б убачылі, што адбываецца ў хірургічным, калі верталёты ўсё вязуць і вязуць цяжкапараненых, і кожнаму трэба тэрмінова на аперацыйны стол. Дзесяць ці дваццаць хвілін прамаруджвання каштавалі хлопцам жыцця. Капітан Кавалеўскі пасля цяжкога дня… — прафесар памаўчаў — ці ночы — клікаў медсястру Верачку. Каханне ў іх там было ці шкадаванне адно аднаго, не ведаю. У падобных выпадках маёр Ігнаценка папіваў гарэліцу, я ж любіў узяць у рукі гармонік. Адна з медсясцёр вязала сурвэткі. Каму што дапамагала…

Прафесар уздыхнуў і памаўчаў. Арлоў з нецярпеннем чакаў далейшага аповеду.

— Быў люты, недзе перад мужчынскім святам зацвіў міндаль. Прыгожая, я вам скажу, карціна: зіма, усё спіць, і квітнее міндаль бялюткімі шорсткімі пялёсткамі. І тут прылятае з Кабула самалёт, а з яго выскоквае сапраўдная каралеўна. Яшчэ не сапсаваныя вайною прыгажосць, спешчанасць і нахабства. Вы ж разумееце, у Ташкенце дзяўчына мо суткі праседзела ў цырульні ці ў касметолага, каб уразіць і аблуднага мужа, і нас усіх. Прыгожая і калючая, як тыя кветкі міндаля. Я, кажа, таварыш маёр, вас не віню, што тут бардэль развялі. Маўляў, я прыехала па закліку сэрца як сапраўдны савецкі патрыёт дапамагчы афганскай рэвалюцыі.

— Ну-ну, думаю, ведаем мы такіх патрыётаў, ад якіх мужы на вайну ўцякаюць. Але ў першы ж тыдзень падпаў пад ейнае абаянне і зразумеў, што вельмі блізарукі капітан Кавалеўскі, калі прамяняў жонку на Верачку.

— І як разрулілі вы гэты любоўны трохкутнік? — спытаў Арлоў.

— А ніяк! На вайне, брат, усё само разрульваецца. Алена спачатку на баявыя аперацыі ездзіла, на полі бою дапамогу аказвала, а потым новенькіх урачоў прыслалі, і Лена за адным аперацыйным сталом з мужам стаяла. А спалі паасобку, гэта дакладна. І медсястра Верачка неяк хутка ў Ташкент перавялася, ну, а я асабліва не пярэчыў. Аказалася, што гэтая дурніца калісьці пісьмо жонцы напісала ў спадзеве, што такім чынам шчасце адваюе.

— Алена Кавалеўская і Сцяпан Аседач — што вы пра іх стасункі можаце сказаць? — спытаў Арлоў.

— Добрай парай былі б гэтыя двое. Кавалеўскі — выбітны хірург, але як мужык… Тут і знаўцам жанчын не трэба быць, каб зразумець, што Аседач выйграваў побач з Кавалеўскім.

— Алена падабалася многім афіцэрам, так, прафесар?

— І салдатам таксама, таварыш маёр. Яе любілі ўсе, але баба была не вяртлявая чарацянка, гэта факт.

— Чарацянка? — не зразумеў Арлоў.

— Птушка такая ёсць, прыгожанькая і вяртлявая, — патлумачыў прафесар. — А ў Алены стрыжань быў. Не тое, каб бой-баба, але такая жанчына, якая зірне на мужчыну, і ў таго ўжо ніякіх блудлівых памкненняў.

— Кавалеўскі як перанёс гібель жонкі?

— Кавалеўскі памёр за два месяцы да яе. Існуе такая форма гепатыту, нашмат горшая, чым, мяркую, была ў вас, можна сказаць, што практычна невылечная. А ён і з лячэннем спазніўся. Іншых ратаваў, а сябе, мне здаецца, і ратаваць не вельмі хацеў. Сумленне не давала яму жыць далей.

— Як вы думаеце, мог хтосьці помсціць Аседачу за Алену? Ну, там, радня Кавалеўскага? Ягоныя сябры ці калегі? Які-небудзь канкурэнт — закаханы лейтэнант, палкоўнік ці генерал? — маёр Арлоў ці то пытаў, ці то пакепліваў.

— Наўрад ці. Ля аперацыйнага стала ды шчэ ў палявых умовах хірург рэдка бывае прывабным. А ў вольны час? Алена цуралася кампаній. Не толькі афіцэрскіх. Некампанейская яна была, як ні дзіўна гэта выглядае…

Міхась Арлоў вярнуўся з ваеннага шпіталя практычна з нулявым вынікам. Прафесар доўга і падрабязна адказваў на ягоныя пытанні, але пачутае практычна нічога новага не дадало для справы. Гібель Алены таксама была несакрэтнай — падарвалася на БТРы, калі вярталася з Газні ў Хост. Не разблытваўся нешта гэты тугі афганскі вузел…

**10**

…Як жа даўно Сцяпан не вымаў свой старэнькі заплечнік! Нібыта не заплечнік, а цэлае сховішча былога жыцця. Калекцыя кепак-«пакістанак», выцвілых на сонцы, са слядамі ўзрываў і куль. Бывала, «апранаў» іх на каменне, каб адцягнуць увагу «духаў», і варожыя кулі траплялі ў цэль. Красоўкі, паношаныя, падрапаныя, абсмаленыя, але незаменныя і любімыя, у якіх хадзіў у горы. Кніжачка вершаў Сяргея Ясеніна, зжаўцелая, выцвілая, брудная, чытаная-перачытаная. Лісты ад Алены, якія яна пісала ў скрынку сваёй тумбачкі, калі Сцяпан знікаў на месяц ці два. Рэчы Алены: яе дзённік, закамуфляваны пад сшытак медыцынскіх занатовак, блакнот з вершамі — не ўласнымі, у асноўным Вазнясенскага і Асадава, і чаму гэта жанчыны так любяць вершы Асадава? Што ў іх такога асаблівага, зарыфмаваная банальшчына, не болей. Набыў потым зборнік яго выбранага, колькі не перачытваў, нішто не ўразіла. Некаторыя «афганцы» пісалі нашмат лепей, хаця паэтамі сябе не лічылі.

А вось і ён, малюпасенькі кавалак тканіны з імем і прозвішчам — літары цяпер не столькі прачытваюцца, колькі ўгадваюцца, але ж і сёння можна разабраць — «Аванес Кацуба». Да таго ж у архіве павінны быць фотаздымкі гэтага подпісу на тканіне. Саму тканіну як рэчавы доказ Сцяпан не аддаў, схлусіў, што мае толькі фотаздымак і пісьмовае тлумачэнне ад афганскага сувязнога, чамусьці тады ўжо не давяраў розным камісіям.

Цэлы стос фатаграфій — сяброў па Афганістане, з якімі дзяліў і горы, і неба, і ўвесь белы свет.

Папраўдзе, Сцяпан не любіў пераглядаць афганскія рэчы. Як не любіў і ўспамінаць вайну. У першыя месяцы пасля Афганістана ўскокваў начамі, будзіў сам сябе крыкамі. Аднойчы маці засталася начаваць, з раніцы шчыравала на кухні і знячэўку скінула накрыўку ад каструлі. Занепакоена выглянула ў калідор і здзівілася, што сын ужо стаяў у поўнай баявой гатоўнасці: апрануты і абуты. Афганскі сіндром — жаданне адразу ж зачыніцца на ключ, дзе б ні апынуўся — у кватэры, кабінеце, гатэлі, у сябра на лецішчы — не праходзіў мо з год.

— Жаніцца табе трэба, сынок! — умольвала маці, калі прыязджаў да бацькоў з аднаго канца Масквы ў другі. — Зірні, колькі дзяўчат прыгожых навокал, вунь у нашым пад’ездзе Машанька вырасла, памятаеш, як ты яе ў дзяцінстве з каляскай ад магазіна дамоў павёз, а мама яе перапалохалася, што дзяўчынку скралі? Заседзелася ў дзеўках Машанька, усе суседзі за яе перажываюць.

Аджартоўваўся, абяцаў, зноў аджартоўваўся, каб толькі супакоіць родных. Пазнаёміўся неяк у кампаніі сяброў з дзяўчынай, нечым падобнай да Алены. Настаўніца матэматыкі, дваццаць восем гадоў. Ці то прафесія наклала адбітак, ці то па натуры была такая разважлівая, — замучыла яго сваімі павучаннямі. А ён не ўмеў ладзіць з жанчынай, якая з любой драбязы робіць ці ўрок, ці трагедыю. Разумеў, што ў мірным жыцці ў іх з Аленай былі б таксама нейкія сваркі і спрэчкі, без гэтага ж не абыходзіцца ніводная сям’я. Успомнілася Алеся з вёскі пад Баранавічамі, якая даверліва глядзела на яго вялікімі зялёнымі вачыма. Каторая з жанчын вымушае яго вярэдзіць мінулае?

…Дрэнны почырк — гэта ва ўрачоў прафесійнае, гэтаму, мабыць, іх спецыяльна ў інстытутах вучаць. Разабраць Аленіны каракулі было неймаверна складана. Сіднакарб — таблеткі супраць стомленасці. Навошта запісвала? Гэтую назву ў Афгане ведаў не толькі кожны ўрач, але і кожны афіцэр. Рэцэпт пра вярблюджую калючку, якая абеззаражвае ваду. Нейкія афганскія жаночыя парады. Рэцэпты ці імітацыя рэцэптаў, а хутчэй шыфроўкі, па асацыяцыі ці па нейкім сваім плане. Кароткія занатоўкі медыцынскага характару з пытальнікамі на палях, абрывістыя характарыстыкі пацыентаў ці кагосьці яшчэ. Скарачэнні, умоўныя знакі, графікі і малюнкі. Нібыта не хірург, а чалавек са спецслужбы вядзе свой таемны сшытак.

Прынята лічыць, што нельга чытаць чужыя дзённікі альбо лісты. Аседач дзівіўся з самога сябе: калісьці не аддаў сшытак Аленіным бацькам. А сам і саромеўся, і баяўся чытаць, занадта свежыя былі яго душэўныя раны. Цяпер вось вывучаў без аніякіх пакут сумлення, нібыта паталагаанатам, уважліва, адстаронена, без унутранай грэблівасці да самога сябе. Ну што ж, вось і адказ на пытанне, які б тады, у Афганістане, яго моцна пакрыўдзіў: Алена мужа кахала і ненавідзела адначасова. Дзіўныя яны, жанчыны. Любіла, калі прыязджаў Аседач, усяму шпіталю паказаць, як яна радая, любіла пакакетнічаць, прыгарнуцца да яго пляча, паплакаць. Даверыла яму свае паперы, калі шпіталь пераязджаў у чарговы раз, а яе адправілі разам з прадуктова-агітацыйным «дэсантам» у суседні горад, які тры месяцы быў у блакадзе. Яшчэ Кавалеўскі быў жывы, магла б даверыць паперы яму. Не даверыла, таму што кахала? Таму што занадта шчырай была ў гэтых сваіх запісах?

«Мая французская мова саслужыла мне кепскую службу. Выпадкова падслухала размову і нічога не зразумела. “У дзве гадзіны…” — сказаў В-2. афганскаму сувязному. У дзве гадзіны назаўтра быў падбіты наш самалёт. Простае супадзенне? Спытаць у А. пра В-2. Абавязкова. Не давяраю…»

«Мая французская мова мне вораг. Я баюся В-2. Ён занадта часта …» «Заўтра? Усе нешта адчуваюць, але нічога невядома. Кажуць, што знайшліся шпіёны сярод простых дэхканаў. Забралі Якуба. Расказаць пра В-2».

Хто ж гэты таямнічы і пагрозлівы В-2? І чаму так шмат малюнкаў адной і той птушкі? Нешта сярэдняе між вераб'ём і голубам. Зашыфравана чыёсьці прозвішча? Голубеў? Вараб'ёў? Сінічкін? Аседач потым вышукваў афіцэраў з «птушынымі» прозвішчамі. Правёў невялічкае расследаванне, якое не дало ніякіх вынікаў.

А камандзір узвода, у якім служылі два Іваны Кацубы, ад лейтэнанта ўжо вырас да капітана — лагічна, бо і баявая служба ў Афганістане, і сам час садзейнічаў афіцэрскай кар'еры. А гэтаму капітану дык наогул пашанцавала — вучыўся цяпер у Ваеннай акадэміі імя Фрунзэ, і вучыўся на «выдатна». Парадавацца б за свайго брата-«афганца», ды радавацца не выпадала: моцным «арэшкам» мог аказацца гэты Васіль Васільевіч Васільеў, дай Бог здароўя ягоным родным, што падарылі такое імя, імя па бацьку і прозвішча. Тут не В-2, а В-3 атрымоўваецца.

Прыйсці і заявіць на поўным сур'ёзе:

— А чаму, капітан, ты схаваў праўду пра Івана Кацубу? Ну, таго, у якога мянушка была Аванес?

— Адставіць, таварыш капітан! Праўду, гаварыце толькі праўду!

Аседач разумеў, што такімі метадамі з капітана Васільева нічога не «выцягнеш». Маўляў, быў Іван Кацуба і няма Івана Кацубы: разам з іншымі хлопцамі загінуў пры ўзлёце над аэрадромам. Ёсць дакументы, пратаколы, сведкі. А ў вас, таварыш палкоўнік, толькі чуткі, домыслы і выцвілы кавалак тканіны. Ды фінгал пад левым вокам.

Аседач бачыў хісткасць сваёй версіі. Спяшаўся дахаты ў Маскву, а вынікала, што трэба тэрмінова вяртацца пад Баранавічы, у тую вёску, дзе яго выратавала Алеся, дзе жыве другі Іван Кацуба, якому лёс даў шанец вярнуцца з Афганістана жывым.

**11**

Глаша якраз секла траву ў карыце, як адчынілася брамка і ўвайшлі двое ў форме, з тоўстымі партфелямі, у суправаджэнні старшыні сельсавета.

— А божачкі, а што ж мой зноў нарабіў? — перапалохалася кабета.

— Не хвалюйцеся, цётка, нічога не здарылася, тут афіцэры ў газету хочуць пра вашага сына напісаць, — тлумачыў старшыня, а на твары ў самога былі і здзіўленне, і разгубленасць.

— У газету? — недаверліва перапытала Глаша. — Дык жа співаецца мой патроху. А так ён хлопец добры быў, і ў школе вучыўся добра, і цяперака бывае харошым, — казала жанчына і ўсё пераводзіла погляд з аднаго ваеннага на іншага.

— Камандзіры таксама служылі ў Афганістане, так што ім будзе пра што пагаварыць з сынам. А дзе ж ён сам? — спытаў старшыня.

— У хаце, спіць яшчэ, — засаромелася кабета, бо ўжо было а палове першай.

— Дык будзіце героя! — мовіў адзін з ваенных.

І такая прыязнасць была ў ягоным голасе, што цётка ўмомант супакоілася. Жанчына хуценька пабегла ў хату, на хаду выціраючы рукі аб фартушок. Стол накрылі пад яблыняй — ваенныя былі з добрымі гасцінцамі, выклалі на абрус і кансерваў розных, і прысмакаў гарадскіх, нават хустку кwяцістую з люрэксам уручылі ў падарунак жанчыне. Маўляў, дзякуй вам вялікі, што выгадавалі свайго Івана сапраўдным героем.

І Ваня быў расчулены, а чарку браў асцярожна, больш слухаў камандзіраў. А слухаць было што: два палкоўнікі так прыгожа казалі пра братэрства афганскае, што старшыня сельсавета Ларывонавіч заседзеўся, хаця напачатку папярэдзіў, што сыдзе хутка, бо сёння спраў тэрміновых шмат.

— Прывітанне табе, Іван, ад Васіля Васільевіча Васільева, ці памятаеш такога? — спытаў Аседач.

— Праўда? Дык гэта ён вас сюды направіў? — узрадаваўся хлопец. — Ну, як жа не помніць, харошы ў нас быў лейтэнант, справядлівы. А як ён цяпер? Служыць?

— Служыць! І вучыцца ў Ваеннай акадэміі, у званні капітана цяпер, а ў будучым і да маршала можа вырасці.

— Ён можа! Ён такі! Мы яго «Вася ў кубе» і «Вася з Кубы» звалі між сабой, — прызнаваўся хлопец, і такая дзіцячая радасць была на ягоным твары, што цётка Глаша глядзела расчулена то на гасцей, то на сына і выцірала слёзы. Даўно, надта ж даўно яе Ванька так весела не смяяўся.

Іван спадабаўся гасцям, цётка Глаша гэта адчувала і бачыла. Іначай чаму б адмовіліся камандзіры спыніцца ў Ларывонавіча, чаму сказалі, што хацелі б у іхняй хаце параначаваць, і на рыбалку з Іванам пайсці пагадзіліся, і крыху адпачыць тут у вёсцы. І канверцік цётцы Глашы настойліва ўручылі, маўляў, тут ганарар за будучую публікацыю, але цётка змікіціла, што гэта ўжо госці ад сябе далі грошы, каб не сорамна ім было і заўтра садзіцца за агульны стол. Ну няхай сабе і так, спадабалася ім тут у вёсцы, дык няхай жывуць колькі хочуць. Сырадою пап'юць, мядком пачастуюцца, гуркоў ды памідораў сёлета дужа многа ўрадзіла, вунь як абодвум яе гародніна спадабалася.

— Нас абодвух «дэмбельнулі», але наверсе, відаць, падумалі, што абдрукоўка нейкая, каб два Іваны Кацубы былі ў адным спісе, у нас і імя па бацьку на

«І» — Ігнатавіч і Ігаравіч. Вось так аднаго выкраслілі. Мы манетку падкінулі — удача выпадала яму, а не мне, таму брат першым павінен быў адлятаць. А тут гэты «спец», ён часта да нас наведваўся, і ў той дзень з лейтэнантам нейкія справы круціў. А ўвечары мужыкі рэзаліся ў карты, і Ванька выйграў у яго чэкі.

— Іван гуляў у карты з афіцэрамі?

— Яшчэ як гуляў! Ён абыгрываў любога. І лейтэнант Васільеў гэта добра ведаў, таму кожны раз, калі трэба было прадэманстраваць гасцям высокі клас, заўсёды майго брата клікаў.

Ванька выйграў шмат чэкаў. Але «спец» паставіў умову: купіць у дукане для ягонай знаёмай ці каго там яшчэ ў Саюзе мудрагелісты фотаапарат, які тут жа «выплёўваў», нібы той вярблюд, фатаграфію, а ўжо на астатнюю суму сабе ўсё што заўгодна.

У дукан яны паехалі ўтрох — той «спец», ягоны афганскі таварыш Ісмаіл і брат. У дукан ці куды ў больш сур'ёзнае месца — не магу сказаць, «спяцы» часта адпраўляліся ў разведку, прыдумляючы для нас, цікаўных, нейкую легенду.

А вечарам мяне і яшчэ пецярых хлопцаў тэрмінова адправілі на заданне. Праўда, мяне адпраўляць не павінны былі, бо ўсё-ткі дэмбельны, самі ведаеце, што прыкмета такая ёсць, каб дэмбельных не адпраўлялі. Але тады пра гэта чамусьці не падумалася. Былі мы ў засадзе да наступнага вечара кіламетрах у трох ад базы і чакалі немаведама чаго. Маўляў, пільнуйце і заўважайце ўсё, што палічыце цікавым, калі што, дамо ўказанні па рацыі. Вярнуліся на наступны дзень, а тут вестка, што няма больш Вані — самалёт учора разбіўся.

— Дык Іван з табой не паспеў развітацца?

— Тут вось якая справа, — хлопец ад хвалявання перайшоў на шэпт. — Абяцаў, што аддасць мне калоду карт, кепку і брытву. Забыў у гарачцы?

— Забыў ці хтосьці «пазычыў» гэтыя рэчы? — спытаў Аседач.

— Не, у нас крадзяжоў ніколі не было! Ні крадзяжоў, ні «дзедаўшчыны». А Лявон Шагінян пазней прыгадаў, што Іванаў чамаданчык стаяў ля ложка, што Ваня, мабыць, пад раніцу на базу вярнуўся і так спяшаўся, што і пра рэчы свае забыў. Але ж потым і чамадана не аказалася, і нічога для мяне, нават запіскі якой. Ды, папраўдзе, гэта пазней ужо ўсплыло, а дні тры я хадзіў як пад градусам, не верыў, што Ваня загінуў, што ад яго нават запіскі не засталося.

— Шагінян ваш жартаўнік быў?

— Ды не, сур'ёзны, хацеў стаць дзіцячым урачом.

— Стаў?

— Дык хто ж яго ведае! — развёў рукамі Іван. — З беларусамі шчэ стэлефаноўваешся гады ў рады, са сваімі штогод на пятнаццатага лютага ў райцэнтры збіраемся, а ў Ерэван жа дарага цяперака званіць…

Увечары Ваня павёў іх у канец вуліцы, да футбольнага поля.

— На могілкі не хаджу, хіба на Радуніцу, і ўсё. Ля бацькавай і дзядзькавай магіл пастаю, павінюся перад імі, а Ванькава магіла чужая мне зусім. Не веру, што ён там ляжыць, не веру, што ён загінуў. Бачыце вунь дзве бярозы? Мы іх прывалаклі з лесу, яны і тады ўжо былі вялікімі, бацька ўшчуваў, маўляў, маленькімі трэба перасаджваць. Прыняліся абедзве! І абедзве растуць на дзіва хутка. Братава дрэва ў тую восень неяк імгненна лісце скінула, але вясной зелянела як звычайна. Жывы Ванька, жывы, толькі дзе яго шукаць?

Убачыўшы сумненне на тварах палкоўнікаў, хлопец дадаў:

— І цётка Дзіна верыць, што сын жывы, не кажа, бо баіцца сурочыць, але ж верыць. І Алеся, нявеста ягоная, верыць, сватаюцца да яе, а яна кожны раз адмаўляе. Сабака, і той верыць! — выгукнуў Іван, і адвярнуўся, затросся ў немым плачы.

На рыбалку госці не пайшлі: заседзеліся ажно да раніцы пад яблыняй, да абеду спалі, а пасля абеду зноў апынуліся за сталом, запісвалі на дыктафон размову, а пасля ўжо фатаграфавалі Івана ў святочным «летніку»-пінжаку з афганскімі медалямі. Цётка Глаша прысаджвалася непадалёку — госці на яе мала ўвагі звярталі, усё прасілі сына паўтарыць больш дакладна нейкія афганскія падрабязнасці. І Ванюнябожчыка раз-пораз успаміналі, і Глаша зноў выцірала слёзы і шкадавала, што не можа пабегчы на суседнюю вуліцу ды паведаміць Дзіне, што тут прыехалі з Мінска і Масквы сынавы камандзіры.

Няпростыя ў іх з Дзінай цяпер адносіны, хаця калісьці на вёсцы лепшых сяброўак было не знайсці. З дзяцінства разам, у школе за адной партай сядзелі, у клуб адна без адной не бегалі, і замуж за братоў Кацубаў у адну восень пайшлі, і сыноў у адзін месяц нарадзілі. Паабяцаў стары Іван Кацуба, што вуллі з пчоламі аддасць таму ўнуку, якога ў гонар дзядулі назавуць, дык абодва браты сваіх першынцаў Ванькамі назвалі. Картоплі садзіць, буракі палоць, сена грэбці, дроў прывезці — Кацубы гуртам любую працу агорвалі. У адным двары заколюць кабанчыка, дык у абодвух на патэльні мяса смажыцца.

І хлопчыкі сябравалі. Дзінінаму, праўда, больш шанцавала: да прыкладу, на алімпіяду па матэматыцы паедуць удвух, а ў сяброўчынага сына і почырк лепшы, і хутчэй змікіціць, дык пераможцам і аб'явяць яго. На спаборніцтвы па бегу ці там па скачках адправяць у раён, дык Дзінін Ваня хоць на паўметра, але абгоніць брата. Глашын хлопец быў ціхі, задуменны, хаця поруч з Дзініным завадатарам часам таксама добрым свавольнікам аказваўся. Дзе іголка, там і нітка, дзе адзін быў, там заўсёды і другі. У ваеннае вучылішча паехалі паступаць пасля школы, дык Дзінін па матэматыцы «двойку» схапіў, а яе, во дзіва, «чацвёрку» атрымаў, але ж адмовіўся здаваць наступны экзамен, маўляў, калі вучыцца, то толькі з братам разам. А праз месяц вырашылі стаць пчалярамі, ды не якімі-небудзь самавукамі, як іхні дзед, а каб з дыпломам і з прафесіяй. Не паспелі — забралі абодвух у армію, а выйшла, што на вайну.

Дзінінаму Івану і на вайне больш шанцавала: паслужыў паўгода і ў нейкім баі вылучыўся, медалём узнагародзілі і ў водпуск адпусцілі. Падрос у тым Афганістане, выцягнуўся, вышэй бацькі на галаву ці мо болей, фарсісты такі ў той светла-карычневай афганскай форме, з медалём ды значкамі, байкі розныя вясёлыя расказваў, як добра ім там у горным краі служыцца. Падарункі ўсім родзічам прывёз, Глашы вялікі адрэз заморскай тканіны ўручыў. У школу прыходзіў перад дзецьмі выступаць, да Глашы з Ігарам забягаў разоў колькі, фатаграфій прыгожых прынёс, дзе хлопцы ўдваіх ля вярблюдаў у светлай, мала падобнай да ваеннай, вопратцы.

Калі ў сельсавет пазванілі з раёна, што Ваня Кацуба загінуў і труну з целам павезлі з райцэнтра ў вёску, ніхто і не задаўся пытаннем, каторы ж з Кацубаў. Убегла Манька Котава на ферму, дзе Ігар цялят даглядаў, і грымнула на ўвесь хлеў:

— Бяда, дзядзька! Там Ваню вашага ў труне вязуць з Афганістана!

Праўду кажуць, што заслугоўвае бізуна той, хто першым прынёс дрэнную навіну. Паспяшалася Манька, як заўсёды, недарэмна яе ў вёсцы «свістаю» клікалі. Глаша яшчэ паспела мужу вады даць, у суседні хлеў крыкнуць, каб «хуткую» выклікалі. І ўрачоў людзі своечасова перанялі, бо «хуткая» ехала ў адным картэжы з труною, але медыкі не паспелі ўратаваць мужа. Памёр чалавек, так і не даведаўшыся, што выйшла памылка, загінуў пляменнік, а ягоны сын жывы. Хавалі Ваню Кацубу ў сераду, з пашанаю, з ваенным аркестрам, але труну не дазволілі адкрыць, колькі ні ўмольвалі бацькі. А ў суботу жалоба была ў Глашынай хаце, больш сціплая: ні аркестра,

ні бацюшкі. Хваляваліся, ці прыедзе сын, ці адпусцяць таго развітацца з бацькам. Не адпусцілі, з ваенкамата адказалі, што вельмі доўга з Афганістана афармляюцца дакументы, і дамоў сын вернецца не раней чым праз месяц.

З таго часу перасталі сяброўкі бегаць адна да адной, кожная сваё гора гаравала асобна. Старэйшы Кацуба ўпотай, лічы што крадком, заходзіў да іх, і калі пляменнік вярнуўся з Афгана, і калі пачаў піць ды бедакурыць. Сядзіць зажураны, жоўты ўвесь і высахлы, і паўшчуваць пляменніка саромеецца. Глаша, калі яе сын увесь тыдзень піў у разгар сенакосу, а потым зусім прапаў недзе, у гневе паскардзілася Ігнату:

— Лепей бы ён здох, чым так сябе і мяне мучыць, перад людзьмі ганьбіць.

Ігнат ажно з твару змяніўся:

— Няхай п’яніца, няхай ганьбіць, але ён у цябе жывы! Жывы! Я б на каленях да таго Афгана поўз, калі б можна было вярнуць сына!

…Увечары, яшчэ каровы з пашы не паспелі прыйсці, як да Кацубавай хаты пад’ехала вайсковая машына. Развіталіся камандзіры з гаспадарамі спяшаючыся, але сардэчна, расцалавалі цётку Глашу, дзякавалі за прыём, а мінскі палкоўнік абяцаў Ваню ўладкаваць у сталічную бальніцу, каб, як ён далікатна выказаўся, падлячыў хлопец крыху нервы, і ў сельгастэхнікум накіраваць вучыцца на пчаляра.

…Гарадок быў у сарака кіламетрах ад Мінска, і не пабачыцца з Зояй Рэбка было б неразумна. Адна справа начальнік шпіталя, у якога было столькі службовых клопатаў, што ён не звяртаў увагі, з кім варагуе Алена. А Зоя, як аперацыйная сястра, была амаль заўсёды побач з Аленай, жыла ў суседнім пакоі, магчыма, яны нават сябравалі.

Зою было цяжка пазнаць: у Афгане выглядала маленькага росту хударлявай дзяўчынай, а тут нібыта падрасла і ад хударлявасці нічога не засталося. Сядзела перад Аседачам ціхая шчаслівая месяцы на пятым ці шостым цяжарная жанчына. І пра Афган ёй успамінаць не хацелася:

— У мяне як быццам засланка якая стаіць, было і сплыло, — усміхалася Зоя, і ямачкі вылучаліся на яе пульхных шчоках. — Я нават з Мінска дамоў вярнулася, так мне захацелася ўсяго гэтага ціхага і спакойнага, што раней не цаніла. Замуж выйшла за Хведзьку, мы ў адным класе вучыліся. Чаму я раней на яго ўвагі не звяртала? Вярнулася з Афгана і закахалася, як дзяўчынка!..

Аседач ужо падумаў, што не трэба і сапраўды варушыць мінулае. Ну чым можа Зойка дапамагчы? Разнервуецца, а ёй у такім стане нельга хвалявацца. Уручыў маскоўскія сувеніры, перадаў прывітанні ад хлопцаў і папрасіў паказаць гарадок. Маўляў, калі яшчэ давядзецца тут пабываць, а вельмі ж карціць паглядзець на мясцовыя цікавосткі.

У гарадскім парку ля клумбы з ярка-чырвонымі кветкамі Зоя прамовіла:

— Памятаю, ляцім на верталёце, а на схілах гор цвітуць макі. Як рэкі крыві.

Уздыхнула, зірнула знізу ўверх на Аседача і раптам спытала:

— Здарылася штосьці? Не толькі ж каб пабачыцца ты прыехаў сюды, Сцёпа!

Дома Зоя ўключыла магнітафон. Спявала Мірэй Мацье, спявала пра каханне і здраду.

— Любімая песня Лены. Яна яе спявала, калі нікога не было побач. Лена вельмі добра спявала!

«Лена спявала? А ён гэтага не ведаў!»

— Аднойчы Лена выпадкова падслухала размову Варанца з Ісмаілам. Зразумела з пятага на дзясятае, бо, казала, французскую мову ў інстытуце вучыла не вельмі ахвотна, не думала, што калі-небудзь спатрэбіцца. Але і таго, што зразумела, было досыць, каб усвядоміць, што Варанец небяспечны чалавек.

— Гэта яна табе сама расказвала? — дапытваўся Сцяпан.

— Сама, за тыдзень да гібелі. Сказала, што Варанец зацікавіўся яе французскай мовай, што яна ведае якуюсьці ягоную таямніцу, і што калі раптам з ёй што здарыцца, каб перадала табе.

— Чаму ж не перадала?

— Убачыла цябе тады такога няшчаснага і перадумала. Падалося пасля гібелі Алены ўсё гэта нейкай драбязой, бо сама некалькі разоў была сведкай, як Варанец заляцаўся да яе. Падумалася тады, што гэта ўсё занадта асабістае.

— Падумалася? Тады? — удакладняў Сцяпан.

— А потым Віктар Варанец прыйшоў у мой пакой, злы нейкі, сам да сябе не падобны, і ўчыніў сапраўдны допыт, маўляў, медыкі гандлююць спіртам, як шчэ не стаў пераглядаць мае рэчы. Я зразумела, што ён нешта шукае, бо заходзіў да ўсіх урачых, і ўзяла грэх на душу, сказала, што Лена адбіла цябе ў мяне, таму ніякай дружбы ў нас і быць не магло.

У адказ на Зоіну шчырасць Аседач мусіў у агульных рысах расказаць пра тое, што заведзена крымінальная справа на Варанца і што следства мусіць улічыць усе акалічнасці, а для аб’ектыўнасці важныя любыя дробязі. Але не прызнаўся, што Зоіны «дробязі» дробязямі не былі, бо цяпер больш зразумелымі сталі Аленіны шыфроўкі і абрыўкі сказаў, а таямнічым В-2 і быў гэты Віктар Варанец.

**12**

Маёр Арлоў упэўнена маляваў на паперы схемы з крыжыкамі, літарамі і лічбамі. Палкоўнік Аседач усхвалявана хадзіў па вялікім змрочным кабінеце. За акном ліў дождж, бліскалі маланкі, грымеў гром. Раз-пораз трашчаў адзін з тэлефонаў, светла-жоўты, той, што бліжэй да краю стала, і генерал Гаўрылаў, важны як сфінкс — вочы вузкія, а лоб увесь у глыбокіх зморшчынах, падымаў твар і скупа кідаў камусьці:

— Так… Добра… Дакладвайце неадкладна!

І зноў акідваў уважлівым позіркам прысутных і не спяшаўся гаварыць, нібыта чакаў якуюсьці важную навіну.

Нарэшце генерал адкінуўся ў крэсле і палагоднеў:

— Дык кажаце, што расшыфравалі загадку стагоддзя? Ну-ну…

Тыдзень таму генерал распякаў свайго ўлюбёнца Аседача і ніяк не мог зразумець, навошта таму тэрмінова спатрэбілася «шукаць даўнюю праўду» з нагоды гібелі салдата-«афганца». Разабрацца б хутчэй з уласнымі ворагамі, а яму, праўдалюбу такому, трэба тэрмінова апекавацца пазалеташнімі праблемамі.

— У нас усіх пад нагамі хутка будзе гарэць зямля! — гаварыў генерал.

Ягонага камандзіра і настаўніка, Героя Савецкага Саюза, баявога, а не якога-небудзь там «паркетнага» генерала, у якога за плячыма і Вялікая Айчынная, і амаль паўстагоддзя адданай службы, здраднікам Радзімы робяць. Дык ён жа і ў Афгане праваяваў чатыры з паловай гады, больш чым любы іншы генерал, пры тым, што быў калісьці катэгарычна супраць уводу войск у чужую краіну, настойваў на дыпламатычных, а не ваенных метадах. А цяпер гэты генерал, адзіны з членаў ГКЧП, адмовіўся ад амністыі і запатрабаваў, каб ягоныя ўчынкі ацэньваліся праз суд. Маўляў, я здагадваўся, што тут разыгрываецца Фароскі спектакль па заморскім сцэнарыі, але дзяржава для мяне даражэй. Дэманы здаюць армію, народ, Радзіму. Пры такім маштабным здрадніцтве «здаць» салдата Кацубу — якая драбяза! І каму сёння ў такіх варунках патрэбна праўда пра салдата Івана? Хіба толькі раскалупваць старую рану для ягоных блізкіх, у якіх гэтая рана ніколі не загоіцца?

— І слухаць не хачу ніякіх версій! Расследуем, але не цяпер! Спачатку трэба разабрацца з тваімі прыгодамі! — грымеў тыдзень таму Гаўрылаў.

Аседач тады стаяў навыцяжку, усім выглядам дэманстраваў — палкоўнік мусіць слухацца генерала. Але калі генерал «перакіпеў», як той чайнік, палкоўнік упарта прамовіў:

— Паміж маім выпадкам і гісторыяй з Іванам ёсць прамая сувязь. Не разблытаем гэты вузел — і мой не хутка развяжацца…

І вось цяпер Аседач з Арловым, згараючы ад нецярпення, дакладвалі генералу Гаўрылаву вынікі сваіх расследаванняў.

…Капітан Васільеў быў выхаванцам савецкага часу і не наведваў царкву. Зайсці, як на экскурсію, прыгледзецца, што там і як, спытаць, ці можа пагутарыць са святым айцом? Расказаць святару, ад чаго пакутуе каторы год падрад і папрасіць дапамогі? Маўляў, адмаліце, бацюшка, мае цяжкія грахі. Не магу з імі ні начаваць, ні дняваць, не магу з імі жыць? Але смелым лягчэй быць на вайне, чым перад чужым чалавекам, няхай гэта быў бы і святар.

Калі Васіль паспавядаўся брату Юру, дацэнту-гісторыку, той абурыўся:

— Трэба найперш адмольваць грахі не табе, а тым крамлёўскім злачынцам, хто прымаў рашэнне ўвайсці ў Афганістан!

Доўга абураўся, цэлую лекцыю прачытаў на міжнародную тэму, а потым пачаў супакойваць Васіля:

— Ведаеш такую прымаўку: каго заўчасна хаваюць, той доўга жыве. Магчыма, і твой салдат недзе ў палоне там ці ў прымах у якой афганкі, трэба па розных каналах паспрабаваць пашукаць яго.

— Не той гэта выпадак, — уздыхнуў Васіль. — Працэнтаў 99, што хлопца закатавалі ў той жа дзень. Ці на наступны. Пасля дзевяці гадоў вайны «духі» не любілі няньчыцца з палоннымі.

— Ну што ж, тады глядзі на гэта па-філасофску. Вынікае, што ты ў нейкай ступені аблегчыў пакуты ягоных родных. Яны ведаюць, што разбіўся самалёт, што загінулі імгненна і радавыя, і афіцэры. Смерць у гурце, можна лічыць, ганаровая смерць. А Варанца трымайся далей, такія ў любы момант гатовы напракудзіць.

Варанец, па чутках, пасля Афгана служыў недзе ў Новасібірску: ні па дружбе, ні па службе яны больш не перасякаліся. Але нават прыгадваць яго было страшэннай пакутай для Васіля.

Іван Кацуба прыходзіў у сне. Вясёлы, кампанейскі: то нёс у модуль букет чырвоных цюльпанаў, то ладзіў нейкае свята, то абыгрываў камандзіра ў карты. Ваня браў у рукі гітару і спяваў так прачула, што Васіль, увесь спацелы, умомант прачынаўся. А ўчора прысніўся з вялізным кашом грыбоў. Калісьці Ваня з захапленнем расказваў камандзіру, як любіў на досвітку ўстаць, яшчэ раса ў лесе такая, нібыта лівень прайшоў, і за 30 хвілін нарэзаць кош баравікоў. «У мяне, — хваліўся, — кожны грыбок быў на прыкмеце». А колькі разоў пад раніцу чуў Васільеў званок у дзверы, нібыта хтосьці цісне і цісне на кнопку. Падхопліваўся — і цішыня, зноў прытрызнілася. Ехаў надоечы ў метро, насупраць сеў малады чалавек, нечым падобны да Ванькі. Васільеў не мог адарваць ад яго вачэй.

— Што, ваяка, успамінаеш, дзе мяне бачыў? Я тут і я ўсюды! — загадкава сказаў чалавек насупраць і зарагатаў.

Васільеў сумеўся і выскачыў на наступнай станцыі, ледзь не пакінуўшы фуражку ў вагоне.

Капітан і сям'ю заводзіць баяўся: як у такі калаўрот віны і злачынства ўцягнуць любую жанчыну і будучых дзяцей? Не, шчасце не бывае частковым, яно альбо ёсць, альбо яго няма. А ён злачынца, і гэтага шчасця не заслужыў.

Капітан, на здзіўленне Арлова, «раскалоўся» хутка. Прызнаўся, што яму не па сілах насіць з сабой гэты цяжар, і не па сілах было падзяліцца ім з кімсьці чужым. Ваню-Аванеса ён цаніў, як і многіх хлопцаў са сваёй роты: колькі баявых аперацый прайшлі, пад кулямі рызыкавалі разам, і хлопцы за камандзіра гатовыя былі апошні патрон і глыток вады аддаць. Магчыма, і пракідалася «дзедаўшчына» дзе-небудзь, але толькі не ў Афгане: ну як ты будзеш здзекавацца з маладых і правы «качаць», калі заўтра з гэтымі ж хлопцамі ў бой пойдзеш і будзеш спадзявацца на іх як на сябе?

— Гэта я потым «раскумекаў», што з Варанцом не ўсё чыста. Чуў пазней ад аднаго маёра, што Варанец настойліва раіў страляць па мірным кішлаку, прымяніць, так бы мовіць, прэвентыўныя меры. А мы потым з гэтым кішлаком паўгода не маглі паразумецца. Яшчэ сёе-тое чуў пра яго, як ён паскудзіў падчас вываду нашых войск, і калі супаставіў гэтыя факты, то зразумеў, што Варанец меў нейкае дачыненне да збітага самалёта. Ведаў, што назаўтра саб'юць самалёт, а то і паспрыяў гэтаму.

Папрасілі капітана яшчэ раз прыгадаць падрабязнасці таго дня. Васільеў успамінаў:

— Аванеса духі скралі! — сказаў тады Варанец. — Сам бачыў, ды нічым дапамагчы не мог. Казаў жа яму, не бяры, дурыла, «калаша», маўляў, з-за яго і скралі салдата, паквапіліся на дабро. Прададуць «духі» ягоную зброю і сям'ю за гэтыя грошы год будуць карміць.

У Афганістане аўтамат Калашнікава сапраўды быў на вагу золата для байцоў — як савецкіх, так і афганскіх. Чаму адпусціў падначаленага з Варанцом? Адпусціў, бо і дагэтуль выдзяляў салдат, паўнамоцтвы «саветніка» былі шырокімі.

— Не дакладвай наверх, — прасіў мяне Варанец. — Ведаеш жа прымаўку: пераначуеш — болей пачуеш?

Яны тады выпілі з адчаю. Па-першай, потым па-другой. Васільеў усё рваўся дакласці начальству, а Варанец яго спыняў і наліваў новую чарку. Васіль праспаў усю ноч, а раніцай здагадаўся, што Варанец яму нешта падсыпаў. У таго заўсёды поўныя кішэні лекаў, якія павышаюць працаздольнасць, ці пазбаўляюць страху, альбо робяць абыякавым і бязвольным.

А назаўтра прыйшло паведамленне, што быў збіты самалёт. Збіты практычна над аэрадромам.

— Адпала неабходнасць, лейтэнант, у тваёй дурной шчырасці! — гаварыў тады Варанец. — Аванесу сам лёс наканаваў загінуць, ці ў гарах, ці ў небе. Ад лёсу, браце, нікуды не ўцячэш.

«Іуда ты, а не брат», — падумаў, але не сказаў Васільеў.

Лейтэнант таксама верыў у лёс, вайна кожнага з іх рабіла прымхлівым, але баяўся расказаць праўду пра Івана Кацубу, а яшчэ больш баяўся ў вочы глядзець другому Івану Кацубу. Можа, таму не хапіла сілы адправіць яго суправаджаць груз-200.

— Вы з Іванам з адной вёскі? Браты стрыечныя? Тым болей не трэба ехаць. Навошта, каб цябе ўзненавідзела ўся радня? Цела брата не сабярэш, бо самалёт узарваўся ў небе, і труну пустую адпраўляюць, без трупа. А душа ягоная, напэўна, яшчэ лунае над гэтымі гарамі.

І выйшла, што яшчэ адзін вялікі грэх узяў на сябе лейтэнант Васільеў: у гэты час у Івана памёр бацька, і сын не паспеў на ягонае пахаванне.

**13**

— Ну што, пазнаеш гэтую сволач? — маёр Арлоў працягнуў Аседачу дакументы з фотаздымкам памерам тры на чатыры.

У Сцяпана была ўчэпістая прафесійная памяць на людзей, і гэтага чалавека ён дакладна ніколі не бачыў. А вось фізіянамістам, прызнаўся сам сабе Аседач, ён быў неважнецкім. У іншых абставінах яму спадабаўся б такі мужчына з сімпатычным валявым тварам: сакаліныя бровы пад высокім ілбом, выразныя вочы, прыкметная радзімка на шчацэ, правільнай формы нос, упэўнены погляд. Занадта кідкая знешнасць, як такога ўзялі ў дзяржбяспеку? І са стрыечным братам Круглікам няма падабенства, Круглік яўна прайграваў свайму родзічу.

— Не, дакладна ніколі не перакрыжоўваліся з Варанцом, ні ў Афгане, ні ў Саюзе, — без ваганняў адказаў Аседач.

Міхась Арлоў глядзеў хітравата на Аседача і пакепліваў:

— Як жа ты ўмудрыўся тройчы нашкодзіць чалавеку, якога ніколі не сустракаў у жыцці? Першы раз ты яму перайшоў дарогу пасля Кандагара ў 1982 годзе, Варанец разлічваў на ўзнагароду. Сам ведаеш, разведку што кэдэбэшную, што нашу, армейскую, ніколі не песцілі ордэнамі, а вось медаль дакладна б Варанец атрымаў. Другі раз справа была пасля Газні, прыгадваеш акалічнасці? Таксама мужыка пазбавіў перспектывы. Біць цябе трэба было, Сцёпа, ужо тады добрай папругай! Ну а ў трэці раз справа была пры вывадзе нашых войск, падзеі каля Джэлалабада табе пра нешта гавораць?

Аседач усхвалявана ўзламаў пачак цыгарэт, паспешліва закурыў. Маўчаў занадта доўга. Арлоў нецярпліва пазіраў на Сцяпана.

— Дык гэта ўсё напаскудзіў адзін чалавек? — прамовіў нарэшце Аседач. — У Кандагары быў збег абставін, і ў галаву не прыйшло б тады, што гэтае галавацяпства было кімсьці спланавана. Пісаў я тады данясенні, два ці тры, ужо не памятаю, з мэтай папярэджвання падобных памылак. Больш, здаецца, такога не паўтаралася…

— Паўтаралася, Сцёпа! У мяне ў Кандагары крыху пазней загінуў сябар дзяцінства, Генка Герашчанка. Таксама з-за таго, што не былі забяспечаны паветраным суправаджэннем. Найлепшы хлопец нашага гарадка! У міліцыі быў інспектарам па справах з непаўналетнімі. З неслухамі і шалапаямі знаходзіў агульную мову, а вось з цешчай не паразумеліся. Марылі яны з жонкай пра кааператыў, таму і напрасіўся ў Афганістан. Так бы мовіць, і сабе, і афганскаму народу ў дабрабыце падсабіць. Загінуў на другі ці трэці дзень знаходжання на вайне…

Арлоў не курыў, таму хваляванне сваё «збіваў», грукаючы пальцамі па падаконні.

— У Газні дакладна спрацавала варожая выведка, — прыгадваў Аседач. — Ці нехта ёй старанна дапамог. Я тады схіляўся да другога, хаця не існавала ніякіх доказаў, былі проста адчуванні ды хісткія развагі. Падазрэнні мае «прыпадалі» на таджыкскія кадры. Найперш на навабранцаў, хаця да здрады маглі спрычыніцца і некалькі афіцэраў. Мае заўвагі тычыліся таго, каб не дапускаць да аперацый людзей, блізкіх па крыві да афганскага народа. Выказваў і шэраг іншых дапушчэнняў. Тыцкаў пальцам у неба, а рыкашэтам трапіў у Варанца?

Зноў маўчалі абодва, Арлоў гартаў асабістую справу Варанца, перабіраў іншыя паперы.

— Джэлалабад быў нашай праблемай усе дзесяць гадоў вайны, — загаварыў Сцяпан. Пасля Кабула самы інтэлігентны горад, многія, вельмі многія вучыліся ў Еўропе, Савецкім Саюзе. Заможныя адпраўлялі сваіх сыноў у Парыжы і Лонданы, а менш багатыя збіралі афгані для вучобы ў Маскве. Дык тыя хлопцы, хто вывучыўся ў СССР і на свае вочы бачыў савецкія перавагі, марылі пра сацыялізм і сацыяльную роўнасць. А хто на Захадзе павучыўся ды быў добра прыкормлены рознымі недзяржаўнымі фондамі, былі рашуча супраць «камунізацыі» Афганістана. Такая вось грамадзянская вайна ў мініяцюры ў асобна ўзятым горадзе. Але ў 1989 годзе,

падчас вываду нашых войск, там і «белыя», і «чырвоныя» ўжо выдатна ўсведамлялі, што справа далёка не ў Савецкім Саюзе, што Афганістан мусіць яшчэ стагоддзямі разграбаць свае праблемы. Таму і мелася цвёрдае запэўніванне і ад палявых камандзіраў, і ад старэйшын, што яны не будуць перашкаджаць нашаму вываду. Да таго ж мы пакідалі ім цэлыя гарадкі з багатай інфраструктурай: электрастанцыі, заводы, аэрадромы, базы, казармы, тэхніка.

— Але навошта Варанцу было правакаваць афганцаў? У такой сітуацыі гэта досыць рызыкоўна для яго асабіста, — разважаў далей Аседач.

— Дапусцім, што па ўласнай волі, — прапаноўваў Арлоў.

— Захацелася чалавеку з маленькага Парыжа ў Парыж вялікі? А што, у гэтым ёсць свая логіка! — пагадзіўся Аседач. — Іх разбэсцілі яшчэ пры Брэжневе, а пры Гарбачове яны наогул паводзілі сябе самаўпэўнена. Калі паступалі данясенні двух саветнікаў, ваеннага і з КДБ, чые меркаванні былі важней? Правільна, такіх вось Варанцовых! А наша інфармацыя, дзеля якой і рызыкавалі, і гінулі людзі, нашы аналіз, крытыка і прапановы ляцелі кату пад хвост! Колькі армія ні абуралася, а ўсё дарэмна!

— І ў «інвалюце» яны атрымлівалі нашмат болей за нас, — заўважыў Арлоў.

— Ды справа не толькі ў грашах, — узрушана казаў Аседач, — справа ў прынцыпе. А прынцып тут быў гнілы!

— А цяпер з іншага боку зойдзем, — разважаў Міхаіл. — Дапусцім, Варанец птушка маленькая, хтосьці буйнейшы стаяў за ім. І гэты хтосьці, напэўна, кожны раз прыкрываў малайца! Ты зірні на ягоны паслужны спіс: пасля Афгана Новасібірск, але толькі на паўгады, а потым Ленінград і Масква. І пасады не абы-якія, а з кураваннем сакрэтнай ваеннай прамысловасці. Кумекаеш? І ў нашу новую структуру яго, ты падумай, зноў-такі хтось настойліва пхае.

— Ну, як цябе — наш бацька Гаўрылаў, — жартам дадаў Міхась.

Арлоў казаў то сур'ёзныя рэчы, то пакеплiваў з Аседача, але, як засёды, за гэтым патокам лухты на самай справе ішла генерацыя думак.

А генерал Гаўрылаў быў, як засёды, рашучым.

— З мэтай тваёй жа бяспекі мы «баранавіцкую» справу — у барановы рог! Закрываем і баста! Варанец, калі і пойдзе пад суд, дык па іншых падставах, нашкраблі тут з дзясятак ягоных «прыгод», і яшчэ адшукаем, гэта ўжо справа гонару. А вось ягонага заступніка адшукаць сёння, што іголку ў стозе сена, але і яго вылічым, усяму свой час. Толькі не хачу, каб цябе прыстукнулі цёмным вечарам у маскоўскім пад'ездзе. Таму працягвай граць камедыю. Ну, выпілі, ну, ледзь не пабіліся з мясцовай шпаной, з кім не бывае! Ты Круглiкуназвоньвай зрэдку, як быццам нічога не здарылася, гуляй і надалей у прасцяка-ваньку. Папрасі выслаць свае рэчы, якія не паспеў забраць з гасцініцы, у госці запрашай! Але расслабляцца не будзем, тут хутка пачнецца для нас завяруха горш за Афганістан, нутром адчуваю. Пакуль мы там ваявалі за чужую краіну, нашу радзіму акупавалі чужынцы.

Генерал Гаўрылаў пранікнёна глядзеў на Аседача і Арлова.

— Спектакль з ГКЧП, хлопцы, быў усяго толькі планавым манеўрам. А наперадзе бойня.

Генерал уздыхнуў і закругліўся квяцістым рускім мацюком.

**14**

У вясковым клубе яблыку не было дзе ўпасці, людзі стаялі на праходзе, калідоры і вуліцы. Прыбывала і прыбывала моладзь з суседніх вёсак і нават з райцэнтра, бо чутка дайшла, што прыедзе ваенны ансамбль з Масквы.

Ваенныя артысты сапраўды былі, сядзелі ўздоўж сцэны ды трымалі свае інструменты. Але нагода была зусім не гастрольная: пасмяротна Івану Кацубу прысвойвалася званне Героя Савецкага Саюза, і цяпер будзе ўшаноўвацца подзвіг героя. У прэзідыуме побач з сакратарамі райкама партыі і камсамола сядзелі раённы ваенкам і трое «афганцаў»: Сцяпан Аседач, Уладзімір Шпакоўскі і Іван Кацуба, цвярозы, святочна апрануты, з медалямі на пінжаку, надзвычай сур'ёзны. Такім урачыстым вяскоўцы не бачылі хлопца ніколі. Запрасілі ў прэзідыум і салдацкіх маці, але і цётка Дзіна, і цётка Глаша рашуча адмовіліся, сядзелі ў першым радзе, схіліўшы галовы адна да адной. Побач знаходзіліся Дзініна дачка Тася са сваімі мужам і дзеткамі, а таксама «афганцы» Тамара і Мікалай, які паклаў мыліцы наўпрост на падлогу. Позірк выхапіў Алесю, з гладка зачасанымі валасамі: строгую, журботную і адстароненую. Сэрца Аседача сціснулася ад шкадавання і любові да яе. Учора ў хаце яна завіхалася разам з Тасяй, гатавала ежу, накрывала на стол, здавалася гаспадарлівай і спакойнай, у адрозненне ад цёткі Дзіны, якая глытала лекі і прасіла ваенных расказаць ёй усю праўду пра знікненне сына. Аседач раз-пораз лавіў на сабе ўважлівы позірк Алесі і адчуваў, што ягонае сэрца гатовае вырвацца з грудзей. Учора ён думаў пра тое, што хацеў бы «закругліцца» са сваім халасцяцкім жыццём. А цяпер у яго не мелася такой упэўненасці: ці мае ён права заняць месца юнака?

— Вайна ў Афганістане была тэрытарыяльна вельмі далёкая ад нас, але, як вы ведаеце, закранула многія беларускія сем'і. Вось толькі з нашага раёна ў Афганістане ваявала чатырыста чалавек і загінула пяцёра, а параненым вярнуўся кожны чацвёрты. Закранула далёкая вайна і маю сям'ю: зяць Саша вярнуўся без рукі, — першы сакратар гаварыў проста і шчыра. — Вашу вёску невыпадкова завуць партызанскай. Самі паглядзіце: пяцьдзясят чалавек узнагароджаны ордэнамі і медалямі як партызаны, а дваццаць два ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія вярнуліся з фронту, таксама былі адзначаны ўзнагародамі. А сёння ўручаецца ордэн яшчэ аднаму герою, на жаль, пасмяротна, — працягваў сакратар.

Сцяпан Аседач глядзеў у залу і пакутліва думаў, ці трэба гэтым людзям ведаць усю праўду пра подзвіг іхняга земляка? Ці варта гаварыць пра абставіны гібелі Івана Кацубы?

Цётка Дзіна ўчора вечарам, гледзячы на Сцяпана выплаканымі вачыма, прамовіла:

— Я ведала, што мой сыночак жывы. Труну апускалі ў зямлю, а я адчувала, што няма ў ёй майго Ванькі. Ігнат таксама не верыў у ягоную смерць. Сабака, і той не верыў. А ў жніўні мы ўсе пахварэлі: мужу стала дрэнна з сэрцам, а ў мяне ногі перасталі слухацца. У гэты час, аказваецца, наш сын павёў людзей на паўстанне? І, можа, недзе там пакутуе ў афганскім палоне?

Аседач глядзеў у залу, старанна адводзячы вочы ад Алесі. Ён мусіў узяць слова і не ведаў, з чаго пачаць:

— Магчыма, надыдзе час, калі скажуць, што нашы ахвяры ў Афганістане былі дарэмнымі, — ад хвалявання перарываўся голас Аседача. — Не верце гэтаму! Я нядаўна вярнуўся з Ашхабада, і скажу вам, што тая небяспека, якую мы імкнуліся папярэдзіць удзелам у Афганскай вайне, цяпер як шалёная інфекцыя разрастаецца ўшыркі. Увесь поўдзень нашай краіны — нібыта парахавая бочка. Побач са мной сядзяць людзі, якія таксама прайшлі Афганскую вайну і якія вам скажуць: мы мужна абаранялі паўднёвыя межы нашай дзяржавы ад тэрарызму, ад наркатрафікаў, ад нацыянальнага ўціску. Не наша віна, што наверсе было дапушчана шмат палітычных памылак. І калі ўводзілі войскі ў Афганістан, і калі выводзілі іх адтуль. Ва ўсе часы апорай Радзімы былі звычайныя грамадзяне. Такім героем быў і ёсць Іван

Кацуба, які праявіў мужнасць і кемлівасць, самаадданасць, калі трапіў у палон і здолеў вызваліць і савецкіх ваеннапалонных, і афганскіх вязняў, ды натхніць і тых, і іншых на паўстанне. Я хачу падкрэсліць, што была разбурана не толькі буйнейшая пакістанская ваенная база, але і той сталы міф, нібыта Пакістан і ЗША прытрымліваюцца Жэнеўскай дамовы…

Сцяпан глядзеў у залу і разумеў, што папярэдні прамоўца гаварыў больш проста і даходліва, а таму падаваўся бліжэй да народа. Людзі ў зале, здавалася, слухалі Аседача толькі з ветлівасці. Але Сцяпан ніяк не мог «выруліць» на такую ж простасць.

— Уяўляеце, кіраўнікі гэтых дзяржаў прыехалі ў Жэневу, каб падпісаць сур’ёзны дакумент і заявіць усяму свету, што не будуць больш умешвацца ва ўнутраныя справы Афганістана. Але што аказалася на справе? Правай рукой яны падпісвалі дамову, а левай круцілі дулю ў бок СССР. І ваш зямляк, ваш геройскі хлопец Іван Кацуба прадэманстраваў усяму свету, што Жэнеўская дамова не болей чым мыльная бурбалка. І ўся сусветная дыпламатыя пераканалася, што Жэнеўская дамова сумленна выконвалася толькі Савецкім Саюзам. А Пакістан і ЗША хлусліва балбаталі пра міралюбства, а самі? А самі не тое каб не згортвалі, але наадварот — злачынна нарошчвалі сілы на пакістанска-афганскай мяжы, на так званай лініі Дзюранда.

Аседач памаўчаў, абвёў позіркам усю залу.

— Толькі імя героя гэтых значных падзей на лініі Дзюранда доўгі час было невядомым.

У залу ўвайшоў вялікі сабака і сеў ля сцэны, не зводзячы вачэй з Аседача. Цікаўнасць і прыязнасць жывёліны паступова змяніліся на злосць і агрэсію. Сабака ашчэрыў пашчу.

— Ахмад, назад! — ускочыла Алеся, але сабака раптамператварыўся ў Ахмад Шаха Масуда, грознага палявога камандзіра і гаспадара Пандшэрскай даліны.

**15**

— Разбудзіў? — голас Арлова быў выбачальным. — Гаўрылаў кліча, машына ўжо адпраўлена за табой. Мы ляцім у Парыж за ваеннапалоннымі, і баюся сурочыць, але сярод іх павінен быць твой Іван Кацуба.

Генерал Гаўрылаў не хаваў злосці:

— Сабакі прадажныя! Тое, што маглі б зрабіць дыпламаты і журналісты, цяпер перакідваюць на армію. Гюльчытай, пакажы свой тварык! А нам нельга рассакрэчваць свае фізіяноміі, яны што, пра гэта не ведаюць? Значыць, робіцца тое спецыяльна? Здраднікі! Спачатку армію кінулі на выжыванне, а цяпер узяліся за нашы сакрэтныя кадры!

Але генерал, як звычайна, ад эмоцый хутка перайшоў да разважлівасці:

— Будзем ахвяраваць Сцяпанам! Скінеш паранджу, але так прыгожанька скінеш, каб ніводная сволач не засталася абыякавай. І, не мне табе казаць, трупам ляжаш, а хлопцаў вернеш на Радзіму!

…Кастрычніцкае неба над аэрапортам Дамадзедава было зацягнута цяжкімі чорнымі хмарамі. Такі ж хмарны настрой меў і Аседач. Ніякія жартачкі Арлова кшталту «ўбачыць Парыж і памерці» ці «трэба было паслаць Варанца» не маглі падбадзёрыць Сцяпана.

Мёртвага Івана Кацубу ён паважаў, шанаваў і нават любіў. Жывога Івана Кацубу ён мусіў ненавідзець, якім бы гуманістам ні пачуваўся дагэтуль.

І чаму яму шэнціць на чужых жонак і нявест? Закахаўся некалі ў Алену пад бокам у яе былога мужа. Хаця ж ведаў, папярэджвалі таварышы, што наравістая,

уладная ды капрызлівая, што вяроўкі ўе з любога афіцэра ў шпіталі, а нічога з сабою не мог зрабіць. Ды на справе Алена аказалася зусім іншай, ганарлівай больш звонку, а ўнутры шчырай ды безабароннай.

З Алесяй крыху інакш: Сцяпан адразу ж адчуў, што з гэтай даверлівай і лагоднай дзяўчынай яму было б лёгка і ўтульна, што з яе атрымаецца цудоўная жонка, надзейная і клапатлівая. Якой шчаслівай магла быць маці Сцяпана, якая шматкроць паўтарае: «Я так хачу ўнукаў, сынок!» А хіба самому не хочацца сям'і?

Калі загінула Алена, ён знаходзіўся далёка ад Кандагара, туды не далятала ніводная вестачка. Са штабам і то сувязь была праз сігнальныя ракеты: жывыя, маўляў, і ўсё ў нас у парадку. Рацыю баяліся выкарыстоўваць, каб з пакістанскага боку не «злавілі» іхнія сігналы. Сцяпан, Валодзя Шпакоўскі і Антон Шумігай выконвалі чарговае заданне. Увесь тыдзень Сцяпан быў сам не свой, гняло адчуванне непапраўнай бяды, думалася: ці вернемся жывымі назад? Вярнуліся, а Лену ўжо адправілі на Радзіму «грузам-200». Не развітаўся з ёю ні з жывой, калі тэрмінова з'язджаў, ні з мёртвай, калі вярнуўся на базу.

Чаму яна паехала ў той злашчасны рэйд? Везлі муку, крупы, кансервы, гуманітарны «поезд», куды траплялі звычайна шараговыя ўрачы, бо хірургаў на вайне берaглі як зрэнку вока. Кажуць, сама напрасілася, бо ездзіла і дагэтуль не раз. І ёй дазволілі, бо ў бліжэйшыя два тыдні ніякіх баявых аперацый, а, значыць, і параненых, не планавалася.

Ратавалі Сцяпана ваенныя будні ды маміныя лісты, у якіх яна ўмольвала сына берагчы сябе. Мама, сакратар партыйнай арганізацыі вялізнага прадпрыемства, пачала хадзіць у царкву. І ў лістах, не зважаючы на цэнзуру, пісала, якую падтрымку мае ад айца Анатоля. Аднойчы Сцяпан напісаў ёй: памаліся, калі ласка, за спачын душы доктаркі Алены…

Не, ён не быў прымхлівым, але не расказваў маме пра Алесю. Пра Алену не вытрымаў, аднойчы распавёў усё, і мама ў той вечар плакала разам з сынам. Але больш такіх споведзей не было. Навошта маме новыя перажыванні? Хапіла з яе і афганскай эпапеі.

А ў самога расло і расло адчуванне, што нарэшце ён будзе шчаслівым, што недарэмна лёс такім дзіўным чынам прывёў яго ў беларускую вёску. А цяпер зноў руйнуецца тое, што стала родным і блізкім? Навошта Парыж? Навошта Іван Кацуба?

«Эгаіст, дурнотны эгаіст, — змагалася ўнутры Сцяпана другое "я". А цётка Дзіна, якая не верыць у гібель сына, якая ўсё спадзяецца, што ён жывы? А мілая Алеся з яе першым каханнем, чыстым, як пялёсткі афганскага міндальнага дрэва? А сам Іван, які прайшоў, напэўна, сто кругоў пекла і вось — не здаўся, выжыў, і нават нейкім чынам апынуўся ў Парыжы і не можа дачакацца вяртання на Радзіму? А той другі Іван Кацуба, якога з'ядаюць пакуты сумлення, што не забіў трывогу, не давёў начальству пра знікненне брата? А капітан Васільеў, які не можа завесці сям'ю, не можа спаць, не можа дыхаць? Дык жыві, Сцёпа, проста жыві і будзь чалавекам! І прымусь сябе радавацца чужому шчасцю, якое таксама людзям дастаецца нялёгкай цаной. Усвядомь простую ісціну: ты вярнуўся з Афгана, ты жывы-здаровы, а колькі тваіх сяброў і равеснікаў там палегла!»

Як ні давяраў ён Арлову ў службовых справах, але, аказалася, паспавядацца пра сваё асабістае не можа. Шпакоўскаму паплакаўся б на сяброўскім плячы, а з Арловым чамусьці не атрымліваецца. За дзелавым заклапочаным выглядам Аседач старанна хаваў сваё раптоўнае гора.

Сцяпан расшпіліў папку. Хлопцы з шостага аддзела падрыхтавалі ўсё як мае быць: прыкладная статыстыка, колькі якога ўзбраення пастаўляла Францыя маджахедам на працягу дзесяці гадоў — у кожны год прысутнасці савецкіх войск у

Афганістане. Для большай нагляднасці ў працэнтах да тагачаснага ваеннага донарства ЗША, Пакістана, Кітая і Ірана. Стос матэрыялаў пра актыўнае ўмяшальніцтва Францыі ў 1850-я гады падчас Каўказскай вайны. Тагачасная ваенная дапамога французаў каўказскім горцам і палітычныя інтрыгі супраць Расіі як дзве кроплі вады былі падобны да сённяшняй сітуацыі. Геапалітыка — дама пастаянная, таму ва ўсе часы дыктавала дзяржавам адны і тыя ж інтарэсы. У гісторыі ўсё паўтараецца наўпрост аж да калькавання.

У асобнай папцы сабраны салідны дайджэст французскай прэсы па афганскай праблематыцы. Ці то перакладчыкі, ці хутчэй нехта з аналітыкаў на палях лістоў шчодра пакінулі не толькі клічнікі, але і больш вольныя заўвагі. Яны што, сур’ёзна разлічвалі, што Аседач і Арлоў будуць старанна вывучаць гэтую бязглуздзіцу?

Прыгадалася мінулагодняя сустрэча з былым аднакласнікам, а цяпер французскім журналістам Маркам Авербухам, палітычным аглядальнікам саліднага штотыднёвіка. У першую ж камандзіроўку ў Маскву той адшукаў сяброў дзяцінства.

Марык застаўся Марыкам: хваліўся жанчынамі, шыкоўным парыжскім жыццём і камандзіроўкамі ва ўсе канцы свету.

— Вось ты, Сцёпа, блох карміў у Афганістане і пад кулі лез, а я з камфортам па іншы бок мяжы назіраў за вашай валтузнёй.

Аседача як цюкнула па галаве:

— Выпадкова не ў Пакістане восенню 1989-га?

Марык ад здзіўлення ажно разявіў рот:

— Як ты здагадаўся?

— Ды прыгадваю, як напісаў нейкі праўдалюб пра ракетныя ўдары па Пакістане. Маўляў, савецкія фашысты забілі вялізную колькасць мірнага насельніцтва.

— Ну і што? — твар Марыка зрабіўся белым, як снег.

— А на самай справе гэта былі тэракты саміх пакістанцаў у лагерах бежанцаў пад Пешаварам. І савецкія вайскоўцы былі ні пры чым. Адчуваеш розніцу?

— Можна падумаць, што ты ў Афганістане штудзіраваў французскія газеты, — заўсміхаўся Марык.

— Сапраўды не да прэсы было. Але растыражаваная хлусня дайшла да афганцаў, людзі былі ў паніцы, бо ў іх безліч радні апынулася па той бок мяжы. Давялося тлумачыць, што гэта мой сябар дзяцінства Марык так забаўляецца з хлуснёй.

— Усё жартуеш? — Марык глядзеў на Сцяпана з насцярожанасцю.

— Дык ты пісаў ці не ты? — Аседач неўпрыкмет падміргнуў аднакласнікам і грозна навіс над Марыкам.

— Нас там вялікі «кагал» быў, — пачаў апраўдвацца Марык. — І шэф любіў паўтараць, што лепшыя гатункі хлусні фабрыкуюцца з паўпраўды. А хіба ў савецкіх газетах інакш?

Апоўначы, калі Марыка добра разабрала, а побач засталіся толькі сябры дзяцінства Сцяпан ды Міраслаў, які вырас у аўтарытэтнага нейрахірурга, госць расплакаўся, што свабоды слова няма ні ў СССР, ні ў Францыі, і што жыццё насамрэч сапраўднае пекла.

— Няпраўда, Марык! — казаў Міраслаў, які кожны дзень ратаваў асуджаных на смерць. — Жыццё — гэта велізарны цуд, а пеклам яго робяць розныя гаўнюкі.

…У аэрапорце Шарль дэ Голь іх сустракаў уласны карэспандэнт газеты «Праўда» ў Францыі. Віталь Дзмітрыевіч і ўвёў у курс справы: французскія журналісты разам з амерыканскімі вывезлі з Пакістана (наўрад ці па сваёй ініцыятыве, няма ў журналістаў такіх паўнамоцтваў) траіх савецкіх ваеннапалонных. Хлопцы жывуць на ваеннай базе пад Парыжам ужо амаль паўгода, хутчэй за ўсё з іх рыхту-

юць ваенных інструктараў. Публічна пра былых савецкіх палонных нідзе не згадвалася, гэта іхні, так бы мовіць, першы выхад у свет. Чаму і навошта заяўлена гучнае мерапрыемства? Магчыма, сцэнарый будзе такі самы, як месяц таму ў Вашынгтоне, калі двое былых савецкіх палонных былі вывезены з Афганістана ў ЗША і папрасілі там палітычны прытулак.

Інфармацыя Віталя карэлявала з тымі звесткамі, якія былі атрыманы па лініі ваеннай контрразведкі. Далей за справу звычайна браліся дыпламаты і ідэолагі, але з нядаўніх часоў у Крамлі ўсё перавернута з ног на галаву. Місія Аседача і Арлова, яны гэта цудоўна ўсведамлялі, была і незвычайнай, і няпростай.

**16**

Трое маладых хлопцаў здаваліся на адзін твар: сціпла, але элегантна апранутыя, адкормленыя, з аднолькавымі пільнымі позіркамі і шырокімі ўсмешкамі. Каторы ж з іх Іван? Таго бесклапотнага чарнявага хлопца, што на фотаздымках у хаце Кацубаў, тут не бачна. Чарнявых наогул не было, і як ні ўзіраўся Аседач, ён не пазнаваў ні ў кім з прысутных беларускага Івана. І нейкае паскудненькае пачуццё палёгкі ўпаўзала ў ягоную спакутаваную душу, і з'явілася адчуванне, што лёс паварочваецца да яго шчаслівым бокам.

У зале скрозь была прэса. Фотаўспышкі перашкаджалі героям дня, і калі напачатку хлопцы ўсхвалявана пазіралі на мітуслівых журналістаў, то неўзабаве ўжо адстаронена глядзелі на тое, што адбываецца навокал. А на вялізным экране за іх спінамі ішла «нарэзка» з афганскай дакументалістыкі.

Нарэшце распараджальнік прэс-канферэнцыі праз мікрафон загадаў зачахліць фотакамеры, і большасць журналістаў мусіла падпарадкавацца, а бліжэй да сталоў з мікрафонамі засталося некалькі афіцыйных «папарацы». Імгненна ў зале з'явілася група людзей, якія і былі, як здагадаўся Аседач, галоўнымі «дырыжорамі» гэтага мерапрыемства. А перад хлопцамі паставілі шыльдачкі з прозвішчамі.

— Ці па сваёй волі вы паехалі служыць у Афганістан? — першы зварот да віноўнікаў «урачыстасці» быў правакацыйна-некарэктным. У судовай зале такое пытанне было б адразу адхілена: у якой гэта дзяржаве салдат можа выбіраць, дзе яму служыць?

— Не, мы не хацелі ісці на вайну, нас прымусілі, — нібыта пад капірку адказалі ўсе трое.

— Ці лічыце вы гэтую вайну справядлівай? Ці меў права СССР пасылаць свае войскі ў Афганістан? — задалі наступныя пытанні, у якіх таксама быў прыхаваны адказ.

— Калі вернецеся вы ў СССР, то адразу ж сядзеце ў турму як злачынцы. Ці будзеце змагацца там за сваю годнасць і свабоду? — пытанне наступнага журналіста было такое ж агрэсіўна-навязлівае.

Адзін з хлопцаў, калі верыць шыльдачцы, менавіта Іван Кацуба, устаў, адкашляўся, прыгроб валасы, якія і без гэтага былі бездакорна прычасаныя.

— Я хацеў бы, каб мае родныя даведаліся, што я пахаваны дачасна. Як бачыце, я выжыў! Але вяртацца туды, адкуль мяне паслалі на смерць, а потым аб'явілі, што я загінуў, не хачу. Цяпер маёй Радзімай будзе Францыя! Цяпер маімі роднымі сталі таксама і тыя людзі, якія мяне выратавалі! — заявіў хлопец, і нервова адкінуў галаву.

Штосьці няўлоўнае заўважалася ў юнаку ад стрыечнага брата Івана, няхай той быў нападпітку, а гэты абсалютна цвярозы. Але ж светлыя валасы? Сцяпан раптам здагадаўся, што хлопец хутчэй за ўсё сівы як лунь, колькі такіх дачасна пастарэлых вярталася з баявога задання. Пад Парыжам малайцоў не толькі адкармілі пэўнымі палітычнымі «абедамі», але і падфарбавалі, надалі французскага лоску.

«Цяпер тваёй Радзімай будзе Францыя? Дурань ты, Ванька Кацуба, сляпы дурань, які не бачыць далей свайго носа! Ды варта ўвесці ім у вушы, што гэта ты ўзарваў лагер з адборнымі баевікамі, сярод якіх былі амерыканскія і французскія інструктары, як твая новая Радзіма адправіць цябе туды, куды і Алах вярблюдаў не ганяў», — падумаў Аседач.

Штосьці трэба нешаблоннае, каб спыніць гэты палітычны спектакль, але што? Аседач у адчаі зірнуў на Арлова, але той, па ўсім відаць, таксама быў у разгубленасці. Відаць, нічым не мог дапамагчы.

Двое хлопцаў маўчалі, ды згоднаківалі галавой у падтрымку таварыша.

— Як вы думаеце, чаму ў Савецкім Саюзе так танна цэніцца грамадзянін. І не толькі салдат, а наогул чалавек? — зноў прагучала пытанне-правакацыя.

Аседач разумеў, што не зможа прарвацца праз шчыльны кардон гэтых зрэжысіраваных пытанняў.

— Як на быка з чырвонай анучай! — сказаў нехта побач па-англійску.

Анучай? Аседач хапатліва кінуўся расшпільваць партфель. У асобнай кішэньцы ў паўпразрыстым пакеце ляжаць папяровыя сурвэткі: у вайскоўца заўсёды мусіць быць чыстым абутак. Блефаваць дык блефаваць!

І як толькі ўзнікла паўза, Аседач узняў руку з пакетам і не стаў чакаць дазволу. Ягоны гучны іерыхонскі бас гучаў без мікрафона:

— Паўгода жыць пад Парыжам і не даць вестку сваім родным, што вы жывыя? Дык жывыя вы ці горш за мёртвых?

І адразу ж, без пераходу, загаварыў пра іншае:

— У мяне ў пакеце кавалак тканіны, на ім пакінуў аўтограф так званы Аванес, адзін з савецкіх хлопцаў, які патрапіў у палон. Гэты лапік тканіны я захоўваў усе гады, пакуль быў у Афганістане. А потым пошукі прывялі мяне ў вёску, дзе таго юнака чакаюць маці, нявеста, стрыечны брат і сабака Ахмад.

Аседач трос пакетам, як апантаны, і перакладчык ледзь прымусіў сябе адарваць ад пакета позірк. Пакет відавочна адцягваў увагу і астатняй публікі. Што за інтрыга ў гэтым пакеце?

Аседач заўважыў, як раптоўна змяніўся твар у юнака, і Сцяпану стала страшна і за сябе, і за Івана.

— Дык вось як таго хлопца, так і вас чакаюць вашы родныя. І хочаце верце, а хочаце — не, але ўсіх вас чакае і савецкая дзяржава.

— Савецкая дзяржава? — мужчына з прэзідыума здзекліва зірнуў на Аседача.

— А чаму ваша дзяржава не клапоціцца пра ваеннапалонных? Чаму яна не імкнецца вызваліць іх? — нахабна спытаў яшчэ адзін месье з прэзідыума.

Сцяпан кінуў позірк у іх бок:

— На мяжы з Афганістанам у год Жэнеўскай дамовы сабралася больш як чатыры мільёны бежанцаў, якія хацелі вярнуцца ў Афганістан, але ім не далі. Там, на лініі Дзюранда, іх утрымлівалі ў лагерах, з такіх, як яны, дзесяць гадоў прымусам рабілі маджахедаў, баевікоў, забойцаў. Савецкі Саюз прыкладаў намаганні…

Далей Аседача не было чутно, нехта ў мікрафоны праскандзіраваў: «СССР — ганьба», чалавек дзесяць, не меней, падхапілі: «СССР — ганьба».

Аседач не адрываў позірк ад Івана, Іван — ад Аседача. І калі ў зале ўсталявалася зноў цішыня і пачаліся новыя пытанні, і два наступныя хлопцы адказвалі нешта, Аседач ужо не ўслухоўваўся ў гэты гармідар, ён паспешліва думаў, як коратка і ёмка сказаць Івану тое, што ён абавязаны сказаць? Абавязаны, бо інакш яго потым з'есць сумленне, як з'ела яно маёра Васільева.

— Твая Алеся аднойчы выратавала мяне. Я жыццё б аддаў за яе! А ты выбраў

Парыж? — выгукнуў Сцяпан, і «апытальшчыкі» разгублена глядзелі на Аседача, не чакаючы гэткай меладраматычнасці ад савецкай афіцыйнай асобы.

Іван і Сцяпан усяго толькі імгненне глядзелі адно на аднаго, і былі гэта позіркі дуэлянтаў.

Ваня Кацуба сапраўды аказаўся кемлівым хлопцам. Усё ў ягонай душы пераварочвалася. Калісьці ён тры месяцы граў ролю звар'яцелай старой пуштункі, пакуль яму не трапіліся замежныя журналісты. А цяпер трэба сыграць усяго толькі спакой і паслухмянасць. Хлопец дастаў асадку і, не спяшаючыся, накрэсліў нешта на аркушы.

Іван падняў руку, выціснуў з сябе найлагаднейшую ўсмешку ў бок прэзідыума і цярпліва чакаў, пакуль яму дадуць слова. Слова далі: на гэтага юнака быў зроблены асноўны разлік. Чалавек ён разумны, хлопцу паабяцаны канкрэтныя перспектывы, і ягоная заключная прамова зрэжысіравана як мае быць.

— Я хачу зрабіць заяву!

Іван трымаў паўзу. Людзі з прэзідыума заахвочвальна ківалі галовамі. Пра ўсё ж дамоўлена, малайчына, рускі Іван, гавары!

Камеры нацэліліся на сімпатычнага юнака. Чалавек з прэзідыума ў бок Івана заахвочвальна махнуў рукой.

Іван прыязна акінуў позіркам усіх прысутных і выкрыкнуў:

— Я хачу вярнуцца на Радзіму! Я хачу вярнуцца ў Савецкі Саюз!

Хлопец імкліва кінуўся да Аседача і працягнуў паперу. «Прашу дапамагчы мне вярнуцца ў Савецкі Саюз. Іван Кацуба, 20 кастрычніка 1991г. Парыж» — было напісана ў тым лісце.

…Працэдура вяртання Івана Кацубы і двух ягоных таварышаў аказалася не такой простай, як здавалася спачатку Аседачу. Але савецкім бокам былі задакументаваны і заява, і вуснае прызнанне, гэта ж зафіксавалі некалькі тэлекамер, мерапрыемства ішло ў прамым эфіры па адным з французскіх тэлеканалаў, і падтасоўваць факты заходнім спецслужбам не мела сэнсу. Так Іван Кацуба і двое ягоных паплечнікаў аказаліся пад патранажам савецкага пасольства, а парыжская місія Сцяпана Аседача і Міхаіла Арлова на гэтым скончылася.

— Можам пайсці ў Луўр за Монай Лізай! Можам пашвэндацца па буціках, — пакепліваў Міхаіл.

— А можам атрымаць булыжнікам па галаве! — парыраваў Сцяпан, якому было не да музеяў і не да буцікоў. Навальвалася такая туга, што не хапала сілы.

Але ні музеі, ні буцікі не паспелі спакусіць Арлова. Увечары прыйшла шыфраграма з кароткім зместам: «Масква. Лінія Дзюранда».

Ну вось, як гаворыцца, знайшоўся той клін, якім выбіваюць клін папярэдні! «Лінія Дзюранда» — гэта сур'ёзна. А «Масква. Лінія Дзюранда», наколькі разумеў контрразведчык са стажам, гэта больш чым сур'ёзна. Спытаць бы ў пасольскіх, што там адбываецца ў Маскве. Пустое, не скажуць, у кожнага ведамства свае забабоны. Успомніўся Гаўрылаў з ягоным празорчым: «У нас тут хутка будзе свая лінія Дзюранда!» Мо трапіў генерал у бяду альбо бяда напаткала ўсё іхняе ведамства? Як бы там ні было, але ўласныя праблемы адыходзяць на другі план. Так было заўсёды, і так будзе цяпер.

За акном мільгалі дамы, вуліцы, кварталы, прыдарожныя кафэ, чужое далёкае жыццё, якое не выклікала цікавасці.

— Нашы перамогі і нашы слёзы часта не заўважае сусвет, — афарыстычна казаў Арлоў, калі пасольская машына імчала іх у аэрапорт.

«Наколькі ж ты, калега, блізкі да ісціны», — з сумам падумаў Аседач.

Фёдар ЯСТРАБ

# НЕ НАТАЛІЦЬ САРДЭЧНАЙ СМАГІ



**Фёдар Ястраб нарадзіўся 6 лютага 1953 года ў вёсцы Станіслаўцы Докшыцкага раёна. Вядомы галерыст, мастак, мастацтвазнаўца, аўтар і куратар шматлікіх мастацкіх праектаў. Паэзіяй як новым для сябе відам творчай дзейнасці захапіўся ў пачатку 2012 года. Падрыхтаваў да друку шэсць кніг санетаў, аснову якіх складае пейзажная, любоўная філасофская лірыка.**

* * *

Увечары ў садзе заплача гітара,
Усхліпы яе я пачую здалёк.
І росы, як слёзы, накрыюць пясок,
І бліснуць адценнем чырвоным пажара.

Раскоціцца рэха на волі абшара,
Заблудзіцца ў дрэвах душа-матылёк,
І ў квецені дзесь адгукнецца басок:
«Каханая, ведай — мы пара, мы пара!»

Юнацтва, як сада сквітнелага ўздых,
Як мара аб шчасці — адна на дваіх,
Якую б да старасці разам данесці.

Адвечара ў садзе гітара пяе,
І наша каханне звініць ля яе:
«Шануй мяне ў сэрцы — і песці, і песці!»

* * *

Бракуе нешта мне адвагі —
Я не цыркач у шапіто.
Крануць рукой тваё манто —
Нібыта выпіць куфаль брагі.

Не наталіць сардэчнай смагі —
Я хто такі? Ну, праўда — хто?
Табе б графіняй у шато,
А я што дам — любоў бадзягі?

Крыху пагардлівы і томны
Твой позірк я лаўлю нястомна,
Як гул няведамых пакут.

Душа кіпіць ад перагрэву,
Бо забірае сэрца спевы
Майго кахання чорны спрут.

* * *

Ад дзеда чуў нямала небыліц,
Калі ў цяньку хаваліся ад спёкі.
Адкуль іх браў? — Здымаў
з хваста сарокі,
Хаваў за цэглай даўнішніх капліц.

Адкрыў ён многа дзіўных таямніц,
Якіх нямала па краях далёкіх:
Пра дуб стары, замшэлы, касабокі,
Са шрамамі ад жорсткіх бліскавіц…

Распавядаў з прышэптам так прывабна
Пра дружбу-ліха млынара і д’ябла
І пра багаццяў зіхатлівы рог.

Я прагна піў-глытаў жывыя словы,
Нібыта сок бруісты, адмысловы —
І на душы святлела, і ў вачох…

* * *

Куды вядзеш, віхлястая дарога?
Ці не туды, дзе, нібы тры сястры
На схіле год, стаяць бярозы тры
Ля ўскрайку лесу мшэлага, старога?

Цяпер ніхто з тамтэйшага аблогу
Сок не бярэ і не псуе кары…
Там толькі злыя носяцца вятры
І наганяюць смутак і трывогу.

Бярозы тры, тры верныя сястры,
Няўжо былога спалены кастры
І сок не забруіцца напрадвесні?

У цені спёкай не засне хлапчук
І вас не будзе радаваць жаўрук
Ружовым ранкам прывітальнай песняй?

* * *

Не пахвалюся граматай ахоўнай
Для дзён наступных, бо яны сплывуць,
Як туманоў размытых каламуць,
І адгукнуцца песняй малітоўнай.

Мелодыяй тужліваю, няўлоўнай
Хвіліны штось няўрымсліва плятуць,
Пачуццяў і трывог жывая ртуць
Кіпіць пад сонцам і пад смелай поўняй.

І покуль я жыву на гэтым свеце,
Я не баюся, што сканае ў Леце
Калісьці ўсё, што звязана са мной.

Я не адзін такі — такіх мільёны,
На скрыжаваннях часу дзіва-звоны
Сплятуць з нас велічны жыцця сувой.

* * *

Я прыйду да цябе з непрагледжаных сноў,
Дзе нязвыклаю воляй дашчэнту разбэшчаны,
Полем, лесам, дажджом, ціхай рэчкаю спешчаны,
Я шукаў — не знаходзіў — для шчасця асноў.

Я напружваю жылы — хвалюецца кроў
І знаходзіць на сэрцы пульсуючым трэшчыны.
Пэўна, Рай на зямлі крыху рана абвешчаны —
Штось не бачна Эдэма адвечных дароў.

Шчасце знічкамі зноў адлятае збавёнымі,
Як фантом, як міраж — раскаванымі звёнамі
Ланцугоў усвядомленых смелай душы,

На ўзыходзе ружовым — падбітаю птушкаю.
Неразгаданым сном цябе ціха загушкаю,
Да цябе прытулюся — мой сон завяршы!..

Уладзімір АГІЕВІЧ

# ЯНКА КУПАЛА — ГЕГЕЛЬЯНЕЦ

***Пачнём дакапывацца самі***
***Разгадку нашых крыўд і бед,***
***Што леглі цёмнымі лясамі***
***На нашай долі з даўніх лет***

Янка Купала. «Магіла льва»

Змест паэтычных вобразаў з твораў сапраўднага народнага паэта, іх сацыякультурны кантэкст, сэнсавыя акцэнты заўсёды з’яўляюцца адпаведнікамі філасофскіх палажэнняў і падчас робяцца сімваламі тых або іншых катэгорый. Так, філасофскія ідэі нібыта раскрываюцца ў паэтычным тэксце. Вылучыць іх у чыстым выглядзе, а тым больш даць пэўную адэкватную інтэрпрэтацыю не так проста. Сітуацыя стварае ўмовы для шматлікіх спосабаў разважання некарэктных даследчыкаў. Аднак ёсць выпадкі, калі прачытанне і разуменне твораў дазваляюць зрабіць высновы аб прысутнасці ў іх катэгорый «фенаменалогіі духу», што яны з’яўляюцца ўсвядомленай творцам мастацкай ілюстрацыяй філасофскіх ідэй.

Вызначэнню еўрапейскага інтэлектуальна-філасофскага ўзроўню духоўнасці Янкі Купалы бракуе акадэмізму, што стасуецца з прэтэнзійным закідам С. Яновіча, нібыта ў паэта не было грунтоўнай адукаванасці[1]. Узровень выяўляецца не ў тым, што ён нібыта быў паслядоўнікам філасофіі «працоўнай маралі» М. Вебера, паводле А. С. Майхровіча[2], які хрысціянскую мараль беларускага селяніна называе «труженической». І не ў тым, што ён разам з Якубам Коласам нібыта эвалюцыянаваў ад дробнабуржуазнай філасофіі да вышынь рэвалюцыйнага дэмакратызму і нават марксізму[3]. (А. Бахарэвіч назваў гэтакі псеўдапрацэс ператварэннем Янкі Купалы ў Каяна Лупаку.) Бо ж ніхто іншы, як наш паэт, саркастычна пісаў пра ролю рэвалюцыянераў у гісторыі нацыянальнага адраджэння: «Калі немцы пачалі ачышчаць Беларусь, то, бадай, адначасова на яе аграбленыя абшары з вялікім разгонам рынуліся з усходу — расійскія бальшавікі, з захаду — польскія нацыяналісты. Сацыяльныя рэвалюцыянеры з усходу і нацыянальныя “рэвалюцыянеры” з захаду ў мінулы год паказалі сваю праўдзівую натуру. І тыя, і гэтыя ў сваім мілітарна-імперыялістычным паходзе стараюцца сцерці па дарозе ўсё, што ім стаіць на перашкодзе дзеля дасціжэння сваіх мэт»[4]. Пазіцыя паэта несумяшчальная з уласцівай

---

[1] Яновіч, С. Канец купалаўскай уяве нацыі // Матэрыялы рэспубліканскіх купалаўскіх чытанняў. — Гродна: ГрДУ, 1996. — С. 9. Выглядае, што паэт дарэмна вучыўся на курсах А. С. Чарняева ў Пецярбурзе (1909—1913), ва універсітэце імя А. Л. Шаняўскага ў Маскве (1915), на факультэце гісторыі мастацтваў Смаленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага інстытута (1918).

[2] Майхрович, А. С. Революционные демократы. Поиски гармонии общего, народного и личного // Белорусские революционные демократы: Важнейшие аспекты мировоззрения. — Мн.: Наука и техника, 1977. — С. 181—227.

[3] Майхрович, А. С. Поиск истинного бытия и человека: Из истории философии и культуры Беларуси. — Мн.: Наука и техника, 1992. — С. 206.

[4] Купала, Я. Справа незалежнасці Беларусі за апошні год // Беларусь. — 1920. — № ад 14 студзеня.

рэвалюцыянерам ідэяй руйнавання нацыянальнай дзяржаўнасці, бо «інтэрнацыяналісты і ап’янелыя пабедамі нацыяналісты не дадуць Беларусі жаданага міру і незалежнасці. Яны яе дзялілі і будуць дзяліць паміж сабой...»[1].

Найаўтарытэтнейшы тэкстолаг зазначаў: «Асабіста мне хацелася б, каб на такую складаную праблему (засваення і інтэрпрэтацыі духоўнай спадчыны. — **У. А.**) паглядзелі прадстаўнікі новага пакалення, не абцяжараныя ранейшымі ўяўленнямі, ... дзе мелі месца і страх перад уладай, і шчырае жаданне падцягнуць “палітычна адсталага” Якуба Коласа да ўзроўню перадавога марксісцка-ленінскага светапогляду. Яно і зразумела: цэлае дзесяцігоддзе, а можа і не адно, народны пясняр разам з Янкам Купалам быў галоўным аб’ектам вульгарызатарскіх нападак. Ён і выразнік ідэалогіі кулацтва, і апалагет дробнаўласніцкіх памкненняў селяніна, і прапагандыст нацдэмаўскіх лозунгаў, і пісьменнік, які недаацэньваў ролю рабочага класа і перабольшваў значэнне нацыянальнай інтэлігенцыі. У свядомасці грамадства гэтыя цалкам надуманыя палітычныя ярлыкі трымаліся даволі доўга»[2]. Сучасная рабфакаўшчына-абразаваншчына трымаецца іх і сёння са спасылкай на тое, што ацэнкі давалі ... вучоныя. Аднак гэта зусім не так[3]. Сапраўдны воблік паэтаў-мысляроў выяўляецца ў арганічным засваенні і інтэрпрэтаванні вяршынь еўрапейскай духоўнасці, у тыпалогіі філасофскіх поглядаў Янкі Купалы і эпахальнай думкі, што было кан’юнктурна прагледжана даследчыкамі-філасофамі, якія, насуперак гістарычным фактам, лічылі правільным крытэрыем ідэалагічны фактар (напрыклад, класічная сервільная ўстаноўка «абэцэдаршчыны» прымаць за першадрукара ўсходняга славянства не доктара Францыска Скарыну́, а Івана Фёдарава). Янка Купала, які абгрунтоўваў тэзіс пра філасофска-прарочы і лірыка-драматычны аспект народнага духу, паводле заўвагі У. М. Конана, «быў знаёмы з асноўнымі філасофскімі ідэямі свайго часу — ад пазітывізму і экзістэнцыялізму да дыялектычнага матэрыялізму… аднак ніколі не дазваляў сабе аблегчанага эпігонскага наследавання»[4]. Звернем увагу на засваенне Янкам Купалам эпахальнай філасофскай спадчыны Гегеля.

Народны паэт-адраджэнец у вершы «Казка аб песні» выказаўся на тэму біблійна-рэлігійных матываў: «…і будуць у сківіцах народаў цуглі, што кіруюць у зман. А ў вас будуць песні, як у ноч свяшчэннага свята, і вясёласць у сэрцы, як у таго, хто ідзе з жалейкай на гару Гасподню, да цвярдыні Ізраілевай» (Іс. 30, 28—29); «…і пяюць яны як бы песню новую…; і ніхто не мог навучыцца песні гэтай...» (Уз’яўл.[5] 14, 3). Упершыню верш надрукаваны ў літаратурна-мастацкім альманаху «Калядная пісанка. 1913 год» у Вільні пад загалоўкам «Песьня і народ» і з падзагалоўкам «(Трохі казкі)»[6].

Народны паэт падчас росквіту адраджэнскага руху пачатку XX стагоддзя заспяваў у «Казцы аб песні» пра патрэбу «светлай веры» — хрысціянскай ідэі:

---

[1] Купала Я. Справа незалежнасці Беларусі за апошні год // Беларусь. — 1920. — № ад 14 студзеня.

[2] Мушынскі, М. І. Яшчэ раз пра выбар асноўнага тэксту трылогіі Якуба Коласа «На ростанях» // Каласавіны. Матэрыялы навуковай канферэнцыі, прысвечанай 70-годдзю выхаду ў свет паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» і 40-годдзю трылогіі «На ростанях». — Мн.: Дзярж.літ.-мемар.музей Якуба Коласа, 1996. — С. 6.

[3] Гл.: Агіевіч, У. У. Ці быў Якуб Колас рэвалюцыйным дэмакратам? // Каласавіны. Матэрыялы навуковай канферэнцыі (1997). — Мн.: Дзярж.літ.-мемар.музей Якуба Коласа, 1998. — С. 121—125; яго ж. Два супрацьлеглыя вектары нацыянальнай гісторыі // Каласавіны. Матэрыялы навуковай канферэнцыі (1998). — Мн.: Дзярж.літ.-мемар.музей Якуба Коласа, 1999. — С. 170—176.

[4] Конан, У. Волаты духу // Беларусь. 1986. — № 7. — С. 13.

[5] Уз’яўленне — тэрмін, вынайдзены і ўжыты Скарынам пры перакладзе грэчаска-царкоўнаславянскага *αποκαλυψις* — «откровение», не засвоены сучаснымі нормамі.

[6] Трэба адзначыць, што В. І. Гапава ў манаграфіі «Перачытваючы “Спадчыну”» (Мн.: Навука і тэхніка, 1983) унікла аналізу і наогул каментару верша, а змест V Купалаўскай рубрыкі, дзе ён змешчаны, аднесла да «інтымнай лірыкі».

Даўно ўжо, даўно з тэй пары адбылой
Сталецьцяў мінула нямала, —
Між небам блакітным і чорнай зямлёй
Сьвятляная думка лунала.
Яна аглядала бязьмежны прастор,
І пасынкаў бачыла долі,
Што рукі з зямлі працягалі да зор
І ў цемры каналі паволі.
Быў жыць адзінока надзел бедакоў,
Нішто іх з сабой ня лучыла —
Ні крыльлі свабоды, ні скуты акоў…
Адна толькі маці-магіла.
Ня ўмелі змагаць грамадою нягод
І Бога хваліць грамадою;
Па шчасьці нязьведаным грэшны народ,
Як каня, ўздыхаў, за вадою.
І шкода зрабілася думцы людзей,
Што чахлі, як чэрві ў плесні, —
І з высі сышла к ім, як дух-яснавей,
І вольнай зьмянілася песьняй.
У тысячы сьветачаў, сонц залатых
Яна разьлілася між імі,
Разьвеяла цемры, ўзьлялычыла сьляпых,
Сваё, іх праславіла імя.
Пры песельным звоне народ акрылеў,
Зарухаўся шчасьцем, свабодай,
У бітвах браў верх і свой боль адалеў,
Ня страх быў змагацца з прыродай.
І многа лет цешыўся, ў радасьці цьвіў
І ў долі, і ў волі бяз меры,
Аж покуль ён песьні сваёй ня ўгнявіў,
І сьветлай ня здрадзіў ёй веры.
За ласыя словы, за золата звон
Чужацкай шукаць стаў апекі;
Чужынцы запрэглі народ у прыгон,
А песьню аддалі на зьдзекі.
Як славай праз песьню палаць стаў, так згас, —
Хілеці ізноў стаў памалу;
Папробуе песьню — йшчэ звоніць падчас,
Толькі ня так, як бывала.
Гібелі зноў людзі у сьпёку, ў мароз,
І долі і волі збыліся,
І страшная кара пасьцігла іх лёс:
Народ сваёй песьні забыўся.
Мінае сталецце, другое ідзе.
Ня песьняй, а путамі звоне,
І вечную гібель народу вядзе,
Народ жа ўсё стогне і стогне.
З лет бегам патомкі, пасьля доўгіх бед,
Аднекуль зноў песьню дасталі, —
І думалі з ёй, як калісь, дзівіць сьвет,
Палаць зноў у даўнішняй хвале.
А толькі іх душ ажывіць не магла
І к шчасьцю масьціці гасьцінец…
**Бо думка… бо песьня… чужая была…**
З ярмом даў і песьню чужынец![1]

Тэму «Казкі аб песьні» Я. Купала-публіцыст паўтарыў, карыстаючыся тымі ж вобразамі-тэрмінамі, у артыкуле «Незалежнасць» 1919 года: «Пасля уніі з Польшчай Вялікага Беларуска-Літоўскага княства, калі беларуская культура высока трымала свой сцяг у родным краю, — гэта культура пачала выціскацца польскім панаваннем. Беларускае баярства, за польскія шляхоцкія значкі і цёплыя каля трона месцы, пачало выракацца ўсяго свайго роднага, беларускага і перакульвацца на старану чужую, польскую. Забылася баярства на звычай і абычай беларускі, на сваю гісторыю, мову, літаратуру. Дзе больш званілі золатам, там вышэйшыя станы тагачаснага грамадства і служылі, і прадавалі сябе, свой народ, сваю бацькаўшчыну... Залежнасць ад Польшчы змянілася залежнасцю ад Масквы... А беларус стагнаў і стагнаў. З гэтага мы бачым, бачым з практыкі, вынесенай на сваёй скуры, што залежнасць дзяржаўная, ад каго б ні было, бокам залежнаму народу вылазе. І вось толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу»[2].

Біблейскую тэму трагізму беларускай нацыянальнай ідэі («вольнай песні» аб поце, крыві і пылу гісторыі народа) наш паэт спавіў з маштабнай філасофіяй абсалютнай ідэі

**Ёсць выпадкі, калі прачытанне і разуменне твораў дазваляюць зрабіць высновы аб прысутнасці ў іх катэгорый «фенаменалогіі духу», што яны з'яўляюцца ўсвядомленай творцам мастацкай ілюстрацыяй філасофскіх ідэй**

[1] Купала, Я. Казка аб песьні // Спадчына. — Мн.: Адраджэньне, 1922. — С. 170—171.

[2] Купала, Я. Незалежнасць // Беларусь. — 1919. — 28 лістапада. (Перадрук: Звязда. — 1992. — № 11 ад 4 чэрвеня. — С. 2).

Біблейскую тэму трагізму беларускай нацыянальнай ідэі наш паэт спавіў з маштабнай філасофіяй абсалютнай ідэі Гегеля праз паэтычны вобраз «святлянай думкі»

Гегеля праз паэтычны вобраз «святлянай думкі» ў іншабыцці яе гістарычнага развіцця і станаўлення «духа-яснавея» — абсалютнага духа. Дарэчы, сучасныя разважанні пра генезіс нацыянальнай ідэі пазбаўлены менавіта філасофскай аперцэпцыі і характарызуюцца стратай тых метадалагічных заваёў, якія набыла гісторыя еўрапейскай філасофіі, у прыватнасці, у распрацоўцы Гегелем развіцця ідэі наогул.

Сваёй мэты — увасаблення ў нацыянальнай дзяржаўнасці — беларуская іпастась абсалютнай ідэі яшчэ не дасягае ў тагачасных варунках. Два этапы яе развіцця ў гісторыі беларускага народа адлюстраваны паэтам, трэці — наперадзе, калі мае быць цараванне абсалютнага духа ў мастацкім, рэлігійным і філасофскім асэнсаванні свайго нацыянальнага быцця. Паэт нагадвае, што «сама гісторыя пакліча на суд»[1] нацыянальнага суб’екта. Разуменне таго, што ніякая унія, як і пазнейшае памкненне збудаваць рай у адной асобна ўзятай краіне, не дае народу ні сапраўднай дзяржаўнасці, ні рэальнага суверэнітэту і ўмоў адэкватнага развіцця сваёй культуры, — робіцца палітычным фонам для асноўнага зместу «Казкі...».

А філасофскім фонам на гэтым этапе застаецца ідэя верша «Кругаварот» (1906—1910) з тэмай анталагічнага існавання і дыялектыкі рэчаў, «дух чалавечы» якіх быў незразумелы местачковым марксістам, і яны павыкрэслівалі з выданняў 1940—1955 гадоў выразную шостую страфу:

Нязнанай сілай правіць светам
Пачатак, бытнасць і канец;
Народ таўпехаецца ў гэтым,
Як стада зблуканых авец.[2]

Трагедыю такога шляху і выказаў Янка Купала. Паэт згадаў пра патрэбу для народа ў сваёй спрадвечнай песні (усвядомленай нацыянальнай ідэі) з уласцівай ёй тэмай атрыбутыўнасці, неадменнасці «святлянай думкі», «светлай веры» — хрысціянскай ідэі. Сцвердзіўшы незваротнасць працэсу беларускага этнагенезу і адмаўляючы магчымасці этнічнага расколу, ён аб’ектыўна ператварыў для народа гісторыю беларускай ідэі з рэчы-ў-сабе ў рэч-для-сябе, у аспект гегелеўскай абсалютнай ідэі і спосабу яе самаразвіцця да стану ўвасаблення ў нацыянальнай дзяржаўнасці.

[1] Купала, Я. Больш самачыннасці // Беларусь. — 1919. — 22 кастрычніка.

[2] Купала, Я. Кругаварот // Поўны збор твораў. У 9 т. — Т. 2. — Мн.: Маст. літ., 1996. — С. 201.

Вячаслаў МАРТЫСЮК

# З НЕАПУБЛІКАВАНАЙ ЭПІСТАЛЯРНАЙ СПАДЧЫНЫ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА

***Праз цэлы свой век Драздовіч цярпеў нястачу, жыў і працаваў у цяжкіх (мякка кажучы) варунках, адначасна захоўваючы зайздросную працаздольнасць. Сведчаннем таго — мастакоў дзённік, апублікаваны часопісам «Маладосць» у 1991—1992 гадах, ягоныя лісты.***

***Матэрыялы, якія прапануюцца чытацкай увазе цяпер, — малая частка надзвычай багатай карэспандэнцыі Драздовіча ў Віленскі беларускі музей і да Уладзіміра Самойлы ў прыватнасці. Выяўленыя параўнальна нядаўна ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы (ЦДА Літвы, ф. 281, спр. 16, 24), яны датуюцца 1932—1937 гадамі, а дасылаліся з Вільні, з Юркава, Антаполля, з фальварка Айчызна, дзе ў розныя часы жыў дзядзька Язэп.***

***Спадзяюся, што гэтая публікацыя, з'яўляючыся адмысловым пачынам, будзе мець працяг; што неўзабаве ўбачыць свет і рэшта эпістальярнай спадчыны мастака; што праца па даследаванні біяграфіі Язэпа Драздовіча працягнецца.***

***Арыгінальныя аўтарскія правапіс і пунктуацыя захаваныя. Публікатар выказвае шчырую падзяку Андрэю Антонаву (Вільня) за дасланыя копіі архіўных дакументаў.***

**Язэп ДРАЗДОВІЧ**

**З карэспандэнцыі 1932—1937 гг.**

**№ 1**

Да ўраду Віленскага Беларускага Навуковага Таварыства

*12. V. 1932. Запрапанаваць 200 зл[отых] за ўсе рысункі (60 шт[ук]) з выплатаю па 50 злот[ых] у працягу чатырох месяцаў.*

*Ант[он] Луцкевіч, Ул[адзімер] Самойла*

Да Бел[арускага] Навуковага Т[аварыства]ва ў Вільні
Язэпа Драздовіча

Пропозыцыя

Маю гонар гэтым запрапанаваць Б[еларускаму] Н[авуковаму] Т[аварыст]ву набыць ад мяне колекцыю рысункаў (графікі) этнографічна-краязнаўчага значэньня — лікам каля 60 экзэмпляраў, пераважна з Палесься, — па рублю (-5 зл[отых]) за экзэмпляр, — а я са свайго боку, маючы пільную патрэбу ў грашах, як безработны, у компэнсацыю за зробленую ад мяне закупку, — заафяроўваю для Беларускага Музэю ім[я] І[вана] Луцкевіча, — як дар, — колекцію сабранай мной старасьветчыны, з рознамейсцавых раскопак: з Навградзкага замчышча (кераміка і катапультавыя каменныя кулі); з Брацянскага манастырышча (кераміка) з Семежацкага пагосту (кераміка); з возера Галва ля вострава Біруты (крыжавы) у Троках (кераміка); з Гальшанскага Гарадзішча і Крэўскага замчышча (кераміка) і шмат якіх іншых мяйсцоў.

З пашанаваньнем Я[зэп] Н[арцызаў] Драздовіч
Вільня 22/4 — 1932 г[оду]

*ЦДА Літвы, ф. 281, спр. 24, арк. 3*

**№ 2**

Да Дырэкціі Беларускага Музэю ім[я] Івана Луцкевіча
Беларускага Навуковага Т[аварыст]ва ў Вільні.

Ветліва прашу Дырэкцыю Бел[арускага] Музэю аб як найхутчэйшай выплаце мне 5-й і 6-й раты з належачага мне гонорару ў памеры 300 зл[отых], — разложаных на 10 рат штомесячнай выплаты па 30 зл[отых] штомесяц, — за набытыя Музэям ад мяне зарысоўкі замкавага будаўніцтва на Беларусі ў 5-ці альбомах: 1—2 Трокі; 3-ці Меднікі, 4-ты Крэва і 5-ты Ліда.

Першую рату я атрымаў ад сябры ўраду Бел[арускага] Навук[овага] Т[аварыст]ва, пана інж[ынэра] Н[эканды]-Трэпкі, разам з іншаю выплатай за раней прададны Музэю альбом дзераўлянай будоўлі (хаты, сьвірны і гумны) за 30 зл[отых] і 30 зл[отых] авансу на м[есяц] жнівень за «замкавае будаўніцтва».

І так я атрымаў:

1-ю рату за жнівень м[есяц] авансам ад п[ана] інж[ынэра] Трэпкі, — 30 зл[отых] _______

---

(V-ю не)

2-ю рату за верасень, ад Старшыні Б[еларускага] Н[авуковага] Т[аварыства], п[ана] Луцкевіча, — 30 зл[отых]

3-ю рату за кастрычнік, ад Вл[адзімера] Ів[анавіча] Самойлы (27/7) — 30 зл[отых]

4-ю рату за лістапад, ад Вл[адзімера] Ів[анавіча] Самойлы (21/XI) — 30 зл[отых]

---

---

Разам за 4 раты атрымаў 120 — (-120-) злотых.

Пазасталася яшчэ нявыплачана 6 рат на 180 злот[ых]

---

---

5-ю ж рату за грудзень м[есяц] 1933 г[оду] і 6-ю рату за январ м[есяц] 1934 г[оду] — я не атрымаў. А дзеля гэтага ветліва прашу Дырэкцыю Бел[арускага] Музэю зрабіць мне ласку з высылкай мне гэтых рат як у найхутчэйшым часе, за што пазастануся ветліва удзячным.

З пашанаваньнем Язэп Драздовіч.

Антапольле, 1-га лютага 1934 г[оду]

Адрэс мой:
poczta Zalesie-Dziśnieńskie

Halańja Antopol,
Józep Drazdowicz.

*ЦДА Літвы, ф. 281, спр.16, арк. 14а—15b*

**№ 3**

W[ielce] p[oważnemu]
Wł[odzimierzowi] Samójło.
Wilno —
plac Metropolitalny
— 3—12.

Залесьсе, 19 крас[авіка] 1934 г[оду]

Даражэнькі і шчырапаважаны Ўлад[зімер] Іванавіч!

Ветліва дзякую за высланную Вамі мне, з 24/III, — рату, атрымаў, і — ветліва прашу наступную рату, з прычыны зьмены майго адрэсу, — выслаць не на Залесьсе, а на Лужкі:

poczta Łużki, wieś Jurzkowo, (мне), = (п[ошта] Лужкі, в[ёска] Юркава), — дзе я пасяляюся з прычыны пераезду туды майго старшага брата, Кастанціна.

---

У маі м[еся]цы, калі ўдаецца, маюся быць у Вільні і прывезьці для б[еларускага] музэю, за цэлую [зіму] [св]аю працу — разьбу з дрэва: […] бар[эльефы]-мэдальёны — […] [партрэт]ы бел[арускіх] пісьменьнікаў […] [М]ашары, Пачопкі і Грыневіча […] розная рознасьць і […] [д]амарослыя, — пагоды беларускага характару, як абразцы…

З […] [паша]наваньнем Язэп Н[арцызаў] Драздовіч

*ЦДА Літвы, ф. 281, спр.16, арк. 14а—14b*

**[№ 4]**

Высланы 10 зл[отых] 12/II. 37.

Adres:
poczta Plisa
(p[owiat] Dziśn[ieński])
Folw[ark] Ojczyzna
Bronisław Drozdowicz
(dla Józepa Dr[ozdowicza])

Do
Dyrekcji Muzeum
Białoruskiego im[ienia]
I[wana] Łuckiewicza.
m[iasto] Wilno
ul[ica] Ostrobramska 9.
Muzeum Białoruski.

24/I — 1937.

**Паважаны пане Дырэктар!**

Грошы якія Вы выслалі мне ад Вашага Музэю за набытыя мае рэчы, — дзесяць залатовак — я нязмог атрымаць цераз п[ошту] Залесьсе, бо быў на доўга далёка аддаліўшыся і яны да Вас вярнуліся.

А дзеля гэтага прашу ветліва, выслаць мне іх паўторна, на імя майго фамільяна Броніслава Драздовіча, а ён мне іх перадасьць.

Адрэс: poczta Plisa (p[owiat] Dziśn[ieński]), Folw[ark] Ojczyzna, Bronisław Drozdowicz.

З пашанаваньнем Язэп Драздовіч.

P.S. Бо я ў Летніках, у Я[нкі] Пачопкі на сваей кватэры неспадзяюся скора быць.

*ЦДА Літвы, ф. 281, спр.16, арк. 18а—18b*

***Прадмова, падрыхтоўка да друку і публікацыя Вячаслава МАРТЫСЮКА***

*Рубрыка кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ*

Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# ПАД ЗНАКАМ «<»
## *(«crescendo»)*

Калі я вучыўся на факультэце журналістыкі, сярод маіх улюбёных дысцыплін былі «Сучасны беларускі літаратурны авангард», «Кінематограф і нацыянальная культура», «Гісторыя мастацтваў», «Асновы літаратурна-мастацкай творчасці», «Асновы фотажурналістыкі». Большасць з іх чыталася выкладчыкамі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі. І быў адзін выключна тэарэтычны прадмет, які я любіў і да якога ставіўся з вялікай пашанай, нягледзячы на знешнюю сухасць і падкрэслены акадэмізм. Гэта «Тэорыя літаратуры», дысцыпліна, што чыталася першакурснікам на працягу ўсяго толькі аднаго семестра. Магчыма, гэтая павага да малалюбімага — скажам шчыра — сярод студэнцтва прадмета перадалася мне з часоў навучання ў Ліцэі пры БДУ, дзе пытанням тэорыі літаратуры надавалася шмат увагі, а само выкладанне было надзвычай творчым і ва ўсялякім разе не сумным.

Час ішоў. Я скончыў універсітэт, аспірантуру і аднойчы сам ступіў за ўніверсітэцкую кафедру як выкладчык. Спачатку выкладаў беларускую літаратуру, а пазней стаў весці практычныя заняткі па «Асновах тэорыі літаратуры» і чытаць курс «Літаратурна-мастацкай крытыкі», які аднойчы мне завяшчала мой настаўнік і навуковы кіраўнік прафесар Ефрасіння Бондарава.

Але цяпер я хачу вярнуцца менавіта да «Асноў тэорыі літаратуры». Некалькі гадоў запар мы працавалі ў тандэме з дацэнтам Наталляй Кузьміч і непрацяглы час з дацэнтам Таццянай Лук'янавай. Калегі чыталі лекцыі, а я праводзіў семінарскія заняткі. У нас была дамоўленасць: калі лекцыі — гэта выключна тэорыя, то на семінарах студэнты павінны не проста адказваць на пытанні, але дэманстраваць веданне тэорыі на прыкладах з уласнай творчасці, бо факультэт журналістыкі — установа творчая. Так мы і працавалі. Вядома, студэнтам не заўсёды было лёгка, камфортна, бо ўсё ж тэорыя літаратуры — пані шляхетная, сур'ёзная і строгая, дакладная, я б нават сказаў «пунктуальная» і чапурыстая. А студэнты, як вядома, народ не схільны да пунктуальнасці ва ўсіх яе сэнсах. Асабліва на журфаку. Так ужо склалася. Словам, ТВОРЧАСЦЬ — перадусім, а розныя там «змест-форма», «сюжэт-кампазіцыя», «лірыка-эпіка-драма» — гэта для філолагаў. І зразумела, з гэтай прычыны першакурснікі не вельмі шанавалі нашу пані Тэорыю. Пра любоў я наогул змаўчу, а словы пра неабходнасць і важнасць ведання тэорыі літаратуры будучымі журналістамі пакіну для пазнейшых дыскусій. Дарэчы, з гэтага навучальнага года ў Інстытуце журналістыкі спынена выкладанне дысцыпліны «Асновы тэорыі літаратуры». Шляхетная пані зрабіла студэнтам ручкай… Ці вернецца калісь? Бо без яе неяк сумна.

Якім жа вялікім было маё здзіўленне, калі ў апошнім нумары студэнцкай газеты «ЖурФАКТЫ» я прачытаў фразу з інтэрв'ю з маім студэнтам-першакурснікам: «А больш за ўсё я люблю прадмет "Асновы тэорыі літаратуры". Гэтым студэнтам аказаўся японец Хітошы Танака, малады чалавек, які — упершыню за ўсю гісторыю факультэта і, бадай, універсітэта — прыехаў да нас вучыцца журналісцкаму майстэрству з Краіны ўзыходзячага сонца.

Апошнімі гадамі групы замежнікаў складаліся са студэнтаў з Кітая і Туркменістана. Працаваць з імі было неверагодна цяжка: большасць амаль не валодала мовай (у дадзеным выпадку рускай), і растлумачыць складаныя пытанні тэорыі літаратуры было практычна немажліва. «Ну, як я ім станьчу метафару альбо гіпербалу перад дошкай?» — жартаваў я сярод калег… І тут на дапамогу прыходзілі творчыя заданні, калі студэнты мусілі скласці невялікія тэксты з

выкарыстаннем пэўных вобразаў, тропаў, ужываючы тыя ці іншыя кампазіцыйныя і стылістычныя прыёмы. Вядома, вынікі ўражвалі, але пакідалі жадаць лепшага.

А вось творы Хітошы Танака ўразілі адразу. Больш за тое, здзівіла наколькі адказна і скрупулёзна студэнт ставіцца да пісьмовай мовы, не грэбуючы ані правільнай арфаграфіяй, ані сінтаксісам. Канешне, не абыходзілася без памылак, але трэба мець на ўвазе, што Хітошы толькі пару гадоў вывучае замежную для яго рускую мову. Звычайна замежныя студэнты пішуць свае тэксты спачатку на роднай мове, а пасля перакладаюць на замежную. У выпадку з Хітошы не так: ён адразу піша па-руску і толькі потым перакладае на японскую мову. Ён кажа, што так прасцей занурыцца ў няродную табе лінгвістычную плынь і дасканала авалодаць мовай, якую вывучаеш.

Творы Хітошы Танака, якія прапаноўваюцца чытачам «Маладосці, — гэта два невялікія апавяданні, прычым, калі «Чараўнік на дрэве» — казачнае апавяданне, то «Запячатаны ліст» падпадае пад жанр апавядання-прыпавесці. Нягледзячы на знешнюю сюжэтную прастату і крыху дзіцячую наіўнасць аповеду, проза Хітошы прасякнута тонкім суназіральным лірызмам і высокім маральным гучаннем, так уласцівым менавіта японскаму спосабу пісьменніцкага выказвання. Зрэшты, дарослым таксама варта час ад часу чытаць і перачытваць казкі, каб механічнае чаргаванне дзён, тыдняў, гадоў расквеціць палітрай дзівосных падзей, неверагодных спадзяванняў і шчырай веры ў тое, што існы свет таксама можа быць чароўным.

Усе мы жывём пад знакам «<» («crescendo»): нараджэнне-**сталенне-сталасць;** уяўленне-**выява-вобраз…** і, калі хочаце, тэорыя-практыка-літаратура. Губляючы штосьці, мы ўвесь час набліжаемся ДА… Карацей, Da Capo al fine… Да смерці? Так. Але разам з тым — не. Бо смерці няма.

…а Хітошы Танака зноў вярнуўся да нас, у Мінск, нават раней — што дзіўна — за нашых студэнтаў. Хітошы шчыра палюбіў Беларусь і беларусаў, займеў тут шмат новых сяброў, якіх яму бракавала ў роднай Японіі. Так ён кажа…

Ну, а мы чакаем ад яго новых натхнёных твораў. Праўда?

**Хітошы ТАНАКА**

## ЗАПЯЧАТАНЫ ЛІСТ

Я сінтаіскі святар і нелюдзіма жыву ў самотнай пячоры.

Я магу пераймаць любыя галасы. Раней я злоўжываў гэтай здольнасцю дзеля беднай дзяўчыны.

У мяне застаўся адзін стары ліст, які я ніколі не распячатваў. Цяпер я думаю прачытаць яго, бо прадбачу сваю хуткую смерць. Але чаму я так доўга захоўваў гэты ліст, не рашаючыся прачытаць яго ніводнага разу? Гэта доўгая гісторыя…

Даўным-даўно па гары хадзіла адна прыгажуня. Занепакоіўшыся, я пайшоў за ёй следам.

Дзяўчына наблізілася да капліцы — дамка для багоў, дзе я служыў. Там яе чакаў гожы хлопец. Штодня, калі бралася на змяркание, яны сустракаліся перад капліцай, гутарылі і разыходзіліся ў розныя бакі.

З цікаўнасці я заўсёды хаваўся за будынкам і падслухоўваў іх размову. Гутарка была не вельмі якая, але маладыя выглядалі шчаслівымі. Здавалася, што яны сустракаліся толькі ля гэтай капліцы ў пячоры і нічога не ведалі пра сябе, апрача імёнаў.

Хлопца звалі Сін'іці, а дзяўчыну — Тамомі.

Весела ўсміхаючыся, яны штодня размаўлялі паміж сабой і, наталіўшыся няпрацяглым сумоўем, задаволеныя, развітваліся.

Больш за ўсё яны жадалі бачыць адно аднаго ў вызначаны час у знаёмым месцы, і больш нічога ім не хацелася.

Такім чынам яны бавілі самыя шчаслівыя дні свайго жыцця.



Але аднойчы Сін'іці не з'явіўся. Колькі ні чакала яго Тамомі, хлопец не прыходзіў. Перажываючы, дзяўчына хацела адшукаць яго, але не магла, бо нічога пра яго не ведала: ні дзе ён жыве, ні хто ён такі.

Так здарылася. Але Тамомі ўсё адно прыходзіла да капліцы. Яна чакала і плакала.

Неўзабаве мне прапанавалі адслужыць малебен на пахаванні аднаго нябожчыка. Калі я яго ўбачыў, то вельмі спалохаўся: нябожчыкам быў Сін'іці. Аказалася, што ён доўга пакутаваў на невылечную хваробу і, урэшце, пайшоў з жыцця.

Я задумаўся, як перадаць гэтую сумную навіну Тамомі, якая ніколі мяне не бачыла.

Схаваўшыся ў капліцы, я чакаў яе, бо збіраўся паведаміць пра смерць Сін'іці ўзнёслым незямным голасам, каб яна падумала, што гэта прамаўляе сам Бог.

У той дзень яна прыйшла расчуленая як ніколі. Журба дзяўчыны дасягнула найвышэйшай ступені, і яна разрыдалася: «Сін'іці-сан! Дзе ж ты? Калі ласка, з'явіся перада мною! З'явіся хоць на адно імгненне…» І яна ў слязах памалілася Богу, каб перад ёй паўстаў яе каханы.

Пашкадаваўшы небараку, я незнарок сказаў ёй голасам Сін'іці: «Не плач, калі ласка, Тамомі-сан!» Пачуўшы гэты голас з капліцы, яна радасна паспрабавала адчыніць дзверы бажніцы: «Сін'іці-сан, ты тут?» Прытварыўшыся Сін'іці, я спыніў яе прыдуманай у тое ж імгненне перасцярогай: «Пастой, нельга адчыняць! Справа ў тым, што ў мяне заразная хвароба. Не хвалюйся! Я амаль ужо выздаравеў. Але пакуль яшчэ мне нельга падыходзіць да цябе, каб ты не заразілася…» Тамомі адгукнулася: «Добра, я зразумела. Але я буду прыходзіць сюды штовечар і размаўляць з табой праз парог! Можна?» Я згадзіўся: «Так, добра!» На твары дзяўчыны з'явілася ўсмешка: «Я вельмі рада зноў гутарыць з табой!»

З наступнага дня мы пачалі сумовіцца, як дамовіліся.

Сумленне мне падказвала, што я павінен адкрыць Тамомі праўду і сказаць, што я не Сін'іці, што яго больш няма... Але нам было так прыемна размаўляць адно з адным, што я не мог сабрацца з духам і прызнацца ва ўсім. Колькі б я ні спрабаваў раскрыцца Тамомі, яе шчаслівы голас прымушаў мяне перадумаць.

Разам мы захапляліся цёплымі вясёлымі размовамі. Які ж я быў шчаслівы, калі бавіў цудоўныя часіны побач з ёй!

І аднойчы дзяўчына сказала мне: «Сін'іці-сан, я цяпер такая шчаслівая! Калі мы сумовімся з табой, нават гэтак, праз парог, я адчуваю невыказную радасць! І хоць я доўга не бачыла твайго твару, маё сэрца цяпер бліжэй да цябе! Але калі шчыра, я страшна хачу зірнуць на цябе! Адчыні дзверцы, калі ласка…» Зразумеўшы, што надышоў час прызнацца, я куляй выляцеў з капліцы і сваім сапраўдным голасам сказаў ёй: «Богам прашу, даруй мне! Я насамрэч не Сін'іці, а самазванец, які імітаваў яго голас. А Сін'іці няма ўжо на гэтым свеце. Шчасця табе! Бывай…» Не паспела Тамомі зірнуць на мяне, як я ўцёк.

З той пары я перастаў хадзіць туды, адчуваючы сваю віну.

Праз доўгі час я зноў наведаў капліцу. Перад дзвярыма ляжаў ліст ад Тамомі да мяне. Але мне не хапіла мужнасці распячатаць канверт, на якім было напісана «Гаспадару капліцы».

Пазней па чутках я даведаўся, што яна выйшла замуж і пераехала ў далёкі горад.

Трымаючы ліст у руках, я ўяўляў, якія пачуцці апаноўвалі Тамомі, калі яна пісала яго і паклала перад капліцай, дзе мяне ўжо не было. Мяркуючы, што дзяўчына пакрыўдзілася на мяне за падман і вельмі засмуцілася, я баяўся даведацца пра змест паслання.

Дагэтуль я зберагаў ліст, не адважваючыся яго распячатаць.

Колькі ж мінула гадоў! Увесь гэты час я раскайваўся ў тым, што зрабіў: «Я доўга падманваў такую чыстую Тамомі, выдаючы сябе за яе каханага Сін'іці. Мне няма прабачэння, як і няма слоў, каб папрасіць яго…»

Я пастарэў і невылечна захварэў.

А перад самай смерцю мне нарэшце захацелася даведацца, што Тамомі напісала ў лісце да мяне.

І цяпер я дрыжачымі пальцамі ўпершыню распячатаў яе ліст і, дужа вельмі хвалюючыся, прачытаў яго. Я адразу ўявіў яе мяккую ўсмешку, якая суцяшае мяне.

На пісчай паперы напісана адна толькі кароткая, але глыбокая фраза, якую Тамомі даўно хацела сказаць мне: «Дзякуй за шчырасць!».

## ЧАРАЎНІК НА ДРЭВЕ

У адной вёсцы стаіць прыгожае дрэва.

Увесну яго галіны пакрытыя кветкамі ружовай сакуры, увосень — чырвоным лісцем клёна. Летам дрэва разрастаецца сакавітай зелянінай, зімой бялее пад снегам.

У тых краях існуе страшнае павер’е: тых, хто зрывае кветкі і лісце з галінак дрэва, праклінае нейкі прывід.

На дрэве жыве самотны чараўнік Тоша. Ён — дух гэтага дрэва і абараняе яго. З выгляду Тоша добры лагодны юнак, які носіць чароўны кіёк і апрануты ва ўсё чорнае. Але яго ніхто не бачыць.

Часта Тоша з нудоты дзеля жарту палохае прахожых і смяецца. Ён калыша галінкі і скідвае на людзей брыдкіх насякомых. Але, на жаль, яму няма з кім пагутарыць.

Шмат гадоў ён у самоце з зайздрасцю глядзеў на мінакоў, якія весела размаўлялі між сабою, і задаваўся пытаннем: чаму людзі заўсёды побач адно з адным?

Аднойчы на пачатку лета з горада ў вёску пераехала сямігадовая дзяўчынка Ліза. Яна жыла разам са сваёй бабуляй. Ліза стала хадзіць у мясцовую школу. Па дарозе яна заўсёды праходзіла міма дрэва, на якім жыў чараўнік Тоша.

Аднаго дня ён скінуў на Лізу вусеняў. Спужаўшыся, дзяўчынка загаласіла: «Вой-вой-вой!» Тоша пачаў рагатаць: «Ха-ха-ха!» І менавіта тады Ліза заўважыла Тошу, які смяяўся на дрэве. Іх погляды сустрэліся. Ліза ўцякла, а Тоша здзівіўся: «Хіба ж яна мяне бачыць?» А Ліза сапраўды бачыла Тошу, бо валодала асаблівым дарам у адрозненне ад іншых людзей.

Наступнага дня дзяўчынка зноў ішла каля гэтага дрэва. Раптам з-за яго выскачыў Тоша і паспрабаваў напалохаць яе. Ліза сапраўды спужалася, ускрыкнула і ўцякла. Тут ужо чараўнік канчаткова ўпэўніўся, што яна насамрэч бачыць яго. Тоша быў вельмі ўсцешаны.

З той пары кожны дзень, калі Ліза праходзіла каля дрэва, Тоша выскокваў з-за яго. Ён проста дзеля жарту палохаў яе, а яна, спужаўшыся, уцякала. Чараўніку было весела, як ніколі. Ён вельмі радаваўся, што нарэшце знайшоўся чалавек, здольны яго бачыць.

Аднойчы, калі Тоша зноў напалохаў Лізу, яна спытала яго: «Чаму Вы заўсёды звяртаеце на мяне ўвагу? Можа, Вам сумна?» Яна ўпершыню размаўляла з Тошам. А ён са збянтэжанасці і сарамлівасці нагаварыў ёй таго, чаго і сам не хацеў: «Не! Я заняты! У мяне няма часу на цябе. Гэта ты ўвесь час ходзіш каля дрэва, якое я абараняю!» Маркотна зірнуўшы на чараўніка, Ліза сышла: «Так, я зразумела…» Тоша пашкадаваў, што нагаварыў ёй: «Я не збіраўся казаць ёй усяго гэтага. Я ж засмуціў яе».

Назаўтра, калі Ліза праходзіла міма дрэва, Тоша сарваў прыгожую кветку з галінкі і падарыў яе дзяўчынцы. Абрадаваўшыся, Ліза весела ўсміхнулася яму: «Вялікі дзякуй! Мяне Лізай зваць. А Вас як? Чараўнік адказаў: «Вельмі прыемна! Я Тоша, дух гэтага дрэва».

Яны сталі сябрамі і падоўгу размаўлялі пад дрэвам. Тоша распавядаў Лізе гісторыю дрэва, а дзяўчынка дзялілася з чараўніком успамінамі пра розныя гарады, у якіх ёй даводзілася жыць.

Аднойчы Ліза спытала: «Вы ўвесь час тут адзін. Ці ж Вам не сумна?», на што Тоша адказаў: «Я з самага пачатку быў адзін і ўжо прызвычаіўся. Я не магу сысці адсюль, бо згіну». Памаўчаўшы, Тоша запытаўся: «Ты не сябруеш са сваімі равеснікамі? Чалавеку цяжка аднаму». Ліза зірнула на Тошу: «Тых, каго бачу я, іншыя не бачаць. Людзі не вераць мне, яны мяне не разумеюць. А яшчэ я часта перасялялася і не паспявала пасябраваць з аднакласнікамі».

Аднаго разу, падыходзячы да дрэва пасля дажджу, Ліза адчула неверагодную радасць і шчасце. У яе быў дзень нараджэння, і яна прыбралася ў белую сукенку, якую ёй падарыла бабуля. Дзяўчынка хацела паказаць сукенку Тошу. Ён жа схаваўся за дрэвам і думаў напалохаць дзяўчынку дзеля жарту. І вось калі Ліза наблізілася да дрэва, Тоша імпэтна выскакнуў. Ад нечаканасці дзяўчынка паслізнулася і ўпала ў вялізную лужыну. Яна прамокла, а яе святочная белая сукенка запэцкалася. Тоша адразу папрасіў прабачэння ў Лізы: «Выбачай, я проста хацеў пажартаваць…» Ён паспрабаваў выдаліць плямы з забруджанай сукенкі і вярнуць ёй яркасць з дамамогай сваёй чароўнай сілы. Але

засмучаная дзяўчынка вельмі пакрыўдзілася на яго: «Не падыходзьце да мяне! Што Вы нарабілі! Што я такога зрабіла, каб... Вы мне вельмі не падабаецеся!» І, зарыдаўшы, яна збегла.

З той пары дзяўчынка перастала хадзіць міма дрэва, увесь час абмінаючы яго.

Надышла восень. Зялёнае лісце дрэва стала пунсовым.

Тоша адчуваў, што ён вінаваты, і думаў: «Ліза больш не прыходзіць да мяне… Але я хачу яе бачыць». І тут здзейснілася наступнае: Тоша зачараваў сам сябе і ператварыўся ў белага ката, якога здольны ўбачыць кожны чалавек. Ён шукаў Лізу па ўсёй вёсцы і нарэшце знайшоў.

Дзяўчынка самотна сядзела на беразе ракі і маркотна ўзіралася ў празрыстую ваду. Тоша перажываў за яе: «І сёння яна смуткуе на самоце». Ён падышоў да яе ў аблічччы ката і прыветліва мяўкнуў. Ліза азірнулася і ўбачыла яго, але не здагадалася, што гэты кот — чараўнік Тоша. Дзяўчынка, мякка ўсміхаючыся, узяла ката на рукі і абняла яго. Тоша адчуваў яе пяшчоту: «Ах, як цёпла! Вось бы так заседы». Ліза шапнула кату Тошу: «Ты такі цёплы! А я смуткую, бо страціла дарагога сябра, што жыве на дрэве. Сама вінаватая…» І яшчэ дадала: «Ведаеш, я зайздрошчу табе, бо ты адзіны жывеш вольна. Я б таксама хацела жыць зусім адна». Пачуўшы яе маркотнае жаданне, Тоша ўпершыню ў жыцці заплакаў: «Я чараўнік і дрэнна разумею чалавека. Але быць аднаму — гэта вельмі журботна. Толькі пра гэта я ведаю, ведаю больш за ўсіх…»

Неўзабаве дзяўчынка пераехала да іншых сваякоў у горад. А Тоша зноў застаўся адзін.

Хаваючы сваю журбу, ён угаворваў сябе: «Я адзін… І што ж? Нарэшце я вярнуўся ў сваё вольнае жыццё! І не трэба адчуваць ранейшую збянтэжанасць і душэўную няёмкасць. Ліза павінна жыць паводле чалавечага часу, а я — паводле свайго». Тоша і надалей працягваў палохаць прахожых, чакаючы сустрэчы з чалавекам, які быў бы здольны бачыць яго. Але такі чалавек не з'яўляўся.

Часам Тоша ператвараўся ў ката і падыходзіў да дзяцей прыблізна такога ж узросту, што і Ліза. Але ж, на жаль, ніхто з іх не ставіўся да яго так цёпла, не абдымаў яго так горача і пранікнёна, як яна. І раптам Тоша адчуў, што час спыніўся: «Я ўжо нікога не чакаю, ні на што не спадзяюся, ні пра што не думаю».

Тоша бавіў пустыя дні на самоце і не мог нават старэць. Са свайго дрэва ён маркотна глядзеў на мінакоў, твары якіх штораз выяўлялі ўсё новыя і новыя пачуцці: адны выглядалі вясёлымі, іншыя — пакрыўджанымі, а некаторыя — засмучанымі. Гледзячы на людзей, якія зусім не бачылі Тошу і крочылі мімаходзь, чараўнік думаў: «Чалавек мінае, як поры года».

І ён заўжды ўспамінаў Лізу, якая магла яго бачыць: «У яе была цёплая душа і, разам з тым, яна мела сумнае жаданне: цягу да адзіноты… Што яна робіць цяпер? Ці ўсміхаецца? Наўрад ці яна згадвае мяне».

Мінула дзесяць гадоў.

Зноў настала лета. Каля дрэва з'явілася дзяўчына, якая ўбачыла чараўніка Тошу і сказала яму: «Вітаю! Як добра, што Вы яшчэ тут! Я даўно ўжо хацела выбачыцца перад Вамі за тыя рэзкія словы, што аднойчы прамовіла. Тады я яшчэ не ўмела дзяліцца з іншымі сваімі пачуццямі. А цяпер я так добра разумею Вашу дабрыню!» І дзяўчына так шчыра ўсміхнулася… Тоша пазнаў у ёй Лізу. Расчуліўшыся, ён кінуўся з дрэва і абняў яе: «Колькі летаў, колькі ж зім! Але ж мы ніколі не забываліся адно пра аднаго! Ты цяпер такая шчаслівая, на тваім твары квітнее прыгожая ўсмешка! Я вельмі рады за цябе!» І гэта было непадробным пачуццём: Тоша шчыра радаваўся таму, што Ліза вырасла адкрытай і вясёлай дзяўчынай.

У ягоных абдымках Ліза адчувала шчымлівую сардэчнасць, знаёмую ёй здаўна: «Гэта незабыўная цеплыня!» І раптам яна здагадалася, што менавіта Тоша быў тым белым катом, які аднойчы суцешыў яе на беразе ракі ў вёсцы…

«Дзякуй табе, Тоша!»

І іх сяброўства вярнулася.

І кожнае лета Ліза прыязджае да дрэва Тошы.

І Тоша ўжо не пачуваецца самотным, бо ведае: «Той, у каго ёсць хоць хто-небудзь — каго хочацца ўбачыць — не самотны!».

*З рускай*
*пераклаў Арцём КАВАЛЕЎСКІ*

Кацярына Безмацерных

# УСВЕДАМЛЯЦЬ. АСЭНСОЎВАЦЬ. НЕ СПЯШАЦЦА

***Некаторыя настаўнікі ў школе ўпэўнена пераконваюць: «Чытайце кніжкі, дзеці! Чытаць — трэба!» Спачатку я ім верыла. А потым… Жыла, знаёмілася з рознымі людзьмі і ўсур'ёз пачала задавацца пытаннем: «А чаго гэта, уласна кажучы, усім абавязкова трэба чытаць кніжкі?»***

## СПАЧАТКУ — БЫЦЬ САБОЙ. А ДОБРЫМ ВУЧНЕМ УЖО ЯК АТРЫМАЕЦЦА…

Хачу ўзгадаць свае летнія канікулы з доўгім спісам зададзенай літаратуры.

Я добра вучылася ў школе. Выдатна памятаю, як выпісвалі з сяброўкай ацэнкі, змагаліся, каб толькі дзве чацвёркі за чвэрць — не болей! (было тое ў гады панавання пяцібальнай сістэмы). Таму адолець увесь агромністы спіс літаратуры (абавязковай і неабавязковай) было ўлетку справай гонару. Дзяліла адпачынак на дзве часткі — працоўны і вольны. Справіцца з усім спісам літаратуры за паўтара месяца — такая была задача. А потым ужо сапраўдныя канікулы!

Каверын, Пушкін, Астаф'еў, Грын, Талстой, Дастаеўскі… Я вылічвала колькасць старонак, якія патрэбна прачытаць за дзень, каб упісацца ў графік. Звычайна гэта было каля ста… Часам не хапала трывання, я станавілася няўважлівай, чытала, глыбока не асэнсоўваючы, але чытала… Каб абавязкова ўпісацца ў графік! Увосень, узімку альбо ўвесну, ужо на ўроках літаратуры, я не заўжды памятала добрую частку твора. Затое 15 ліпеня, сярэдзіна лета, была шчаслівая: выканала графік! Усё прачытала! Добрая вучаніца!

З гадамі пачала вырастаць з гэтага дзіўнага «спорту». І нават думала пра свае адзінаццаць-трынаццаць гадоў: «Ну і дурная была! Чытала не для ўласнай душы, а ўсяго каб добрай вучаніцай быць, каб пахваліла настаўніца…»

А гэтым летам прыехалі з блізкай сяброўкай Ірай да яе бабулі. Я не ведала Іру ў свае школьныя гады. Нашае знаёмства, што расквітнела надалей у сяброўства, адбылося ў студэнцтве. Зрэшты, шпацыруючы ў чыстым вясковым полі, мы ўжо і ўніверсітэты пасканчвалі… Упершыню за гады ні з чым не параўнальных і захапляльных сяброўскіх гутарак закранулі тэму летняга школьнага спісу літаратуры. Аказваецца, Іра гэтаксама чытала: можна і не асэнсоўваць глыбока, галоўнае ўсё хутка прачытаць!

Як заўжды. Думаеш, што ты адзін такі ўнікальны дурань, а на яве ніякі не ўнікальны ў глупстве сваім…

Ацэнкі перасталі быць сэнсам майго жыцця толькі гадоў у чатырнаццаць. Яшчэ пазней усвядоміла: усе мы залежым ад меркавання пра нас людзей. Настаўнікаў, сяброў, аднакласнікаў, знаёмых… І вырасці з гэтай залежнасці — спеласць душы.

Школа — гэта ўвогуле дзіўнае месца. Часта галоўным становіцца там ацэнка, меркаванне настаўніка, меркаванні іншых вучняў, галоўным становіцца «быць лепшым», годна скончыць чвэрць. У школе мы вучымся абсурднай звычцы параўноўваць сябе з іншымі, а потым радавацца альбо пакутаваць. Дзесяць балаў — гэта лепш, чым пяць. Але ж чаму? Можа, па геаграфіі менавіта табе і пяці балаў дастаткова.

Настаўніца кажа: «Дзеці, чытанне рускай літаратуры нас духоўна ўзбагачае!» А ты паверыў. Не прыслухаўся да ціхага голасу ўласнай праўды. А ці ўзбагачае руская літаратура менавіта цябе? Можа, канешне, і ўзбагачае. Можа, настаўніца і была тым патрэбным штуршком. І без яе не ўзяў бы том Пушкіна, якога спачатку чытаць не

хацелася, а потым захапіла. А можа, цябе папросту падманулі. І чытаць геніяльную рускую літаратуру — гэта ўвогуле не для цябе. Каб са школы не выгналі, можа, і трэба адолець які-небудзь мінімум… Але «не для цябе» — гэта зусім не значыць, што ты дурны, няправільны і неразвіты.

І можна нават не тую прафесію абраць, бо заблытаўся, не развіў сапраўдныя пам-кненні. А потым і замуж — не па каханні, а проста за добрага чалавека. Бо спяшаемся, бо ўсе вакол ужо з сем'ямі…

## ДЛЯ ЧАГО ЖЫВЁМ? ДЛЯ РАДАСЦІ!

Чалавек, зрэшты, лайдак па сутнасці сваёй. І часам настаўнік усё ж патрэбны. Не толькі каб растлумачыць. А каб ства-рыць працоўную атмасферу і падштур-хнуць. Не хацеў рабіць нейкае заданне, але трэба, настаўнік так сказаў. І вось ты ўжо робіш, захапляешся — і рады, што за гэтую справу ўзяўся. Толькі не падманваць сябе, не займацца лішнім. Патлумачыць бацькам, што ты ўвогуле не створаны для таго, каб, скажам, сур'ёзна займацца музыкай.

Ужо ўзгаданая мной сяброўка Іра неда-люблівала сваю працу настаўніка ў мастац-кай школе. Бо з усяго класа толькі некалькі чалавек знаходзіліся на сваім месцы. А астат-нім акадэмічныя стандарты, строгія патра-баванні былі лішнімі і, калі па шчырасці, напружвалі! Ёсць жа, напрыклад, звычай-ныя гурткі малявання, а сур'ёзная мастацкая адукацыя гэтым дзеткам навошта?

Іра з інтарэсам назірала, як дзеці вучы-лі на памяць праграмны твор Лермантава «Ветразь», зададзены ў агульнаадукацыйнай школе. Твор, у якім кемлівы чалавек можа адчуць увесь парадокс чалавечага быцця, здаецца, завучваўся механічна. «Я таксама вучыла гэты верш у шостым класе абы доб-рую ацэнку атрымаць, асабліва не асэнсоў-ваючы…» — дадала мая сяброўка.

У свеце шмат прыемных і простых рэчаў. Напрыклад, шпацыраваць па гора-дзе, разглядаючы людзей. Да даўняга пры-яцеля можна ў госці завітаць. Жыць без спешкі, расслаблена, без страху ўсё не паспець — гэта натуральна і прыемна. Але часта мы так абцяжараны ўсялякімі занят-камі і хатнімі заданнямі! Ды і да «часу мала» ўжо неяк прызвычаіліся… Але калі глыбока ўнутр сябе зірнуць, зразумееш: прамяняў спакойнае, ціха-радаснае жыццё без стрэсу з адной мэтай: быць годным чалавекам! І нават не для сябе годным, для людзей.

Скончыўшы школу, а потым і ўніверсітэт, чалавек ужо не так часта канцэнтруецца на тым, што ў яго ўнутры. Бо бізун у знешнім свеце балюча б'е, а пернік — неверагодна салодкі.

## ЦНАТЛІВАЯ НЕАПІСАЛЬНАСЦЬ СВЕТУ

Калі выхадны дзень здарыцца, мы можам пайсці глядзець пейзажы ў музей. Альбо застаемся дома, каб паглядзець кіно пра тое, як людзі ніяк не могуць вырашыць свае праблемы, альбо фоткі ў інтэрнэце, музыку слухаем.

Але ўсё пачыналася не з гарадской спеш-кі і пакутлівай прагнасці быць лепшым, чым ты ўжо ёсць. І не з таленавітага пейзажа ўсё пачыналася, аўтар якога памёр у роспачы, бо людзі толькі пасля яго смерці вырашылі, што ён таленавіты.

Усё пачыналася з цішыні поля, лесу і бязгрэшнай музыкі ветру, аўтар якой не жыве абмежаванымі катыгорыямі «таленавіта — неталенавіта». І Першаму Чалавеку не трэба было фатаграфаваць і замалёў-ваць усю гэтую прыгажосць, каб потым з'ехаць у горад ды выкласці ў сецiва. Бо цішыня поля, лес і вецер — першакрыніца, абсалютнае ціхае шчасце. І, проста пера-жываючы абсалютнае-ціхае-шчасце, ты, на жаль, нікім не з'яўляешся — ні Фатографам, ні Мастаком, самавітасць якіх залежыць ад хісткага, падчас выпадковага прызнання іншых людзей. Абсалютнага-ціхага-шчасця Першаму Чалавеку было дастаткова, яму ўвогуле ўсяго было дастаткова. Усёй сваёй гарманічнай істотай ён ведаў, што цішы-ня поля, лес і вецер — гэта неапісальна. І настолькі шмат, што інтэрпрэтацыя гэтай неабдымнасці фарбай альбо словам там про-ста не змяшчаецца.

## ЖАДАННІ СПРАЎДЖВАЮЦЦА АЛЬБО НЕ СПРАЎДЖВАЮЦЦА

***І ўсё ж ёсць у гэтым сусвеце нейкія правілы і законы. Напрыклад, дарожны рух на вуліцах зладжаны гарманічна — і без правілаў на дарозе ніяк! Ёсць пэўныя заканамернасці і ў тым, як наша жыццё складваецца. Бывае, што жаданні здзяйсняюцца. А часам — упарта не здзяйсняюцца!..***

**Без фанатызму**

Кажуць, каб жаданне матэрыяльнай кветкай узбуйнела, вось што трэба: расслабленасць, спакой і лёгкае стаўленне. Важнасць, апантанасць, навязлівыя думкі толькі ствараюць напружанне. Наганяюць варожую энергію, якая толькі аддаляе жаданае. Эзатэрыкі прапануюць нам такую тэорыю: моцна перажываючы, з крыкамі і патрабаваннем, мы толькі лішнім смеццем сасуд кармы забруджваем. «Не ствараЙ сабе куміра», — запаведзь у родным хрысціянстве. Не будзь апантаны жаданнем!

Каб жаданні спраўджваліся, трэба ўмець іх лёгка адпускаць, забываць і не баяцца, што не здарыцца. Гэта не значыць, што трэба стаяць на месцы, калі да мэты трэба ісці. Але ж… паўтаруся, што на здзяйсненне жадання трэба ўмець забывацца!

Як той казаў, даюць у першую чаргу таму, хто не выпрошвае.

**Песімізм — гэта ненатуральна**

Я б так сказала: часцей за ўсё жаданні спраўджваюцца, але часам усё ж не спраўджваюцца. Чаму?

Усяму свой час! Бывае, што проста трэба ўмець чакаць. У шчырым спакоі, без страху. Жадаць, але ж з такой устаноўкай: «Як лёс складзецца, так і будзе!»

Песімізм і адсутнасць веры — важкі пляцак за спінай, што толькі абцяжарвае, а карысці — ніякай. Увогуле, негатыўныя думкі — звычка, якая часам неўсвядомлена выпрацоўваецца, часам нават з любоўю шліфуецца багата гадоў. У чалавека з гэткай звычкай шанцы на спраўджанне жаданага памяншаюцца. І што рабіць? Бяром сілу волі, намер і — не паддаемся дурной звычцы!

Песімізм, зацыкленасць на «я — дрэнны!» — бруд і ненатуральнасць.

**Хто дзесяць разоў на дзень адціскаецца, той ва ўніверсітэт паступіць!**

Сістэма «Сімарон» для спраўджвання жаданняў прапануе выдумляць рытуалы. І верыць у іх. Але ж здзяйсняць гэтыя самыя рытуалы без вялікай сур'ёзнасці, лёгка і весела.

Якія рытуалы? Ды якія заўгодна! Напрыклад, адціскацца дзесяць разоў штодзень, каб ва ўніверсітэт паступіць. Проста ў гэткай форме мы паведамляем Сусвету пра жаданае, запускаем намер.

Свечку ў царкве паставіць, памаліцца — таксама неблагі рытуал. Знаёмая журналістка падзялілася сваёй цудоўнай гісторыяй: «Прыйшоў момант, калі мне надакучылі непрацяглыя адносіны з хлопцамі, якія хутка вычэрпваліся. Пачувалася тканінай, што марнуецца на драбязу, і сукенку з яе ўжо не пашыць… Захацелася таго адзінага, менавіта майго спадарожніка па жыцці. Я пайшла ў царкву, паставіла свечку, папрасіла. Праз два тыдні здымала сюжэт на працы і сустрэла там свайго будучага мужа! Ён аказаўся тым адзіным, маім».

Можна яшчэ і ў такое прыгожае мерапрыемства згуляць: запісваем жаданні на паперку, кладзем у бутэлечку ды ў рэчку альбо возера закідваем. Некаторыя навукоўцы сцвярджаюць, што вада прачытвае нашы эмоцыі і нават друкаванае слова. (Глядзіце навукова-папулярны фільм «Вялікая таямніца вады»)

Яшчэ можна ўяўляць, што жаданае ўжо ёсць у вас. Але ж не забывацца на смеласць «адпусціць» і забыць свой намер.

**«Хітрыя» і прыхаваныя жаданні таксама часам спраўджваюцца!**

У рамане «Зялёны шацёр» рускай пісьменніцы Людмілы Уліцкай ёсць персанаж Саня. Хлопчык наведвае музычную школу. Але хадзіць на канцэрты дарослых музыкаў яму пакутліва. «Не буду ніколі так выдатна граць!» — думае Саня. Потым школьныя ворагі паб'юць хлопца. З дэфектам рукі граць на музычным інструменце стала амаль не магчыма.

«Хітрыя» і прыхаваныя жаданні таксама часам спраўджваюцца. І нават у людскіх хваробах бываюць свае матывы.



**Крыніца адукацыі —**
**гэта кніга, народ і праца.**
*Здаецца, Рамішвілі*

Віялета РЫЧАГА

# ЗУСІМ ІНШЫ ЦЭХ

**Па афіцыйных дадзеных у 2012 годзе каля 71 % беларускіх абітурыентаў паступілі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. У вучылішчы і каледжы паступіла ўсяго 16 % абітурыентаў. Тых, хто нават і не збіраўся паступаць, — каля 14 %. Пра што гэта сведчыць? Пра імкненне моладзі атрымаць адукацыю вышэйшага гатунку і заняць прэстыжную пасаду ў бліжэйшай будучыні? Ці пра тое, што майстроў сваёй справы, па-сапраўднаму «рукастых», умельцаў у Беларусі становіцца ўсё менш?**

***З дапамогай гэтага праекта «Маладосць» будзе разбірацца, хто яны, людзі, якія выбіраюць «іншы шлях». Галоўнае для нас — Чалавек з Яго жыццёвай пазіцыяй, праблемамі, шчасцем. У героі праекта трапяць цікавыя маладыя людзі самых розных «жыццёвых» прафесій.***

Халодным, але сонечным восеньскім ранкам начальнік вытворчага аддзела праводзіць нас, мяне і фатографа, праз прахадную Спецкамбіната камунальна-бытавога абслугоўвання горада Мінска. «Рана ці позна ўсе прыходзяць да нас», — жартаўліва прыкмячае ён. У гэтым дагледжаным вялікім будынку робяць шмат што, пачынаючы ад вянкоў і заканчваючы скрынямі для праху памерлых. Гулкія калідоры, засланыя сляпучым ранішнім святлом. Ветлівы начальнік рады гасцям, які прыйшлі не з пытаннямі пра смерць, але з пытаннямі пра жыццё.

— Я Вас Славе дам! Ён у нас чалавек перадавы, інтэлігентны, начытаны. Прыгажун і майстар на ўсе рукі. А беларускую мову ў ідэале ведае!

Спускаемся па лесвіцы і апынаемся ў цэху № 5. «Дрэваапрацоўчы». Першы крок ў памяшканне — і шум запаўняе ўсе закуткі ў нашых галовах. З аднаго боку стукаюць малатком, з другога — ушрубоўваюць. Праз хвіліну шум становіцца звыклым, мы перастаем яго заўважаць.

Памяшканне цэха перадае стыль «лофт» — высокія столі, ніякіх сцен, шырокія вокны, усё каменнае і бетоннае, паўсюль у нейкім своеасаблівым парадку раскіданы сталы для апрацоўкі, драўляныя нарыхтоўкі і ўжо гатовыя для продажу труны. Усе розных колераў абіўкі: бардовыя, смарагдавыя, цёмна-фіялетавыя. Ранішняе сонца асвятляе цэх — труны нібыта купаюцца ў гэтым святле. Тут халаднавата, сакавіта пахне дрэвам, грае радыё. Па перыметры цэха працуюць людзі, у гэтай частцы праводзіцца абіўка.

Тым часам выходзіць насустрач збянтэжаны нашым візітам Вячаслаў.

— Добры дзень! — кажа ён. У майстра па вырабе трун вельмі зялёныя і жыццярадасныя вочы. Ён не хавае погляду і ўсміхаецца. — Не ведаю, ці змагу быць цікавым... Мне 32 гады. Нарадзіўся ў Магілёўскай вобласці ў мястэчку Бялынічы. Мастак па прызначэнні, выкладчык школы мастацтваў. Скончыў вучылішча, вышэйшай адукацыі не маю. Працаваў шмат дзе: і станочнікам, і мастаком, а потым пачаў вырабляць труны. Як так выйшла не ведаю, гэта жыццё...

Відаць, што ён не разумее нашу цікаўнасць да яго прафесіі. 10 гадоў працуючы ў вытворчасці, Вячаслаў прывык да гэтай справы, палюбіў яе. Але стварэнне дамавін не стала для яго чымсьці сумным, і самі труны не сталі для яго проста апрацаванай драўнінай.

— Чалавек, якому я раблю труну, чагосьці дасягнуў у жыцці, таму я павінен пахаваць яго дастойна. Труны для мяне — гэта яшчэ і мастацкае тварэнне. Шмат іх разнавіднасцей, для кожнай свая тэхналогія, свае дэталі. Быў час, калі я сам распрацоўваў іх дызайн. Цяпер рукамі працую менш, я — намеснік начальніка цэха.

Адказваць за труны, што выходзяць з-пад тваіх рук — гэта адно, а калі пад тваёй адказнасцю людзі — гэта зусім іншае.

— Вышэйшая адукацыя для мяне — гэта самастойнасць. Лекцыі, заняткі — вольнае наведванне, свабода выбару. А ў вучылішчы — дысцыпліна, значна больш практыкі. Там амаль кожны дзень нешта робіш рукамі, пастаянна напрацоўваеш вопыт. Я лічу, што для прыкладных дысцыплін вучылішча — лепшая школа. Я скончыў Магілёўскае мастацкае, спецыяльнасць — выкладчык мастацкіх дысцыплін. Найбольш люблю працаваць з дрэвам. Я калісьці, пасля вучылішча і арміі...

— Вы былі ў арміі?

— Так, адслужыў!

— І як мастаку ў войску?

— Добра. Часта толькі даводзілася начамі маляваць плакаты, статуэткі рабіць.

Пасля арміі Вячаслаў паступіў у Інстытут культуры ў Мінску на дэкаратыўна-прыкладную спецыяльнасць. Але, скончыўшы першы курс, вырашыў, што хоча працаваць. Ды і ўсвядоміў, што не атрымлівае тых ведаў, на якія спадзяваўся.

— Па спецыяльнасці сваёй месца не знайшоў. Мне прапанавалі працаваць мастаком-дэкаратарам у дзіцячым садку, але што маладому чалавеку там рабіць, тым больш мужчыну? Спачатку думаў перавесціся на завочнае ў Інстытуце культуры. Буду, маўляў, і працаваць, і працягваць вучыцца. А як пачаў працаваць — зняверыўся ў вучобе. Шукаў працу, патэлефанаваў на фірму. Яны кажуць: «Труны робім». Я адразу асалапеў. Вы ж ведаеце, як людзі на такія рэчы рэагуюць. І я таксама: «Якія труны? Навошта мне гэта?».

Але Вячаслаў прыйшоў на прыватнае прадпрыемства рытуальных паслуг, паспрабаваў — і ў яго атрымалася. Спачатку чаляднікам, а потым і майстрам стаў.

— Калі працаваў на той фірме, то ездзілі на міжнародныя майстар-класы ў Польшчу, Замбраў. Абменьваліся вопытам з калегамі — сталярамі, дызайнерамі, станочнікамі, цeслярамі. Гэта было цікава. Розніца ў тэхналогіях у нас і ў Польшчы каласальная. Там абсталяванне, у нас — рукі. Там дуб, алешына, тут — хвоя. Гэта ўсё значна даражэй там. У нас жа ёсць розныя класы дамавін — і танныя, і дарагія. Першыя — простае дрэва і тканіна, другія — шасці- ці нават васьмігранныя саркафагі, лакіраваныя, з ручной разьбой і іншымі атрыбутамі.

Калісьці я быў простым станочнікам тут, на Спецкамбінаце КБА. На фірме, дзе пачынаў, справы пайшлі на разлад, і Анатоль (начальнік цэха Спецкамбіната), які даўно прыкмеціў мяне, паклікаў працаваць да сябе. Паўтара года я стаяў ля станка. Раніцай прыходзіш, рыхтуеш працоўнае месца, апранаеш пальчаткі, берушы, каску — і на цэлы дзень праца з нарыхтоўкамі. Прыносіш-зносіш падрыхтаваны і адпрацаваны матэрыял. Потым — фарматна-раскроечны станок. Гэта форма. Уся праца па чарцяжах. Затым зборка і знешнія афармленні. Але гэта ўжо зусім іншы цэх...

Мы пераходзім на «Участак лакавых работ». Вячаслаў працягвае распавядаць пра асаблівасці сваёй прафесіі, кантынгент, пра стружкі, пілавінне на вопратцы і нават пра пахі:

— Маёй жонцы падабаецца, калі прыходжу з працы дадому і пахну свежым дрэвам. Ёй з самага пачатку гэта падабалася… Яна ніколі не прасіла мяне змяніць працу. Яе заўсёды задавальняла тое, чым я займаюся. Ніякіх фінансавых сварак або непаразуменняў.

Жонка Вячаслава не мае вышэйшай адукацыі, працуе адміністратарам ігравога цэнтра. Вячаслава задавальняе іх сямейнае жыццё.

— У нас пакуль няма дзяцей. Але для свайго дзіцяці я б не стаў вызначаць загадзя, які шлях яму абраць — універсітэт ці вучылішча. Думаю, тут трэба меркаваць па схільнасцях: тэхнічныя або гуманітарныя, прыкладныя або тэарэтычныя… Я калісьці таксама, на думку свайго бацькі, быў зусім нетэхнічным чалавекам. І вось, бачыце, я тут кірую тэхнічнымі працэсамі. Хоць вучыўся на мастака. І не шкадую. Вышэйшая адукацыя не вызначае ўзровень развіцця чалавека. Шкада, што ў апошні час у Беларусі не вельмі запатрабаваны рабочыя рукі. Для мужчыны гэта добры шлях.

Мы ўжо прайшлі ўчастак, дзе пакрываюць лакам і разьбой дарагія труны. Прама на нашых вачах адзін з рабочых спецыяльнай машынкай паліраваў і апрацоўваў праваслаўны крыж — беражліва і педантычна. Мы загледзеліся на яго працу.

— А шчасце — гэта дзеці, — памаўчаўшы, сказаў нам напрыканцы ўсмешлівы Вячаслаў.

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

# БЫЛІ КРЫНІЦЫ СІНІЯ...*

***Сентыментальная хроніка*****

**Частка другая**

## НЕПАТРЭБНАЯ СКРЫНЯ ГАРЭЛКІ

Між тым, наш Друкар надумаў уступаць у Саюз пісьменнікаў. Паўнапраўнымі членамі паважанай арганізацыі да таго часу паспелі стаць Гаспадар тайгі, Глыбачанка, Міхась і я. Мы радаваліся адзін за аднаго, лічылі гэта і сваёй заслугай, бо кожны твор «крынічан» абмяркоўваўся вельмі строга, хоць і добразычліва, здараліся часам і крыўды, але ўрэшце мы разумелі, што за патрабавальнасцю стаіць жаданне дапамагчы сябру.

Таму я ўзяўся дапамагаць Друкару ў паездцы ў Мінск. Якраз у той дзень з нейкімі дакументамі ў сталіцу адпраўляўся «рафік» з нафтаперапрацоўчага завода.

Мне ўдалося дамовіцца з прафсаюзным начальнікам, каб «рафік» захапіў і нас, бо Друкар захацеў ехаць не проста так, а везці скрыню гарэлкі для сяброў і знаёмых з нагоды чаканай падзеі. Трэба зазначыць, што тады ў Саюзе была традыцыйная цырымонія: кожны з прынятых запрашаў адзначыць тых, хто рэкамендаваў і сяброў, і ў адным з вялікіх пакояў на Фрунзэ, 5 ладзіліся вясёлыя бяседы. Іх вельмі любілі некаторыя заўзятары, бо можна было «на халяву» выпіць і закусіць.

Мы амаль не сумняваліся, што Друкара прымуць: у яго выйшлі ўжо два паэтычныя зборнікі, ён часта друкаваўся ў перыёдыцы.

У час абмеркавання яго хвалілі. Паэт і крытык Л. нават сказаў, што Друкар валодае вялікімі арганізатарскімі здольнасцямі, выпускае альманах з творамі маладых, групуе вакол сябе літаратараў з розных гарадоў Беларусі, і ўвогуле мог бы сам стварыць і ўзначаліць сваю пісьменніцкую арганізацыю, настолькі таленавіты і паважаны як лідар новага пакалення літаратараў.

— От, казёл! — шапнуў мне Гаспадар тайгі. — Цяпер дакладна пракацяць.

Так і атрымалася. Аб'явілі вынікі тайнага галасавання. Аксакалы не падтрымалі нас. Друкара пракацілі.

Назад ехалі моўчкі. Толькі бразгацелі на паваротах некранутыя пляшкі гарэлкі.

## СІКОРАЎСКІ САД

Што ў вёсцы Алашкі Шаркоўшчынскага раёна ёсць сад селекцыянера Івана Сікоры, я ведаў яшчэ з таго часу, калі працаваў у полацкай газеце. Мы з калегамі Іванам і Германам нават пабывалі ў Алашках, пазнаёміліся з сынам садавода Віктарам Іванавічам, пахадзілі па гэтым унікальным садзе, дзе кожнае дрэва, кожны кусцік былі цудоўнымі гібрыдамі, выведзенымі заходнебеларускім «мічурынцам».

Таму з'явілася жаданне расказаць радыёслухачам пра сад, пра саму асобу садавода, якому Максім Танк прысвяціў наступныя радкі:

Вы яшчэ не прышчэплівалі свае яблыні?
Як шкада, што Сікора — стары садавод,
Аб якім у нас казкі, легенды складалі,
На змярканні аднойчы згубіў акуляры
І забрыў не дамоў, але ў рай
Або мо на другую планету,
І цяпер нельга з ім нам параіцца.

А ён, помню, хацеў падарыць чаранкі,
Прышчапіўшы якія, мы мелі б у садзе
яблыкі,
Налітыя песнямі, звонам пчаліным,

---

* Часопісны варыянт.

** Заканчэнне. Пачатак у № 9, за 2013 г.

Чырванню ўсходаў і захадаў сонца,
Пахам неба, зямлі, успамінамі.

Можа, пры дапамозе касмічных ракет
Нам яшчэ з ім удасца звязацца.
Таму абы-якімі гатункамі чаранкоў
Вы не спяшайцеся
прышчэплівацьяблыні.

Іван Паўлавіч быў з тых народных інтэлігентаў, якіх нямала нараджала беларуская зямля. Ён шукаў духоўнае апірышча ў перапісцы з Львом Талстым, сваю любоў да прыроды спладняў, як сад, роздумам пра лёс роднага краю.

Нездарма на відным месцы ў бацькоўскай хаце Віктар Іванавіч павесіў у рамцы арыгінал ліста Талстога, адрасаванага Сікору.

Няпростым, калі не трагічным аказаўся лёс самога Віктара Іванавіча. Асуджаны за беларускасць, былы навучэнец Глыбоцкага педвучылішча разам з сябрамі трапіў адразу пасля вайны ў ГУЛАГ. Тады маладых людзей, якія лічылі, што ў Беларусі павінна больш развівацца мова і культура, свае традыцыі выдаў правакатар і іх абвінавацілі ў антысавецкай дзейнасці.

Я сустракаўся пасля не раз з былымі паплечнікамі Віктара Сікоры. Дзівіла, што праз многія гады, праведзеныя па-за межамі Беларусі, яны захавалі чысцюткую родную мову і свой высокі патрыятызм.

Віктар Сікора гаварыў толькі па-беларуску, але гады няволі зламалі яго маральна і фізічна: ён шмат піў. Бацькаў сад прыходзіў у заняпад і ўрэшце практычна перастаў існаваць.

Дзякуй Богу, захаваліся саджанцы ўнікальных гатункаў «Памяць Сікоры», якія заваявалі Гран-пры ў Італіі. І цяпер гэтыя гатункі, клапатліва захаваныя журналістам і пісьменнікам Германам Кірылавым, растуць і пладаносяць у некаторых полацкіх, глыбоцкіх, шаркоўшчынскіх прыватных садах.

Як гэта часта бывае, калі нашчадкі ўрэшце спахапіліся, сад быў ужо знішчаны. І цяпер у Алашках ёсць музей Івана Сікоры і пасаджаны новы сад, дрэўцы для якога бралі ўжо ў сучасным, не Сікораўскім гадавальніку.

Але крыху суцяшае тое, што і я ўслед за віцебскімі журналістамі Кірылавым, Крэскіянам і іншымі паспрыяў таму, што памяць пра выдатнага беларускага садавода захавалася на яго радзіме.

## «ЖАНЧЫНА ЎКЛЕНЧЫЛА Ў КАСЦЁЛЕ»

Я паступова стаў кантактаваць з Глыбачанкай часцей, чым з астатнімі «крынічанамі». Неяк аднойчы нават наважыўся узяць у яе інтэрв'ю як у маладой пісьменніцы.

Глыбачанка аднеквалася, спасылаючыся на тое, што мае дэфект вымаўлення — літару «р» надта грасіруе. Я ў адказ стаў запэўніваць, што магу памагчы напісаць ёй адказы на тры хвіліны, у якіх не будзе ніводнага «р».

Заключылі пары. І вось я ў Глыбачанкі дома з магнітафонам: тады яна яшчэ была ў дэкрэтным адпачынку пасля нараджэння малодшага сына.

Здавалася, яе смеху і здзіўленню не было канца. Мы запісалі інтэрв'ю, дзе з яе боку не было вымаўлена ніводнага гука «р».

Глыбачанку пасля дэкрэтнага адпачынку запрасілі на працу ў гарадскую газету «Химик», і мы сталі часцей сустракацца і перазвоньвацца па агульных справах. У нас аказаліся вельмі блізкія погляды на літаратуру, музыку, тэатр.

Аднойчы Глыбачанка запрасіла мяне ў госці на сваю радзіму — вёску на Глыбоччыне. Ехалі туды з яе сям'ёй: мужам, які быў за рулём машыны, і сынамі.

Хата бацькоў Глыбачанкі стаяла на самым паваротце з дарогі. Яна патанала ў густым вішняку. Бацькі былі вельмі гасціннымі сімпатычнымі людзьмі. Асабліва маці — з такой добрай адкрытай усмешкай, з прыемнай беларускай гаворкай.

Гаспадары знаёмілі мяне з вёскай, стол ламіўся ад пачастункаў, на душы было цёпла і лагодна.

Назаўтра, у нядзелю, усе дамачадцы зазбіраліся ў касцёл, які знаходзіўся ў суседняй вёсцы. Запрасілі і мяне.

Велічны, прыгожы, з чырвонай цэглы храм быў відаць здалёку. Да яго рушыў людскі паток: сяльчане ва ўрачыстых строях пешшу і на веласіпедах. Дарэчы, на роверах, як іх называлі мясцовыя, былі ў асноўным жанчыны.

У касцёле граў арган, гарэлі свечкі, пахла ладанам.

Мы з Глыбачанкай і яе мужам стаялі крыху воддаль ад старых. Раптам яна апусцілася на калені, мы ж з яе Міхасём засталіся стаяць.

Ну не мог жа і я ўкленчыць: камуніст, уласны карэспандэнт рэспубліканскага радыё… Але чамусьці было сумна, бо нешта было высокае і светлае ў тым, як дружна, з адухоўленымі тварамі, маліліся людзі, ад іх урачыстай замілаванасці, ад паху ладану...

— Ты што-небудзь заўважыў? — спытала пасля службы Глыбачанка.

— А што, усё нармальна! — адказаў я.

Тады я яшчэ не ўяўляў, што праз колькі год буду чытаць вершы Багдановіча на ўрачыстай імшы ў Міёрскім касцёле, што стануць частымі размовы з праваслаўным епіскапам у Полацку, што сам буду стаяць перад алтаром у царкве Спаса ў родным Полацку…

Але неўзабаве пасля вяртання з Глыбоччыны нарадзіліся радкі:

Жанчына ўкленчыла ў касцёле,
А я застаўся на нагах.
І адчуваў, як сэрца коле
Неспадзяваная туга.
Бо хто я тут: маўклівы сведка,
Ізгой бязродны ці святы?
Іграў арган, гарэла свечка,
І плыў пад столь самотны дым.

## ДРУГАЯ СПРОБА ФІЛАСОФСКАГА АДСТУПЛЕННЯ

*З рэлігіяй у час майго дзяцінства і маладосці змагаліся заўзята. У школе — на ўроках і пазакласных мерапрыемствах, на радыё і ў кіно, у кнігах і брашурах. Жудасныя аповеды, як цемрашалы-вернікі зацягваюць у свае сеткі слабых людзей, як царкоўны дурман атручвае душы і думкі савецкага чалавека, адрывае ад стваральнай працы, шчаслівага жыцця, павінны былі выклікаць не толькі агіду да служкаў культу, але сапраўдную класавую нянавісць.*

*У нашым завулку жыў бацюшка адзінай у Полацку царквы айцец Васіль, да яго прыходзіў у госці ўнук нашага ўзросту, да якога мы баяліся падыходзіць як да заразна хворага.*

*А пра тое, што камуніст, сакратар камсамольскай арганізацыі верыць у Бога і ходзіць у царкву, нават гаворкі не магло ісці.*

*На тэрыторыі Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў былых манастырскіх келлях зрабілі камунальныя кватэры, іх жыхары панабудавалі проста на пляцы перад царквой Спаса XII стагоддзя хлеўчукі і сарайчыкі, у якіх трымалі парсюкоў, курэй, іншую жыўнасць.*

*Праўда, як потым высветлілася, далёка не ўсе людзі станавіліся заўзятымі атэістамі. І тым больш — не радня маёй жонкі-паляшучкі: сама цешча была актывісткай праваслаўнай царквы, і ўсе яе шасцёра дзяцей і мой цесць Іван Георгіевіч спраўна наведвалі царкву і адзначалі ўсе святы.*

*Пасху або Пэйсах адзначала, пакуль была жывая, і бацькава маці — старэнькая бабулька з полацкай яўрэйскай слабады, куды мяне ў выходныя і святочныя дні прыводзіў бацька. Сам ён быў шчыры камуніст, перакананы бязбожнік, які ў вайну, хоць і мок і мерз на перадавой у акопах, але ў пятліцах, нягледзячы на сваю незакончаную сярэднюю адукацыю, насіў кубікі малодшага палітрука.*

*А тут цешча аднойчы ў час майго прыезду да іх у вялікае палескае сяло і гаворыць:*

*— Навум, а дзетак жа хрысціць пара!*

*Я крыху сумеўся. А яна працягвала:*

*— Ведаю, што ты парцейны. Але ў нас усе парцейныя дзяцей хрысцяць. Не бойся, наш бацюшка нікому не выдасць.*

*Так мае дзеці Оля і Максім сталі хрышчонымі праваслаўнымі.*

*Пра гэта я думаў таксама, калі Глыбачанка ўкленчыла ў касцёле, пра гэта ж — калі праз гады сам стаяў перад алтаром у маленькай вясковай царкве…*

*Я не ведаў тады, што гэта можа стаць своеасаблівай модай, што тыя, хто даваў вымовы за веру, выганяў з працы, самі стануць са свечкай ля алтара, а некаторыя з такім жа імпэтам будуць кляйміць бязбожнікаў і атэістаў.*

*І яшчэ. Хай, як у біблейскай прытчы, кіне ў мой гарод камень той, хто бязгрэшны і правільны, хто лічыць, якая вера самая слушная. Жыць з народам — значыць быць з ім ва ўсім. Такі мой свядомы выбар, правільны ён ці не.*

## УРАТАВАНЫЯ АРГАНАЎТЫ

Аднойчы з раніцы раздаўся міжгародны тэлефонны званок.

— Прабачце, гэта жонка Вітаўта з Міёраў. Вы ў нас былі летась. Дык вось, майго мужа з работы звальняюць.

— Што вы кажаце! За што?

— Ды невядома. Прыязджаў правяраючы, хадзіў у музей, казаў, што шмат старасветчыны, што паэтызуецца сялянскае мінулае, мала экспанатаў пра барацьбу за савецкую ўладу, пра станаўленне калгасаў. А Вітаўт яму вазьмі і скажы, што паказвае толькі праўду, што на самой справе было. Потым дырэктар школы выклікаў і сказаў: «Пішы заяву па ўласным жаданні».

Настаўнік з Міёр стварыў у сваёй школе гурток «Арганаўты мінулага». Дзеці збіралі старыя прылады працы, кнігі, карціны, вышыванкі і выцінанкі, якія раней упрыгожвалі сялянскія хаты. Такім чынам, стварыўся музей, які пастаянна папаўняўся экспанатамі. Вучні штолета хадзілі разам з настаўнікамі ў паходы па родных мясцінах, запісвалі ў старых людзей легенды, паданні, народныя песні.

Сам настаўнік расшукаў нямала цікавых дакументаў пра паўстанне 1863 года, пра побыт беларускіх сялян у тыя часы, пра дзейнасць Таварыства беларускай школы ў Заходняй Беларусі, рэгулярна друкаваў матэрыялы на гістарычную тэму ў мясцовай газеце.

— Вы б што-небудзь паслалі ў рэспубліканскія выданні, — параіў у час чарговай сустрэчы я, — тут жа нямала сапраўды вельмі цікавага.

— Ды мне і мясцовага друку хопіць, — адказаў Вітаўт Антонавіч. — Нехта са сталічных, можа, прачытаўшы, разаўе тэму, лепш за мяне напіша.

І вось такая вестка. Я задумаўся: што рабіць? І выйсце знайшлося.

Праз пару гадзін я патэлефанаваў сакратару Міёрскага райкама партыі па ідэалогіі, назваў сябе.

— У вас там, здаецца, у адной са школ цікавы музей стварылі і гурток «Арганаўты мінулага». Хацелася б расказаць на ўсю рэспубліку пра гэта як прыклад патрыятычнага выхавання школьнікаў.

— Так, ёсць такое, — з гатоўнасцю адказаў партыйны чыноўнік. — Настаўніка завуць Вітольд Антонавіч. Прыязджайце.

Назаўтра я быў у Міёрах.

Вітольдам называлі настаўніка афіцыйна, бо імя Вітаўт гучала на погляд мясцовых начальнікаў занадта нацыяналістычна.

Вітольд дык Вітольд. Сутнасць ад гэтага не мянялася. У інтэрв'ю перад мікрафонам партыйны сакратар назваў настаўніка актыўным педагогам, энтузіястам, патрыётам.

Я ж старанна рабіў выгляд, што бачу настаўніка ўпершыню, выказваў цікавасць да яго расповеду, задаваў шмат пытанняў.

Рэпартаж прагучаў у адным з выпускаў навін Беларускага радыё.

— Дзякуй вам вялікі, — патэлефанаваў неўзабаве герой рэпартажу. — Дырэктар сказаў парваць заяву, падпісаў прадстаўленне на грамату, тэлефанавалі з абкама, прасілі, каб я расказаў на адным з абласных семінараў пра дзейнасць гуртка і школьны музей.

## ЛЕЙТЭНАНТ ФРАНЦУЗСКАЙ АРМІІ

Набліжаўся Дзень Перамогі. Напярэдадні мы давалі шмат матэрыялаў пра ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, якія дзяліліся ўспамінамі пра франтавую маладосць.

Патэлефанаваў намеснік галоўнага рэдактара службы навін.

— На Віцебшчыне ёсць былы лейтэнант французскай арміі. Змагаўся ў французскім супраціўленні, удзельнічаў у святочным парадзе ў Парыжы, які прымаў генерал Дэ Голь. Жыве ў Гарадоцкім раёне.

І адправіўся я на Гарадоччыну.

Лейтэнант французскай арміі быў ужо на пенсіі, жыў у адной з вёсак у далёкім сельсавеце.

— На сваім «Масквічы» вы туды не праедзеце, вясна, бездарожжа, — сказаў мне рэдактар мясцовай газеты. — Я дамовіўся, ён прыедзе ў цэнтр саўгаса па хлеб, калі туды прыязджае аўталаўка. Гэта будзе ў сераду, а 11 гадзіне раніцы.

Мы з маім добраахвотным памочнікам Валодзем, які сеў за руль, былі на месцы ў прызначаны час.

Лейтэнант французскай арміі аказаўся невысокім хударлявым дзядком у ватоўцы і гумовых ботах, з тварам, зарослым густым сівым шчаціннем.

Мы селі ў машыну, і дзед пачаў павольна гаварыць.

— А пра што тут расказваць? Трапіў у палон пад Магілёвам. Адзін канцлагер, другі. Пазнаёміўся з французам. Той прапанаваў уцячы. Удалося. Доўга блукалі па Германіі, перайшлі мяжу, у Францыі выйшлі ў родную вёску француза. Там арганізоўваўся атрад супраціўлення.

Нападалі ўначы на нямецкі транспарт, рабілі вылазкі ў горад. Потым злучыліся з арміяй Дзяголя. Далі форму лейтэнанта. На парадзе сам Дзяголь падышоў, пацалаваў. Сказаў: заставайся служыць у нашым войску.

Дзед гаварыў па-тутэйшаму, і гэта яго «наш Дзяголь» вымаўлялася ім, нібы мясцовая вясковая мянушка.

— А як вы з французамі размаўлялі? Ведалі мову?

— А што там ведаць? Нечаму навучыўся, нешта на мігах паказваў. Нармальна.

Беларус усё-такі наважыўся вярнуцца на Радзіму. Нейкі час пабыў у фільтрацыйным лагеры, потым усё ж дабраўся да роднай вёскі.

Начальства і аднавяскоўцы глядзелі насцярожана: быў у палоне, служыў у іншым войску.

Працаваў механізатарам, быў адным з лепшых, не піў, не курыў, завёў сям'ю.

Некалькі разоў парторг прапаноўваў уступаць у партыю, але кожны раз з райкама вярталі дакументы: служыў у іншаземным войску.

Раз-пораз наведваліся кадэбісты, цікавіліся, ці падтрымлівае сувязь з былымі аднапалчанамі.

Цяпер вось нарэшце сталі віншаваць з Днём Перамогі, клікаць на мерыпрыемствы разам з іншымі ветэранамі.

Ужо развітваючыся, вылазячы з машыны, закідваючы на плячо мяшок з хлебам і крупамі, дзядок хітра ўсміхнуўся і запытаў:

— А што калі б застаўся ў Парыжы? Ці трэба было б аўталаўку чакаць?

**«АЎТАРЫТЭТ»**

Сяргей Грахоўскі быў адным з тых пісьменнікаў, якія пісалі пра камсамольскую будоўлю на берагах Дзвіны і пра ўзвядзенне будучых гігантаў нафтахіміі. Тады ён быў у складзе пісьменніцкай брыгады, бо ў той час такая форма ўдзелу творцаў у стваральнай працы савецкага народа лічылася абавязкам, і газеты, часопісы ахвотна выдзялялі месца для рэпартажаў і нарысаў пра герояў працоўных будняў.

Пра тую паездку сам Грахоўскі не раз гаварыў у розных інтэрв'ю, ды і здымак яго з таварышамі па творчым цэху вісеў на ганаровым месцы ў музеі працоўнай славы горада.

Пра гэта мы часта разважалі з аксакалам беларускай літаратуры ў доме творчасці «Іслач», куды я атрымаў пуцёўку пасля ўступлення ў Саюз пісьменнікаў. Раніцай, выходзячы з сынам на зарадку, на паляне бачыў высокую сутулаватую постаць Сяргея Іванавіча, які старанна прысядаў, рабіў рухі рукамі і, нягледзячы на свой паважны ўзрост, выглядаў яшчэ даволі рухавым і падцягнутым.

— Трымацца ў форме стараўся заўсёды, — гаварыў Сяргей Іванавіч, — інакш бы не выжыў. Сёння нехта нават папракае за вочы, што не стаў «дахадзягай» у лагеры, як некаторыя сябры-паплечнікі. А я змагаўся, бо вельмі хацелася вярнуцца дадому, у сваю Беларусь.

Я гэта потым не раз узгадваў, чытаючы ўспаміны Грахоўскага пра амаль дваццаць гадоў, якія ён правёў у сталінскіх лагерах і ссылках.

Потым не раз сустракаў Сяргея Іванавіча, калі наязджаў у Мінск па розных справах, і кожны раз ён узгадваў даўнюю паездку ў Наваполацк.

Таму вельмі ўзрадаваўся стары, калі ад імя «крынічан» запрасіў яго ў госці.

Анёлак якраз набыў машыну, і на яго «Жыгулях» мы прыехалі па Грахоўскага ў Мінск.

Пра сустрэчу ў бібліятэцы, дзе сабраліся шматлікія чытачы, пасяджэнне «Крыніцы» мне ўжо даводзілася пісаць, паўтарацца не буду.

Але адзін эпізод не магу абмінуць.

Раніцай я зайшоў за Сяргеем Іванавічам у гасцініцу, куды мы яго праводзілі пасля доўгай і шчырай бяседы, якая зацягнулася далёка за поўнач.

Выйшлі на вуліцу, падышлі да кіёска, набылі свежыя газеты. Побач з кіёскам быў прыгасцінічны буфет, дзе можна было выпіць кубак кавы, злёгку перакусіць.

Ля стойкі круціўся нейкі падазроны тып, які адразу нібы прыляпіўся да нас, быццам незнарок штурхаючы, выглядваючы нешта за нашымі спінамі.

Раптам Грахоўскі павярнуўся і гучна выгукнуў фразу, якую я нізашто не змагу паўтарыць, бо гэта была самая натуральная блатная «феня».

У тыпа вочы на лоб палезлі. Ён нібы паменшыўся ў памерах.

— Баця, я не ведаў, што вы ў законе! Усё, знікаю. Калі што трэба, кажыце.

Грахоўскі раўкнуў яшчэ раз, і тыпа змыла.

Буфетчыца таксама была ўражана. А Сяргей Іванавіч ветліва папрасіў прабачэння, і мы з ім селі выпіць кавы.

— Гэта «феня» мяне не раз ратавала, калі ў пяцьдзясят шостым вяртаўся з жонкай і маленькай дачкой з Сібіры дадому, — нібы ў адказ на маё ранейшае здзіўленне загаварыў Сяргей Іванавіч. — Я ж быў брыгадзірам у крымінальнікаў на лесапавале, там і навучыўся. Бачыце, за «аўтарытэта» адразу прымаюць. І тады месца давалі, за кіпнем на станцыю бегалі…

Я глядзеў на гэтага сівога прыгожага чалавека і думаў: ён жа сапраўды аўтарытэт для нас. Не крымінальны, вядома, а прыклад сапраўднага беларуса, мужнага і мудрага.

Пра гэта я казаў праз многа гадоў у Мінску, на могілках, калі мы праводзілі Сяргея Іванавіча ў яго апошні зямны шлях.

## ТРЭЦЯЯ СПРОБА ФІЛАСОФСКАГА АДСТУПЛЕННЯ

*Маладыя заўсёды крыху іранічна ставяцца да аўтарытэтаў. Не былі выключэннем і мае сябры па «Крыніцах». Разумаў, да прыкладу, любіў прыносіць з сабой кніжку аднаго папулярнага ў той час празаіка і цытаваць пачатак яго аповесці: «На акне сядзеў грак. Чорны». Ён так смачна абыгрываў гэтыя словы, што ўсе дружна рагаталі. Даставалася і некаторым другім «класікам»…*

*А вось аднойчы Гаспадар тайгі, які да гэтага часу ўжо наважыўся пераязджаць у Мінск на працу, паведаміў, што ў госці да нас едзе Янка Брыль. Сёння б гэта выглядала прыблізна так: «Да нас едзе Янка Купала!». Брыль, чые апавяданні вывучаліся ў школе, сапраўдны класік, народны…*

*І вось высокі, прыгожы, усмешлівы Іван Антонавіч у Наваполацку. На дзіва просты, але з разуменнем сваёй годнасці і значнасці…Я ўжо спрабаваў пісаць пра два цудоўныя вераснёўскія дні, праведзеныя з Брылём, але мне, здаецца, так і не ўдалося перадаць напоўніцу ўсю тую чароўную атмасферу, якую адчувалі, бадай, усе, хто сустракаўся з гэтым па-сапраўднаму вялікім чалавекам.*

*Падобнае пачуццё панавала і падчас гутарак і сустрэч з Алесем Савіцкім, Сяргеем Грахоўскім. Нават самыя юныя цынікі і нігілісты заміралі ў захапленні, бо перад імі былі асобы, беларусы найвышэйшай пробы.*

*Сёння, калі я бачу, як ставяцца да заслужаных і значных творцаў маладыя крытыкі, шматлікія прэтэндэнты на званне моднага літаратара і проста нават не чытачы, бо яны нічога не чытаюць, маладзёны, то думаю часам: можа таму і няма пакуль сярод сучаснікаў постацей, роўных тадышнім нашым гасцям, што знікла павага да ролі пісьменніка ў грамадстве, што розныя падробкі, танны эпатаж, безгустоўе робяцца правілам у мастацтве і не толькі ў мастацтве.*

*Адсутнасць павагі да папярэднікаў — прыкмета хамства і дзікунства. А дзічэем мы, на жаль, імкліва.*

*Але ў мяне, прынамсі, ёсць успаміны пра сонечныя сустрэчы з класікамі.*

## «БЛАКІТ НЯБЁС І БЕЛЫ БУСЕЛ»…

Тое першае сумеснае Купалле, кнігі, раней невядомыя прозвішчы і факты, проза і вершы Караткевіча напаўнялі нас рамантычным і светлым пачуццём прыналежнасці да беларускага слова, беларускай культуры. Мы перачытвалі артыкулы Купалы, Бядулі,

Ластоўскага, вершы Гаруна, Жылкі, Дудара, Кляшторнага, Пушчы, Дубоўкі, Новіка-Пеюна, адкрывалі прозу Мрыя, Мікуліча, Баранавых… Усё гэта было для нас глытком гаючага паветра. Дарэчы, за чытанне Ластоўскага ці Аляхновіча можна было мець неслабыя непрыемнасці. Але час мяняўся, і свежы вецер усё часцей пранікаў праз зачыненыя шторы…

І ўсё больш натуральным станавілася гаварыць па-беларуску, вучыць дзяцей мове.

Памятаю, на адным з семінараў творчай моладзі ў адказ на прапановы пашыраць ужытак беларускага слова першы сакратар Ушацкага райкама партыі (потым, дарэчы, актыўны беларус) з’едліва запытаўся:

— А дома, з дзецьмі, вы на якой мове размаўляеце?

Чым выклікаў вясёлы смех.

— А вы прыязджайце, паслухайце, — адказала за ўсіх Глыбачанка.

Так сталася, што ў нас дзеці былі амаль аднагодкі: і ў Гаспадара тайгі, і ў Глыбачанкі, і ў Лёні Запалоцкага, і ў мяне. І, натуральна, беларускай мовай яны валодалі і карысталіся.

Памятаю, нават віцебскае тэлебачанне рабіла сюжэт пра маіх яшчэ дашкалят Олю і Максіма, якія бойка адказвалі па-беларуску, чыталі вершы.

Тады і нарадзілася ідэя адкрыць у якой-небудзь школе беларускамоўны клас. Загадчыцай гарана працавала мая старая знаёмая, яшчэ па камсамоле, і яна не была супраць.

Спыніліся на пятай школе, бо ў ёй якраз першы год пасля БДУ працаваў Анёлак, а таксама выкладчык іспанскай мовы, актыўны крынічанін Якуб, якога назавём, да прыкладу, Фін, бо ён перакладаў з фінскай Калявалу і потым праз шмат гадоў пераехаў на сталае жыхарства ў Хельсінкі.

Кодэкс адукацыі СССР дазваляў адкрываць класы на нацыянальных мовах па жаданні бацькоў. І пачалася нялёгкая эпапея ў самым інтэрнацыянальным горадзе Беларусі.

Анёлак нават вершык сачыніў: «Добры дзень у хату, мы да вас са школы… Што ж у вас за дзеткі — чыстыя анёлы, ці не хочаце аддаць іх у беларускі клас?».

Мы хадзілі па хатах, гутарылі з бацькамі, абяцалі шэфства над вучнямі…

І клас першага верасня адкрыўся! У ім было пятнаццаць дзетак, дзе разам з беларусамі былі хлопчык-казах і дзяўчынка-ўзбечка.

У класе мы павесілі прыгожы плакат з вершам Анёлка:

Блакіт нябёс і белы бусел,
Акраец неба, як абрус.
Мой край завецца Беларуссю
І сам я хлопчык беларус.

## ЧАЦВЁРТАЯ СПРОБА ФІЛАСОФСКАГА АДСТУПЛЕННЯ

*У нашым прыгарадным пасёлку ўсе гаварылі «па-нашаму» — дзекалі, цекалі, вымаўлялі цвёрдыя «р» і «ч», елі буракі, а не «свеклу», бульбу, а не «картошку», пілі гарэлку, а не «водку».*

*Гэта была такая ж мова, якой гаварыла з чорнай талеркі радыё, якое слухалі мы з бабуляй, крыху хіба адрознівалася нашымі мясцовымі словамі.*

*Па-руску гаварылі толькі прыезджы дзядзя Коля і салдаты, якія прыходзілі да нас у клуб на танцы. Праўда, сярод іх было нямала вузкавокіх і смуглявых, і іх мова таксама была нейкай своеасаблівай, не зусім рускай.*

*Рускую мову я ведаў па першых кніжках Маршака і Чукоўскага і з вуснаў дзядзькі, які прыязджаў з Ленінграда, хаця ён часта казаў, што закончыў у Сіроціне беларускую школу і мог на памяць прачытаць вершы Купалы і Коласа.*

*Бабуля ж гаварыла так сакавіта па-беларуску, што, узгадваючы свае дзіцячыя гады і яе расповеды, я знаходжу ў памяці такія моўныя перліны, якія хоць асобнай кніжкай выдавай.*

*З майго вымаўлення пасмейваліся бацькавы родныя, якія жылі ў цэнтры горада, хаця іх мову, паўяўрэйскую-паўбеларускую, таксама класічнай назваць было нельга.*

*На ідышы ў нашай сям’і не гаварылі, і толькі калі бацька хацеў нешта сказаць дома, каб я не зразумеў, пераходзіў на таямнічую для мяне мову.*

*Увогуле, мы з сястрой не адчувалі ніякай розніцы паміж намі і суседскімі Васілём, Воўкам, Мішкам, Генікам, Юляй. Неяк, праўда, старэйшы Лёнька Ганжа гучна дэкла-*

*маваў пры мне «Хаім, Хаім, скажы маме, што я папаў пад трактара», хітра хіхікаючы, але я нічога не зразумеў, бо ведаў, што ў бацькавай радні быў дзядзька Хаім, але ён ні пад які трактар не трапляў.*

*Што да мовы, то калі Юлька пайшла ў першы клас, а мне да школы заставаўся цэлы год, я разам з ёй пісаў у сшытку «Хатняя работа», «сакавік, красавік», асабліва старанна выпісваючы і з кропкай зверху.*

*Таму калі праз год пайшоў у школу, якая стала рускай, доўга сумаваў па гэтаму і з кропкай.*

*А там, між тым, з нашага вымаўлення (такіх, як я, было паўкласа) пасмейваліся дзеці вайскоўцаў з блізкага ваеннага гарадка, і настаўніца старанна перавучвала нас гаварыць не «гэны», а «этот», не «такі», а «такой», не «чаму», а «почему»...*

*Я хутка авалодаў гэтай навукай, і ўжо да канца першага класа малаціў па-руску не горш за чысценькага сына палкоўніка Хоціна. Тым больш што кніжак на рускай мове чытаў нямала, бадай, больш, чым на беларускай.*

*Але ў сэрцы чамусьці, пакуль спакваля, нясмела, пачынала расці крыўда за насмешкі, за гэтыя здзеклівыя выразы «трапкай па бруху», «гоп да кучы», якімі часта «даставалі» тых, каму пераход даваўся цяжэй, чым мне.*

*А потым прыйшлі вершы Багдановіча, кніжкі Маўра, апавяданні Брыля... І хоць па-беларуску я пакуль не гаварыў, гэтае слова на роднай мне мове песцілася ў душы, як цёплае птушаня, якое вось-вось вылеціць з гнязда.*

*І яно вылецела, дзякуючы ўжо Караткевічу, яго «Чазеніі», яго «Каласам», яго «Дзікаму паляванню»...*

*Не могуць людзі, зневажаючы сваё, адракаючыся ад уласнай гісторыі, ад спрадвечных каштоўнасцей сваёй зямлі, быць годна прынятымі больш магутнымі і моцнымі, бо над імі будзе вечна вісець крыж непаўнавартасці.*

*Быць высакародным і справядлівым — значыць не падпіхнуць у забыццё святое і выпакутанае пакаленнямі, што не ўдалося зрабіць зласліўцам за стагоддзі, а падтрымаць, паспрыяць паўнацэннаму вяртанню, бо страта і занепад любой мовы — трагедыя для ўсяго чалавецтва.*

*І адчуць шчасце, калі Радзіма даверыла табе быць носьбітам гэтага самага каштоўнага набытку народа.*

## Частка трэцяя

## «ТОЛЬКІ НІКОМУ НЕ ГАВАРЫЦЕ»

Між тым штодзённая мая вахта на радыё прыносіла мне нямала цікавых сустрэч і выпадкаў, часам анекдатычнага характару.

Жнівень таго года выдаўся надта гарачым. Я мусіў аператыўна распавядаць, як ідзе жніво на Віцебшчыне, бо дырэктыва ЦК абавязвала завяршыць яго ў сціслыя тэрміны.

Паколькі Віцебшчына традыцыйна адставала па тэрмінах, ад мяне з рэдакцыі патрабавалі крытычных матэрыялаў.

І вось, пазнаёміўшыся са зводкай ходу ўборкі збожжавых у Полацкім раёне, я выбраў гаспадарку, якая займала апошняе месца, і вырашыў пацікавіцца станам спраў на фронце «бітвы за ўраджай».

Скажу адразу, што ў той час мабільнікаў не было, не ва ўсіх гаспадарках працавала рацыя, а па тэлефоне ў такі гарачы час знайсці каго-небудзь, каб папярэдзіць пра візіт, было таксама вельмі праблематычна.

Таму, нікога не папярэджваючы, я пагнаў свой «Масквіч» у так званую Ветрынскую зону, дзе знаходзіўся адстаючы калгас.

У канторы нікога не аказалася. Сонца смажыла, куры на пустыннай вясковай вуліцы корпаліся ў пяску, вакол не было ні душы. Я прайшоўся ўздоўж хат і на адным з гародчыкаў убачыў сівую бабульку, якая палівала грады.

— Вы не старшыню шукаеце? — спытала бабулька, убачыўшы, як я з магнітафонам на плячы спыніўся каля веснічак.

І пачуўшы станоўчы адказ, паказала рукой у правы бок.

— Там, за паваротам, акурат яго хата. І машына, я бачыла, стаіць, значыць — дома.

Сапраўды, запылены «уазік» стаяў ля варот старшынёўскай хаты. Я пастукаўся ў дзверы. Ніхто не адказаў. Тузануў дзверы, яны адчыніліся, але ў хаце нікога не было.

Я выйшаў у двор, прысеў на лаўку. Раптам ў глыбіні двара адчыніліся дзверы лазні і на ганак вышла дзябёлая, распараная, абсалютна голая кабета.

Яна пастаяла хвіліну, шырока раскінуўшы рукі, але потым убачыла мяне, войкнула і знікла ў праёме дзвярэй.

— Слухай, тут да цябе нейкі правяраючы, — пачуў я ўсхваляваны голас.

Праз хвіліну на парозе лазні паявіўся невысокі лысаваты чалавек у сініх кальсонах і тэпцях на босую нагу.

— Пройдзем у хату, — хрыплым голасам сказаў ён мне, наблізіўшыся. — Прабачце, канешне, што ў такім выглядзе.

Не паспелі мы пераступіць парог, як старшыня, а гэта быў ён, загаварыў.

— Я вас вельмі прашу, Хрыстом Богам малю, не кажыце, дзе вы мяне адшукалі. Субота, пыл, папарыцца вось рашыў, а тут вы. Гатовы любое пакаранне вынесці, хай з работы здымаюць, але не ганьбіце мяне перад народам!

І столькі было ў яго словах адчаю, што я, удвая маладзейшы за яго, сумеўся.

— Не хвалюйцеся. Даю слова, што ніхто пра гэта не даведаецца.

Старшыня моўчкі пацiснуў мне руку. Я развітаўся і вярнуўся да свайго «Масквічка».

«Знайду іншую гаспадарку, — думаў па дарозе. — Бог з ім, калі ён так перажывае».

Праз год, а я нікому пра гэты выпадак так і не расказаў, я прачытаў у мясцовай газеце, што той старшыня памёр. А яго дрыжачы голас і мальба не ганьбіць перад людзьмі доўга яшчэ ўспаміналіся з нейкім дзіўным сумам.

**АДЛІГА**

Перабудова і галоснасць у Наваполацку імкліва набіралі абароты. Здаецца, малады горад толькі і чакаў разняволення: імгненна пачалі ствараца кааператывы, а калі партыі (гэта сёння магло быць пытанне «якой?») дазволілі займацца камерцыяй, то прадпрымальныя гаркамаўскія інструктары раптам сталі капіталістамі. Дарэчы, адзін з іх сёння, бадай, самы багаты грамадзянін горада, мае сетку крамаў, рэстаранаў, дробных прадпрыемстваў.

Экалагічны рух выводзіў людзей на вуліцы, і мітынгі, пікеты, дэманстрацыі сталі для горада звыклай карцінай.

У мясцовай газеце выкрывалі партакратаў і праціўнікаў перабудовы, друкаваліся рэзалюцыі сходаў з патрабаваннямі закрыць завод бялкова-вітамінных канцэнтратаў, перапрафіліраваць нафтаперапрацоўчы завод і аб’яднанне «Палімір».

На экалагічны мітынг у цэнтры горада, перад будынкам гаркама партыі на плошчы Будаўнікоў сабраліся тысячы людзей. Я ўпершыню бачыў такі вялізны натоўп, і было неяк страшнавата.

Прамоўцы горача даказвалі, што хімічныя гіганты труцяць людзей, што гінуць рэкі і лес вакол горада, што ў людзей з’яўляюцца хранічныя хваробы, што медыкі і кіраўнікі розных рангаў утойваюць сапраўдную карціну экалагічнай небяспекі…

Сярод тых, хто стаяў на імправізаванай трыбуне, я ўбачыў Анёлка. Са стужкай на ілбе, з гітарай. І вось ён выходзіць наперад і спявае…

Да людзей хоча звярнуцца першы сакратар абкама, які спецыяльна прыехаў у горад, яму не даюць гаварыць.

Але ён угаворвае людзей прайсці ў Палац культуры нафтавікоў, які побач, выбраць дэлегатаў для перамоў.

Арганізатары згаджаюцца, і натоўп рушыць да Палаца. Зала і фае не могуць змясціць усіх, і нехта патрабуе трансляцыі на плошчу. Работнікі Палаца выстаўляюць апаратуру, і вялікае людское мора, якое запоўніла не толькі плошчу, але і прылеглыя часткі галоўнай вуліцы горада, крыху супакойваецца.

Я глядзеў на гэтыя разгарачаныя твары, на гэты незлічоны натоўп і думаў: адна толькі іскрынка ў імгненне вока можа распаліць цэлы пажар, які спапяліць усё вакол, не разбіраючы, хто свой, а хто не. Памятаю, бацька распавядаў, як у першыя дні вайны адзін правакатар мог выклікаць такую паніку, што тысячы людзей несліся на злом галавы, не разумеючы самі, навошта і куды…

Дзякуй Богу, у той дзень усё абышлося без ахвяр. З таго памятнага мітынга не раз яшчэ быў сведкам падобных мерапрыемстваў, якія ў той час сталі не рэдкасцю. Шчыра кажучы, стараўся ўсё ж іх пазбягаць, што часам выклі-

кала нараканні як тых, хто іх арганізоўваў, так і тых, хто ім супрацьстаяў.

Вецер перамен закрануў і наша радыё. Мяне ўсё больш прасілі расказаць пра фермераў і кааператараў, як казаў адзін рэдактар, «больш гарачанькага». Пашырыўся попыт на так званых «нефармалаў».

— Калі мы вас ужо будзем вешаць? — сказаў аднойчы пры сустрэчы важны дырэктар аднаго з прадпрыемстваў.

— Каго нас? — ашаломлена спытаў я.

— Журналюгаў розных. Перашкаджаеце жыць.

Да слова, праз колькі год гэты дырэктар апынуўся ў турме за крадзеж у асабліва буйным маштабе. Кажуць, толькі дзяржаве вярнуў каля двух дзясяткаў мільёнаў накрадзеных долараў.

Пачыналася новая эра. Людзі сталі глядзець тэлевізар з навінамі, лавілі з надзеяй словы Гарбачова, гарачыя выступленні ў друку Быкава і Бакланава, Прыстаўкіна і Думбадзэ, Залыгіна і Адамовіча.

— Ведаеш, год назад за тое, што чытаў у самвыдаце Булгакава, маглі пасадзіць, — гаварыў мне Міхась, назавём яго тут Барбудас, бо быў вельмі падобны да кубінскага рэвалюцыянера, — а цяпер у полацкай кнігарні «Сабачае сэрца» прадаюць.

Міхась, дарэчы, па сакрэце некалі распавядаў мне, што яго выклікалі ў адну вядомую ўстанову і пыталіся, хто ў яго змене чытае Булгакава.

Перамены адбываліся так хутка, што часам не заўсёды ўдавалася паспець за свежымі нечаканымі навінамі.

Я тады, памятаю, напісаў такія радкі:

Хто вытрымае вечнасці іспыт?
Ідуць гады, і час мяняе моды,
Праходзяць юбілеі і нагоды,
Былых куміраў зносіць у нябыт…

Я тады яшчэ не ведаў, што чакае нас у новым часе, але адчуваў, што ідзе вялікая хваля, цунамі, якая накрые нас і змые ў першую чаргу ўсё старое і хісткае.

Хаця верылася, што пасля выгляне сонца, шчодра асвеціць чысты, прамыты свет і дасць сілы новым буйным парасткам.

Але ўсё аказалася значна больш складаным.

## НАРОДНЫ АБРАННІК

Другім сакратаром гаркама партыі стаў працаваць Аляксандр Мікалаевіч — прыгожы інтэлігентны малады чалавек, былы начальнік цэха аднаго з прадпрыемстваў. Гэта ўжо таксама былі павевы новага часу, бо новы начальнік, як кажуць, прыйшоў ад жыцця, а не ад наменклатуры.

Мне было прыемна бачыць у гэтым крэсле Аляксандра Мікалаевіча яшчэ і таму, што ён не раз з’яўляўся дзеючай асобай маіх рэпартажаў з прадпрыемства, бо цэх, які ён узначальваў, быў асноўным на заводзе і меў шмат заслуг.

Аднойчы на маім карпункце раздаўся тэлефонны званок і азваўся прыемным голасам сакратара гаркама:

— Хацелася б пагутарыць, ці не знойдзеце хвілінку завітаць?

Гэта было таксама незвычайным, бо як правіла ў такіх выпадках тэлефанавала сакратарка і прасіла набраць тэлефон шэфа.

…Пасля таго, як папілі кавы і пагаварылі на агульныя тэмы, сакратар прыступіў да галоўнага:

— Вы, напэўна, ведаеце, што неўзабаве адбудуцца выбары ў мясцовы савет народных дэпутатаў. Дык вось ёсць прапанова вылучыць вашу кандыдатуру ад партыйнай арганізацыі завода БВК.

Я нават крыху разгубіўся:

— Дзякуй, канешне, за давер. Але, па-першае, я не працую на заводзе БВК. І, па-другое, я карэспандэнт рэспубліканскага радыё.

— Але ж вы жыхар нашага горада. А потым мы ведаем вашу пазіцыю па захаванні і развіцці нацыянальнай культуры, вашу літаратурную творчасць.

Размова зацягнулася, я стараўся давесці Аляксандру Мікалаевічу, што маю ўсе магчымасці і без дэпутатства ўдзельнічаць у грамадскім жыцці горада, уплываць на працэсы, звязаныя з развіццём культуры і адраджэннем беларускага слова.

«Дабіў» ён мяне ўсё ж, калі, сумна ўсміхнуўшыся, сказаў:

— Што ж, як гаварыў нехта з вялікіх: «Лягчэй любіць усё чалавецтва, чым зрабіць у імя яго адну карысную справу».

Назаўтра мы з ім адправіліся на завод БВК, дзе на партыйным сходзе заводаабран-

ніцтва мяне вылучылі кандыдатам у дэпутаты гарадскога савета.

Гэта быў дзевяносты год. Упершыню выбары ў горадзе праводзіліся так актыўна і ў такой барацьбе. На кожным участку зарэгістравалася па тры-чатыры кандыдаты. Газета поўнілася перадвыбарнымі праграмамі, дошкі аб'яў і газетныя тумбы былі заклеены партрэтамі кандыдатаў. Маім супернікам аказаўся дырэктар аўтапарка.

Шчыра кажучы, вялікага імпэту весці агітацыйную работу ў мяне не было. Ды я і разумеў, што ў вачах маіх выбаршчыкаў у мяне пераваг было больш, чым у дырэктара аўтапарка: праблемы з грамадскім транспартам заўсёды былі, а яшчэ і сама пасада дырэктара ў святле эйфарыі, што панавала вакол, шанцаў яму практычна не давала.

І калі мне ў дзве гадзіны ночы пазваніла старшыня ўчастковай камісіі і паведаміла, што я са значным адрывам перамог суперніка, вялікіх эмоцый у мяне яе паведамленне не выклікала.

Па іроніі лёсу я аказаўся ў ліку вельмі малога кола кандыдатаў, якія былі абраны ў першым туры. Забягаючы наперад, скажу, што першай сесіі чакаць давялося даволі доўга, бо выбары ўсё працягваліся і працягваліся. Затое і мой дэпутацкі тэрмін доўжыўся сем гадоў. І гэта цэлая эпапея, пра якую калі-небудзь раскажу асобна.

## ВЯРТАННЕ ДА ЎНІВЕРСІТЭТА

Рэктарам Наваполацкага політэхнічнага інстытута быў доктар навук, прафесар Эрнст Міхайлавіч, які прыехаў у малады горад з Масквы, дзе ўзначальваў адну навукова-вытворчую ўстанову.

Я быў нямала здзіўлены, калі аднойчы на карпункт ён патэлефанаваў асабіста і запрасіў на сустрэчу.

У вялікім прасторным кабінеце без звыклай прыстаўкі да начальніцкага стала ён запрасіў прысесці за стол для пасяджэнняў і папрасіў сакратарку прынесці па кубачку кавы.

Убачыўшы, відаць, цень здзіўлення на маім твары пасля яго першых слоў, рэктар сказаў:

— Так, не здзіўляйцеся, я беларус, з Плешчаніц, таму размаўляю на беларускай мове. Таму і з Масквы дадому вярнуўся, хоць там былі і добрая работа, і выдатная кватэра. Я слухаю вашы матэрыялы па радыё, чытаў вашы публікацыі, таму хачу падзяліцца з вамі наступнай ідэяй.

І ён выклаў мне праграму пераўтварэння інстытута ў паўнацэнны ўніверсітэт. Меркавалася далучыць да тэхнічных спецыяльнасцей гісторыю і філалогію, замежныя мовы, каб навучальная ўстанова выйшла за рамкі чыста тэхнічнай і спалучала ў сабе гуманітарнае навучанне.

Ідэя была смелай яшчэ і таму, што ў той час у краіне былі толькі два ўніверсітэты — у Мінску і Гомелі.

— І гэта не проста стварэнне ўніверсітэта, гэта вяртанне яго на полацкую зямлю, бо яшчэ ў 1812 годзе ў Полацку была вышэйшая адукацыя — працавала Езуіцкая акадэмія, адна з лепшых у Еўропе, — заключыў рэктар. — Дык памажыце падрыхтаваць грамадскую думку ўспрыняць гэтую ідэю.

Мне, шчыра кажучы, было прыемна, што менавіта да мяне звярнуўся з такой прапановай кіраўнік ВНУ. Акрамя чыста прафесійнай цікавасці і падтрымкі ён ускалыхнуў маю полацкую душу, бо я заўсёды хацеў, каб мой родны горад адраджаў свае слаўныя традыцыі.

З таго часу па рэспубліканскім радыё сталі даволі часта гучаць матэрыялы пра наваполацкую вышэйшую навучальную ўстанову, навуковыя распрацоўкі выкладчыкаў, а таксама пачала прасоўвацца ідэя пра ўніверсітэт.

Прайшоў час, год або больш, і калі мне патэлефанаваў Эрнст Міхайлавіч і паведаміў, што ёсць указ аб перайменаванні Наваполацкага політэхнічнага інстытута ў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, сэрца напоўнілася гонарам, хоць я ведаў, што не толькі мая праца спрыяла гэтаму рашэнню.

## АРГАН У САФІЙЦЫ

— Заўтра ў Полацк прыязджае Валера Слюнчанка, — паведаміў на адным з пасяджэнняў «Крыніц» Гаспадар тайгі. — Ён прызначаны галоўным архітэктарам рэстаўрацыі Сафійскага сабора. Патрэбны рабочыя рукі. Так што прашу ўдзельнічаць.

Полацкая Сафія стаяла на высокай выспе ў месцы, дзе вірлівая вузкая Палата ўпадае ў шыракаплынную Дзвіну. Побач быў бальнічны гарадок, дзе, дарэчы, месціўся і радзільны дом, у якім я з'явіўся на свет. Часта, асабліва летам, хворыя ў бальнічных строях песціліся на сонейку, фатаграфаваліся на фоне сафійскіх вежаў.

Унізе, на подступах да храма, бруілася крынічка з жывой вадой. Палачане лічылі яе святой і прыходзілі да яе, каб набраць гаючай вадкасці ў бутлі ці бідоны.

Сам магутны велічны храм, заснаваны яшчэ князем Усяславам Чарадзеем, знаходзіўся ў заняпадзе. Там былі нейкія склады, таму мы маглі любавацца велічным будынкам толькі звонку. Увогуле, Сафія была відаць здалёку. Высокія стромыя вежы адлюстроўваліся ў дзвінскіх хвалях, бы дзве рукі, паднятыя да неба. Храм практычна не пацярпеў у час нямецкіх бамбёжак, і быў адным з нямногіх ацалелых будынкаў, як сімвал неўміручасці і велічы полацкай зямлі.

Калі я яшчэ працаваў у полацкай газеце, стаў сведкам таго, што тадышняя загадчыца аддзела культуры гарвыканкама пачала прасоўваць ініцыятыву пра стварэнне ў Полацкай Сафіі канцэртнай залы і ўстанаўленні там аргана. Як і колькі гэта ідэя абмяркоўвалася і ўзгаднялася, я не ведаю, але спачатку было аб'яўлена, што ў Сафійскім саборы будзе музей рэлігіі, потым — гісторыка-архітэктурны запаведнік.

Ва ўсякім разе, справа дайшла да таго, што пачалася рэстаўрацыя.

Як высветлілася, рэшткі першапачатковай Сафіі, пабудаванай у часы Усяслава, знаходзіліся пад зямлёй, бо да нашага часу дайшла цалкам захаваная пабудова ўніяцкага храма. Пачаліся аднаўленчыя работы: выносіўся друз, падымаліся пласты зямлі, праз якія выступалі рэшткі старажытных сцен храма.

Кожную суботу мы прыязджалі ў Полацк, капалі, выносілі на насілках друз і зямлю. Адзінай умовай узнагароджання за фізічную працу былі лекцыі Слюнчанкі, іншых мінскіх гісторыкаў пра старажытны Полацк, яго архітэктуру, слынных людзей горада.

Слюнчанка менш за ўсё быў падобны да сталічнага вучонага, як бы мы маглі гэта ўявіць: сціплы, абаяльны, нават крыху сарамлівы. Гаварыў ён ціхім голасам, але столькі было для нас цікавага, раней не чутага, што мы слухалі з вялікай увагай.

І вось нарэшце настаў дзень, калі ўрачыста ў Сафіі адкрываліся музей і канцэртная зала. Адноўлены храм зіхацеў пазалотай, якую ўзнаўлялі рэстаўратары з Вільнюса, пад высокімі скляпеннямі высіўся арган чэшскай фірмы Рыгер Клос, на спецыяльна ўладкаваных сядзеннях размясціліся жыхары Полацка і шматлікія госці, мясцовае і абласное начальства.

У вітальным слове старшыня гарвыканкама агаварыўся, сказаўшы замест «благодарные потомки» «благородные потомки», выклікаўшы ажыўленне ў зале…

Я рабіў рэпартаж, браў інтэрв'ю ў гасцей і палачан, бегаў на вузел сувязі, каб аператыўна перадаць яго ў Мінск.

А калі вярнуўся ў Сафію, урачыстасці ўжо былі скончаны, шаноўныя госці адправіліся на банкет.

А пра галоўнага віноўніка ўрачыстасці Валеру Слюнчанку, відаць, забыліся, бо ён сядзеў у пустой зале ў сціплай (два-тры чалавекі) кампаніі аматараў даўніны. На свежапафарбанай і адлакіраванай лаўцы стаяла бутэлька чырвонага сухога віна, ляжалі сціплыя бутэрброды.

Налілі і мне. Мы ўсталі і выпілі за новы лёс полацкай Сафіі.

Праз некалькі год Валерыя Слюнчанкі не стала. У мяне засталіся толькі ўспаміны і верш, прысвечаны яму, які на музыку эстонскага кампазітара выконваў у час прыезду ў Мінск славуты Эстонскі нацыянальны мужчынскі хор.

**ЦІХАЕ НЕБА І ЦІХАЕ ВОЗЕРА…**

Была сярэдзіна дня. Сонца на бясхмарным небе нагадвала яечны жаўток. Такім жа жоўтым быў берагавы пясочак, цёплы, мяккі…

Возера Нясвчарда зіхацела цёмнай сінявой, толькі зрэдку хвалі з ціхім шумам набягалі на пясок… З вады вылазіць не хацелася, але на беразе ўжо віўся дымок, пахла юшкай.

Гэтае падарожжа па радзіме Яна Баршчэўскага мы наладзілі разам з сябра-

мі, маладымі літаратарамі з Глыбокага і Пастаў, а таксама землякамі, што прыехалі з Мінска, каб правесці адпачынак у родным горадзе.

Ідэя стварыць мясцовую філію Саюза пісьменнікаў узнікла неяк спантанна, бо надта ўжо адчуваўся недахоп кантактаў з бліжэйшымі суседзямі, і калі ў нас, у горадзе, была магчымасць сустракацца, абмяркоўваць уласную творчасць, праводзіць сустрэчы з чытачамі, іншыя імпрэзы, то ні ў Глыбокім, ні ва Ушачах, ні ў Паставах такой магчымасці практычна не было. А тут яшчэ тое, што я як карэспандэнт рэспубліканскага радыё меў стасункі з кіраўнікамі раёнаў, дапамагала арганізоўваць такія вось паездкі і выступленні ў розных раёнах Віцебшчыны.

Спачатку ў Віцебскім абласным аддзяленні саюза, якое ўзначальваў адзін з былых глыбачан, насцярожана паставіліся да нашай ініцыятывы, палічылі за сепаратызм, але калі я пераканаў, што гэта ні ў якім разе не падрывае адзінства і непарушнасць Віцебскай арганізацыі і ні на якія кіруючыя пасады мы ў ёй не прэтэндуем, усе супакоіліся.

Тут, на Расоншчыне, летам быў сапраўдны рай. Лясы, азёры, рэчкі і рэдкія вёскі… Здавалася, нічога не змянілася з таго часу, як тут жыў шляхціц Завальня з кнігі нашага славутага земляка, і паветра было напоўнена такой таямнічасцю, што, здавалася, у гэтым краі жывуць казачныя істоты.

Відаць, таму адзін з нашых землякоў, вучоны, літаратуразнаўца, а ў душы паэт і летуценік, прапанаваў пасля сытнага абеду са свежай юшкай стварыць таварыства з’едзенага цмока, бо ён сцвярджаў на поўным сур’ёзе, што ў юшцы сярод зваранай рыбы быў і маленькі цмок.

Потым гэта абрасло такімі легендамі, што таварыства з’едзенага цмока стала літаратурным міфам, зрэшты, сімпатычным і вясёлым.

Няшчарда, вялікае, як мора, думаю, запомнілася кожнаму, як тое адзінае і светлае, што выклікае ў душы пачуццё замілаванасці і гонару за сваю зямлю, за такія куточкі Бацькаўшчыны, якія даражэй для сэрца, чым самыя шыкоўныя краявіды, убачаныя ў фільмах і на фотаздымках, у час падарожжаў па свеце, бо гэта сваё, роднае, бо, як я напісаў у адным вершы, «гэта адзінае і назаўжды».

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

Круціцца кружэлка памяці. Праз час, як праз гукавыя барозды на ёй, гучыць голас, чысты і свежы, як шмат год таму:

*Былі крыніцы сінімі, была вада халодная.*
*За інямі, за стынямі, паіла нас нязгодаю…*

Гэта не пра нас. Гэта песня, якую мы падпявалі ў час сумесных вандровак, бо напісаў яе паэт пра гісторыю і лёс нашай Радзімы. А мы ж толькі частачка гэтай гісторыі, гэтага лёсу. І калі крыніцы з яго песні паілі нас нязгодаю, гэта, на жаль, ужо пра нас, пра нашу гісторыю. Колькі разоў гэтая нязгода бурыла, руйнавала самыя светлыя, самыя чыстыя памкненні, не давала выхаду стваральнай супольнай энергіі.

Таму, слухаючы даўні голас з нашага мінулага, лаўлю і паўтараю іншыя радкі песні:

*Надыдзе ранне свежае,*
*і новы дзень абудзіцца.*
*І зазвініць капежамі,*
*і збудзецца, і збудзецца!..*
*І ясны дзень, і зорны год*
*са спёкаю і стыгаю…*

І будуць заўжды нашы крыніцы сінімі…



# Бярозка

№ 11/2013(1026)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



● **Верасок**

# Хай у шчасці жывуць беларусы заўжды!

***Прапануем вашай увазе падборку вершаў юных паэтаў Міёршчыны. Розныя па тэматыцы, гэтыя вершы аб'яднаныя адным: шчырым імкненнем аўтараў данесці да чытачоў свае думкі і мары.***

***Ну, а ці атрымалася гэта ў юных паэтаў з Міёрскага раёна — судзіць табе, чытач.***

## Прызнанне
*(Трыпціх)*

* * *

Я шчаслівы і тым ганаруся,
Што жыву я на гэтай зямлі,
На прыветнай зямлі Беларусі...
Тут мае карані!
І нічога няма даражэй
Той зямлі і бацькоўскага дому,
Дзе дзяцінства так хутка прайшло,
Дзе ўсё з першых мне крокаў знаёма.

* * *

Мой любімы, ў мінулым пакутлівы край,
Горкім потам паліта зямелька твая...
Дзень за днём ты становішся ўсё прыгажэй,
Беларусь!
Назаўсёды ты ў сэрцы адна!
Хай ніколі не сціхне гул пушчаў тваіх,
Хай заўсёды квітнеюць Радзімы сады!
Не спыняюць рачулкі бег плыняў сваіх...
Хай у шчасці жывуць беларусы заўжды!

*Андрэй ШЧАРБІЦКІ,*
*в. Слабада, Міёрскі раён*



## Добрыя парады

Вучню жыць зусім нялёгка:
Дзень над кніжкамі сядзець
Ці ў падручнік электронны
Па камп'ютары глядзець.
Забаляць спіна і вочкі,
Калі так сядзець да ночкі.
Таму трэба не забыць
Нам актыўна адпачыць.
Ці зрабіць хаця б зарадку,
Нахіліся для парадку,
Галавою пакруці
Ды рукамі павярці.
Калі ў школу трэба ранкам,
Не пагрэбуй ты сняданкам,
Ну, а ў школе паабедай
У сталоўцы — гэта ведай.
Слухай добрыя парады —
Будуць за цябе ўсе рады!

## Восеньскія фарбы

Восень надыходзіць,
Дождж часцей ідзе.
Кветак на палянах
Не відаць нідзе.
Лісце з дрэў спадае,
Дываном ляжыць.
Хутка дзень мінае,
Ноч даўжэй бяжыць.
Радуе ўсіх вельмі
Сонечны дзянёк,
Чыстае паветра,
Жоўценькі лісток.
Так прыемна ў парку
Восенню гуляць,
Восеньскія фарбы
Моўчкі разглядаць.

*Вікторыя ЗАХАРЭВІЧ,*
*г. Міёры*



## Трыялет

Мне цяжка жыць без жарту-смеху,
Сваіх сяброўак і сяброў.
Да іх заходжу зноў і зноў...
Мне цяжка жыць без жарту-смеху.
Я не спяшаюся дамоў,
Знаходжу толькі тут пацеху.
Мне цяжка жыць без жарту-смеху,
Сваіх сяброўак і сяброў.

*Вераніка ДАРГЕЛЬ,*
*г. Міёры*

## Мой лес

Яліначкі калючыя ў цішы,
Як статныя дзяўчаты ў адзіноце...
Ля рэчкі калыхаецца аер
І чапля прытаілася ў чароце.
Па імшарах бегае лісіца,
Уздыхнула ўдалечы сава.
Матылёчак белы весяліцца,
Пырхае, аж кружыць галава.
Мімалётам можна тут заўважыць,
Як рака збягае па каменнях.
Штосьці ў гэтым ёсць...
Калі разважыць —
Непаўторна кожнае імгненне!
Як жа гэта велічна, прыгожа —
Сумны бор, маўклівая рака...

Перадаць усё навокал зможа
Мастака чароўная рука!

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ,*
*в. Дворнае Сяло, Міёрскі раён*

● **Літаратурныя старонкі**

*Уладзімір МАЗГО*

# Вякоў мінулых скон збалелым сэрцам чую...

## Барысаў камень

З сівое даўніны
Адбіты
Ў дрогкай сіні
Заходняе Дзвіны
Легенды Ефрасінні.

На строме,
У кастры,
Варушыцца вуголле.
Бяздомныя вятры
Сабакамі скуголяць.

А памяці агонь
Гарыць,
Пячэ балюча,
Каб не забыў каго
Я тут,
На гэтай кручы...

На дахі
Льецца звон
Праз сцішанасць
Начную.
Вякоў мінулых скон
Збалелым сэрцам
Чую.

Тварыў вось тут
Народ
Гісторыю — вякамі...
Ці час
Не ў наш гарод
Шпурнуў
Барысаў камень?..

## Няміга

Няміга,
Калідор пусты
Метро начнога.
Цераз стагоднія пласты
Бруіць дарога.

Нырае
Ў котлішча вякоў
З вышынь прагрэсу.
Зямля —
Па волі землякоў —
Зняла завесу...

Няміга,
Станцыя метро.
Гудок світальны.
Вось-вось
Падземнае нутро
Раскрые тайны.

А там —
Бяссонная рака
Забытым гулам
Напомніць хоча
Мінчукам
Аб іх мінулым.

## У Гародні
***(Дыптых)***

Тут ява
З казкаю мяжуе,
А згадка —
Сэрца апячэ.
На Нёман велічны



Гляджу я,
А ён цячэ,
Цячэ,
Цячэ...

Маўкліва
З вечнасцю гаворыць
Між гонкіх сосен
Трапяткіх.
Услед за ім
Бягуць да мора,
Глыбінь шукаючы,
Радкі.

А дзень праменны,
Дзень пагожы
Бярэ, чаруючы,
Ў палон...
Дзе гэта:
Ў сэрцы
Ці ў Каложы
Прачнуўся звон?..

* * *

Іду па вуліцах Гародні,
Дзе сонейка —
Ярчэй паходні —
Усе высвечвае двары,
І новы горад,
І стары.

Іду па вуліцах Гародні
І адкрываю
Край свой родны,
Шырокі
І ў вяках глыбокі,
Нібыта Нёман сінявокі.

Іду па вуліцах Гародні,
Дзянёк вітаючы пагодны,
Што прывядзе мяне
І заўтра —
Да храма,
Замка
І тэатра...

## Свіцязь

Дуб магутны
Шэпча свіце
Маладых бяроз:
«Паглядзіце,
Віцязь Свіцязь
Наш бароніць лёс».

Мы паглядамі лагодзім
Зорную ваду,
Над якой,
Нібы стагоддзі,
Журавы лятуць.

З хваляваннем
І даверам
Мы глядзім услед.
У красу такую верым,
Што ўратуе свет.

## Над Нёманам

Зноў над Нёманам
Песні гучаць
Разам з вершамі
Светла і звонка.
Гонар меў
Фестываль распачаць



Вечна юны
Музыка Сымонка.

А наўкол
Белапеніцца май,
І плывуць
Неўміручыя зыкі.
Грай, музыка,
І песні спявай,
Каб не быў
Родны край
Без'языкі.

## Сурма

Памяць развярэджана,
Пэўна, нездарма:
Вечнасцю засведчана
Спеўная сурма.

Выцятую скрухаю —
Слёзанькі з павек! —
Са здзіўленнем слухае
Зорны чалавек.

Сыдуць будні святамі, —
Толькі не маўчы.
З песняю сасватаны
Сурмачы.

## Шляхі

«Усе шляхі вядуць да Рыма!» —
Сцвярджала мудрасць.
А твой шлях,
Што развінуўся за дзвярыма,
Ляцеў назад,
Як бумеранг,
Каб як мага хутчэй вярнуцца
Туды,
Дзе выткаўся выток,
З якім не можа размінуцца
Хадой натомлены хадок.
Дарожнай мудрасцю багаты,
Прыйшоў да думкі чалавек:
Усе шляхі
Вядуць дахаты,
Выток шануючы
Спрадвек.



● **Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з паметай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***

## Як Заяц з Вожыкам Лісіцу правучылі



У адным чароўным лесе жылі-былі Лісіца-сястрыца, Заяц-бяляк і запаслівы Вожык. Заяц і Вожык моцна паміж сабой сябравалі, але і Лісіцу сваёй сяброўкай лічылі, хоць тая заўсёды пры сустрэчах выхвалялася, расказваючы пра сваё жыццё. Па яе словах, дзе яна толькі не была! У полі, у вёсках, на лугах і пералесках! А Вожык і Заяц слухалі Лісіцу і здзіўляліся яе аповедам. І шчыра верылі, што іх сяброўка такая смелая і знаходлівая, што яна з усіх сітуацый выйсце знайсці можа.

А тым часам зіма да лесу набліжалася. Запаслівы Вожык, як заўсёды, старанна да яе рыхтаваўся. Кожны дзень з раніцы цягаў на сабе грыбы, яблыкі, ягады і хаваў іх у сваю нару. Заяц быў суседам Вожыка і з павагайназіраў за яго нялёгкай працай:

— Ну ты, Вожык, і малайчына! — казаў ён сябру. — Цяпер табе ніякая зіма не страшная!

Пачула гэта Лісіца і вырашыла абвесці Вожыка вакол кіпця. Дачакалася, пакуль той пойдзе па чарговы здабытак, залезла ў нару і вынесла адтуль частку таго, што паспеў назапасіць Вожык. Толькі не падумала хітрыца, што ўсё бачыў Заяц.

Але Заяц спачатку вырашыў нічога не расказваць сябру, бо ўзяла Лісіца няшмат і вельмі не хацелася Зайцу з-за гэткай дробязі Вожыка з Лісіцай сварыць. Але калі Лісіца і на наступны дзень прыбегла і зноўку скрала частку запасу, не вытрымаў Заяц, усё Вожыку расказаў.

І вырашылі тады сябры добранька правучыць хітраванку.

У той дзень Вожык зрабіў выгляд, што пайшоў, як звычайна, па грыбы, а сам разам з Зайцам схаваўся пад елкай. А калі Лісіца прыбегла і палезла ў нару, сябры выскачылі са сваёй схованкі і хуценька зачынілі за ёй дзверы.

Нічога не засталося Лісіцы, як прызнацца ў злачынстве і паабяцаць ніколі так не рабіць. І толькі тады Вожык з Зайцам яе выпусцілі.

З таго часу Лісіца не тое, каб зусім перавыхавалася, але Зайца з Вожыкам больш падманваць не спрабавала. І хваліцца перад імі таксама перастала, тым больш, што ні Заяц, ні Вожык не давалі ўжо асаблівай веры яе мудрагелістым аповедам.

*Юлія ПАЦЕЕНАК, Міёрская СШ № 3*

## Як Жаба на Лася сварылася

Жыў-быў Лось. У яго была прыгожая шаўкавістая шэрстка, вялікія рогі і шырокія капыткі, каб без перашкод па балотах хадзіць. Таму гэты Лось вельмі любіў частавацца смачнымі журавінамі, а яны, як вядома, на балоце растуць.

Аднойчы Лось пакрочыў да балота ў пошуках журавін. Толькі ступіў на край, як раптам з балотнай купіны скочыла вялікая раз'юшаная Жаба.

— Ква-ква! — злосна закрычала Жаба. — Ква-ква-ква!

Лось нічога не зразумеў і ветліва папрасіў Жабу паўтарыць, але раззлаваная Жаба ўжо нырнула ў ціну. Лось памеркаваў-памеркаваў і пачаў каштаваць журавіны. Толькі пачаў, як зноўку вылезла з балота шкодная Жаба і пачала абурана квакаць.

— Што ёй ад мяне трэба? — падумаў Лось і пачаў здзіўлена азірацца навокал.



Яму было чаму здзіўляцца, бо ўсё балота было поўнае жаб і жабянят. І толькі тады наш Лось зразумеў, чаму на яго так лаялася вялікая Жаба. Бо маленькія Жабяняты салодка спалі, а ён шумеў і іх непакоіў. Вось Жаба і абуралася!

Сорамна стала Ласю. Развярнуўся ён і ціхенечка вярнуўся ў лес.

*Лізавета САЕВІЧ,*
*г. Мінск*

 

## Сумная казка

Было гэта даўно, калі дрэвы маглі адчуваць, размаўляць і кахаць. Аднойчы цёплым днём, калі неба было вельмі яснае, а ветрык ласкавы, пасадзілі маленькую бярозку. Расла яна хутка, назіраючы за навакольным светам, і вельмі ёй хацелася стаць дзяўчынай і пакахаць каго-небудзь. Урэшце Бярозка не вытрымала і расказала пра сваё жаданне старой Чараўніцы, якая жыла непадалёку.

Чараўніца выслухала Бярозку і сказала: «Хочаш стаць дзяўчынай і жыць сярод людзей? Хай будзе так. Ты закахаешся ў прыгожага юнака. Але пройдзе тыдзень — і ты зноў станеш бярозкай. Калі ж вашы пачуцці не знікнуць праз тры гады, я ператвару цябе ў дзяўчыну назаўсёды».

Бярозка згадзілася, і Чараўніца, усміхнуўшыся, паліла яе жывой вадой. А праз хвіліну Бярозка зірнула ў раўчук і не пазнала сябе. Як з люстэрка, пазірала на яе прыгожая дзяўчына з доўгімі светлымі валасамі ў белай сукенцы. Бярозка не магла паверыць свайму шчасцю. Яна радасна пабегла ўздоўж раўчука, потым, стаміўшыся, прысела адпачыць на невялікі камень. І тут яна заўважыла, што непадалёк стаіць юнак і ўважліва пазірае на яе. Калі яны сустрэліся позіркамі, то маўчаць далей стала няёмка, і маладыя людзі разгаварыліся, пазнаёміліся: «Бера», — назвалася дзяўчына. «Буд», — прадставіўся хлопец.

Ім было вельмі добра разам... і неўзабаве стала зразумела, што гэта сапраўднае каханне. Але тыдзень прайшоў вельмі хутка, і калі засталося ўсяго некалькі гадзін, Бера не вытрымала і ўсё расказала Буду: пра тое, што яна была бярозкай, пра Чараўніцу, пра тры будучыя гады выпрабавання...

Хлопец, выслухаўшы яе, усміхнуўся і сказаў, што ён таксама раней быў дрэвам — Дубам. І доўга марыў пра тое, каб ператварыцца ў юнака... і тая ж самая Чараўніца дапамагла яму ажыццявіць запаветную мару. Але таксама ўсяго на адзін тыдзень...

Бера і Буд дамовіліся, што будуць цярпліва чакаць доўгія тры гады. У тым, што іх пачуцці за гэты час не знікнуць, закаханыя нават не сумняваліся.

А праз некалькі гадзін Бера і Буд зноўку ператварыліся ў Бярозку і Дуб...

Прайшло амаль тры гады. Увесь гэты час Бярозка і Дуб марылі пра будучае шчасце. А калі засталося ўсяго толькі некалькі дзён да канца выпрабавання, у лес прыйшлі людзі і спілавалі Дуб.

Бярозка не змагла гэтага вытрымаць. І хоць было цёплае лета, лісточкі яе пачалі жаўцець і ападаць. А потым Бярозка засохла, так і не ператварыўшыся ў дзяўчыну...

***Ніна ПАЗНЯК, Міёрская СШ № 2***



**● Школа журналістаў**

# Так трымаць, Данік!

**АД РЭДАКЦЫІ**

***Сёння ў нашай рубрыцы — студэнтка Палескага дзяржаўнага ўніверсітэта Ірына Ісаева. Яна пазнаёміць нас з журналісцкай работай «Так трымаць, Данік», якая заняла другое месца на абласным конкурсе юнкораў «Цэнтр увагі — дзеці», арганізаваным газетай «Народная трыбуна».***

У наш час — час высокіх інфармацыйных тэхналогій і навуковага прагрэсу — жыццё імкліва мяняецца, не стаіць на месцы. Сучасную моладзь усё менш цікавяць сапраўднае мастацтва, вучоба, кнігі. На першы план выходзяць навамодныя гаджэты, мабільныя тэлефоны, інтэрнэт. Але ўсё ж такі і сярод цяперашніх дзяцей і падлеткаў ёсць тыя, чые захапленні, інтарэсы і дасягненні ўражваюць сваёй незвычайнасцю. Зусім нядаўна мне давялося пазнаёміцца з адным таленавітым хлапчуком, захапленне якога — спорт. Гэта Данііл Дулік. Ён вучыцца ў сярэдняй школе № 1 г. Ганцавічы і займаецца ў клубе спартыўна-баявых адзінаборстваў «Мядзведзь». Аднойчы я стала сведкай яго выступлення, якое вельмі мяне ўразіла. Падчас нумара гледачы, як і я, з захапленнем сачылі, як Данік ходзіць па бітым шкле, кладзецца на яго голай спінай, махае казацкімі бізунамі-нагайкамі, як яго асістэнтка (старэйшая сястра Алеся) малатком разбівае на спіне хлопчыка цэментную пліту... Пасля выступлення вырашыла бліжэй пазнаёміцца са спартсменам. Таму і запрасіла яго на гутарку.

Прыйшоў Данік не адзін, а разам са сваім бацькам Аляксандрам. І гэта не выпадкова, бо бацька не толькі падтрымлівае захапленне сына, але і з'яўляецца яго трэнерам.

***— Раскажы, як доўга ты займаешся баявымі адзінаборствамі?***

— Займацца я пачаў, калі мне было гады тры, і ўжо на працягу пяці гадоў хаджу на трэніроўкі, бо мне вельмі падабаецца.

**А. Дулік:** «*Увогуле ў нашай сям'і ўсе трое дзяцей засвоілі прыёмы барацьбы. Жонка, як і любая маці, перажывае за Даніка, але не супярэчыць, бо бачыць, што сыну гэты занятак па душы*».

***— Як часта ты наведваеш трэніроўкі?***

— Трэніроўкі ў мяне па графіку, тры разы на тыдзень. Але наведваю клуб амаль кожны дзень, бо тата — мой трэнер.

**А. Дулік:** «*Хачу адзначыць, што такі від спорта, як баявыя адзінаборствы, вельмі папулярны ў нашым раёне. Пра гэта сведчыць тое, што ўзрост наведвальнікаў нашага клуба (а іх больш за 100 чалавек) самы розны: гэта і сталыя мужчыны, і жанчыны, хлопчыкі і дзяўчынкі ва ўзросце да васьмі гадоў. Самаму малодшаму з іх — пяць. Дзецям хочацца вывучаць прыёмы абароны, якія ніколі не перашкодзяць у паўсядзённым жыцці. Нават самі бацькі зацікаўлены ў гэтых занятках*».

***— Я ведаю, што ты прымаеш удзел у розных спаборніцтвах і паказальных выступленнях, а ў тваёй скарбонцы шмат узнагарод: медалёў, кубкаў. А ці памятаеш ты сваю першую ўзнагароду?***

— Так, памятаю, хоць і было мне тады толькі пяць гадоў. Гэта было паказальнае выступленне на раённых спаборніцтвах. Мне далі цэлы пакет цукерак! Я быў вельмі задаволены!

***— Раскажы падрабязней пра свае дасягненні.***

— У маі 2011 г. я заняў першае месца ў адкрытым чэмпіянаце Ганцавіцкага раёна па у-шу, прысвечанаму гадавіне Вялікай Перамогі. У кастрычніку мінулага года падчас выступлення на фестывалі маладзёжных ініцыятыў «Рэха вуліц» у Пінску я таксама стаў пераможцам. А зусім нядаўна, у красавіку, удзельнічаў у Першым адкрытым конкурсе таленавітых дзяцей і моладзі «Новыя вяршыні» ў Мінску — і зноў 1-е месца! А апошняя мая ўзнагарода — дыплом 1-й ступені раённага фестываля адзінаборстваў «Вясна Перамогі».

***— Які ты малайчына! А самая любімая ўзнагарода ў цябе ёсць?***




*Юны спартсмен Данііл Дулік і яго бацька Аляксандр Дулік.*




*Данііл Дулік.*

— Канешне ж! Гэта медаль удзельніка 9-га Міжнароднага фестывалю славянскіх баявых мастацтваў, які праходзіў у Гродне два гады таму. У фестывалі прымалі ўдзел каманды з Расіі, Украіны, а таксама краін Прыбалтыкі.

*«За развіццё фізічнай культуры і спорту, дасягненне высокіх спартыўных вынікаў у лютым 2013 года і да Дня абаронцы Айчыны кіраўніцтва клуба "Мядзведзь" вырашыла ўзнагародзіць Даніка граматай клуба», — дадае бацька хлопчыка.*

***— Што даюць табе заняткі ў клубе?***

— Вядома ж, сілу і здароўе, а яшчэ дысцыплінуюць. Падабаецца ездзіць у розныя гарады на спаборніцтвы. Я ўжо быў у Маларыце, Пінску, Брэсце, Гродне і Мінску.

***— Скажы, а ці падабаецца табе выступаць на спаборніцтвах? І чаго ты чакаеш ад выступленняў?***

— Шчыра кажучы, не вельмі... Таму што мне заўсёды страшна прайграць. Але затое падабаецца перамагаць! Я хачу атрымаць як мага больш кубкаў, сабраць іх цэлую калекцыю!

***— Калі мы завітаем да цябе ў вольны час, за якім заняткам можам цябе заспець?***

— Я люблю чытаць, асабліва кнігі пра жывёл, люблю займацца арыгамі, і ў мяне ўжо ёсць цэлая калекцыя птушак, якіх зрабіў сам. Я не гляджу мульцікі, затое фільмы-жахі паважаю. Люблю хадзіць з татам у лес, адпачываць там, збіраць грыбы. Яшчэ мяне вабяць падарожжы: мне падабаецца бываць у Мінску, увогуле, гэта мой любімы горад, і яшчэ я мару паехаць да Чорнага мора.

* * *

Вось такія таленавітыя дзеці сустракаюцца ў наш час. Захапленне хлопчыка — сапраўдны прыклад для дзяцей і моладзі: лепш займацца спортам, удзельнічаць у розных спаборніцтвах, чым бавіць свой час, седзячы дома за камп'ютарам або лежачы на канапе.

Мары Даніка няхай здзейсняцца: хай ён абавязкова пабывае на моры і — самае галоўнае — атрымае яшчэ шмат кубкаў і ўзнагарод. Так трымаць, Данік!

***Ірына ІСАЕВА, г. Ганцавічы***



● **Погляд**

# Мелодыя натхнення

**АД РЭДАКЦЫІ**

***З творчасцю Кацярыны Лясун, студэнткі Інстытута журналістыкі БДУ, чытачы «Бярозкі» ўжо знаёмыя. Зусім нядаўна, у жнівеньскім нумары, былі надрукаваны дзве невялікія замалёўкі Каці «Мой улюблёны Дзядзя Сцёпа» і «Яго трагедыя». Хутчэй, гэта нават не замалёўкі, а навелкі, напісаныя на даволі высокім прафесійным узроўні... Без усялякага сумнення, творы гэтыя не пакінулі абыякавымі чытачоў «Бярозкі».***

***«Мелодыя натхнення» таксама не павінна застацца не пачутай, на тое яна і мелодыя натхнення...***

Людзі. Імёны. Падзеі. Уражанні. Трэба ўсё прапусціць праз сябе, адчуць. Прыходзіць натхненне і прыемны пах шарыкавай ручкі, якой выпісваеш радкі ў нататніку.

Кожнаму пачаткоўцу ці пісьменніку, ды і проста чалавеку, неабходны нататнік. Згадзіцеся, не ў кожнага ёсць сябра, якому можна расказаць, што на самай справе ў цябе ў галаве. А выказацца часам так хочацца. Ліст прымае ўсё: крыкі, слёзы, радасць, смех. Папера збірае пахі, пачуцці, эмоцыі. Таму я люблю атрымліваць лісты. Хай звычайная пошта працуе павольней, але кожны ліст доўгачаканы і выклікае ўсмешку. Пры адказе на яго проста так не наставіш «смайлікаў». У маім дзяцінстве былі сябры па перапісцы. Памятаю кожнага. Лісты і сёння ляжаць у скрынцы, не падымаецца рука выкінуць. Бывае, шукаеш нешта, выпадкова трапляюцца на вочы лісты. Возьмеш у рукі, не разгортваючы, спрабуеш адгадаць, хто яго табе напісаў. Адгадваеш па почырку, малюнку, лёгкаму водару парфумы. Думкамі вяртаешся ў той дзень, калі ўпершыню дастаў з паштовай скрыні канверт, акуратна адрэзаў край, каб не пашкодзіць пасланне. Успамінаеш, як чытала, усміхалася або сумавала, як садзілася пісаць адказ...

Дзіўна, як хутка просты спісаны лісток вяртае ў мінулае. Трымаеш яго ў руцэ, нібыта машыну часу...

Адкрываеш нататнік, у ім ужо ёсць запісы, шукаеш чысты ад захаваных думак ліст. Першая фраза. Далей піша рука пад кіраўніцтвам сэрца. Паступова на паперы абрысы думак, пачуццяў і падзей ператвараюцца ў аповед. Калі яго прачытаць праз год — на твары ўсмешка. Праблемы, здавалася б невырашальныя тады, сёння простыя як двойчы два. Перачытаеш і адчуеш тыя эмоцыі зноў.



Думаеш, чаму так адбываецца? Чаму чалавек ад кавалачка паперы можа заплакаць або засмяяцца? Чаму мы вяртаемся ў мінулае? Напэўна, гэта даецца для таго, каб зразумець, якое каштоўнае жыццё, як важны кожны пражыты момант. Вяртаючыся ў мінулае, не трэба шкадаваць пра нешта. Што было, тое мінула.

Вось яно — натхненне! Пішаш, а кожнае слова асаблівае. І словы самі складаюцца ў мелодыю. Натхненне да мяне прыходзіць тады, калі ў душы пажар, сэрца разрываецца, а сябры не размаўляюць. Менавіта тады мяне выслухоўвае папера. Другарадныя фактары, але без якіх я не магу пісаць, гэта сустрэча альбо знаёмства з таленавітымі людзьмі. Ці чытанне новага твора, які толькі што выйшаў з-пад пяра кагосьці з сяброў, і ты чытаеш яго, дакладна ведаючы, што чытаеш адной з першых. Для таго, каб пісаць, мне неабходна сысці ў сябе, калі толькі на думкі звернута ўвага. Дапамагае ў гэтым музыка або адзінота. Пішаш, не адрываючыся нават на ежу і тэлефон... не да іх...

...Плыня думак абарваная, пачуцці ўжо на паперы. Выдыхаеш. Азіраешся на рэальнасць. У ёй нічога не змянілася. Як так? Бо толькі што ты жыў і адчуваў зусім іншы свет — свет сваёй душы. Гэтак жа бывае пасля чытання кнігі ці прагляду фільма. Не проста так казаў Стывен Кінг, што апісанне пачынаецца ў пісьменніцкім уяўленні, а заканчваецца ў чытацкім. Фільм трохі іншае. Рэжысёр дае абмежаванне ва ўяўленні, прапануючы нам гатовыя вобразы, карціны і пачуцці. Дае не адразу, бо сюжэт павінен утрымліваць гледача на працягу ўсяго фільма. Добрая кінастужка, як і добрая кніга, тая, пасля якой задумваешся над сваім жыццём, робіш высновы самастойна. Вось толькі тое, што ў кнізе зойме пяць старонак, у фільме можа прамільгнуць за некалькі кароткіх імгненняў. Таму менавіта кнігі развіваюць вобразнае мысленне і дазваляюць быць цікавым суразмоўцам.

А калі паразважаць, пра што пішуць пісьменнікі? Пра жыццё, менавіта пра наша жыццё. Нават нягледзячы на тое, што напісана гэта сто альбо дзвесце гадоў таму. Калі паглядзець, то жыццё амаль не змянілася, і людзі засталіся амаль тымі ж. Вы, магчыма, запярэчыце, што нельга параўноўваць XIX стагоддзе са стагоддзем XXI...

 

Можна! І трэба! Знешняя абалонка ў людзей розная, але думкі і пачуцці тых, хто жыў у XIX стагоддзі і тых, хто жыве сёння, падобныя як дзве кроплі вады. Хіба што мы сталі менш шанаваць гэта. Каштоўнасці, на якіх выхоўваецца цяперашняе пакаленне, амаль процілеглыя тым, на якіх былі выхаваны нашы бабулі і дзядулі. Ну вось, я зноў вяртаюся ў мінулае, у той час, калі мяне яшчэ не было...

А што пасля натхнення? Ты сядзіш, быццам пусты гаршчок, з якога толькі што перасадзілі кветку. Прысутнічае пачуццё прыемнай спустошанасці і фізічнага знясілення. Самі таго не жадаючы, рызыкуем запасці ў доўгую спячку.

І куды горш, калі з'яўляецца хандра. Гэта такі мярзотны стан, калі хочаш, а не можаш займацца элементарнымі справамі. З'яўляецца хвіліннае жаданне пісаць. Выціскаць сваю душу па максімуму, а атрымліваюцца няўклюдныя сказы. Свет здаецца шэрым, якім, зрэшты, ён і з'яўляецца на самай справе...

Але ж мы, мастакі, самі размалёўваем свой свет. У кожнага з нас ёсць усе колеры вясёлкі... ды толькі ў кагосьці карціна атрымліваецца шэрай, у кагосьці чорна-белай, а ў кагосьці — яркай і каляровай. Гэта залежыць ад імкнення чалавека жыць, тварыць і атрымліваць ад усяго гэтага асалоду. Толькі нельга ставіць на першы план менавіта асалоду, не трэба жыць дзеля яе адной. Зведаўшы ўсе радасці жыцця, чалавек губляе сэнс далейшага існавання. Гэта выдатна паказаў Оскар Уайлд у сваім творы «Партрэт Дарыяна Грэя».

Хандра сыходзіць, надыходзіць лянота — галоўны вораг чалавека. Менавіта лянота з'яўляецца прычынай таго, што жыццё шэрае і непрыкметнае. Я стараюся не пускаць да сябе ляноту, усяляк пазбягаю яе. Бо столькі спраў трэба перарабіць, тых, якія шчасна былі ў баку ў перыяд душэўнага вылівання. І столькі вакол людзей, якія прагнуць зносін альбо парады, якія знемагліся ў чаканні дапамогі альбо хвалы. Ты вяртаешся ў сапраўднае менавіта тады, калі знаходзішся ў пошуку незвычайнага...

Часам чалавек, да якога ў цябе незразумелыя пачуцці, напісаўшы СМС, можа зрабіць цябе самым шчаслівым на свеце. Ён можа падштурхнуць на творчасць адной сваёй усмешкай. Творчасць — неабавязкова напісанне твора, яна можа быць самай рознай, але неабходнай менавіта ў дадзены канкрэтны момант. Тады я ў прадчуванні, тады я высока над зямлёй.

Гэта ненадоўга, услед за мною зноў ляціць камень. Маленькі, але трапляе ў самае сэрца. Раніць. Балюча. Сур'ёзна. Прыходзіць натхненне і прыемны пах шарыкавай ручкі, якой выпісваеш радок за радком у нататніку.

***Кацярына ЛЯСУН, Мінск***



● **Літаратурныя старонкі**

*Генадзь АЎЛАСЕНКА*

# Вясёлыя школьныя гісторыі

## Як Вася Лайдачкін з няёмкага становішча з гонарам выбрацца змог

Аднойчы Вася Лайдачкін Зойцы Зазнайкінай падножку падставіў. А Зойка яго за гэта дзённікам па галаве трэснула. А Васіль яе, за такую вялікую да сябе абразу, за валасы балюча тарғануў. А Зойка ў адказ крэйдай у Васіля шпульнула, ды так спрытна, што ў самы лоб яму патрапіла. А Вася Лайдачкін на гэтае яе агрэсіўнае дзеянне ніяк адказаць не змог, бо званок празвінеў, настаўнік разам са званком у класе апынуўся, і ўрок, як гэта не крыўдна, пачаўся. А ўрок гэты самым апошнім у раскладзе значыўся, таму Васіль наш адразу ж пасля ўрокаў дадому шпарка паімчаў і пра сутычку тую дробязную з Зойчыным удзелам ужо і памятаў нават.

А назаўтра, не паспеў Вася Лайдачкін у клас свой увайсці, як бачыць на дошцы вялізны такі надпіс. Белым па чорнаму.

«Вася плюс Зоя…»

Ну, і далей пра каханне, як вы, пэўна, самі ўжо здагадаліся…

— Што?! — аж зароў ад такой абразлівай неспадзяванкі Васіль. — Ды я ж ёй такое каханне пакажу, доўга памятаць будзе!

І да Зойкі Зазнайкінай з кулакамі паімчаў.

А Зойка і сама ўжо ў атаку на Васіля імчыць і таксама кулакамі ва ўсе магчымыя бакі размахвае. Бо і яе гэты надпіс абражальны да самай глыбіні душы абурыў. А можа, і глыбей нават, не ведаю дакладна.

І вось сышліся абодва варагуючыя бакі на самай сярэдзіне класа… і такая адмысловая бойка ў іх пачалася! Не толькі сябры-аднакласнікі, але нават з усіх суседніх класаў вучні пазбягаліся, каб на відовішча тое дружна палюбавацца…

А на наступную раніцу, не паспеў Васіль да будынка школьнага дашкандыбаць, як бачыць на плоце школьным велічэзны надпіс:

«Вася плюс Зоя…»

Ну, і далей зноў пра каханне гэтае самае, хай на яго трасца з ліхаманкаю! Праўда, не белым па чорнаму, як на дошцы ўчора было, а чырвоным па зялёнаму. Але ці ж гэта сутнасць справы мяняе?!

Расхваляваўся Вася Лайдачкін, надпіс гэты прачытаўшы. Так, моцна расхваляваным, у свой клас і ўвайшоў. А там…





А там зноў на дошцы ўсё той жа надпіс абуральны. А на Васінай парце, на аркушы, яшчэ адзін надпіс, ужо сінім па беламу. Але тэкст той жа, слова ў слова. Пра каханне гэтае самае, якога і блізка нават не было...

— Ды што ж гэта такое?! — аж узвыў Васіль і да аднакласнікаў сваіх звяртаецца: — Дзе вы тут, скажыце, каханне нейкае змаглі ўбачыць?! Вунь у мяне шчака ўся ў драпінах, і вуха нібыта святлафор гарыць!

— А ў мяне, паглядзіце, які «ліхтар» пад вокам! — гэта ўжо Зойка са свайго месца крычыць. — З месяц, пэўна, пратрымаецца, калі не больш!

— І што? — адказваюць ім дружна аднакласнікі. — Падумаеш, «ліхтар»! Так заўжды і бывае. Бо, праўду кажуць: хто каго штурхае — той таго і кахае! А як жа інакш!

Задумаўся Васіль, ды так моцна, што цэлых тры ўрокі без адзінай заўвагі праседзеў. Але прыдумаў усё ж, як з гэтага няёмкага становішча з гонарам выбрацца можна.

Падышоў ён на вялікім перапынку да Зойкі Зазнайкінай і кажа ёй, гучна так, на ўвесь клас:

— Прабач мяне, Зоя, калі ласка, што я цябе ўчора пакрыўдзіў!

А Зойка пачырванела ўся, вочы да долу апусціла і адказвае Васілю ледзь чутна:

— Гэта ты мяне, Вася, прабач! Я сама ва ўсім вінаватая!

А потым, пасля ўсяго гэтага, Васіль Зойку жуйкай смачнай пачаставаў. А Зойка Васілю ў адказ цэлы набор «Пакемонаў» падаравала. Назусім.

На гэтых вось «Пакемонах» уся наша гісторыя і завяршылася шчасліва. І нідзе больш надпісаў новых не з'явілася: ні на парце, ні на дошцы, ні на плоце, тым больш. Бо ўсе адразу зразумелі, што ніякім каханнем тут і не пахне. Бо якое ж гэта, скажыце, каханне, калі яны так ветліва між сабой размаўляюць, прабачэнне ўзаемна просяць ды яшчэ і падарункамі абменьваюцца?!

Вось калі сварацца ды за чупрыны хапаюцца — тады справа іншая! Тады гэта каханне, ды яшчэ якое!

Сапраўднае, можна сказаць, каханне!

## Як Зойка Зазнайкіна думкі чытала

Неяк Зойка Зазнайкіна пярсцёнак знайшла. Не просты, не залаты, а чароўны. Уяўляеце! Насунеш яго на палец, на каменьчык націснеш злёгку — і адразу ж тэлепатам становішся. У тым сэнсе, што думкі любога чалавека прачытаць можаш. І лёгка нават.

Узрадавалася Зойка знаходцы, адразу ж пярсцёнак на палец сабе насунула.

«Вось здорава! — думае. — Хутка я ўсё пра ўсіх ведаць буду!»

Прыйшла яна назаўтра ў школу, а тут да яе адразу ж сяброўка падбягае, Нюрка.

— Вой, Зоенька! — лапоча. — Як ты сёння выглядаеш шыкоўна! І прычосачка ў цябе вышэйшы клас!

А Зойка вазьмі ды націсні на каменьчык. І чуе:

«І так пудзіла гарохавае, — думае пра Зойку Нюрка, — а тут яшчэ нейкае птушынае гняздо на галаве збудавала!»

Вельмі раззлавалася Зойка на сяброўку, прэч ад яе падалася. Потым успомніла, што хатняе заданне яшчэ спісаць не паспела, да Машы падбягае, яшчэ адной сяброўкі сваёй.

— Машачка, выручай! — крычыць. — Дай матэмку спісаць!

— Ды я і сама яшчэ не спісала, — кажа Маша.

А Зойка на каменьчык — ра-аз! І чуе:

«Як жа, разбеглася! — думае Маша. — Хай бы цябе сёння выклікалі ды адзінку ў журнал уляпілі!»

У засмучаных пачуццях Зойка ад Машы адышла. Глядзіць — Ірка прэцца, марожанае ў руцэ трымае. Зойка да яе.

— Дай, — кажа, — куснуць!

— Трымай! — адказвае Ірка, марожанае Зойцы працягвае, усміхаецца ёй ласкава. — Еш, колькі пажадаеш! Мне для цябе анічога не шкада!

«Вось што значыць сапраўдная сяброўка!» — думае Зойка.

Не жадала нават на каменьчык той націскаць, само неяк націснулася. З цікаўнасці, можа...

І чуе:

«Бач ты, як жарэ! — думае тым часам Ірка. — Сама ніколі нічога сяброўкам не прапануе, а як на чужое — дык толькі дай! Каб жа ты падавілася гэтым марожаным!»

Ад такога пажадання Зойка і сапраўды ледзьве не падавілася. Аддала хутчэй марожанае Ірцы і на вуліцу выбегла. На лавачку села, сядзіць, хвалюецца. Гэта ж трэба — аніводнай сяброўкі ў яе не засталося! А ўсё праз пярсцёнак гэты чароўны, знікнуць бы яму зусім!

Не паспела Зойка пра гэта падумаць, як пярсцёнак і на самай справе знік. Як і не было яго зусім.

А, можа, і сапраўды не было?

Затое ў Зойкі зноў сябровак шмат з'явілася. Нават больш, чым раней. І ўсе ёй радасна ўсміхаюцца, кампліменты гавораць. І Зойка сяброўкам сваім тым жа адказвае.

І ўсім так добранька!

● **Дынамік**

# Рэп-казка пра спатканне Вожыка з Радзімай

***«Вожык» — «У віры падзей», Мн., 2012, «БМAgroup»/«Vigma»***



*Сенненскі рэпер Вожык на сцэне сталічнага клуба «Re:Public».*

Калі папрасіць вас назваць вядомую ў свеце беларускую мелодыю, дык ці не кожны назаве паланэз «Развітанне з Радзімай» Міхала Клеафаса Агінскага. І гэта факт. Але чаму так сумна — развітанне? Ці скончыцца такая «адвечная песня песімізму» ў беларусаў? Хто таленавіта паверне настрой у іншы бок? (Бяздарна ўжо варочалі, досыць!)

І вось, здавалася, можна ўжо не пыжыцца стаць піянерам гэтай справы, бо рэп-пакаленне дало той доўгачаканы прыклад — адзін з трэкаў дэбютнага альбома «У віры падзей» так званага Вожыка мае назву «Спатканне з Радзімай». Аднак не чакайце банальных схем замены мінуса на плюс, бо рэфрэн тут таксама калючы: «Я прыйшоў, а ты не дажыла... Хутчэй вяртайся!» На тое ж ён і Вожык, каб прымусіць пільна прыгледзецца да закранутай сутнасці. Бо і трагедыя ж можа ператварыцца ў фарс. Ва ўсялякім разе, Вожык часам правакуе сцёбны настрой.

Імя гэтае не назавеш надта таямнічым, бо сустракалася ў мас-медыя (гл. шлягеры «Вечна жывая», «Дваравыя артысты», альбо «Мы любім танга» на розных дысках кшталту «Пасадзіў DEAD RAPку» ды іншыя, толькі не блытайце яго з UltraВожыкам). Але прыемна было назіраць актыўнасць юных рэп-прыхільнікаў на прэзентацыі новага паўнафарматнага альбома суперзоркі з мястэчка Сянно ў сталічным парку Чалюскінцаў напрыканцы мінулага лета. Паводле попыту ў музычным шапіку на той дзень яны амаль удвая перакрылі нават мегапапулярны вілейскі рэп-праект «Pananieba», які таксама выступаў і пра які мы пісалі ў «Бярозцы» № 1 (995), 25.02.2011. Я быў заінтрыгаваны

Вожыкам надзвычайна, а, паслухаўшы дома навінку на добрай гукасістэме, зразумеў, што студыйны запіс выкананых на open-air песень уражвае яшчэ больш. Можаце быць пэўнымі, што ў беларускім рэпе да сапраўдных тытанаў нацыянальнай плыні («Pananieba», «ЧпБ», «Vinsent») дадалося насамрэч зыркае імя Вожык. Нездарма ж цяпер яны нярэдка нароўні дзеляць сцэну на розных прэстыжных рэп-фэстах ды часта гасцююць на студыйных сесіях адно аднаго.

Нямала знакамітых рэп-адмыслоўцаў бралі ўдзел у стварэнні альбома Вожыка: Імператар, Deech, гурты «BezNot», «LSP» ды іншыя свае і зарубежныя госці («PopaChief», «Эпицентр Унии», «Масло», «Вальд»). І вытвор атрымаўся варты ўважлівага слухання: віртуозныя скрэтчы, міксы, сімплы.

Тэксты Вожык піша актуальныя, ёмістыя, жывыя, а каму таго мала, знойдзе ў адным з трэкаў і высокапаэтычныя радкі незабыўнай Ларысы Геніюш («Не пішы мне болей»), ды яшчэ з такім вакалам! (чаму не пазначана прозвішча вакалісткі?) Вось калі пашкадуеш, што не было гэтага трэка падчас падрыхтоўкі славутай юбілейнай складанкі «Жыць для Беларусі» да 100-годдзя вялікай паэткі, бо рэперы такое яшчэ не чыталі (за выключэннем хіба «ЧпБ», які да 100-годдзя класіка беларускай песні Сяргея Новіка-Пеюна таксама загнаў адну паэмку ў вулічныя рыфмы хіп-хопа).

Ведаючы праблемы сучаснай сістэмы адукацыі, якая зрабіла з нашых зорак нягеглых неафітаў, што двух слоў на роднай мове не звяжуць, хоць спрабуюць тварыць рэальны белкульт, магу тут запярэчыць адваротным прыкладам: Вожык не проста валодае роднай мовай бездакорна, віртуозна рыфмуе, але і здольны дасканала распрацаваць псіхалагічныя партрэты характараў сваіх герояў. Ён інтрыгуе эмацыйна, дзівіць і захапляе рыфмамі. Ёсць у некаторых песнях і дакладныя абрысы побытавай трасянкі, калі само выкарыстанне пэўнай мовы стварае выразны сацыяльны вобраз. Прыкладам, гадоў пяць таму беларускамоўны Вожык вылез у шырокі свет на дысках пад брэндам нейкага дзіўнага ТА «Лопата» і, натуральна, наклікаў процьму заўваг. У выніку нарадзіўся слушны рэперскі біф (спрэчка), у якім Вожык адказаў сваім трапным дзісам «Электрамантра»:

Пяць гадоў працы, каб усё было на сто пудоў!
Доўга рабілі, каб доўга слухалі,
На доўгую памяць. Рабіць, дык на гады!
Называй Лапатай ці Рыдлёўкай,
Яна ўсё роўна будзе капаць
І хутка закапае так, што ратуйся.

І вось накапалі: назіраючы на сталічным канцэрце праявы рэўнасці фанатаў, прыйшоў да высновы, што пакуль зоркі беларускага рэпу не канкурэнты адно аднаму. Нейкі дзядзечка, што прыйшоў на рэп-сэйшн з парай-тройкай дзетак, вырашыў купіць адразу цэлую пачку фірменных кружэлак, бо гэтак розняцца беларускія майстры рэпу, ды ў сям'і гадуюцца розныя характары. І нікога ж нельга пакрыўдзіць.

А дзеткам акурат патрэбны цяпер смелыя дэкларацыі гэтых «Дваравых артыстаў», якія дадуць тое, на што не здатна школа: «Стагоддзямі цярплівая,

упартая ў пошуках рая, чужакамі забраная, але вечна жывая», «А я жаўнер зямлі знявечанай», «І гэты талент я не набываў, бо ён ўва мне адвечна, Ён мяне вучыў таму, што ў школах не даюць», «Нас навучылі думаць страўнікам», «Там, дзе маразм квітнее, я выпрабляю ідэі», «Смейцеся з мяне, бо я смяюся з вас», «Мяне грэе толькі тое, што мы пераможам, Божа нам дапаможа, Мы яго чакаем, а я вам шчыра раю: не чакайце раю, яго не напаткаем, ужо брудныя па вушы, з'елі ўжо свой яблык, цяпер жадаем грушу».

Ды якія трапныя згадкі пра каханне («Мной валодае жарсць — мной валодае травень», «Мне лепей вядома, з кім піць, з каго кпіць»), пра родную Беларусь («Я нарадзіўся між Дняпром і Дзвіною, / Ды мне мілое і тое, і тое; / Напрыклад, амаль сталіца — горад Магілёў, / У ім бадзёрыцца “самае маё”, / А там чатыры турмы і няма тэатру, / Тут робяць “Крыжачок” і “Водар мяты”, / Таму сусед Аркадзь зрання паддаты»).

Сам не надта шчыры хіп-хопер, я ўсё ж заўважыў у Вожыку і дадатныя для загартаванага рок-фана прывабы маштабнага, канцэптуальнага мыслення. Альбом «У віры падзей» — гэта не проста збор модных рытмаў і ўдалых вулічных рыфмаў, а сапраўдны міні-спектакль з завершаным сюжэтам. Слухаеш і адчуваеш, што то вядзеш з сябрам шчырую гамонку на актуальныя тэмы і праблемы, якія кожны з нас пераважыў сёння. Нават класічная Ларыса Геніюш. Ды традыцыйныя для рэпу папрокі ў адсутнасці яркай музычнай фантазіі тут не да месца, бо Вожык не проста трымае руку на пульсе, але і ўдала рызыкуе наватарскімі авангарднымі эксперыментамі.

Прыгадваючы слухацкія рэмінісцэнцыі ды адну з цытат («Я вазьму ад кожнага двара часцінку ў свае вершы. Мне галоўнае не быць апошнім, хоць не стану першым»), мушу аўтарытэтна засведчыць, што гэта адзіная яго памылка. Бо стане першым! Ужо стаў упоравень з першымі рэперамі Беларусі. У яго што ні песня, тое гісторыя нашага жыцця. Reallife.Viva Вожык!

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА, музычны крытык***



***Льготная падпіска для ўстаноў***
***Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі***
***Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731;***
***падпісная цана на 1 месяц — 46 800 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 19 100 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 59 300 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592.***
***Цана на 1 месяц — 13 500 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*

Рэдакцыя не ўступае ў перапіску з чытачамі, не рэцэнзуе і не вяртае дасланыя рукапісы.
Пры передруку спасылка на «Маладосць» абавязковая.

Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 12.11.2013. Фармат 84×108 $^1/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,22. Тыраж 2322 экз. Заказ 3566. Кошт нумара ў розніцу 16 600 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**